Katedra Białorutenistyki
Uniwersytetu Warszawskiego

*Мікола Хаўстовіч*

# ДАСЛЕДАВАННІ І МАТЭРЫЯЛЫ:

## ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ XIX стагоддзя

**ТОМ ШОСТЫ**

**Беларускія тэксты Паўстання 1863 года**

Warszawa 2020

# ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

З сярэдзіны 1850-х гг. мы назіраем імклівае развіццё беларускамоўнае літаратуры. Папярэднія дзесяцігоддзі падрыхтавалі той неабходны грунт, на якім выраслі класічныя творы айчыннага пісьменства. Вядома, адраджэнню “новае, славянскага роду літаратуры”[1] паспрыяла агульная грамадска-палітычная сітуацыя ў імперыі[2], рост свядомасці люду (пакуль яшчэ люду, а не народу), які вуснамі адукаваных прадстаўнікоў (шляхціцаў-інтэлігентаў, што ўрэшце заўважылі гэты люд-народ) па-сапраўднаму заявіў пра сваё (ці, можа, лепш: яго – люду) існаванне.

Выявілася гэта ў пашырэнні не толькі беларускамоўных рукапісных тэкстаў (*Тарас на Парнасе*, *Гутарка Данілы са Сцяпанам*, *Вясна, голад, перапала…*, *Два д’яблы*, твораў Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Гераніма Марцінкевіча, Ігната Мігановіча і інш.), але і першых беларускіх друкаваных выданняў (*Hapon: powieść białoruska, z prawdziwego zdarzenia, w języku białoruskiego ludu napisana*, *Wieczernice i Obłąkany* і інш. Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча).

Беларускамоўная літаратура гэтага часу ў асноўным закранала сацыяльную праблематыку: дачыненні селяніна з панам: “Іх (літаратараў. – *М. Х.*) грамадзкі ідэал – ***патрыярхальныя адносіны*** (вылучэнне Антона Навіны [псеўданім Антона Луцкевіча]. – *М. Х.*) між дваром і вёскай[3], апека двара над сялянамі. Дзеля гэтага яны вымагаюць ад кожнага пана, каб ён быў добры для сваіх падданых”[4]. У сувязі з чуткамі пра рэформу гэтыя “патрыярхальныя адносіны” часам набывалі востры сацыяльны характар. Аднак ніколі ў беларускамоўных тэкстах не закраналася нацыянальная праблематыка; мы не ведаем твораў, у якіх аўтары спрабавалі б звярнуцца да селяніна з мэтай абуджэння ягонае нацыянальнае свядомасці, сцвярджэння ягонае нацыянальнае годнасці. Ці не таму,

[1] Так пісаў у 1842 г. вядомы тагачасны літаратар Аляксандар Гроза ў лісце да Міхала Грабоўскага, характарызуючы выданне *Poezye trzech braci, Waleryana, Klemensa, Juliana Grzymałowskich, Białorusinow*, *w trzech tomach* (Petersburg 1837): “Браты Грымалоўскія хочуць свой беларускі дыялект вывесці з усеагульнага забыцця; яны збіраюць народныя песні, прыглядаюцца да ягонае прыгажосці ды своеасаблівасці. Заахвочваю – як магу – гэтых найлепшага жадання маладых людзей. Я не так даўно пісаў да аднаго з іх, выказваючы яму, якая яго чакае слава, калі пакладзе кутні камень новае, славянскага роду літаратуры. Дзіўная рэч, але над гэтым дыялектам ніхто не хацеў задумацца. Размаўляе на ім колькі губерняў і ён сапраўдная мяжа паміж польскаю ды расейскаю мовамі”. Гл.: M. Gr…ski, *Korrespondencija literacka*, Wilno 1842, t. I, s. 26.

[2] Маем на ўвазе перамены, якія адбыліся ў сувязі з прыходам да ўлады Аляксандра ІІ.

[3] Традыцыйная тэматыка ў польскамоўным і расейскамоўным пісьменстве таго часу.

[4] А. Навіна, *Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры*, Вільня 1921, с. 10.

што люд знаходзіўся на той ступені "тутэйшасці", якой яшчэ рана было трансфармавацца ў "ліцвінскасць" ці "беларускасць"? І гэта нягледзячы на тое, што існаваў у тыя 1850-я гг. у грамадстве г. зв. "адукаваны клас", які складаўся не толькі з прадстаўнікоў шляхты, але і з сялянства. Аднак тут трэба браць пад увагу тое, што "адукаваны клас" ад самага пачатку панавання на беларускіх землях Расейскае імперыі дзяліўся паводле рэлігійнае прыкметы на "праваслаўных-рускіх" (доўгі час не расейцаў, а менавіта рускіх) і "каталікаў-палякаў". Зацятая барацьба ідэалогій гэтых двух групаў практычна не давала магчымасці нарадзіцца трэцяй, уласна беларускай. Калі ж улічыць, што ў межах ідэалогіі "каталікаў-палякаў" выяўляліся і "правінцыйна-ліцвінскія" сепаратыстычныя тэндэнцыі, то сітуацыя з тагачаснай беларускасцю яшчэ больш ускладнялася.

На пачатку 1990-х гг. Аляксей Каўка прапанаваў даволі перспектыўную (з нашага пункту гледжання) канцэпцыю падзелу беларускага нацыянальнага руху на два этапы: "Пачаткова-падсвядомага руху «ў сабе», здзейсненага пераважна ў рамках польскага нац[ыянальна]-вызв[аленчага] працэсу (1794–1863)[1], і руху «для сябе», усведамленнем уласна бел[арускіх] нацыянальных інтарэсаў і канчатковай мэты – адраджэння бел[арускае] дзяржаўнасці (1863–1918)"[2]. Цікавую падаецца і – па-энцыклапедычнаму, кароткая – характарыстыка першага этапу: "На першым этапе пераважалі спарадычныя разрозненыя праявы літаратурнай, навуковай, культурна-асветнай дзейнасці сярод дробнамаянтковай, т. зв. краёвай, шляхты (у большасці паланізаванай), уніяцкага духавенства, студэнтаў і выкладчыкаў Віленскага ўніверсітэта па вывучэнню мовы, культуры, звычаяў, гіст[арычнага] мінулага беларусаў, паступовага ўсведамлення іх этнакультурнай адметнасці сярод інш[ых] славянскіх народаў, спробы ўзнаўлення прыпыненых традыцый кнігадрукавання на бел[арускай] мове. Гэта дзейнасць аб'ектыўна была накіравана супраць афіцыйнай палітыкі самадзяржаўя і польскай (або паланізаванай) арыстакратыі на Беларусі, па сутнасці азначала стыхійны працэс супраць ігнаравання гіст[арычнай] самабытнасці бел[арускага] этнасу, яго гвалтоўнай асіміляцыі ў форме паланізацыі ці русіфікацыі. <…> Гэтыя асветніцкія пачынанні сталі фактычным доказам здольнасці айчыннай славеснасці да выпрацоўкі ўласнага нац[ыянальнага] стылю, пераадолення часовай «пагранічнай» беларуска-польскай або беларуска-рускай раздвоенасці на шляху да нац[ыянальнага] творчага сінтэзу, да адназначна бел[арускай] літаратуры па мове, змесце і форме. <…> Этапную ролю ў далейшым развіцці руху, асабліва рэв[алюцыйна]-дэмакр[атычнай] традыцыі, адыграла паўстанне 1863–64 на чале з К. Каліноўскім – першым бел[арускім] паліт[ычным] дзеячам новага часу. Яго дзейнасць дала пачатак спалучэнню сацыяльна-эканам[ічных] (менавіта аграрных), палітычных, культурна-духоўных, у т[ым] л[іку] рэлігійных праблем нац[ыянальна]-вызв[аленчай] барацьбы беларусаў, вычляненню ў агульнапольскім вызваленчым кантэксце ўласна беларускіх (літвінскіх) нац[ыянальных] патрабаванняў (у т[ым] л[іку] ўскосна выказанай ідэі аб самастойнасці Літвы-Беларусі ў дэмакр[атычным] саюзе з Польшчай і Расіяй"[3].

[1] На нашую думку, больш дакладным будзе казаць пра рэчыпаспалітаўскі вызваленчы рух.

[2] А. Каўка, *Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах*, т. 1, Мінск 1993, с. 445.

[3] *Ibidem*.

Сучасныя гісторыкі і гісторыкі літаратуры, пераносячы сённяшнія катэгорыі мыслення ў тагачасныя грамадскія рэаліі і ігнаруючы рэальны стан самасвядомасці ў грамадстве 1850-х гг., адназначна залічаюць усю шляхту і літаратараў, што паходзілі з яе, да польскае нацыі. Прычым не толькі “нацыі палітычнае” (што часткова адпавядала праўдзе), а нацыі ў разуменні дыскурсу XX ст.

Адукаваны клас, сам не маючы беларускай самасвядомасці, не мог яе пераказаць і сялянству. Зрэшты, шмат якім прадстаўнікам гэтага класу больш залежала на прышчапленні сялянству палітычнае свядомасці. Характэрным у гэтых адносінах з’яўляецца ліст патрыёта-рэвалюцыянера (падпісаны “Гот”) ад 29 кастрычніка 1861 г. з мястэчка Смаргонь Ашмянскага павета студэнту Маскоўскага ўніверсітэта Зянону (?) Сушчыцкаму[1]: “Многие из господ, не ослепленных предрассудками, ясно видят, что между ними и мужиками у нас бездна, которую закрыть может одна резня. Несчастная наша Литва с этим невежеством, с этим православием, с этой белорусской речью, со всем тем, что привело все наши сословия в фальшивое положение. В настоящую минуту мы в такой фазе, что какое ни берет огромное влияние пропаганда между чиновным людом, эгоизм между помещиками все тот же… и оттого ни сверху, от господ, нам нельзя ожидать поддержки, ни снизу, от народа, мы не знаем, как ее получить”[2].

“Гот”, ацэньваючы палітычны стан у Літве і заклікаючы да адзінства з расейскімі рэвалюцыянерамі, не ведаў, як атрымаць падтрымку народа. Відаць, немалою перашкодаю з’яўлялася тут “православие” і “белорусская речь”, а таксама тое, што “царь что-то вроде божества в глазах у мужика – неисповедимый, правдивый и даже святой”[3]. У асяроддзі моладзі дэмакратычнай і сацыялістычнай (чырвонай) арыентацыі месца на беларускі нацыянальны дыскурс не знаходзілася. А таму не зусім карэктнымі з’яўляюцца папрокі А. Навіны[4] па адрасе “нашых прадвесьнікаў адраджэньня зь сярэдзіны XIX ст.”, якія, аказваецца, “грашылі часам” “нацыянальным шавінізмам” і “нацыянальнай нянавісцю”[5].

Беларускі нацыянальны дыскурс не нарадзіўся ў мастацкіх тэкстах 1850-х гг. Не было яго[6] і ў агітацыйна-публіцыстычных тэкстах 1860–1863 гг.

---

[1] Арыгінал ліста невядомы. У справе (ГАРФ, ф. 109, СА, оп. 2, д. 309) захоўваецца толькі выпіска з перлюстраванага ліста ў расейскім перакладзе. Зянон Сушчыцкі згадваецца ў даносах царскага агента Юльяна Балашэвіча. Гл.: *Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Материалы и документы*, Москва 1964, с. 281.

[2] *Ibidem*, с. 280.

[3] *Ibidem*.

[4] Яны, відаць, народжаныя адрэдагаванымі Вацлавам Ластоўскім і надрукаванымі ў газеце “Homan” (1916, № 1) *Пісьмамі з пад шыбеніцы* Кастуся Каліноўскага.

[5] Гл.: А. Луцкевіч, *Выбраныя творы: Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва*, Мінск 2006, с. 89.

[6] Як выключэнне – *Маніфест аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы да беларусаў*, у якім заклік, што “zo dnia objaulenia hetoho Manichwestu usie rauny, usie syny odnoj Polszczy Ojczyzny naszej”, звернуты не проста да мужыкоў, а да беларусаў: “Braty Bialorusy, przyszła pora dobraja”. Можа, з гэтай прычыны Аўгусцінас Янулайціс называе яго *Aukso gromata Gudas* (*Залатая грамата беларусам*). Гл.: A. Janulaitis, *Spausdintieji ir nespausdintieji 1863–64 m. sukilimo raštai*, „Karo Archyvas”, t. 1, Kaunas 1925, s. 224–225. А таксама *Prykaz ad Rądu Polskaho nad całym Krajem Litouskim i Biełoruskim da Narodu ziemli Litou-*

Замест беларускага, поруч з дэмакратычным і сацыяльным, з'явіўся "рэчыпаспалітаўскі", ці проста "польскі". У 1864 г., будучы ўжо "пад шубеніцай", К. Каліноўскі назаве яго так: "polskoje dzieło", дадаючы: "heto nasze dzieło, heto wolności dzieło"[1].

Якая яшчэ нацыянальная ідэалогія, апрача "рэчыпаспалітаўскай/польскай", магла пашырацца ў перадпаўстанцкія гады і ў часе Паўстання? Беларуская? Дык беларуская ідэя адно толькі-толькі пачынала выяўляць сябе як прывязанасць-прыхільнасць да свайго роднага кутка, Бацькаўшчыны, Літвы-Беларусі. Цягам першае паловы XIX стагоддзя яна пакутліва нараджалася і не паспела заняць прыкметнага месца ў грамадска-палітычным жыцці краю. Толькі ў часе Паўстання беларуская ідэя (хутчэй, "правінцыйная, ліцвінска-беларуская[2]") сталася асноваю дзейнасці К. Каліноўскага і асобных яго аднадумцаў. Дзеля паўнавартаснага станаўлення і развіцця "правінцыйнай, ліцвінска-беларускай" ідэі не хапіла часу. Яна, непрызнаная і ў штыкі ўспрынятая Варшаваю, мусіла загінуць пад гарматамі шматтысячнага царскага войска, дубінамі нацкаванага расейскаю прапагандаю сялянства і на мураўёўскіх шыбеніцах.

У выніку мы не маем іншых беларускамоўных тэкстаў Паўстання, апрача тых, у якіх даводзілася, "że tylko od Rzeczypospolitej polskiej dostanie [lud litewski] «ziemię i wolność»"[3]. "Прапольскасць" дадзеных тэкстаў тлумачыцца як салідарызацыя з Варшаваю дзеля агульнае перамогі і дзеля агульнае вольнасці; "прапольскасць" яшчэ і таму, што замяніць яе амаль невядомаю нікому "беларускасцю" не было аніякае магчымасці. К. Каліноўскі разумеў, што і ў недалёкай перспектыве зрабіць гэта не атрымаецца. Дык у сваім развітальным лісце горача раіць: "Dla toho Narodzie, jak tolko kali paczujesz, szto braty twaje s pad Warszawy biuć sa za praudu i swabodu, tahdy i ty nie astawajsa s zadu, no uchapiuszy za szto zmożesz, za kosu, sakieru, cełoj hramadoj idzi wajawaci za swoje czeławieczoje i narodnoje prawo, za swaju ziemlu radnuju. Bo ja tabie s pad szubienicy kažu Narodzie, szto tahdy tolko zażywiesz szczaśliwo kali nad taboju Maskala uże nie budzie"[4].

Не разумелі (ці не хацелі разумець) "прапольскасць" беларускамоўных тэкстаў Паўстання амаль усе расейскія даследнікі, пераважная большасць беларускіх савецкіх навукоўцаў, а таксама сучасныя беларускія публіцысты прарасейскае скіраванасці. Для іх паэтычныя і празаічныя творы Паўстання – супярэчлівыя, тэндэнцыйныя і нават антыбеларускія. Яны не заўважалі і не заўважаюць, што нараджэнне беларускае нацыі ў значнай ступені абумоўлена

---

*skoj i Biełoruskoj*. Гл.: *1863 г. Чэрвеня 11: Прыказ ад ронду польскага да народу зямлі літоўскай і беларускай* [online] http://kalinouski.arkushy.by/archives/prykaz.htm [доступ: 10.02.2020].

[1] *Do ludu białoruskiego: Pismo z pod szubienicy Konstantego Kalinowskiego* [w:] A. Giller, *Historia powstania narodu polskiego w 18613–1864 r.*, t. I, drugie wydanie, Paryż 1867, s. 332.

[2] Асабліва цікавы ў гэтых адносінах рукапіс шостага, неапублікаванага нумару "Mużyckaj praudy". Гл.: А. Смалянчук, *"Мужыцкая праўда". № 6 (1862). Рукапіс неапублікаванай газеты*, "Homo historicus: Гадавік антрапалагічнай гісторыі" 2019, с. 126–133.

[3] B. Szwarce, *I. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862* [w:] *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*, Lwów 1903, s. 444.

[4] *Materiały do dziejów powstania styczniowego na Litwie* [w:] Biblioteka Narodowa, sygn. 7827 II, k. 58–59.

Паўстаннем 1863 г. І гэтае нараджэнне мусіла прайсці этап, калі хоць і спявалі ды чыталі пра Польшчу, але спявалі і чыталі па-беларуску. Не трансфармаваўшы "тутэйшасць" у "беларускасць", Паўстанне 1863 г. кананізавала друкаванае беларускае слова, беларускую мову.

Неразуменне гэтага, відавочна, перашкаджала і перашкаджае працэсу навуковага асэнсавання значнага корпусу беларускамоўных тэкстаў сярэдзіны XX стагоддзя. З гэтае самае прычыны толькі ў апошні час з'явіліся поўныя, хоць – пераважна – і адаптаваныя публікацыі дваццаці шасці беларускамоўных твораў 1860–1863 гг.

У VI томе *Даследаванняў і матэрыялаў* змешчаны чатырнаццаць твораў Паўстання. У першую чаргу нас цікавілі пытанні гісторыі гэтых твораў, праблемы тэксталогіі, а таксама атрыбуцыі. Дык мы пільна прыглядаліся да ўсіх вядомых і даступных іхніх спісаў-рэдакцый. У першую чаргу сказанае датычыць *Гутаркі старога Дзеда*, дваццаць два спісы якое (дзевятнаццаць беларускіх, два літоўскія і расейскі) нядаўна ў адмысловай кнізе выдаў Томаш Настульчык[1]. Мы, выкарыстоўваючы як фотакопіі Т. Настульчыка, так і арыгіналы (ці мікрафільмы) з архіўных спраў, паспрабавалі "дашукацца" пратографа *Гутаркі…*, аўтарскага варыянта твора. У выніку прыйшлі да думкі, што захаваныя спісы магчыма падзяліць на пяць груп (асобныя з якіх маюць дзве, тры ці чатыры рэдакцыі). Гэта можа азначаць, што на падставе аўтарскага варыянта ўзнікла не менш за пяць спісаў, перапісвальнікі якіх з'яўляліся па сутнасці рэдактарамі ці нават сааўтарамі нашага паэта. Мы лічым, што адным з найбольш ранніх, а г. зн. і найбольш набліжаным да пратографа, з'яўляецца варыянт г. зв. "літаграфаванае" групы. Пытанне пра аўтарства ў дадзенай працы мы не ставім, але мяркуем, што наяўнасць у спісах "літаграфаванае", а таксама "пазнанска-львоўскае" групаў значнае колькасці дзеясловаў з інфінітыўным суфіксам ***-ci*** скіроўвае нашыя намаганні на пошук аўтара сярод носьбітаў ваўкавыска-беластоцкага дыялекту беларускае мовы. Вядома, К. Каліноўскі гэтым аўтарам можа і не быць[2], аднак значнае падабенства *Гутаркі…* да "Мужыцкае праўды" ў шмат якіх аспектах ідэйна-мастацкага зместу дазваляе шукаць паэта ў коле ягоных найбліжэйшых аднадумцаў як сярод студэнцкае пецярбургска-маскоўскае моладзі, так і Гродзенскае паўстанцкае арганізацыі. Палічылі патрэбным уключыць у нашае выданне і літоўскамоўныя вырыянты *Гутаркі…*, бо мяркуем, што праблема атрыбуцыі беларускага твора шчыльна палучаная і з літоўскім тэкстам.

Як і *Гутарка старога Дзеда*, песня-малітва *Божа, што Польшчы…* мела шэраг рэдакцый. З польскім арыгіналам іх лучыць адно ідэя, а тэкстуальна –

---

[1] T. Nastulczyk, *Gawęda starego dziada – Hutorka staroho dzieda: studium bibliograficzno-edytorskie literatury polsko-białoruskiej XIX wieku*, Kraków 2017, 286 s.

[2] Звернем усё ж увагу на словы некралогу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, напісанага невядомым аўтарам [Адольфам Райфам (?)], у газеце "Kurjer Polski w Paryżu" (1885, nr 32): "Пісьменнікам гэтае літаратуры быў таксама Канстанцін Каліноўскі, сябра Аддзелу Нацыянальнага ўраду на Літве, якога павесілі маскалі ў Вільні падчас паўстання 1863 года. Каліноўскі выдаваў па-беларуску народную падпольную газету і **пісаў гэтак званыя гутаркі** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*)". Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, том пяты, Warszawa 2019, с. 223–225.

пачатак твора. Па сутнасці, гэта не пераклад, а арыгінальныя тэксты некалькіх нязнаных аўтараў.

Увогуле, толькі пра два паэтычныя творы Паўстання 1863 г. мы можам больш-менш упэўнена сцвярджаць, што ведаем іх аўтараў. Гаворка пра паэму *Плынуць вятры…*, якую напісаў хутчэй за ўсё Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, і гутарку Франца Пчыцкага *Крыўда і праўда*. Выяўленыя намі дакументы даводзяць рэальнасць Ф. Пчыцкага, і можна адмовіцца ад думкі, што, маўляў, невядомы аўтар карыстаўся псеўданімам.

Пра *Гутарку двух чарвячкоў* беларускія даследнікі ўжо згадвалі. Выявіць твор, праўда, пакуль не ўдалося, але публікацыя дакументаў з архіўных спраў, у якіх ідзе гаворка пра яго, маем надзею, актывізуе пошук. А паліцэйскія і жандарскія архівы яшчэ далёка не ўсе свае таямніцы адкрылі для нас.

Адзіны празаічны твор – *Перадсмяротны разгавор пустэльніка Пятра…*, а таксама чатыры паўстанцкія песні, што друкуюцца ў нашым выданні, даўно вядомы гісторыкам літаратуры, хоць і не сталі яшчэ прадметам адмысловага даследавання.

Ёсць надзея, што публікацыя значнае колькасці беларускіх тэкстаў Паўстання 1863 г. у адным томе паспрыяе як больш адэкватнаму асэнсаванню і самога Паўстання, і ягоных удзельнікаў, так і адкрыццю новых беларускіх твораў эпохі. А гісторыя выяўлення ды перапахавання астанкаў дваццаці аднаго паўстанца, забітага на загад Міхаіла Мураўёва, паказвае, што сёння магчымае нават тое, пра што яшчэ нядаўна нават і падумаць ніхто б не наважыўся.

## Прынцыпы перадачы тэкстаў

Вертыкальнаю рыскаю адасабляецца напісанае ў арыгінале злітна.

Пачатак кожнае старонкі рукапісу мы перадаём дзвюма прамымі рыскамі з устаўленым паміж імі нумарам аркуша ў ніжнім рэгістры: |$_{\mathbf{1r}}$| – правая старонка аркуша (ад лац. rectus – проста); |$_{\mathbf{1v}}$| – левая старонка аркуша (ад лац. verso – адваротная старонка).

Перакрэсленыя ў рукапісе словы і сказы падаём адпаведна – ~~Biedny~~; напісанае зверху, між радкамі – у верхнім рэгістры – $^{\mathrm{Uiszow}}$.

Занатаваныя збоку (на палях) праўкі і дадаткі падаём напрыканцы асноўнага тэксту пасля пазнакі: * *Ad marginem*.

Дзеля кампактнасці тэксту элементы кутняга штампу (назва ўстановы, дата, выходны нумар і інш.) падаюцца ў верхнім радку дакумента.

Той тэкст рукапісу, які не ўдалося расчытаць, сігналізуецца кутнімі дужкамі са словам “нечытэльна” – <*нечыт.*>.

У квадратных дужках [ ] узнаўляюцца скарачэнні ў рукапісе, а таксама (па магчымасці) словы і часткі слоў у канцы (звычайна) радка, дзе папера аказалася пашкоджанаю.

# Выданні і рукапісы *Гутаркі старога Дзеда*

…drukowałem <…> po białorusku łacińskimi literami rewolucyjną ludową *Hutorkę staraho dzieda*, mająca przekonać lud litewski, że tylko od Rzeczypospolitej polskiej dostanie "ziemię i wolność"[1].

З даследаванняў Генадзя Кісялёва і Зінаіды Тальвірскае мы ведалі, што *Гутарка старога Дзеда*[2] была дастаткова папулярнаю ў першай палове 1860-х гадоў, што захавалася "шматлікія" (sic!) друкаваныя асобнікі, а таксама рукапісныя копіі ў бібліятэках і архівах. Вядома таксама, што "парыжскае" выданне твора мелася ў зборах Вінцэнта Мяніцкага (1850–1916): у чэрвені 1889 г. Браніслаў Эпімах-Шыпіла перапісаў *Hutarku staroha dzieda* ў Селігорах, а пазней уключыў яе ў сваю *Biełarusskuju Chrestomatiju*[3]. У 1890-я гады (пра час мяркуем на падставе матэрыялаў, якія знаходзяцца побач) атрымаў у свае зборы копію (у самаробным сшытку) таго самага "парыжскага" выдання" Аляксандар Ельскі[4]. Два друкаваныя выданні – "парыжскае" і "пазнанскае" – ведаў Яўхім Карскі: пра іх ён паведаміў (і коратка ахарактарызаваў) спачатку ў першым томе *Бѣлоруссовъ*[5], а пасля ў трэцяй частцы трэцяга тома[6]. На жаль, навуковец не паінфармаваў пра месцазнаходжанне выкарыстаных асобнікаў твора.

Згадка Рамуальда Зямкевіча пра Вінцэся Каратынскага як аўтара *Гутаркі старога Дзеда*[7], згаданыя публікацыі Я. Карскага, а таксама (маж-

[1] B. Szwarce, *I. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862* [w:] *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*, Lwów 1903, s. 444.

[2] Наяўнасць варыянтаў твора – гэта адначасна і наяўнасць розных формаў ягонага тытулу. У нашай працы мы будзем падаваць яго паводле сучаснага правапісу, выкарыстоўваючы альбо поўны варыянт – *Гутарка старога Дзеда*, альбо кароткі – *Гутарка…*, але заўсёды дакладна перадаючы назву, калі гаворка будзе ісці пра канкрэтнае выданне ці рукапіс.

[3] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, том трэці, Warszawa 2017, с. 217–222, 269–270.

[4] Гл.: AGAD, zespół 378: *Archiwum Prozarów i Jelskich*, $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 184–194.

[5] Е. Карскій, *Бѣлоруссы*, т. I: *Введеніе въ изученіе языка и народной словесности*, съ приложеніемъ двухъ картъ, Варшава 1903, с. 443–445.

[6] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 86–87.

[7] Гл.: Р. Земкевіч, *Старая беларуская пісьменнасьць: З архіву Ромуальда Земкевіча*, "Варта" 1918, № 1, с. 17: "Аутар верша: *Гутарка старого дзеда* – Вінцук Коротынскі, каторы, мусі быць, і друкавау кніжку тайна, памясьціушы у канцы яе верш Сырокомлі. Сын Вінцука Коротынскаго, пан Уладыслау Коротынскі, у Варшаві мае арыгінал верша, пісаны уласнаю рукою Сырокомлі".

ліва) архіў Гальяша Леўчыка сталіся для Максіма Гарэцкага падставаю дзеля ўключэння твора ў раздзел *Вінцэсь Каратынскі* ў *Хрыстаматыі беларускае літаратуры*[1] і, вядома, у *Гісторыю беларускае літаратуры*[2]. Больш дакладна гісторык літаратуры крыніцаў не называе, але лёгка "пазнаецца", што дзеля *Гісторыі…* ён выкарыстаў цытаты з кніг Я. Карскага, а вось на патрэбы *Хрыстаматыі...* адаптаваў нейкі невядомы сёння рукапіс (магчыма, са збораў Г. Леўчыка)[3]. Характарыстыка твора ў М. Гарэцкага – у духу сацыялістычных ідэалаў эпохі; падкрэсліваецца таксама адсутнасць у творы ўласнабеларускага патрыятычнага складніка: "Заданьні брошуркі – рэволюцыйна-агітацыйныя, але ня столькі беларускія, сколькі польскія[4]. Аўтар кажа аб дужа цяжкой долі беларускага народу пад маскальскім уціскам, пералічвае, колькі ёсьць рознага ліха і бяды ад яго: як падаткі, рэкруцкая павіннасьць, чыноўнікі, адбіраньне касьцёлаў на цэрквы і г. д.; даводзіць, што ў Сэвастопальскую вайну французы ішлі ратаваць палякоў і беларусаў; засьцерагае, каб ня мелі веры папом, быццам маскалі скасуюць паншчыну і г. д., – а ўсё гэта робіць дзеля таго, каб усе беларусы пашлі разам з палякамі, як толькі на вясну «гранець пранцуз, паляк з жаўнярамі»[5]. Ён пацяшае, што пайшоўшы з палякамі, «будзем роўныя з панамі»"[6].

Наступнае пакаленне беларускіх гісторыкаў і літаратуразнаўцаў амаль не згадвала ў сваіх працах *Гутарку старога Дзеда*, бо ў эпоху вульгарнага сацыялагізму падобныя тэксты ўспрымаліся адназначна негатыўна: "Польскія памешчыкі ў саюзе з апалячанымі беларускімі памешчыкамі і інтэлігентамі ў імя таго, каб у барацьбе з Расіяй схіліць на свой бок беларускіх сялян, выдаюць рад «беларускіх твораў» антырускага характару[7]. У перыяд падрыхтоўкі да польскага паўстання ў 1861–1862 гг. былі распаўсюджаны на беларускай мове такія «творы», як: *Гутарка двух суседаў*, *Гутарка старога дзеда*, *Перадсмяротны разгавор Пустэльніка Пятра, які жыў пушчы дзевяцьдзесяць год, а памёр маючы сто сорак год*, *Крыўда і праўда*, *Гутар-*

---

[1] В. Каратынскі, *З Гутаркі старога дзеда* [у:] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 172.

[2] Гл.: М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 93–94. Тое самае ва ўсіх наступных выданнях.

[3] У *Хрыстаматыі* (с. 172) М. Гарэцкі падае катрэн "Там лоб голяць і муштруюць...", які ёсць толькі ў двух даступных нам сёння тэкстах: у "Dzienniku Literackim" і г. зв. "уроцлаўскім" рукапісе.

[4] Як бачым, М. Гарэцкі на падзеі 1863 г. глядзеў вачыма чалавека пачатку XX ст.

[5] Гэты радок ёсць толькі ў "парыжскім" выданні *Hutarki…*.

[6] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, выданьне чацьвертае, перапрацаванае, Менск 1926, с. 140.

[7] Іван Лушчыцкі размяжоўваў, аднак, "беларускія творы" "польскіх памешчыкаў" і "Мужыцкую праўду" Кастуся Каліноўскага. Сённяшнія расейскамоўныя і прарасейскія публіцысты і "гісторыкі" Беларусі гэтага ўжо не робяць: "«Мужицкая правда» <…> призывала к борьбе против русских. Причем не только против русской администрации, а против всех русских. Листовка обращалась к крестьянам не с этнических позиций, в ней не было упоминания, что местные крестьяне – белорусы или литвины". Гл.: А. Гронский, *Национально-религиозное наполнение "Мужицкой правды"* [у:] *Материалы X Международных Кирилло-Мефодиевских чтений*, в 2 ч., Минск 2005, ч. 1, с. 224–233.

*ка беларуская* і іншыя. Усе гэтыя «творы» напісаны па спецыяльнаму заказу польскіх памешчыкаў і адыгрывалі пэўную социяльную ролю. Гэта роля заключалася ў тым, каб пасеяць нацыянальную варожасць паміж рускім і беларускім народамі, узбудзіць нянавісць да Расіі і рускага народа і ўнушыць беларускаму селяніну ілжывую думку, што ён не знойдзе сабе нідзе для сябе лепшай ўлады, чым улада польскіх памешчыкаў. Тут часам знешне робіцца спроба выкрыцця царызма, але дзесяткі разоў паўтараемае слова «маскаль» выдае яго аўтараў з галавой як прагніўшых нацыяналістаў, змешваючых царскае, урадавае з усім рускім”[1].

Вяртанню *Гутаркі старога Дзеда* ў кантэкст беларускае літаратуры паспрыялі юбілейныя мерапрыемствы, звязаныя з угодкамі Powstania Styczniowego – Восстания 1863 года, якія ў 1963 годзе адзначаліся на дзяржаўным узроўні і, апрача таго, мелі шырокую навукова-даследчую і выдавецкую праграму, што распрацавалі Акадэмія навук СССР, Polska Akademia Nauk, а таксама Акадэміі навук ЛітССР, БССР і УССР.

У 1961 г. у беларускамоўным друку з’явіліся два надзвычай важныя артыкулы, у якіх – згодна з трактоўкай Паўстання 1863 года як вызваленчай барацьбы народаў былое Рэчы Паспалітае – давалася цалкам станоўчая характарыстыка *Гутаркі старога Дзеда* і рабіліся спробы атрыбуцыі твора. Абодва даследнікі не былі звязаныя з беларускім акадэмічным асяродкам: Мацей Канапацкі працаваў у беластоцкай “Ніве”, а Генадзь Кісялёў – у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР. Склалася парадаксальная сітуацыя: тэкст “прагніўшых нацыяналістаў”, ужо, хіба, канчаткова асуджаны на забыццё[2], раптам займеў ажно двух – і не абыякіх! – аўтараў: Г. Кісялёў падаваў важкія аргументы на карысць таго, што *Гутарка…* належыць пяру Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча[3], а М. Канапацкі не менш пераканаўча сцвярджаў, што напісаная была яна Вінцэсем Каратынскім[4].

Гіпотэза М. Канапацкага, асцярожна[5] падтрыманая шэрагам публіка-

---

[1] І. Лушчыцкі, *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку*, Мінск 1958, с. 167.

[2] Мяркуем па тым, што *Гутарку…*, а таксама шэраг іншых паўстанцкіх твораў нават не згадаў у сваёй манаграфіі тагачасны дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР Васіль Барысенка. Гл.: В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, 364 с.

[3] Г. Кісялёў, *В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 г.*, “Полымя” 1961, № 5, с. 119–138. Параўнай: Г. Кісялёў, *Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года*, Мінск 1963, с. 122–187, а таксама Г. Кісялёў, *Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года; Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі*, Мінск 2009, с. 127–187.

[4] М. Канапацкі, *Над мемуарамі Бруна Каратынскага*, „Ніва” 1961, № 41 (8 кастр.).

[5] *Гутарка…* аднесена даследнікам да “твораў польскай арыентацыі”, якія, нягледзячы на тое, што ў іх “асабліва выразна праявіліся шляхецка-нацыяналістычныя і рэлігійна-містычныя погляды правага крыла польскага вызваленчага руху”, “нельга адносіць <…> да твораў выключна рэакцыйных. Крытыкай існуючых парадкаў яны ўзмацнялі ў сялян пачуццё варожасці да прыгонніцтва і самадзяржаўя”. Гл.: А. Мальдзіс, *Літаратура XIX ст.* [у:] *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, т. 2: *Літаратура XIX – пачатку XX ст.*, Мінск 1969, с. 53–54.

цый маладога, але ўжо аўтарытэтнага Адама Мальдзіса[1], стала дамінавальнай у беларускім літаратуразнаўстве: укладальнікі ўніверсітэцкае хрэстаматыі ўключылі ў сваё выданне[2] фрагменты тэксту *Гутаркі…* з *Хрыстаматыі...* М. Гарэцкага, а Уладзімір Мархель змясціў 72 радкі з "парыжскага" выдання ў томіку твораў В. Каратынскага (у раздзеле *Творы, якія прыпісваюцца В. Каратынскаму*)[3].

Упершыню цалкам у беларускім друку[4] *Гутарка старога Дзеда* была ўзноўленая ў часопісе "Спадчына" ў 1999 г.[5]. Тэкст падаваўся паводле "парыжскага" выдання з далучэннем у зносках варыянтаў львоўскае газеты "Dziennik Literacki" і "кракаўскага" рукапісу.

У 2008 г., як твор В. Дуніна-Марцінкевіча, *Гутарку…* уключыў Язэп Янушкевіч у *Збор твораў у двух тамах* (раздзел *Dubia*) Беларускага Дудара. Тут выкарыстоўваецца "парыжскае" выданне[6]; укладальнік падае тэкст як лацінкаю[7], так і транслітараваны яго варыянт[8]. Дадзеная публікацыя была перадрукаваная ў адным з тамоў *Залатой калекцыі беларускай літаратуры*, прысвечаных XIX стагоддзю[9].

На жаль, нягледзячы на шэраг важных публікацый[10], што з'явіліся ў друку за апошнія 50 гадоў, *Гутарка старога Дзеда* ўсё яшчэ застаецца на перыферыі літаратуразнаўчага даследавання. Галоўная прычына заключаецца ў тым, што ў Беларусі фактычна адсутнічаюць першакрыніцы – і самі выданні, і рукапісныя копіі твора. А гэта значыць, што навукоўцы не валодаюць самым неабходным.

---

[1] Гл.: А. Мальдзіс, *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст.*, Мінск 1968, с. 73–74 і інш.

[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 119–120. Тое самае і ў другім выданні (Мінск 1988, с. 114).

[3] В. Каратынскі, *Творы*, Мінск 1981, с. 153–155, 171. Тое самае ў другім выданні (Мінск 1994, с. 346–348, 398).

[4] У 1925 г. Аўгусцінас Янулайціс перадрукаваў літаграфію паводле рукапісу, які захоўваўся ў Бібліятэцы Урублеўскіх. Гл.: A. Janulaitis, *Spausdintieji ir nespausdintieji 1863–64 m. sukilimo raštai*, „Karo Archyvas", t. 1, Kaunas 1925, s. 216–219.

[5] М. Хаўстовіч, *"Цяпер маскаль пяе мудрагелікі свае"*, "Спадчына" 1999, № 5–6, с. 86–105. Гл. таксама: *XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах*, кн. першая, Мінск 1999, с. 27–39; М. Хаўстовіч, *Паўстанцкая агітацыйная літаратура. "Цяпер Маскаль пяе мудрагелікі свае*" [у:] ён жа, *Шляхамі да беларускасці: Нарысы, артыкулы, эсэ = Szlakami ku białoruskości: Szkice, artykuły, eseje*, Warszawa 2010, с. 603–613.

[6] Каментар, праўда, адсутнічае, але тэкст лёгка "пазнаецца".

[7] З заўважаных мадэрнізацый тэксту адзначым выкарыстанне літары ***й***, хоць у выданні 1862 г. яна амаль не ўжывалася: толькі некалькі разоў гук [ў] друкар, не маючы адпаведных графем, перадаў адметным чынам – як ***ѝ***, ***ӥ*** ці ***и'***.

[8] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*, Мінск 2008, с. 500–512.

[9] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 562–569, 838–839.

[10] Самая значная з іх – у акадэмічнай *Гісторыі беларускай літаратуры*. Гл.: Г. Кісялёў, *Агітацыйная публіцыстыка 1860-х гадоў* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 291–296.

Часткова праблему вырашыў доктар Тамаш Настульчык, супрацоўнік Даследчага цэнтра Польскай бібліяграфіі Эстрайхераў (Centrum Badawcze Bibliografii Polskiej Estreicherów), які здолеў сабраць выяўленыя раней, а таксама выявіць у розных архівах Літвы, Расеі, Польшчы і Беларусі дваццаць два дакументы з тэкстамі *Гутаркі старога Дзеда*. Вынікі сваіх даследаванняў навуковец апублікаваў у працы, а ў дадатку да яе змясціў фотакопіі ўсіх вядомых яму друкаваных выданняў і рукапісных копій беларускага ананімнага твора[1].

Т. Настульчык грунтоўна разгледзеў гісторыю вывучэння *Гутаркі старога Дзеда* беларускімі, польскімі, літоўскімі і расейскімі навукоўцамі. Ён унікліва прааналізаваў непаразуменні ды недакладнасці, якія маюцца ў публікацыях пра выданне твора, і прыйшоў да высновы, што амаль ніхто з даследнікаў (як выключэнне – З. Тальвірская і Г. Кісялёў) не меў магчымасці параўнання друкаваных і рукапісных тэкстаў *Гутаркі…*, што твор характарызаваўся пераважна з ідэйна-палітычнага боку, але не звярталася ўвага на пытанні кнігазнаўчыя. (Недастаткова, на нашую думку, разгледжаны і тэксталагічны аспект). Гіпотэзы навукоўцаў і публіцыстаў адносна часу і месца выдання *Гутаркі…* Т. Настульчык аналізуе крытычна, выяўляе шматлікія хібы і нават, як ён называе, спекуляцыі. Сваіх гіпотэз ён не прапануе, але схіляецца да таго, што "парыжскае" выданне рыхтаваў Браніслаў Шварцэ ў Беластоку, "пазнанскае" – асоба, што не ведала беларускае мовы, а поўная адсутнасць інфармацыі пра "літаграфію" не дазваляе нават на вылучэнне гіпотэзаў.

Разглядае таксама навуковец праблему аўтарства *Гутаркі старога Дзеда.* Дакладней: канспектыўна аналізуе гіпотэзы фактычна ўсіх сваіх папярэднікаў. Аніводная з іх, на яго думку, не пацвярджаецца фактамі; яны заснаваныя ці то на перакананнях іх аўтараў, ці то на чутках, якія кружлялі ў пэўную эпоху і былі занатаваныя сучаснікамі.

Усіх тых, каго "вылучалі" на аўтарства папулярнага ў свой час твора, Т. Настульчык старанна фіксуе, а ў высновах сцвярджае, што спробы ідэнтыфікацыі паэта не прынеслі канчатковага адказу. Следам за польскім навукоўцам і мы пералічым усіх тых, хто называўся аўтарам *Гутаркі…*:

1. Кастусь Каліноўскі (Аскар Авейдэ ў матэрыялах следства)[2].
2. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (даносы жандарскіх агентаў і афіцэраў, Г. Кісялёў)[3].
3. Ян Героўскі (Аляксандар Ельскі ў матэрыялах да бібліяграфіі беларускае літаратуры)[4].

---

[1] T. Nastulczyk, *Gawęda starego dziada – Hutorka staroho dzieda: studium bibliograficzno-edytorskie literatury polsko-białoruskiej XIX wieku*, Kraków 2017, 286 s.

[2] O. Awejde, *Rola prasy rewolucyjnej w powstaniach 1831 i 1863 roku [styczeń 1866]* [w:] *Zbiór zeznań śledczych o przebiegu powstania styczniowego*, Wrocław-Warszawa-Kraków 1965, s. 99.

[3] Г. Кісялёў, *В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 г.*, "Полымя" 1961, № 5, с. 126–130.

[4] Гл.: AGAD, zespół 378: *Archiwum Prozarów i Jelskich*, 140₁: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 395.

4. Вінцэсь Каратынскі (Я. Карскі, Р. Зямкевіч, М. Гарэцкі, М. Канапацкі і інш.)[1].

5. Уладзіслаў Сыракомля (З. Тальвірская)[2].

6. Браніслаў Шварцэ (Вольга Марозава)[3].

7. Вынік калектыўнай творчасці (Г. Кісялёў)[4].

8. Пераклад з польскае мовы (З. Тальвірская)[5].

9. Нехта з маладзейшых паэтаў з кола В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, В. Каратынскага (М. Хаўстовіч)[6].

На думку Т. Настульчыка, "пытанне аўтарства застаецца сёння нявырашаным з прычыны недастатковае колькасці крыніц. Наступны матэрыял могуць прынесці перш за ўсё новыя даследаванні <…>. Спробы спекулятыўнага множання ўяўных аўтараў альбо таксама суб'ектыўны пошук усялякіх супадзенняў варта трактаваць вельмі асцярожна, памятаючы, што мы маем справу з стылізаваным тэкстам, які захаваўся ў шматлікіх варыянтах з нявызначанай да канца храналогіяй"[7].

Але найважнейшае, як ужо казалася, у публікацыі Т. Настульчыка, – гэта фотакопіі 22 варыянтаў *Гутаркі старога Дзеда.* У сувязі з тым, што кніга польскага навукоўца адсутнічае ў бібліятэках Беларусі, лічым патрэбным назваць і дэталёва ахарактарызаваць усе пададзеныя ў ёй дакументы.

### 1. *HUTORKA STAROHO DZIEDA*, nakładem A. Kurnatowskiego z Imbierowa pod Obornikami; czcionkami N. Kamieńskiego i Spółki w Poznaniu, 1861 r.

Г. зв. "пазнанскае" выданне. Кніжачка без вокладкі. 12 нумараваных старонак памерам 11 см у шырыню і 19 см у вышыню. Друк выразны, паўтлусты, высокае якасці.

Захаваўся адзін асобнік[8]; выяўлены на пачатку (?) 1960-х гадоў Г. Кіся-

---

[1] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 86–87; Р. Земкевіч, *Старая беларуская пісьменнасьць: З архіву Ромуальда Земкевіча*, "Варта" 1918, № 1, с. 17; М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 93–94; М. Канапацкі, *Над мемуарамі Бруна Каратынскага*, „Ніва" 1961, № 41 (8 кастр.).

[2] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 59.

[3] O. Morozowa, *Bronisław Szwarce*, Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk-Łódź 1982, s. 49–50.

[4] Г. Кісялёў, *В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 г.*, "Полымя" 1961, № 5, с. 128.

[5] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 55–56.

[6] М. Хаўстовіч, "*Цяпер Маскаль пяе мудрагелікі свае*" [w:] *XIX стагоддзе: Гісторыка-літаратурны альманах: Кніга першая*, Мінск 1999, с. 31.

[7] T. Nastulczyk, *Gawęda starego dziada – Hutorka staroho dzieda: studium bibliograficzno-edytorskie literatury polsko-białoruskiej XIX wieku*, Kraków 2017, s. 32.

[8] Асобнік выдання захоўваўся калісь у бібліятэцы Б. Эпімаха-Шыпілы. Гл.: *Старонка вопісу бібліятэкі Б. Эпімах-Шыпілы* [у:] БДАМЛМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1429, арк. 1 [online] http://archives.gov.by/index.php?id=964432 [доступ: 24.02.2020].

лёвым у Дзяржаўным архіве Расейскае Федэрацыі: фонд 109 [*Третье отделение Собственной Его Императорского Величества канцелярии*], вопіс 36 [*1 экспедиция. 1861 г.*], справа 322 [*О девице Марцынкевич в Минске, которая чрезмерно выказывала польский патриотизм*] (Государственный архив Российской Федерации[1], ГАРФ, ф. 109, оп. 36, 1 экспед. 1861, д. 322). Справа змяшчае шэраг дакументаў пра дачку В. Дуніна-Марцінкевіча[2]. Яна была пачатая 1 ліпеня 1861 года адначасна са справаю 323 [*О пении гимнов в Минске, о панихиде Лелевелю и о книгопродавце Валицком*]. Абедзве справы апавядаюць пра антыўрадавыя выступленні ў Мінску, пачынаючы ад сярэдзіны чэрвеня 1861 г. Калі і чаму "пазнанскае" выданне было далучана да справы 322, нам высветліць пакуль не ўдалося. Але вельмі верагодна, што жандары канфіскавалі яго падчас арыштаў і перагрусаў менавіта ў Мінску (ці Мінскай губерні) у 1861–1862 гг. У справе, якая налічвае 83 аркушы, *Hutorka staroho dzieda* змешчана як апошні дакумент (арк. 78–83v)[3].

**2. *HUTARKA STAROHO DZIEDA*, Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia.**

Г. зв. "парыжскае" выданне. Кніжачка з вокладкай. 24 ненумараваныя старонкі памерам 7,5 см у вышыню і 9,5 см у шырыню. Друк не вельмі выразны, асобныя радкі ў катрэнах не выраўненыя па вертыкалі.

Асобнік захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы[4] ў фондзе 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], вопіс 2 [*Следственные*

[1] У савецкі час: Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Кастрычніцкае рэвалюцыі ў Маскве.

[2] Справу ўпершыню выкарыстаў Г. Кісялёў. Гл.: Г. Кісялёў, *В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 г.*, "Полымя" 1961, № 5, с. 119–138.

[3] На жаль, мы пакуль не змаглі пазнаёміцца з усімі матэрыяламі дадзенае справы, але на падставе аналізу разнастайных публікацый пра Паўстанне 1863 года ўдалося даведацца пра асобныя дакументы, якія ўваходзілі ў яе склад: 1. Рапарт ад 23 чэрвеня 1861 г. мінскага губернскага жандарскага штаб-афіцэра палкоўніка Барыса Рэйхарта (у афіцыйных паперах прозвішча палкоўніка пісалася як Рейхард альбо Рейхардт: гл.: Генералитет российской императорской армии и флота [online] http://www.rusgene ral.ru/general_r1.html [доступ: 13.09.2019] галоўнаму кіраўніку III аддзела Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці канцылярыі і шэфу корпуса жандараў Васілю Даўгарукаму пра антыўрадавую дзейнасць Камілы Марцінкевіч (а. 1–5v); 2. Рапарт ад 29 чэрвеня 1861 г. Б. Рэйхарта В. Даўгарукаму пра К. Марцінкевіч (а. 6–9v); 3. Рапарт ад 17 лютага 1862 г. Б. Рэйхарта В. Даўгарукаму пра В. Дуніна-Марцінкевіча (а. 10–15v); 4. Транслітараваная копія літаграфіі *Гуторки стараго Дзіеда* (а. 16–22v) [гл. г. зв. першая мінская копія літаграфіі]; 5. Дакументы, якія знаходзяцца ў справе на старонках 23–32v, нам невядомыя; 6. Рапарт ад 14 сакавіка 1862 г. Б. Рэйхарта В. Даўгарукаму пра польскія кнігі (33–34v); 7. Рапарт Б. Рэйхарта В. Даўгарукаму пра змест польскіх кніг (а. 36–38v); 8. Дакументы, якія знаходзяцца ў справе на старонках 39–71v, нам невядомыя; 9. Рапарт ад 22 чэрвеня 1862 г. Б. Рэйхарта кіраўніку III аддзела Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці канцылярыі і кіраўніку штаба корпуса жандараў Аляксандру Патапаву пра выяўленне ў в. Альшаны Мазырскага пав. "парыжскага" выдання *HUTARKI STAROHO DZIEDA*; 10. Транслітараваная паводле "парыжскага" выдання копія верша *Dobryja wieści* (а. 74–75); 10. Дакументы, якія знаходзяцца ў справе на старонках 76–77v, нам невядомыя. Тут, магчыма, маецца інфармацыя, адкуль паходзіць выданне, якое змешчана далей; 11. "Пазнанскае" выданне *HUTORKI STAROHO DZIEDA* (78–83v).

[4] У савецкі час: Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР.

*дела участников восстания 1863 г.*], справа 1497 [*Дѣло временнаго полеваго аудиторіата виленскаго военнаго округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*], арк. 234–247v (Lietuvos valstybės istorijos archyvas, LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 234–247v).

**3. *HUTARKA STAROHO DZIEDA*, Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia.**

Г. зв. "парыжскае" выданне. Кніжачка без вокладкі. 24 ненумараваныя старонкі памерам 7,5 см у вышыню і 9,5 см у шырыню. Друк не вельмі выразны, асобныя радкі ў катрэнах не выраўненыя па вертыкалі.

Асобнік захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 438 [*Виленская следственная комиссия по политическим делам при Виленском генерал-губернаторе для разбора дел об участниках восстания 1863*], вопіс 1, справа 290 [*Справа пра ксяндза Дусьмінскага касцёла Гаплевіча і былога ксяндза віленскага Святаянскага касцёла Бішэўскага*], арк. 16 (1–12v)[1] (LVIA, f. 438, ap. 1, b. 290, l. 16 [1–12v]).

**4. *HUTARKA STAROHO DZIEDA*, Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia.**

Г. зв. "парыжскае" выданне. Ненумараваныя старонкі памерам 7,5 см у вышыню і 9,5 см у шырыню. Друк не вельмі выразны, вялікая колькасць радкоў у катрэнах не выраўненая па вертыкалі. Тут знаходзяцца асобныя аркушы двух асобнікаў, сшытых разам: старонкі 1–12 і 19–24 аднаго ды 1–6 і 13–24 старонкі другога.

Захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, фонд 1 [*Канцелярия Гродненского губернатора*], вопіс 22 [*1851–1870*], справа 1121 [*Дело о обезоруживании местного населения, об освобождении от занимаемых должностей "неблагонадежных" лиц, приближении к г. Гродно батареи и принятии других мер для борьбы с готовящимся восстанием. 14 апреля 1861 – 8 июля 1866 г.*], арк. 401–418v (НГА РБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 401–418v).

**5. *Od staraho dzieda. Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi***, [без м. і г., літаграфія].

Кніжачка без вокладкі. 16 нумараваных старонак памерам 13 см у шырыню і 23,5 см у вышыню. Адбітак выразны, даволі высокай якасці.

Асобнік захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], вопіс 2 [*Следственные*

---

[1] Да справы далучаны аркуш паперы, на якім напісана: "*Разсказы Старика. Гутарка Старага Дзеда.* Стихотвореніе въ родѣ поэмы написанное Бѣлорусскимъ языкомъ латинскими буквами, напечатано въ Парижѣ въ 1862 г. февр 27 (15). По бумагѣ и шрифту можно заключить, что стихотвореніе это напечатано въ Варшавѣ, Вильно или въ какомъ нибудь другомъ городѣ Западной Россіи. Содержаніе его возмутительное: въ немъ поносятся Русскіе власти и чиновники, представляются бедствія крестьянъ отъ Русс. чиновниковъ и проч. Начинается оно такъ: «Эй добрые люди, скажите мнѣ // Что это на светѣ будетъ. // Развѣ Богъ не змилоется надъ нами // И дозволитъ пропасть подъ Москалями», т. е. подъ владельчествомъ Русскихъ" (арк. 12).

*дела участников восстания 1863 г.*], справа 1497 [*Дѣло временнаго полеваго аудиторіата Виленскаго военнаго округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*], арк. 61–68v (LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 61–68v).

Літаграфію ў архіве выявіла ў 1960-я гады (?) З. Тальвірская. У сваім артыкуле яна згадала пра яе: "При обысках <…> обнаруживали <…> как печатные, так и литографированные и в рукописных копиях"[1], падаючы пры гэтым архіўны адрас – ЦГИА ЛитССР, ф. 1248, оп. 2, д. 1497, лл. 61–66 (насамрэч: 61–68v). Даследніца меркавала, што літаграфію выдала рэвалюцыйная арганізацыя Мінскай губерні[2]. Яна апісала выданне, якое "имеет как бы введение, которое называется *Од стараго дзеда*"[3], і працытавала ў перакладзе (не зусім дакладным!) асобныя ягоныя фрагменты. Звярнуўшы ўвагу, што гаворка ва ўступе ідзе пра замену "маскалямі" ў беларускіх гутарках слова "ojczyzna" на "pańszyzna", яна прывязала датаванне публікацыі да падзей лета 1861 г., калі, як сцвярджае, назіралася "натравливание мужиков на помещиков"[4]. Апрача таго, З. Тальвірская палічыла літаграфію (разам з г. зв. "кобрынскім" рукапісам) "наиболее ранними", бо "в текстах печатных имеются значительные дополнения о крестьянской реформе", а таксама і тое, што дадзены варыянт *Гутаркі старога Дзеда* створаны і выдадзены прыхільнікамі Людвіка Мераслаўскага, бо толькі тут (у перадапошняй страфе) згадваецца гэты дзеяч эміграцыі[5].

На жаль, беларускія даследнікі не звярнулі ўвагу ні на тэкст, змешчаны ў літаграфіі, ні на архіўную справу, дзе яна (літаграфія) захавалася. У справе, праўда, няма звестак ні пра аўтара (-ў) твора, ні пра яго выдаўцоў, але з яе можна сёе-тое даведацца пра тых, хто распаўсюджваў розныя выданні *Гутаркі…*, а магчыма, і выдаваў іх[6]. Перадусім, варта больш пільна прыгледзецца да жыцця і дзейнасці былога студэнта Маскоўскага ўніверсітэта і актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйных падзей на Міншчыне і Магілёўшчыне Ігната Пякарскага, які перадаваў праз Алаіза Віткоўскага "литографированные тетради, возмутительнаго содержанія" Альфрэду Ратынскаму, што жыў у маёнтку Краснае Вілейскага павета. Што цікава: і І. Пякарскі, і А. Ратынскі ўдзельнічалі ў паўстанні. Але нягледзячы на тое, што першы з іх быў пад судом у Магілёве, а другі "ушелъ въ шайку и пропалъ без|вести", у вядомых нам спісах паўстанцаў 1863–1864 гг. яны не значацца[7].

---

[1] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 44.

[2] *Ibidem*, s. 50.

[3] *Ibidem*, s. 51.

[4] *Ibidem*, s. 52.

[5] *Ibidem*, s. 58, 62.

[6] У дадатку да перадруку літаграфіі *Hutorki staraho Dzieda na Biełarusi* ў нашым выданні будуць змешчаныя асобныя дакументы са справы *Дѣло временнаго полеваго аудиторіата виленскаго военнаго округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*.

[7] Гл.: *Genealogia Polaków: Katalog Powstańców Styczniowych* [online] https://genealogia.okiem.pl/powstanies/index.php?nazwisko=Piekarski [доступ: 28.09.2019].

**Катрэн 71**. У варыянтах **D** і **E** ў яго “ўключаны” двуверш з катрэна 70 варыянтаў **A** і **C**, а таксама двуверш, якім аўтар “святкуе” перамогу над маскалём.

Kali staniem z Palakami
Budziem rounymi z panami, –
Usim szczaście Boh nam daść,
I prapadzie Maskouska właść!!!.

У расейскамоўным варыянце акцэнтуецца крыху іншае: шчасце Бог дасць тады, калі прагонім маскаля:

Всѣмъ Намъ Богъ счастье дасть
Когда отвяжется от Насъ напасть.

**Падсумоўваючы**: амаль усе (выключэнне – **48** і **49** расейскамоўнага перакладу) катрэны *Hutarki…* верыфікаваныя друкаванымі і рукапіснымі варыянтамі твора. Гэта можа сведчыць пра тое, што ўсе рэдактары і выдаўцы (не кажам тут пра капіравальнікаў) мелі тэкст, вельмі блізкі да аўтарскага. І ў залежнасці ад мэтаў, якія перад сабою ставілі, змянялі яго.

# Літаграфія

Да выхаду ў свет кнігі Т. Настульчыка мы не надавалі належнае ўвагі ні “літаграфаванай” рэдакцыі *Hutorki staraho Dzieda na Biełarusi*, ні той архіўнай справе, у якой яна, гэтая літаграфія, знаходзілася. І гэта нягледзячы на тое, што З. Тальвірская згадала пра гэты варыянт, паведаміла пра ягоны адметны тытул, пра прадмову, пра “страфу з Мераслаўскім”, а Г. Кісялёў у артыкуле *Стары сшытак*[1] не толькі пазнаёміў чытача з вершам *Pieśń na Bożу czas*, але і падаў, што выяўлены твор “разам са стосам іншых рэвалюцыйных папер (у тым ліку гектаграфаванай[2] і друкаванай *Гутаркай старога дзеда*), <…> належалі былому мінскаму гімназісту Алаізу Віткоўскаму”[3]. Мы адно апублікавалі варыянты гэтае рэдакцыі *Гутаркі…* паводле дакументаў канца XIX – пачатку XX ст. – рукапісу і машынапісу Бібліятэкі акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх[4]. Сёння, аднак, мы лічым, што і ў справе атрыбуцыі *Гутаркі…*, і ў справе тэксталагічных даследаванняў твора найважнейшае значэнне мае менавіта літаграфія.

У даступных нам архіўных крыніцах (следчых справах) “літаграфаваная” рэдакцыя згадваецца першаю сярод усіх іншых рэдакцый твора[5]: у снежні 1861 г. аднадворац Вікенці Гацэвіч скраў у невядомых яму падарожных, а ў красавіку 1862 г. аддаў прадстаўнікам царскае вайсковае адміністрацыі ў Новаалександраўску рукапісную копію літаграфіі. Крыху, відаць, пазней, ужо непасрэдна сама літаграфія (але, відаць, іншы варыянт) трапляе ў рукі мінскіх жандараў і паліцыі. Яна, здаецца, не захавалася[6], аднак ейныя транслітараваныя рукапісныя копіі ў лютым 1862 г. былі дасланыя ў Трэцяе аддзяленне Яго імператарскае вялікасці і ў Міністэрства ўнутраных спраў. Даступная нам сёння літаграфія трапіла ў рукі паліцыі ў красавіку 1863 г.

Пра асобныя акалічнасці выяўлення, а таксама пра спробы высветліць паходжанне літаграфіі і іншых “тетрадей, возмутительнаго содержанія” апавядаецца ў справе *Дѣло временнаго полеваго аудиторіата Виленскаго воен-*

---

[1] Г. Кісялёў, *Стары сшытак*, “ЛіМ” 1963, № 18 (1 сакавіка). Дапоўнены і перапрацаваны варыянт артыкула змешчаны ў кнізе: Г. Кісялёў, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 136–141.

[2] Усё ж гэта літаграфаванае выданне. Гектографаў у той час яшчэ не існавала. Міхаіл Алісаў (1830–1898) вынайшаў яго ў 1869 г., а патэнт на яго атрымаў толькі ў 1879 г. Апарат называлі напачатку “паліграфія”.

[3] Г. Кісялёў, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 140–141.

[4] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў: Творы невядомых аўтараў*, том другі, Варшава 2016, с. 246.

[5] Вядома, мы памятаем пра тое, што “пазнанскае” выданне *Hutorki…* ўбачыла свет у 1861 г. і што львоўскі “Dziennik Literacki” надрукаваў твор 8 лістапада 1861 г.

[6] Магчыма, яе можна выявіць у фондах “органов административно-полицейского управления Минской губернии”, што маюцца ў НГАБ у Мінску.

*нага округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*, якая захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы[1].

У красавіку 1863 г. вайскоўцы Новагерманландскага пяхотнага палка пры ператрусе ў маёнтку Мікалая Віткоўскага Збарэвічы ў вуллях знайшлі "свертокъ бумагъ революціоннаго содержанія", сярод якіх былі літаграфаваныя і друкаваныя выданні, рукапісы, а таксама фотаздымак. Усяго – блізу 260 аркушаў паперы. Пералічым гэтыя "революціонные бумаги": 1. "Литографированные тетради": a. *Obecne polityczne usposobienie Rusi*[2]; b. *Hutorka staraho dzieda*[3]; c. *Dziedictwo*[4]; d. *Księgi narodu polskiego i pielgrzymstwa polskiego*[5]; e. K. Libelt, *O miłości Ojczyzny*[6], f. Без тытулу, г. зв. "прокломаціи"[7].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ўсе літаграфіі надзвычай падобныя з пункту гледжання тэхналогіі іх выканання. Больш за тое: усе яны напісаныя рукою, здаецца, аднаго ці двух чалавек. А г. зн. можна дапусціць, што друкаваліся яны ў Маскве (як і кніжачка К. Лібельта *O miłości Ojczyzny*)[8] у 1858–1861 гг. Прынамсі, не раней вясны 1858 г. (нумар часопіса "Przegląd rzeczy polskich" выйшаў у свет 10 лютага) і пасля 1 мая 1861 г. (гэтым днём датаваны *List Garibaldiego do Mierosławskiego*, які змешчаны ў апошнім літаграфаваным сшытку).

Апрача літаграфій у "свертку бумагъ революціоннаго содержанія" А. Віткоўскага былі друкаваныя выданні:

1. Два асобнікі восьмага нумару варшаўскае падпольнае газеты "Ruch" (1861, 13 listopada) (l. 233–233v).

---

[1] Гл.: LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497.

[2] Сшытак першы (l. 13–60v). Вялікі артыкул, перадрукаваны з эміграцыйнага парыжскага часопіса "Przegląd rzeczy polskich" (1858, 3 stycznia і 10 Lutego).

[3] Сшытак другі (l. 61–68v). Так літаграфію назвалі ў Слѣдственной Коммисіи Высочайше учрежденной въ г. Минскѣ по политическимъ дѣламъ, хоць на першай старонцы чытаем: *Od staraho dzieda*. У адрозненне ад асобных іншых літаграфій *Hutorka…* не мела ні вокладкі, ні прыгожа афармленай тытульнай старонкі, а пачыналася непасрэдна прадмоваю.

[4] Сшытак трэці (l. 69–82v). Зборнік, у склад якога ўваходзілі польскамоўныя вершы і прамовы патрыятычнага гучання: напрыклад, *Do matki Polki*; *Półimperjalik* (з датаю: 18 kwietnia 1861 г.); *Dzięki wam Siostry – żeście zrozumiały; // Że dziś nie pora tańczyć z Moskalami* (з датаю: Grodno 1861); *Śmierć Półkownika* (Adam Mickiewicz); *Mowa d-ra Kramstücka* і інш.

[5] Сшытак чацвёрты (l. 83–131v). Пад вокладкаю з гэтым тытулам, апрача твораў А. Міцкевіча *Księgi narodu polskiego i pielgrzymstwa polskiego*, *Dziady* (фрагменты трэцяе часткі), *Droga do Rossyi*, *Przedmieście Stolicy*, *Petersburg*, змешчаны таксама іншыя, напрыклад: *Historia szewca Jana Kilińskiego*.

[6] Сшытак пяты (l. 132–196v). Вядомая праца польскага філосафа Караля Лібельта (1807–1875). Дадзеная кніжка, як лічаць польскія бібліёграфы, была выдадзена прыкладна ў 1860 г. у Маскве. Захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Сігнатура: BN I.456.914. Электронная версія выдання ў лічбавай бібліятэцы *Polona*: [online] https://polona.pl/item/o-milosci-ojczyzny,NjY5Njk5MTE/123/#info:metadata [доступ: 5.10.2019].

[7] Сшытак шосты (l. 197–232v). Зборнік патрыятычных праклямацый, прамоваў, вершаў і інш.: напрыклад, *List Pasterski* (падпісаны: Arcy-Biskup Warszawski A. Fijałkowski), *Dzwon Pogrzebowy. Na pamiątkę ... poległych d. 27 Lutego 1861 roku* (падпісана: przez Polkę), *Modlitwa za Ojczyznę: Boże coś Polskę, List Garibaldiego do Mierosławskiego* (з датаю: 1 Maja 1861 г.), *Wnioski z porozumień zaszłych między Jenierałami Mierosławskim a Garibaldim, uzupełnionych 26 Stycznia 1861 r.* і інш.

[8] Вядома, калі звесткі польскіх бібліёграфаў дакладныя.

2. "Парыжскае" выданне *Hutarki staroho dzieda* (l. 234–247v).

3. *Pieśni nabożnyja*[1] (l. 247a–247г v.; 1–8).

4. *Pieśń na Bożу czas*[2] (248–248v).

Таксама меліся сярод рэвалюцыйных папераў і рукапісы: расейскамоўны артыкул *Грянуло*[3] *по Европе от Нордкапа до Гибралтара* (з датаю: "1861 года 7 октября")[4], а таксама *Речь* Пятра Заічнеўскага 17 сакавіка 1861 г. ля французскага каталіцкага касцёла ў Маскве пасля паніхіды па ахвярах варшаўскае дэманстрацыі 15(27) лютага 1861 г.; польскамоўны гімн *Boże coś Polskę*…, вершы Антона Гарэцкага *Chatka Leśnika*, *Śpiew po pierszej* (!) *bitwie* і інш. (l. 249–267v).

Апошнімі ў стосе папераў былі: літаграфаваны партрэт[5] Шымана Канарскага (1808–1839) і "фотографическій портретъ 15ти молодыхъ людей изображенныхъ одѣтыми въ чемарки". На адвароце фотаздымка алоўкам занатаваныя прозвішчы мінскіх гімназістаў: "1. Więckowski, 2. Okulicz Bronisław, 3. Turski, 4. Milewski, 5. Antoniewicz, 6. Szczepanowicz, 7. Swidziński, 8. Diemidowicz Konstanty, 9. Surkont, 10. Korkozowicz, 11. Witkowski, 12. Kamiński, 13. Nie wiadomy, 14. Gecewicz, 15. Nie wiadomy"[6]. У заключэнні "Коммисіи высочайше учрежденной по политическимъ дѣламъ въ городѣ Минскѣ" чытаем: "на фотографической карточкѣ, найденной у Витковскаго (листъ дѣла изображающей 15ть человѣкъ учениковъ Минской Гимназіи одетыхъ въ чемарки съ черными

[1] Кніжачка, у склад якое ўваходзяць дзве малітвы – *O nasz Boże, wierym Tobie*… і *Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki*…, выдадзена – хутчэй за ўсё – у Беластоцкай друкарні Б. Шварцэ. Сведчаннямі могуць быць: 1. Падобная папера і падобнае размяшчэнне строфаў і радкоў (па 12 на старонцы); 2. Падобнасць у перадачы гуку [ў]: *ūsiu*, *Dawau'*.

Калі дата "дазволу" цэнзуры ("Dozwala się drukować. Warszawa dnia 17(29) Listopada 1861 r. Starszy Cenzor A. Funkenstein"), змешчаная на апошняй старонцы выдання, адпавядае часу падрыхтоўкі яго да друку, то *Pieśni nabożnyja* маглі быць першаю надрукаванаю кніжкаю Б. Шварцэ. Цікава тое, што ў малітве *Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki* выразна выяўляюцца магілёўска-віцебскія рэаліі. Прыгадаем таксама, што дадзены варыянт твора ў беларускім літаратуразнаўстве стала прыпісваецца А. Вярыгу-Дарэўскаму. А г. зн. мы маем яшчэ адну нітачку, якая лучыць беларускага паэта з Віцебшчыны (праз А. Кажанёўскага) з друкарняю Б. Шварцэ.

[2] Папера, памер шрыфта, друкарская тэхніка і інш. сведчаць, што ўлётка магла ўбачыць свет у друкарні Б. Шварцэ. Год выдання невядомы. Магчыма, 1862 ці пачатак (да красавіка) 1863-га. Г. Кісялёў апублікаваў твор паводле самаробнага сшытка чаляднікa-пераплётчыка Пятра Мацкевіча (без страфы *Ej Maskal uchadzi*…) у газеце "ЛіМ" (1963, № 18). Пазней, на падставе артыкула В. Бікуліча *Речь П.Г. Заичневского о русско-польском сотрудничестве* (*Связи революционеров России и Польши XIX – начала XX в.*, Москва 1968, с. 78) навуковец дадаў у сваю працу звесткі пра стос папер А. Віткоўскага з друкаванай улёткай *Pieśń na Bożу czas*, выяўлены ў маёнтку Збарэвічы. Гл.: Г. Кісялёў, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 140–141. Сёння ўлётка ў архіўнай справе надзвычай моцна пашкоджаная.

[3] Прыгадаем радкі *Hutorki*…: "I z za rubieża jak hranieć // Mierosłauskij z żaunierami".

[4] Уладзіслаў Бікуліч аўтарам артыкула называе Аляксандра Герцана. Гл.: В. Бикулич, *Речь П.Г. Заичневского о русско-польском сотрудничестве* [у:] *Связи революционеров России и Польши XIX – начала XX в.*, Москва 1968, с. 78. Нам, аднак, не ўдалося выявіць дадзены тэкст у газеце "Колоколъ".

[5] Варта адзначыць, што гэты партрэт, здаецца, адсутнічае ў іканаграфіі Ш. Канарскага.

[6] Гл.: LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 268v.

нашивками), значиться Алоизій Витковскій сидящий между ними въ меховой шапкѣ, и чемаркѣ безъ нашивокъ".

Тры з шасці літаграфаваных сшыткаў маюць прыгожа афармленыя вокладкі (тытульныя лісты)[1]. Ці была вокладка ў беларускамоўнага зборнічка? Хутчэй за ўсё, – так. Думаецца, з намаляваным у барочным стылі надпісам: *Hutorka staraho Dzieda*. Так, перадусім, называлася літаграфія, якая трапіла ў рукі царскае адміністрацыі ў Мінску на пачатку 1862 г. А гэта дае падставы лічыць, што і другое выданне мела той самы тытул. Аб'ём выдання быў зручны для сшывання – 16 старонак. (Заўважым, што іншыя літаграфаваныя выданні мелі альбо 16, альбо 32, альбо 64 старонкі). А з тае прычыны, што выдаўцы палічылі патрэбным дадаць у другое выданне прадмову *Od staraho dzieda*, г. зн. аб'ём тэксту павялічваўся, гутарку *Czy znajecie, mai dzieci!* вырашылі "звярстаць" інакш: ахвяравалі падзелам на катрэны, а таксама зменшылі інтэрлінію. Падобнае назіраем і ў рукапіснай копіі, выкананай з літаграфіі. А вось у транслітараваных копіях размяшчэнне катрэнаў зусім іншае. Думаецца, што так было і ў іншым літаграфаваным выданні: апрача таго, што катрэны адасобленыя пустым радком, кожны другі з іх "пасунуты" ўлева.

Зборнічак (другое, на нашую думку, выданне) складаўся з чатырох тэкстаў.

Прадмова *Od staraho dzieda* ўзнікла непасрэдна ў часе падрыхтоўкі выдання. Мажліва, напісаў яе аўтар гутаркі *Czy znajecie, mai dzieci!* Аркуш з прадмоваю, знойдзены падчасператрусу ў маёнтку Э. Бандзінскае, мог быць як пробным друкам (асобнаю ўлёткаю), так і першаю карткаю першага выдання.

Тытул асноўнага тэксту зборнічка змянілі: магчыма, каб не паўтараў агульную назву выдання. Падкрэсленне геаграфічнага чынніка, а таксама выкарыстанне графемы ***й*** можа сведчыць пра належнасць аўтара (-аў) і выдаўцоў да нешматлікае ў той час беларускацэнтрычнае групы, што нараджэннем была звязаная з Віцебшчынай, Полаччынай і Магіёўшчынай.

Другая гутарка ў выданні – тэкст у мастацкіх адносінах менш удалы. А праз тое, што толькі нядаўна быў апублікаваны, – аніякага матэрыялу дзеля атрыбуцыйных версій яшчэ не напрацавана.

Адназначна можна сказаць, што з Віцебшчыны паходзіць і варыянт *Malitwy dzisiejszaj*. Адрозненні ад апублікаванага ў малітоўніку *Pieśni nabożnyja* варыянту – нязначныя. І ўсё ж у літаграфіі тэкст малітвы больш дасканалы, чым у выданні Б. Шварцэ.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: *Od staraho dzieda. Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi. Czy znajecie, mai dzieci! Malitwa dzisiejszaja* [літаграфія, б. м. і г. 16 с.] [у:] LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 61–68 v.

Літаграфія мае ўласную нумарацыю старонак, якая пачынаецца з другое, архіўная – |$_{61v}$|.

[1]Усе яны выкананыя ў адным стылі і, відаць, адным чалавекам.

## |61r| *Od staraho dzieda*

„Chadziŭ baj pa ścianie… ...
Czy baiŭ, czy nie?... ... ...”

Wot tak zaczynali naszy dziedy swai hutorki, taki wot takaja była ich prykazka. Ciapier dziady naszy ŭżo śpiac sabie ŭ mahiłach, taj[1] mauczać[2] i nie każuć nam kazok, nie|śpiewajuć piesienok. Zamauczali tatulki naszy, nie|palubiłasia im szto Maskal słuchajeć ich, taj chachoczyć naruhajuczycia i z nich i z nas. Zamauczali jany, lahli ŭ mahiły i spiać sabie krepka i cicha; a piesieńki i hutorki ich chodziuć pa świetu, szukajuć dobrych ludziej, da i ziukajuć z nimi ab tom szto bywała niekali na świecie, i ab tom szto rabić patreba. Maskalom hety hutorku nie|pa|nutry; jany ich łowiuć ŭsiudy – i na miesta Ojczyzna nakawierzywajuć pańszczyzna. Ach jany bezmozhłyje takije! Da szto|ž jany dumajuć, szto my wot taki i nie|ściamlim, chto ŭsiu krutniu hetu robić, i szto my nie|spaznaim – szto zdarowa, a szto atruta? – Wisz jak zamudryli: niechaj pany z mużykami zadzierucca; a my i hetym i hetym pietlu na szeju!

Zdarowa żywiocie, panowie Maskali? Jak waszeci maiciesia? Czy nie hłatnuli wy czasami ŭ broware, dy [cz]y nie abjeliś wy blokotu szto takuju pryjawu[3] zachaciełaś rabić wam na świecie? Ali jak baby zaciorli[4] na maładoja, |61v| dy kinuliś na to szto i Boh i ludzi nie|pachwaluć?

Niechaj sabie Maskal piszyć swai paskudnyje aszukaństwa; a my budzim pieredawać wam tolka toja, szto nam dastałoś at naszych dziedoŭ. Wot wam, bratcy, takii hutorki: praczytajcia ich, padumajcie, paziukajcia – taj kali hedak, tak hedak! Pamaliŭszysia Bohu jak tutyćka[5] napisana, dy i za rabotu; a daliboh budzić ładna! –

---

[1] Відаць, ад укр. спалучэння ***та й***, якое: “1. а) поєднує однорідні члени речення й цілі речення; б) указує на несподіваний перехід від однієї дії до іншої; в) поєднує однорідні члени речення або цілі речення, що виражають причиново-наслідкові відношення. 2. приєднувальний. Приєднує члени речення й цілі речення, що доповнюють, уточнюють раніше висловлену думку”.

[2] У прадмове толькі ў слове *тaисzać* і аднакарэнных чамусьці не ўжываецца графема ***й***.

[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 535: “ПРОЯ́ВА, ы, с. ж. 1) Необыкновенное явленіе. *Нѣйкая проява зробилася тамъ*. 2) общ. р. Необыкновенный, -ная проказникъ, -ница. *Проява хлопецъ. Проява, а не дзѣвка*!”.

[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 192: “ЗАЦИРА́ЦЬ, сов. Зацёрць, гл. д. Унижать кого, выставляя себя. *Што ты мене хвостомъ своимъ зацира́ешъ, зацёрла*”.

[5] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 645: “ТУ́ТАЙ, ТУ́ТО, ТУ́ТОКА и ТУ́ТОЦЬКА, нар. Здѣсь. *Вчора бывъ туто. Тутай не выйграешъ. Тутоцька, тутока сховайся отъ ихъ*”.

## *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi*

Ey skażycie dobry ludzie
Szto heto na świecie budzie
Czy to Boh tak sudziŭ z nami
Prapaść na wiek z Maskalami.

Oj nie bratki, nie tużycie
Da na toj czas spamianicie
Jak to daŭnymi hadami
Biŭsia Palak z maskalami[1].

I my|ž[2] razem[3] wajawali
Stolki krowi razliwali
Oj za toja, szto narodu
Chacieŭ Palak dać swabodu[4].

Jak Maskal taho daczuŭsia
**|62r|** To na Polszczu nawiernuŭsia,
I Niemiec[5] staŭ pamahaci
Sztob Palakoŭ zwajawaći –

I bilisi|ž, wajawali,
Pakul Palakoŭ prahnali[6]
Oj, i panios swajo hore
Biedny Palak aż za more

Da słaŭnaho, da narodu,
Szto sam wyjszoŭ na swabodu –
S[zto c]ełу świet jaho znajeć
I Prancuzom nazywajeć.

Prancuz pryniaŭ ich jak braci
Ale nie moh ratawaci,
Bo sam ciažka z Niemcom biŭsia
At niewoli baraniŭsia[7]

---

[1] Яшчэ жандарскі агент Юзаф Бярнацкі сцвярджаў, што ў творы паказаны “лёс Літвы <…> ад 1792 года да цяперашняга часу”. Сапраўды, аўтар пачынае аповед падзеямі вайны патрыятычных сілаў з праціўнікамі *Канстытуцыі 3 мая*, падтрыманых Расеяю, якая ў маі 1792 г., пасля перамогі над Турцыяй, распачала інтэрвенцыю ў Рэч Паспалітую. У літоўскім перакладзе М. Акялайціса гутарка пачынаецца падзеямі паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

[2] У той час гук [ż] на пісьме часам перадаваўся графемаю ž.

[3] Відаць, тут ідзе гаворка пра паўстанне ў Вялікім Княстве Літоўскім пад кіраўніцтвам Якуба Ясінскага (1759–1794).

[4] Відавочна, аўтар мае на ўвазе *Паланецкі ўніверсал* Т. Касцюшкі ад 7 мая 1794 г.

[5] Тут і далей “немцам” аўтар называе аўстрыякаў і прусакоў.

[6] Маецца на ўвазе трэці падзел Рэчы Паспалітае і першая польская эміграцыя.

[7] Гаворка ідзе пра г. зв. I антыфранцузскую кааліцыю (Аўстрыя, Англія, Прусія, Іспанія і інш.) – вайну 1793–1797 гг.

A Maskal ŭ Polszy razsieŭsia
Da zaraz ŭ kości ŭjeusia –
Staŭ padatki wydzieraci
U niekruta zabieraci –

Kazau ssypać mahazyny[1],
Buci[m] dla takoj pryczyny,
|62v| Szto jak zdarycca patreba –
Mužyk moh tam dastać chleba;

A jak sam stau wajawaci
Kazau mahazyn zabraci –
Ŭ aboz wazić usio zboże,
A narod choć hiń nieboże

I atdauszy usio z chaty
Jeszcze sam idzi ŭ sałdaty –
Kidaj žonku, dzietki ŭ domu
Jedź ŭ kałodce da pryjomu –

A jak wojska nie patreba,
To sałdat sam szukaj chleba –
Szle ŭsiech damoŭ – choć nie znaje
Czy katory dom swoj maje[2].

Tolki wielać nie szatacca
Na prykaz zaraz jaŭlacca –
Nasić boty, strycca, bryci –
Choć nie majesz czym prażyci.

Dauniej ludzie dobra żyli,
I druhich dabra uczyli
A Maskal sam nic nie znaje
|63r| Tay lichota [na]uczaje –

Stau Kaścioły abdzieraci,
Ŭsiudy Ksiendzoŭ razhaniaci –
Albo wieleŭ być papami[3]
Chadzić ŭ rasach z baradami –

---

[1] У Расейскай імперыі з 1760 г. дзеля барацьбы з неўраджаямі і голадам загадана было будаваць запасныя хлебныя магазіны (паводле закона ад 29 лістапада 1799 г. ва ўсіх вёсках, што мелі не менш за 50 двароў), з тым, каб на кожную рэвізскую душу мелася па 2 чвэрці (адна чвэрць – 210 літраў) збожжа. Запасы павінны былі рабіць самі сяляне.

[2] Гаворка пра г. зв. "безсрочноотпускныхъ солдатъ", г. зн. звольненых пасля 20 гадоў службы ў бестэрміновы "отпускъ" на 5 гадоў, з якога яны маглі быць зноў прызваныя на службу. Пасля Крымскае вайны тэрмін службы быў скарочаны да 15 гадоў, з якіх тры апошнія салдат быў у "безсрочномъ отпускѣ".

[3] Маецца на ўвазе скасаванне Уніі ў 1839 г. і перавод уніятаў у расейскае праваслаўе.

Bić pakłony i uczycca
Tak po maskoŭski malicca –
Choć paciery takije maje
Szto [i]ch i czort nie|spaznaje.

Niechaj|że chto słowo skaże
Zaraz jaho Maskal źwiaże –
I zdaroŭje adbiraje
I na Sybir wysyłaje –

A hdzie żandar zwankom źwiahnie
To naylepszych w turmu ciahnie –
Czy ubohi, czy bahaty,
Wałacze at siemi – chaty.

Czynoŭniki jaho zbytkujuć,
Abdzierajuć i katujuć –
H[łu]miać, kraduć, razbiwajuć –
I płakać nie|pazwalajuć.

|**63v**| Za Palakom to bywało
I padatkoŭ płacić mało –
A chto mieŭ pana lichoha
Paszoŭ sabie do druhoha –

A jak Maskali nastali –
To usiech w skazki papisali[1]
I szlachcicoŭ z mužykami
Hłumiać tak, jak choczuć sami –

Z duszy niekrut i padatki
Choć ty hiń, a daj astatki –
A da reszty usiech zhubili
Akcyzju[2] pastanowili.

Palak usio heta znaje
Horki slozy praliwaje –
Tolki pomochczy nie może
Sam ŭ czużoj ziemle nie-bože.

Ale, bratki, nie tužycie
Lepsz w Boha paprasicie

[1] Рэвізскія казкі – дакументы, якія адлюстроўвалі вынікі рэвізій падатковага насельніцтва ў Расейскай імперыі. Усяго было праведзена 10 рэвізій. Беларускіх зямель датычылі: 4-я (1781–1787), 5-я (1794–1808), 6-я (1811, незавершаная), 7-я (1815–1825), 8-я (1833–1835), 9-я (1850), 10-я (1857–1859).
[2] Акцызная сістэма ўведзеная ў Расейскай імперыі ў 1847 г.

Zmiłowania kab jon skora
Pieremieniŭ nasze hora –

Bo kažuć – szto czas nastaje
Jak Maskal moc pacieraje –
|64r| A jak heta toje budzie
To biarycie na um ludzie.

Jak Palakou zwajawali
I do Prancuzou prahnali –
To jany chacieli sami
Idźci nazad z Palakami –

I paszli i Maskwu wziali[1]
Palakom Polszczu atdali –
No Maskal tut spachwaciŭsia
Dy z Niemcami zhawaryusia –

I siudy, tudy krucili,
Wajawali da płacili
Pakul Prancuz nie zdausia
Znoŭ w niewolu nie dastaŭsia.

Jak Prancuz paszoŭ ŭ niewolu
Tady Maskal znoŭ wziaŭ wolu –
Znoŭ paszoŭ narod hłumici
Polszczu da reszty hubici.

Prancuz tym czasem pawoli
Sta[ŭ] wybiwacca z niewoli –
Prahnau Karala lichoha[2]
|64v| Da wybraŭ sabie druhoha[3] –

A jak tolka zmacawaŭsia,
To z Maskalom i zadraŭsia –
Zaczaŭ bici – wajawaci
Swaju kryŭdu spahaniaci[4].

Oj biŭ dakul sałdat stało
I zabraŭ ziamli nie mało
Až Maskal musieu prasicca
Sztob z Prancuzom pahadzicca

[1] Гаворка пра расейска-французскую вайну 1812 г.
[2] Маецца на ўвазе Луі-Філіп I (1773–1850), кароль французаў у 1830–1848 гг.
[3] Гаворка пра Луі Напалеона Банапарта (1808–1873), які ў 1848 г. стаў прэзідэнтам рэспублікі, а ў 1852 г. – імператарам Францыі.
[4] Маецца на ўвазе Крымская вайна 1853–1856 гг.

I Prancuz jak rabiŭ zhodu –
To zaścieroh sztob narodu
Usiakomu wolność daci
Nikoha nie prymuszaci[1].

Maskali choć abiecali
Da taho nie datrymali –
Bo Prancuz nie mieŭ spakoju
Paszoŭ na Niemca wajnoju[2].

Bo Niemiec w chytrość uszyŭsia
Za Maskala nie zastupiŭsia –
Da staŭ inszych zabieraci
Na swoj zakon prymuszaci

|**65r**| Prancuzy heta daznali
Dy [n]a Niemcou i napali
Znou bilisia sztob narodu
Kažnomu zdabyć swabodu.

Tay i Niemcoŭ zwajawa[li]
I z czužoj ziemli prahnali
I na wiek, wiekoŭ wieleli
Kap tam szołdry[3] nie siedzieli.

A sztob bolsz wojn nie rabili
Da narodu nie hłumili –
Kap cary nie mieli woli
Brać nikoha da niewoli –

Pa ŭsiom świecie razpisali
Sztob usie ludzie skazali:
Jak katory chocze byci
Pod jakim zakonom życi.

Czuć i nas budué pytacca
Jak my choczem zastawacca –
Czy być ŭžo z Maskalami,
Czy znowu żyć z Palakami?

Pamiętajcie|ž w tuju poru
|**65v**| Jak prydzie da pryhaworu –

[1] У грамадстве доўгі час распаўсюджваліся падобныя чуткі, хоць у Парыжскай мірнай дамове такое і не зафіксавана.
[2] Маецца на ўвазе французска-аўстрыйская вайна (красавік – ліпень 1859 г.), у выніку якое Італія атрымала незалежнасць.
[3] Польск. *szoldra* (ад ням. *Schulter*) – вэнджаная свіная лапатка, шынка. У пераносным значэнні: *свіння*. Так палякі з даўніх часоў называлі немцаў.

Kap czasami nie akpicca[1]
Na wiek, wiekoŭ nie zhubicca.

Pakińcie|ž harełku pici
Sztob rozumu nie|zduryci
Jak heta słowo skazaci
Dolu sabie wybiraci.

Bo choć papy durać-muciać
Prostyj narod bałamuciać –
Szto to Maskal maje wolu
Palachczyć naszuju dolu[2] –

Oj nie wiercie tamu ludzie
Niczoho z toho nie budzie.
Kap jon chacieŭ tak rabici
Daŭno|b to musiało byci.

Wszak[3] jon wo usiom wolu maje
Jak chocze – tak upraŭlaje,
A jak tolki szto nakaže
Kažin zrobić szto prykaže.

Choć prastaki wymyślajuć
Szto pany piereszkadžajuć –
**|66r|** S[zto] płacili i krucili,
I Maskala podkupili –

Na szto|ž jamu podkup braci
Kali i tak kažyć daci –
I kažen płacić niebože,
I krucielstwo nie|pamože.

Czy|ž pany pierekupili
Jak ich u Sybir wałaczyli
Jak usiu szlachtu kasawali
I majątki adbirali[4].

Tak samo i z mużykami –
Oy Maskali choczuć sami

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 362: “ОКПИ́ЦЬЦА, гл. возвр. сов. в. 1) Остаться въ дуракахъ, навлечь на себя посмѣяніе. *Мудрогеливъ, кпивъ коло другихъ, покуль самъ окпився*. 2) Ошибиться. *Якъ я окпився, што не взявъ того, што давали за коня*”.

[2] Відаць, маюцца на ўвазе чуткі пра “вызваленне сялян”.

[3] Ад польск. *wszak* – аднак; бо.

[4] Гаворка пра рэпрэсіі царызму ў дачыненні шляхты ў 1770-я – 1860-я гг. і асабліва пасля Паўстання 1830–1831 гг.

Kab nas pany pilnawali –
Szatacca nie pazwalali –

Sztob každnaho najci u poru
Dla niekruckaho naboru,
Kab było kamu ławici
I da pryjomu wazici.

A jak pryducca padatki
Dziaruć z pana choć astatki –
Niechaj sabie pany prawiuć
U dwor im akzekucyiu stawiuć.

|66v| Oj tak, tak moi wy ludzie
Z Maskalami dabra nie budzie –
Tak pomnicie|ž szto kazaci
Jak to was buduć pytaci –

I z za rubieža jak hranieć
Mierosłauskij z žaunierami –
I jak Polszcza usia poustanieć
Pojdziem i my z Palakami[1].

Krykniem usie u odno słowa:
Niechaj Polszcza budzie znowa,
Bo jak staniem Palakami
Budziem wolnymi panami![2]

---

**Czy znajecie, mai dzieci!**[3]
Szto heta Maskul (sic!) na świecie:
Padajci k' niamu baiszsia[4];
Taj jak k' niamu prybližyszsia,
Tak wot strach i zabirajeć,
Szto jon ŭ matku abruhajeć –
My sabie siadzieli cicha:
Pryniasło|ž Maskaloŭ licha,
Usio pabrali, razahnali,
Panoŭ naszych pawiazali,

[1] На нашую думку, дадзены катрэн напісаны не аўтарам гутаркі, а іншаю асобаю, магчыма, падчас падрыхтоўкі твора да друку.

[2] Відаць, выдаўцамі гутарка *Czy znajecie, mai dzieci*! не ўспрымалася як асобны твор, а толькі як працяг-тлумачэнне, хто такі "маскаль". З гэтае прычыны яны не далі ёй назвы, адно толькі графічна аддзялілі ад тэксту *Hutorki staraho Dzieda na Biełarusi*.

[3] Вылучэнне першага радка гутаркі – нашае.

[4] У гутарцы выкарыстоўваюцца фрагменты паэмы Яна Баршчэўскага *Рабункі мужыкоў* (гл. радкі 1–5, 7–10, 17–20, 24, 30).

|67r| Stali brać ich, da kawać,
T[aj] kazakam addawać,
U Picier stali adsyłać,
Taj ŭ Sibir pieresielać.
Užo im za nas nie|ustupicca!
Samym k’ nam nie waracicca!
A szto|ž za pany bywali:
Sukni budto żar na szali,
Dwa rukawa u nich krasnych,
Dwa jeszczo z zadzi zapasnych,
I szapki z czatyrmia rahami,
Taj z krasnymi czabatami,
Z załatymi pajasami,
Taj na uwieś świet usami!
Pahladzieć na nich tak ładna:
Usio tak bliścić, usio tak składna.
Jak dziaciej nas pryhladali,
Padaciej u nas nie brali,
I karmili i paili,
I ŭ niekruty nie|wadzili.
Atkul Maskal nalacieŭ,
I szczaście nasze zajeŭ[1]:
Staŭ jon panoŭ zabirać,
A nas bić, muczyć, taj drać,
Dy nad wieroj naśmiechacca,
Taj nad Bohom ŭžo ździkacca[2],
Nas z padwodami haniać,
I ŭsio u nas atnimać.
Ni pasłowicoj słyło,
Szto pad Prahoju było![3]
Roŭna szto wot z piekła biesy,
|67v| I kazaki i czerkiesy
Na pikach dziaciej nasili,
Oszmianu kroŭju zalili[4];
Matek z dzietkami kałoli!
Czaho|ž jeszcze treba boli? –

[1] Ад польск. *zająć* – захапіць, завалодаць.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 205: “ЗДЗИКА́ЦЬЦА, гл. общ. Неприлично, дико, несвойственно обращаться съ предметомъ. *Грѣхъ здзикацьца надъ Божимъ даромъ*”.

[3] Гаворка пра бойню, якую наладзіла расейскае войска пад камандаю А. Суворава пасля перамогі над абаронцамі прадмесця Варшавы Прагі 4 лістапада 1794 г. Было замардавана блізу 20 тысяч мірнага насельніцтва.

[4] Маецца на ўвазе карная экспедыцыя расейскага войска пад камандаю палкоўніка Вяршыліна 15 красавіка 1831 г. на Ашмяны, дзе знаходзіўся невялікі паўстанцкі аддзел. Горад быў спалены, а насельніцтва, што спрабавала схавацца ў касцёлах, вымардаванае.

Ksiendza ŭ mszy samoj zabili,
Kielich dnom ŭ wierch zwaracili![1]
A woj chuda z Maskalami
Mycca kroŭiu taj slezami!
A ŭżoż, dzietki, nie siedzieć!
At Maskala nie cierpieć!
Dubjom jaho jak sabaku!
U kułak skrucić jak tabaku!
Ražnom ŭ nozdry! pieloch ŭ ucha!
Hrym u szeju! por u brucha!
Niechaj kiszki wałakucca,
Waŭkam u korm dastajucca!
Woŭk zareż ich, syzmu[2] hetu,
Won iz Polszczy, won sa świetu!
Budzim že Boha malić,
Sztoby Polszczy waracić:
Bo ŭ Polszcze pany panami;
Taj jak pany budzim sami,
Zažywiom sabie na sławu.
Nu|ž k' czortu syzmu pluhawu –
Užo nie zdabrawać jamu
Pahanomu Maskalu:
Pany szabli pabiaruć,
Taj nas z saboj pazawuć –
Tak nie|traccia že pary
Dy wastrycie tapary;
I kasu na pryhatouki –
Buduć słaunyje Pietrouki!
**|68r|** Jak Maskalu tkniesz u nos,
To to budzić sienakos! –

---

## ***Malitwa dzisiejszaja***

Bože szto Polszcze czerez ŭsie wieki
Dawau Cześć-Chwału, ścieroh ad niewoli –
I nie žaleŭszy atcoŭskiej apieki –
Suliŭ paciechu u nieszczasnej doli –
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waracić nam prosim!

---

[1] У Ашмянах у дамініканскім касцёле жаўнеры-кабардзінцы забілі блізу 500 чалавек – у тым ліку жанчын, дзяцей і святара, які правіў імшу.
[2] Syzma (*schizma*) – рэлігійны раскол. Так каталікі называлі Усходнюю царкву пасля расколу ў IX ст. Ад грэц. *schisma*.

Ty pażaleŭszy jeje w złoj pryhodzie,
Nie raz pabici wraha dawaŭ siłu,
Sierod nieszczaścia u prawiednom rodzie
Dabawiŭ chwały – choć paszła ŭ mahiłu –
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waraci nam prosim!

Boże katory właść karanawanych
Moŭliŭ bylinku słomisz w swaim sudzie –
Satry|ž u porach tyranoŭ pahanych
Daj nam nadzieju szto Polszcza żyć budzie –
Piered ałtary … *i t. d.*

Wierni iej świetność staruju jak była,
Daj urażai na radnienkoj mieży
Sztoby ŭ pakoi szczaśliwa zażyła
Błahasławi Ty u dziele maładzieży.
Piered ałtary … *i t. d.*

|**68v**| Ty Białynicku[1] Preświetaja Dziewa[2] –
Jedyna muci prapuszczuho rodu
Litwy i Rusi można Karalewa
Uprasi Syna sztob daŭ nam swabodu.
Piered ałtary ……….

U Żurawicach, Barunach[3] Maskali
I Ciebie z nami ŭ kazionszczynu skuli,
Spraŭ sztob at syzmy Ty i my atstali,
Spraŭ kali|b z Polszczoj uniju wiernuli.
Piered ałtary ……….

U Marciuchowie[4] my papoŭ użo bili,
Ad syzmy Ciabie chacieli atniaci –
Dy usio niczoha, sztob my ni rabili –
Kali nie staniesz Ty nam pomahaci.
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waraci nam prosim!

---

[1] У арыгінале выразна адбілася літара ***u***. Тое самае ў словах *m**u**ci* i *prap**u**szcz**u**ho*.

[2] Вядомы з XVII стагоддзя Абраз Божае Маці Бялыніцкае знаходзіўся ў Бялыніцкім касцёле кармелітаў (касцёл Божае Маці Шкаплернае пры кляштары кармелітаў). Шанаваўся тагачасным насельніцтвам ўсходняе Беларусі як цудадзейны.

[3] У Жыровіцкім Свята-Успенскім кляштары (галоўным цэнтры Уніі) знаходзіўся Абраз Божае Маці Жыровіцкае. У Барунскім касцёле Св. Апосталаў Пятра і Паўла (пры кляштары базыльянаў) знаходзіўся Абраз Божае Маці Барунскае.

[4] Відаць, гаворка пра невядомыя сёння падзеі ў вёсцы Марціхова Аршанскага павета Магілёўскае губерні (Талачынскі раён Віцебскае вобласці). Паводле *Słownika geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich* (t. XV, cz. 2, Warszawa 1902, s. 311) напрыканцы XIX ст. у вёсцы было 22 двары, жыло 115 чалавек; мелася царква.

Twoich słuh wiernych: Antonja Światoha[1] –
I Jozafata na syzmu lichoha[2]
Poszli szwydczej Ty k’ naszemu narodu;
Prahnać Maskaloŭ i dać nam swabodu –
Piered ałtary malitwu prynosim
Wolnu Atczyznu waraci nam prosim!
Amen.

---

[1] Гаворка пра Антонія Падуанскага (1195–1231), каталіцкага святога, аднаго з самых знакамітых францішканаў.

[2] Маецца на ўвазе Язафат (Jozafat, Іасафат, Іазафат) Кунцэвіч (1580–1623), базыльянін, полацкі ўніяцкі арцыбіскуп. Беатыфікаваны ў 1643 г., кананізаваны ў 1867 г.

# Са справы часовага палявога аўдытарыяту

Невялікі празаічны тэкст *Od Staraho dzieda*, які мы называем прадмоваю да літаграфаванага выдання, захаваўся ў трох варыянтах[1]: у самой літаграфіі, у рукапіснай копіі літаграфіі, а таксама на асобным аркушы ў следчай справе Эміліі Бандзінскае. Адрозненні зусім нязначныя, але дзеля атрыбуцыі твора яны дастаткова істотныя. А таму варта перадрукаваць усе варыянты.

Картка з дадзенае архіўнае справы Э. Бандзінскае выклікае шмат пытанняў. Па-першае, ці з'яўляецца яна літаграфаваным адбіткам?[2] Па-другое, ці дадзеная картка была адбітая як асобны дакумент і ў такім выглядзе распаўсюджвалася альбо гэта фрагмент (першы аркуш) яшчэ аднаго літаграфаванага выдання?

Мы схіляемся да думкі, што існавалі як мінімум два літаграфаваныя выданні. Першае з іх трапіла ў рукі мінскіх жандараў і захавалася ў форме двух транслітараваных рукапісных копій (гл. вышэй). Яно пачыналася *Hutorkaj staraho Dzieda* (менавіта з такім тытулам), другая гутарка (*Czy znajecie, mai dzieci!*) не мела тытулу, а была адасоблена ад папярэдняй толькі пустым радком[3]. Завяршалася выданне *Malitwaj dzisiejszajaj*.

Пазней выдаўцы падрыхтавалі празаічны ўступ-прадмову да выдання, якую, магчыма, спачатку адбілі асобнаю карткаю, а пасля ўключылі ў новае выданне. Невядома, ці адрозніваліся літаграфіі фарматам, а г. зн. і колькасцю старонак. Але цікава тое, што картка са следчае справы Э. Бандзінскае ледзь не на палову меншая за тую літаграфію, якая захавалася.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: LVIA, f. 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], ap. 1 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], b. 22 [*Дѣло о помѣщицѣ вдовѣ Бондзинской, дочери ея Идели, дворянинѣ Каминскомъ и помѣщикѣ Василевскомъ*], l. 13–13v.

[1] У Бібліятэцы акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх захаваліся дзве копіі літаграфіі (рукапісная і машынапіс). Яны выкананыя не зусім старанна, а таму ўзнікаюць сумневы, ці не выкарыстоўвалі капіравальнікі невядомыя сёння варыянты выдання ці рукапісу. Гл. больш падрабязна: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў: Творы невядомых аўтараў*, том другі, Варшава 2016, с. 217–246.

[2] Ступень захаванасці аркуша не дазваляе адназначна адказаць на гэтае пытанне.

[3] Мяркуем па тым, што жандарскія капіравальнікі палічылі два творы за адзін.

## |13r| *Od Staraho dzieda*

„Chadziŭ baj pa ścianie…..
Czy baiŭ, czy nie?... ...”

Wot tak zaczynali naszy dziedy swai hutorki, taki wot takaja była ich prykazka. – Ciapier dziady naszy ŭżo śpiac sabie ŭ mahiłach, taj maŭczać i nie każuć nam kazok, nie|śpiewajuć piesienok. Zamauczali tatulki naszy, nie|palubiłasia im, szto Maskal słuchajeć ich, taj chachoczyć naruhajuczysia i z nich i z nas. Zamauczali jany, lahli ŭ mahiły i spiać sabie krepka i cicha; a piesieńki i hutorki ich chodziuć pa świetu, szukajuć dobrych ludziej, da i ziukajuć z nimi ab tom, szto bywała niekali na świecie, i ab tom, szto rabić patreba. – Maskalom hety hutorku nie|pa|nutry; jany ich łowiuć ŭsiudy i na miesta Ojczyzna nakawierzywajuć pańszczyzna. – Ach jany bezmozhłyje takije! Da szto|ž jeny dumajuć, |13v| szto my wot taki i nie|ściamlim, chto ŭsiu krutniu hetu robić, i szto my nie|spaznaim [–] szto zdarowa, a szto atruta? Wisz jak zamudryli: niechaj pany z mużykami zadzierucca; a my i hetym i hetym pietlu na szeju!

Zdarowa żywiocie, panowie Moskali? Jak waszeci maiciesia? Czy nie hłatnuli wy czasami ŭ broware, dy czy nie abjeli[ś] wy blokotu szto takuju pryjawu [zachacie]łaś rabić wam na świecie? Ali jak baby zaciorli na maładoja, dy kinuliś na to, szto i Boh i ludzi nie|pochwaluć?

Niechaj sabie Maskal piszyć swai paskudnyje aszukaństwa; a my budzim pieredawać wam tolka toja, szto nam dastałoś at naszych dziedoŭ. – Wot wam, bratcy, takii hutorki: praczytajcia ich, padumajcie, paziukajcia – taj kali hedak, tak hedak! Pamaliŭszysia Bohu jak tutyćka napisana, dy i za rabotu; a daliboh budzić ładna! –[1].

[1] На доле старонкі пазнака тых, хто праводзіўператрус у доме Э. Бандзінскае: “Марта Де–вя–то–го дня 1863 Года настоящее письмо свидетельствуемъ. Чиновникъ [*подпіс*:] Лобовъ”.

# Са справы часовага палявога аўдытарыяту

Амаль два гады “Коммисія высочайше учрежденная по политическимъ дѣламъ въ городѣ Минскѣ” вяла следства адносна выяўленага прыператрусе ў маёнтку Мікалая Віткоўскага Збарэвічы[1] стоса “бумагъ возмутительнаго содержанія”, у якім знаходзіліся (сярод іншага) беларускамоўныя друкаваныя і літаграфаваныя выданні. Камісіі, аднак, не ўдалося дакладна высветліць, калі і якім чынам агітацыйная літаратура трапіла да Віткоўскіх. Прызнанне Алаіза Віткоўскага, што паперы, змест якіх ён нібыта не ведаў, студэнт Маскоўскага ўніверсітэта Ігнат Пякарскі даў яму дзеля перадачы Альфрэду Ратынскаму, засталося без пацвярджэння, бо І. Пякарскі катэгарычна запярэчыў: паказаныя яму паперы бачыць першы раз і аніякага Віткоўскага ён не ведае. Следчыя нібыта задаволіліся такім адказам, хоць маглі дапытаць арыштаваных А. Віткоўскага і І. Пякарскага разам (очная ставка), а таксама праверыць “студэнцкі след” апошняга (які, дарэчы, гэтак жа пераканаўча адмаўляў і сваё студэнцтва). Больш за тое, сама мінская камісія мела ў сваім распараджэнні звесткі пра нейкага Пякарскага, бо вяла прыкладна ў той самы час справу пра чыноўніка Мінскае казённае палаты Карла Станкевіча і інш. У арыштаванага Вінцэся Клімовіча, валаснога пісара з Паланечкі канфіскавалі падазроны ліст ад 13 лістапада 1862 г., дзе згадваўся і Пякарскі: “В пунктах 5-м і 7-м твоих вчерашних показаний ты сказал, что знаком в Минске только с гг. Шклениками, Гейбовичем и Ковзаном; а в письме твоем к Станкевичу ты просишь его кланяться от тебя Новаковскаму, Козловскаму, Чекатовскаму, Семирадскому, Прушинскому, Добровольскому, Бартошевичу и Пекарскому. Из этого видно, что ты знаком с ними, и, следовательно, вновь изобличаешься во лжи, не показав этих лиц в числе твоих знакомых”[2].

Камісія не надала належнай увагі асобным дакументам, а пашыранае на Беларусі прозвішча выратавала І. Пякарскага ад дадатковых абвінавачванняў. Сёння, аднак, відавочнае тое, што ён быў не шараговым паўстанцам (у чым прызнаваўся), а адыгрываў значна больш важную ролю ў падрыхтоўцы паўстання і ў Маскве, і на Міншчыне, і на Магілёўшчыне.

---

[1] “ZBOROWICZE, Zbarowicze al. Zbarewiczy 1). фальв[арак] ля рэчкі Мачына, левага прытоку Свіслачы, Мінскі пав[ет], у 2 пал[іцэйскім] ст[ане] і кат[аліцкай] пар[афіі] Ракаў (24 в[ярсты]), вол[асць] Заслаўе (чыг[уначная] ст[анцыя] Лібава-Роменскай дар[огі]), 27 в[ёрст] ад Мінска, уласнасць Віткоўскіх, блізу 13 валок <…>. A. Jel.”. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIV, Warszawa 1895, s. 527.

[2] Цыт. па: Г. Кісялёў, *Вінцэсь Клімовіч з вёскі Перасекі* [у:] Ён жа, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 145–146.

Навукоўцы яшчэ ў 1960-я гг. высветлілі, што І. Пякарскі напрыканцы 1850-х і на пачатку 1860-х гг. быў адным з актыўных сяброў „Ogółu", а пасля – Związku Towarzystwa Ruchu Маскоўскага ўніверсітэта: "К 1861 г. Огул был хорошо налаженной организацией. Значительную роль играли в нем студенты К. Бошинский, Ю. Зданский, Б. Колышко, Д. Боцярский, В. Голомберский, братья Далевские, П. Маевский, И. Пекарский, В. Борзобогатый, Б. Длуский, А. Зельверович, А. Верницкий, В. Лебедев, К. Хмелевский, братья Коссаковские"[1].

Але ў чым выяўлялася ягоная дзейнасць, чым канкрэтна ён займаўся? Як аказалася, літаграфаваннем патрыятычных тэкстаў.

Яшчэ ў 1859 г. „Ogół" наладзіў літаграфаванне партрэтаў вядомых асобаў краю і іншых зямель былой Рэчы Паспалітае – Тадэвуша Касцюшкі, Міхала Валовіча, Шымана Канарскага, Тамаша Зана, Юзафа Бэма, Людвіка Мераслаўскага і інш. На развіццё літаграфічнае справы Варшаўскі студэнцкі камітэт Караля Маеўскага (Komitet Akademicki) у 1860 г. ахвяраваў „Ogółu" 10 тыс. рублёў. Апрача таго, кіраўніцтва таварыства стала вылучала "на содержание литографии" вялікія сродкі, якія перадаваліся звычайна І. Пекарскаму[2].

У снежні 1862 г. чыноўнік па асаблівых даручэннях пры пецярбургскім генерал-губернатары падпалкоўнік А. Паліцын высветліў[3] у Маскве, што студэнты заснавалі сваю літаграфію[4] ў доме вядомага літаграфшчыка Някрасава ў Газетным завулку, дзе паліцыя і жандары ў ліпені 1862 г. правялі ператрус, "подробности оного Пекарский, как распоряжающий[5], объяснил[6]: Некрасов занимает двухэтажный дом; когда приступили к обыску в нижнем этаже, то Пекарский, занимаясь в своей литографии, устроенной в кв. Некрасова, в верхнем этаже, пользуясь временем, с помощью одного из рабочих, сына Некрасова и его жены, успели стереть с камней приготовленные к оттиску статьи; уложенные в тюки, приготовленные к отправлению экземпляры и имевшийся запас бумаги

---

[1] Т. Федосова, *Польские революционные организации в Москве: 60-е годы XIX века*, Москва 1974, с. 33.

[2] *Ibidem*, s. 95.

[3] Пра гэта ён піша ў сваёй *Докладной записке* ад 23 снежня 1862 г. генерал-губернатару Аляксандру Сувораву, які ў сваю чаргу пераадрасуе яе 27 снежня кіраўніку III аддзялення і шэфу жандараў Васілю Даўгарукаму.

[4] У *Записке III отделения о ходе следствия по делу о печатании в Москве и распространении запрещенных сочинений* ад 9 студзеня 1862 г. ідзе гаворка пра тое, што ў Маскве дзейнічае блізу 150 літаграфій, з якіх толькі 96 маюць дазвол уладаў. Апрача таго, "многие из московских литографов едва настолько грамотны, что умеют подписать свое имя, отчество и фамилию", а гэта стала прычынаю таго, што яны "были бессознательным орудием в деле литографирования запрещенных сочинений". Гл.: *Восстание 1863 года: Материалы и документы: Русско-польские революционные связи в 2-х т.*, Москва 1963, т. 1, с. 121.

[5] Трэба разумець, што І. Пякарскі з'яўляўся ў "Ogóle" адказным за выданне агітацыйнае літаратуры. Яму дапамагалі Аляксандар Вярніцкі і Павел Маеўскі. Апошняга, дарэчы, таксама арыштавалі падчас ператрусу ў літаграфіі Някрасава. А з-за таго, што ў кватэры П. Маеўскага жандары знайшлі літаграфаваныя адбіткі, студэнт быў арыштаваны і адпраўлены ў Пецярбург у распараджэнне Галіцынскае следчае камісіі.

[6] Звесткі атрыманыя ці то самім А. Паліцыным, ці то пэўным жандарскім агентам у асяроддзі студэнтаў, а не падчас допытаў І. Пякарскага.

выкинули через окошко в сад, так что к приходу полиции наверх производство их было совершенно скрыто; сам же Пекарский имел при себе в кармане некоторые документы, по которым он мог легко быть уличен, но в виду всех пришедших он бросил в топившийся тогда камин, сказав обыскивающим его, что это была его любовная переписка с женою Некрасова, с которою он в связи, а потому не хотел это предать гласности. Хотя Пекарский и был подвергнут аресту, но как литография не была открыта, то он был выпущен. До сего времени они стеснялись литографией[1], ибо издерживали большие деньги для произведения своих статей, но теперь Пекарский снова заключил договор с тем же Некрасовым вновь устроить секретно литографию на следующих условиях: как прежние камни оказались негодными, то за устройство 5 камней и машины Некрасов должен получить 1500 руб. с тем, когда приобретутся 5 камней, Пекарский должен выдать Некрасову 750 руб. и остальные по начатии работы; за литографирование же от каждого листа Некрасов согласился получать ту самую плату, которую и прежде получал, работа должна начаться непременно после праздников"[2].

Той самы тайны агент даведаўся ад І. Пякарскага, што ў Вільні "существует типография, в которой издается журнал для возмущения крестьян[3] и устроен революционный комитет под названием Biuro informacyjne (Бюро информацыйне), о котором знает товарищ их и корреспондент г. Бонкер, воспитанник тамошней гимназии"[4].

Падобная інфармацыя павінна была надзвычай зацікавіць жандараў, але ім не ўдалося арыштаваць у Маскве І. Пякарскага, бо, атрымаўшы інфармацыю пра пачатак паўстання ў Варшаве, шмат якія сябры „Ogółu" пакінулі ўніверсітэт і выехалі ў Літву і Беларусь. Верагодна, І. Пякарскі ў студзені-лютым 1863 г. жыў ў Мінску, дзе і перадаў А. Віткоўскаму стос папераў для А. Ратынскага, а сам накіраваўся на Магілёўшчыну ў фальварак свайго прыяцеля, студэнта Маскоўскага ўніверсітэта Важынскага.

Літоўскі гісторык У. Бікуліч меркаваў, што канфіскаваныя ў маёнтку Збарэвічы выданні і рукапісы – гэта частка архіву "Ogółu"[5]. Можна з гэтым згадзіцца, хоць больш праўдападобна, што І. Пякарскі прывёз з Масквы камплекты агітацыйнае літаратуры, які раздаваў знаёмым. Сам жа архіў „Ogółu" быў выяўлены 30 ліпеня 1864 г. у памяшканнях (хлявах), якія належалі ўправе Ніжагародскае чыгункі (і ў прыватнасці, дварaніну Юрыю Масолаву). Сярод папераў быў і імённы спіс „Ogółu". Палкоўнік Мікалай Ваейкаў цягам некалькіх месяцаў (да красавіка 1865 г.) высвятляў персанальныя дадзеныя ўсіх 452 сяброў тава-

[1] Гаворка пра тое, што з ліпеня па снежань 1862 г. студэнты не мелі ўласнае літаграфіі.

[2] *Восстание 1863 года: Материалы и документы: Русско-польские революционные связи в 2-х т.*, Москва 1963, т. 1, с. 187.

[3] Зусім верагодна, што гаворка ідзе пра "Мужыцкую праўду".

[4] *Ibidem*.

[5] В. Бикулич, *Речь П.Г. Заичневского о русско-польском сотрудничестве* [у:] *Связи революционеров России и Польши XIX – начала XX в.*, Москва 1968, с. 80.

рыства[1]. Аднак звесткі пра І. Пякарскага не трапілі ў "Коммисію высочайше учрежденную по политическимъ дѣламъ въ Могилевѣ"[2].

На нашую думку, сёння ўпэўнена можна казаць, што літаграфію *Hutorki staraho Dzieda* выканаў у 1860 (ці 1861) годзе І. Пякарскі ў Маскве. Якім чынам беларускамоўны твор трапіў да маскоўскіх студэнтаў высветліць пакуль не ўдалося. Аднак вядома, што яны мелі кантакты з рознымі асяродкамі ў краю: Вільняю (дзякуючы П. Маеўскаму і А. Вярніцкаму), Мінскам (З. Мяштовіч), Магілёвам і Віцебскам (І. Пякарскі)[3]. А таму тэкст *Hutorki*… мог трапіць да іх як непасрэдна ад аўтара, так і ад асобаў, якія маглі нічога не ведаць пра аўтара, але мелі тэкст *Hutorki*…. Зрэшты, мы не можам выключаць, што аўтар знаходзіўся ў коле саміх студэнтаў, і хоць пра паэтычныя здольнасці сяброў "Ogółu" мы амаль нічога не ведаем, але затое ёсць пераканаўчыя сведчанні пра патрыятычную заангажаванасць маладых людзей: "Все они не только дурно, но даже с дерзостью относятся о правительстве, преисполнены фанатизмом и враждою к русским, имеют весьма часто по вечерам сходки <…>. Они получают журнал из Варшавского революционного комитета, следят очень деятельно за случившимися событиями в Варшаве, в переписке со многими – из разных мест польских губерний, получают довольно значительные сумы"[4]. Гэта было якраз тое асяроддзе, у якім нарадзіліся ідэі, выяўленыя ў мастацкай форме ў прадмове да выдання і ў гутарцы *Czy znajecie, mai dzieci*! Радыкалізм маладых выразна адчуваецца ў гэтых тэкстах.

Пра сяброў маскоўскага "Ogółu" мы амаль нічога не ведаем. (Не кажучы ўжо пра іхнія схільнасці да літаратурнай творчасці). Здаецца, нават персанальныя дадзеныя, сабраныя жандарскім падпалкоўнікам М. Ваейкавым засталіся незапатрабаванымі навукоўцамі[5]. Можа, як выключэнне, біяграмы толькі асоб-

---

[1] Гл.: *Выписка из журнала заседаний Петербургской следственной комиссии по делу обнаружения у Ю. Мосолова бумаг и книг Московского польского студенческого огула*; *Донесение Н.В. Воейкова управляющему III отделением Н.В. Мезенцеву о проверке списков Московского польского студенческого огула, обнаруженного у Ю. Мосолова* [у:] *Восстание 1863 года: Материалы и документы: Русско-польские революционные связи в 2-х т.*, Москва 1963, т. 1, с. 190–193.

[2] І. Пякарскі ў красавіку 1863 г. быў арыштаваны паліцыяй за падазроныя перамяшчэнні па Магілёўшчыне, але здолеў уцячы, знішчыўшы забраныя ў яго паперы Сененскай паўстанцкае арганізацыі. У верасні 1863 г. яго зноў арыштавалі. Падчас следства ён прызнаўся, што быў "въ шайкѣ мятежниковъ". Гл.: LVIA, f. 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], ap. 2 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], b. 1249.

[3] Т. Федосова, *Польские революционные организации в Москве: 60-е годы XIX века*, Москва 1974, с. 94.

[4] *1862 г. декабря 23. Москва. – Докладная записка чиновника особых поручений А.В. Палицына А.А. Суворову о польском студенческом огуле в Москве и его деятельности* [у:] *Восстание 1863 года: Материалы и документы: Русско-польские революционные связи в 2-х т.*, Москва 1963, т. 1, с. 186.

[5] Маем на ўвазе матэрыялы 95 фонду ГАРФ [*Следственная комиссия 1862 г. по делам о распространении революционных воззваний и пропаганде*], справа 111 [*О книгопродавцах: Кундте и Шмидекампфе, землемере Ив. Андрущенке, дворянах: Юрий Мосолове и Николае Матилове, операторе Степане Носе шт. ротмистре Алексее Столпакове,*

времена съ русскими[1]. Волоса у меня дыбомъ стали, когда вспомнилъ этотъ день. Сколько тамъ убито людей за нашу вѣру и отечество! Много крови текло. Въ Варшавѣ ходивши по церквамъ, много встрѣтилъ стариковъ, съ которыми я служилъ въ войскахъ. Мы всѣ уговорились просить ксендзовъ въ Варшавѣ, молиться за души убитыхъ при Краковѣ. Ксендзы, дай Богъ имъ здоровье, обѣщались намъ, старикамъ, это сдѣлать даромъ. Въ понедѣльникъ утромъ послѣ св. мессы, много народу собралось въ церквахъ. Всѣ усердно молились за души тѣхъ, которые умерли за вѣру и отечество. Когда мы кончили молиться въ церкви, мы пошли на улицу съ процессіею. Тогда прискакали русскіе конно и начали бить народъ нагайками. Русскимъ не нравилась молитва за тѣхъ, съ которыми они сражались и которые хотѣли защищать свою вѣру и отечество. Такъ они давили народъ своими лошадьми и били нагайками собравшійся народъ. Во вторникъ одѣли всѣ трауръ. Они стонали, плакали и кричали въ голосъ: „Боже, за что насъ такъ тяжело наказываешь! Дождались мы ужъ время, что намъ нельзя даже молиться!" Между тѣмъ собрались помѣщики[2] и совѣтовались, какъ помочь хозяевамъ, бѣднымъ и крестьянамъ. Они уговорились, что хозяевамъ дозволить покупать землю и тамъ построить дома. Въ среду собрался народъ на Кармелитской улицѣ и усердно молился. Послѣ молитвы они хотѣли отправиться благодарить помѣщиковъ, что они уговорились помогать людямъ. Когда народъ отправился къ помѣщикамъ, на нихъ напали русскіе. Тѣ, которые выходили изъ церкви, провожали умершаго. Ксендзы несли крестъ, образа и хоругви. Русскіе напали на ксендзовъ, поломали крестъ, порубили образа, казаки и черкесы въѣхали въ костелъ и побили такъ ксендза, что онъ тотчасъ умеръ. Помѣщикамъ объ этомъ сказали и одного изъ нихъ тоже побили; они тогда побѣжали смотрѣть, что случилось и жалѣли народъ, котораго били и давили лошадьми. Когда русскіе начали стрѣлять, то убили 5 человѣкъ и многихъ ранили. Такъ пролилась невинная кровь на улицахъ Варшавы. Когда русскіе перестали стрѣлять, то взяли этихъ 5 человѣкъ убитыхъ мучениковъ и сдѣлали большое погребеніе. На это погребеніе собрались тысячи народу. Католики, пруссаки и жиды провожали тѣла этихъ 5 мучениковъ, души которыхъ, пришедшія къ Богу, хотѣли ему разсказать про наши бѣдствія. Всѣхъ ихъ въ одну могилу похоронили съ пятью терновыми вѣнками. И народъ молился Богу, чтобы онъ помиловалъ Польшу и Литву. Послѣ того собрались помѣщики и написали письмо къ Государю, чтобы Онъ защищалъ невинныхъ и возвратилъ бы имъ отечество. Ксендзы, помѣщики, мѣщане, бѣдные, пруссаки и жиды и всѣ тѣ, которые умѣли писать, подписали свои имена. И я старикъ тоже подписался. И вы, любезные братцы, которые умѣютъ писать, подпишите тоже и просите, чтобы Государь намъ возвратилъ наше отечество, и не забывайте молиться объ

[1] У арыгінале: *Я адразу згадаў Грохаў, дзе разам з кракусамі мы змагаліся з маскалямі*. Гаворка пра самую крывавую бітву Паўстання 1830–1831 гг. пад Грохавым (Grochów), дзе 25 лютага 1831 г. загінула каля 20 тыс. жаўнераў з абодвух бакоў.

[2] Гаворка пра дзейнасць Агранамічнага таварыства (Towarzystwa Rolniczego).

этихъ 5 мученикахъ. Будьте здоровы, любезные братцы и сестры; пусть будетъ съ вами Богъ Отецъ, Сынъ и Святой Духъ во вѣки вѣковъ! Аминь.

Старикъ изъ Вильны.

Писано въ Варшавѣ въ
день святаго Казимира, Литовскаго князя, короля польскаго[1].

## *Письмо бѣдняка изъ Литвы.*

Скажи, добрый старикъ, кончимъ ли мы свою жизнь подъ угнетеніемъ русскихъ? Кто это видѣлъ, любезные братцы, чтобы насъ мучили русскіе? Вспомнимъ прошлые дни и наши хорошія войны, когда Костюшко воевалъ и кракузы были верхомъ, защищая нашу вѣру и себя отъ нехристовъ. Видите, поляки уговорились и такъ устроили въ отечествѣ, чтобы каждый былъ вольнымъ и не было принужденія. Это непонравилось русскимъ и началась ссора. Тутъ прибѣжали пруссаки и имъ не нравились поляки. Они воевали, пока не прогнали поляковъ, и бѣдные побѣжденные должны были бѣжать въ дальныя стороны. За морями много было поляковъ и свою бѣду понесли къ золотымъ французамъ. – Никто ихъ тамъ не преслѣдовалъ, какъ братья имъ помагали и ничего тамъ не случилось съ поляками. Французы были съ ними, но помощи тамъ не нашли; французы сами воевали и стрѣляли по нѣмцамъ. Въ это время русскіе и пруссаки притѣсняли нашъ край, какъ свинцомъ; особенно русскіе угнетали, ловили мужчинъ для рекрутовъ и далеко изгоняли, били ихъ палками и ругали сильно, наложили платы такъ много, что бѣдные не могли уплатить и приказали насыпать магазины, будто бы собирали для насъ запасы, но ни зерна никому не дали и все поѣли русскіе, что собрали отъ бѣдныхъ измученныхъ людей. Что заработали, должны были отдать, въ рекруты брали молодыхъ людей, которые прощались съ женами, дѣтьми и родителями. Тамъ не увидишь свою церковь, не услышишь свой языкъ и изъ тебя ничего не будетъ, умрешь въ чужой сторонѣ. И когда не годенъ уже въ войскахъ, безъ здоровья, оборванный, возвращайся домой и знай свою бѣду. Старые люди были хороши, не знали, что худо. Русскіе не знаютъ ничего хорошаго и только насъ учатъ злому. Уничтожили наши костелы, прогнали ксендзовъ, велѣли имъ носить бороду и молиться по русски, и кто былъ противъ этого, сослали въ Сибирь, гдѣ прикованные къ тачкѣ копали золото. Когда поляки владѣли, было иначе: люди не знали бѣды, мало платили и каждый жилъ, гдѣ хотѣлъ. Когда русскіе насъ забрали, тотчасъ наложили подати и принудили народъ къ подданству. Знаетъ полякъ бѣды; глаза и ноги у него устали и съ жалобою таскался въ чужія стороны. Послушайте, что случилось. Русскіе испугались, съ французами пошли поляки и обѣщались взять Москву. Но что же сдѣлалъ русскій? Соединился съ нѣмцами и сыпалъ тамъ деньгами, гдѣ войскомъ ничего не могъ сдѣлать и разнымъ образомъ вертѣлся и обманывалъ, платилъ

---

[1] День Казимира 4 марта (*заўвага А. Бялецкага*).

и воевалъ, пока уничтожилъ французовъ. Русскіе пошли дальше, начали опять мучить народъ и никто не смѣлъ защищаться. Но между тѣмъ земля французовъ хороша, получили они опять для себя свободу и прогнали худого короля. Они выбрали худого правителя, но получили хорошего господина. Онъ опять началъ воевать и русскихъ бить въ спину. Побитый просилъ мира и французы предписали, чтобы всѣмъ была свобода, дабы народъ не погибалъ въ бѣдѣ. Хотя русскіе обѣщались, но не сдержали своего слова; французъ это видѣлъ и съ восточнымъ народомъ пошелъ воевать. Восточный народъ тоже злой такъ, какъ русскій, несправедливъ, отбираегь силу у человѣка и несмотритъ справедливости. Французъ осѣдлалъ лошадей и поѣхалъ воевать съ нехристями, восточнымъ народомъ. Стрѣлялъ, билъ, кровь лилась рѣкою, французы выиграли и освободили славянскіе народы. Когда люди не воевали бы, свѣтъ былъ бы свободенъ, царская власть уничтожена, нечего болѣе дѣлать. Во всѣ стороны свѣта писали и спрашивали, какъ хотятъ люди, какое хотятъ правительство и какого хотятъ короля избрать. И когда насъ спросятъ, съ которыми удержаться: съ русскими или съ поляками, нашими братьями и когда вы освободитесь отъ грусти, то не забудьте, если васъ спросятъ съ кѣмъ вы хотите держаться, съ кѣмъ остаться и кого оставить. Перестаньте водку пить, нужно имѣть разумъ въ головѣ и твердую волю и изберите для себя лучшую часть. Когда и будутъ разсказчики говорить, что русскіе волю дадутъ, свободу и освободятъ изъ подданства, не вѣрьте этому, любезные братцы: русскіе думаютъ иначе, они намъ много обѣщали, но ничего не исполнили. Хотя теперь даютъ свободу и такія и другія льготы, но два года велятъ ожидать и быть крѣпостными еще. Разсказчики говорятъ и притягиваютъ къ себѣ помѣщиковъ и даже Государя, но хотятъ народъ угнетать.

Кто это говорить, тотъ не правду говоритъ или говоритъ во снѣ. Когда бы только хотѣлъ Государь, то могъ бы намъ сдѣлать много добра и помѣщики не могли бы имъ управлять и никто не могъ бы спорить, если бы хотѣлъ дать свободу и дать людямъ землю. Онъ дѣлаетъ, какъ умѣетъ; одного повѣситъ, другого освободить, знаетъ послать въ Сибирь и невинныхъ заключить въ тюрьму. Но, братцы, пока мы терпимъ русскихъ, ничего хорошаго не будетъ, поэтому мы должны смѣло высказать нашу волю. Съ поляками, мы должны держаться, у нихъ искать помощи и, когда мы не будемъ согласны, то мы будемъ худыми обывателями[1].

[1] У арыгінале: *Крыкнем усе за палякаў, // Дружна далучымся да іх, // Бо калі будзем з палякамі, // Дык станем шляхціцамі.*

# Польскі гімн па-беларуску

Гісторыя гімна Паўстання 1863 г. *Boże, coś Polskę…* сягае пачатку XIX ст. Першапачатковы тэкст узнік у 1816 г. як *Pieśń narodowa za pomyślność króla* ў гадавіну абвяшчэння Польскага Каралеўства і быў адрасаваны цару Аляксандру I, які ад 20 чэрвеня 1815 г. насіў тытул польскага караля. Аўтар песні – Алаізы Фяліньскі (1771–1820) у якасці ўзору выкарыстаў англійскі гімн *God save the King*. 20 ліпеня 1816 г. твор быў надрукаваны ў "Gazecie Warszawskiej" (nr 58). Ён складаўся з чатырох строф і рэфрэна:

Boże! coś Polskę przez tak liczne wieki
Otaczał blaskiem potęgi i chwały,
I tarczą swojej zasłaniał opieki
Od nieszczęść, które przywalić ją miały;
*Chór*:
Przed twe ołtarze zanosim błaganie.
Naszego Króla zachowaj nam Panie!

Ty, coś ją potem, tknięty jej upadkiem,
Wspierał walczącą za najświętszą sprawę,
I chcąc świat cały mieć jej męstwa świadkiem,
Wśród samych nieszczęść pomnożył jej sławę:
Przed twe ołtarze...

Ty, coś na koniec nowymi ją cudy
Wskrzesił, i sławne z klęsk wzajemnych w boju
Połączył z sobą dwa braterskie ludy,
Pod jedno bedno berło Anioła pokoju;
Przed twe ołtarze...

Wróć nowej Polsce świetność starożytną
I spraw, niech pod Nim szczęśliwą zostanie;
Niecił sprzyjaźnione dwa narody kwitną,
I błogosławią Jego panowanie;
Przed twe ołtarze....

Аднак, нягледзячы на тое, што расейскія ўлады прыкладалі немалыя намаганні дзеля папулярызацыі верша А. Фяліньскага (па просьбе вялікага князя Канстанціна вядомы польскі скрыпач Ян Непамуцэн Кашэўскі напісаў музыку да тэксту), польскае грамадства не прыняло яго. Больш за тое, у хуткім часе Антон Гарэцкі (1776–1861), палемізуючы з А. Феліньскім, напісаў *Hymn do Boga o zachowaniu wolności*: ад імя суайчыннікаў паэт просіць у Бога вярнуць вольнасць краю:

O ty! którego potężna prawica
W chwili świat zniszczyć, w chwili stworzyć może,
Co się lud biedny twą łaską zaszczyca,
Ty ojców naszych nieśmiertelny Boże!
Niesiemy modły przed twoje ołtarze,
Zostaw nas Panie przy wolności darze.

Niech innym góry swe złoto oddadzą,
Niechaj ich miecza żelazna potęga,
Dzierżąc okuty świat pod swoją władzą,
Od wiecznych lodów do ogniów dosięga.
My niesiem prośby przed twoje ołtarze,
Zostaw nas Panie przy wolności darze.

Chwilęś ją tylko zabrał z naszej ziemi,
A łez, krwi naszej popłynęły rzeki,
Jakżeż to musi okropnie być z temi,
Którym ty wolność odbierzesz na wieki?
Niesiemy modły przed twoje ołtarze,
Zostaw nas wiecznie przy wolności darze.

Jedno twe słowo wielki gromów Panie,
Z prochów nas z prochów wskrzesić było zdolne,
Jeśli znów karać twa wola nastanie,
Obróć nas w prochy, ale w prochy wolne.
Niesiemy modły przed twoje ołtarze,
Zostaw nas Panie przy wolności darze[1].

Хоць у танальнасці двух твораў шмат агульнага, але верш А. Гарэцкага не сталі спяваць на музыку Я.Н. Кашэўскага, – адмыслова Караль Курпіньскі напісаў новую мелодыю.

У час Лістападаўскага паўстання на аснове тэкстаў А. Фяліньскага і А. Гарэцкага ўзнікла патрыятычная песня. Яна складалася з чатырох строф, а спявалі яе на матыў рэлігійнае песні XVIII ст. *Pozdrowiona, Panienko Maryjo*. Рэфрэн гучаў: "Naszą Ojczyźnę racz nam wrócić Panie".

"Вясна народаў" паклікала да жыцця яшчэ адзін варыянт песні: Вінцэнт Смаглоўскі прапанаваў свае ўдакладненні:

Boże! coś Polskę przez tak liczne wieki
Otaczał blaskiem potęgi i chwały,
I tarczą Twojej wszechmocnej opieki
Bronił od nieszczęść, co ją schłonąć miały,
  Przed Twoim tronem zanosim błaganie:
  Naszą Ojczyznę zachowaj nam Panie!

Ty! któryś potem tknięty jej upadkiem,
Wspierał walczącą za najświętszą sprawę,

[1] Твор друкаваўся ў "Pamiętniku Warszawskim czyli Dzienniku Nauk i Umiejętności" (1817, t. VII, luty).

I chcąc świat cały mieć jej męstwa świadkiem,
Wśród samych nieszczęść pomnożył jej sławę,
    Przed Twoim tronem zanosim błaganie:
    Naszą Ojczyznę zachowaj nam Panie!

Ty coś nowymi poświęceń ją trudy
W licznych klęsk, cierpień, doświadczył już boju,
Łącząc trzy nimi bratnie z sobą ludy
Pod jedno godło szczęścia i pokoju,
    Przed Twoim tronem zanosim błaganie:
    Ojczyznę wspólną zachowaj nam Panie!

Dziś wróć nieszczęsnej świetność starożytną,
Spraw, niech węgielnym kamieniem zostanie
Twych świętych swobód. Wnet ludy zakwitną
A z nimi praw Twych świętych zmartwychwstanie;
    Oto przed tron Twój zanosim błaganie:
    Naszą Ojczyznę racz nam wskrzesić Panie![1].

У 1860 г., дзякуючы невядомым сёння паэтам, песня-малітва мела ўжо адзінаццаць строф. Адзін з найбольш удалых варыянтаў твора быў надрукаваны ў зборніку *Śpiewy nabożne polskie. 1861* пад тытулам *Modlitwa za Ojczyznę*:

Boże, coś Polskę przez tak liczne wieki
Otaczał blaskiem potęgi i chwały,
Coś ją osłaniał tarczą swej opieki,
Od nieszczęść, które przygnębić ją miały
    Przed Twe ołtarze zanosim błaganie,
    Ojczyznę, wolność racz nam wrócić Panie.

Ty! któryś potem tknięty jej upadkiem,
Walczących wspierał za najświętszą sprawę,
I chcąc świat cały mieć jej męstwa świadkiem,
W nieszczęściach samych pomnażał ich sławę
    Przed Twe ołtarze...

Wróć naszej Polsce świetność starożytną,
Użyźniaj pola, spustoszałe łany,
Niech szczęście, wolność na wieki w niej kwitną,
Poprzestań kary, Boże zagniewany,
    Przed Twe ołtarze...

Boże, którego ramię sprawiedliwe
Żelazne berła władców świata kruszy,
Zniwecz tych wrogów zamiary szkodliwe,
Obudź nadzieje polskiej naszej duszy,
    Przed Twe ołtarze...

Boże najświętszy, przez Twe wielkie cudy,
Oddalaj od nas klęski, mordy boju,

[1] *Hymn za Ojczyznę naszą* В. Смаглоўскага друкаваўся ў Львове ў 1848 г. у выглядзе лістоўкі.

Połącz wolności węzłem Twoje ludy
Pod jedno berło Anioła pokoju
Przed Twe ołtarze...

Boże najświętszy, od którego woli,
Istnienie świata całego zależy,
Wyrwij lud Polski z tyranów niewoli,
Wspieraj zamiary wytrwałej młodzieży.
Przed Twe ołtarze...

Boże najświętszy przez Chrystusa rany
Świeć wiekuiście nad braćmi zmarłemi,
Wejrzyj na lud Twój niewolą znękany,
Przyjmij ofiary synów polskiej ziemi.
Przed Twe ołtarze...

Gdy naród polski dzisiaj we łzach tonie,
Za naszych braci poległych błagamy,
Cierniem męczeństwa uwieńczyli skronie,
A nam wolności otworzyli bramy.
Przed Twe ołtarze...

Niedawnoś wolność zabrał z polskiej ziemi,
I łez krwi naszej popłynęli rzeki
Jakże to musi być okropnie z temi,
Którym Ojczyznę zabierasz na wieki.
Przed Twe ołtarze...

Oddalaj od nas klęski, mordy znoje,
Okaż się ojcem nad dziećmi Twojemi,
Którzy wyleli łez tysiące zdroje,
Za matkę Polskę, o nią Cię prosiemy.
Przed Twe ołtarze...

Jedno Twe słowo, o wielki nasz Panie,
Zniszczyć i w prochy obrócić nas zdolne,
A gdy zasłużym na Twe ukaranie,
Obróć nas w prochy, ale w prochy wolne.
Przed Twe ołtarze...

Забароненая расейскім царызмам, песня-малітва нязменна, аднак, прысутнічала ў жыцці польскага грамадства, у часе Паўстання 1863–1864 гг. сталася своеасаблівым нацыянальным гімнам[1]. Знайшла яна сваё пашырэнне і на беларускіх землях. Вядома, што яе спявалі падчас маніфестацый у касцёлах Вільні, Гродна, Мінска і інш. гарадоў. Яна была выкарыстаная беларускімі паэтамі дзеля перакладаў-наследавання[2].

[1] У 1918 г. прэтэндавала, каб стаць афіцыйным нацыянальным гімнам Польшчы.

[2] А таксама паэтамі іншых народаў: чэхаў, французаў, літоўцаў, латышоў, немцаў, серба-харватаў, славакаў, украінцаў, расейцаў, жыдоў, венграў, італьянцаў. Праўда, толькі ў паняволеных славянскіх народаў малітва выконвала ролю патрыятычнага гімну, у іншых – звычайна выкарыстоўвалася як рэлігійная песня.

Нам вядомы шэсць беларускамоўных спісаў песні-малітвы *Божа, што Польшчы…*: тры друкаваныя і тры рукапісныя.

1. *Malitwa dzisiejszaja: Bože szto Polszcze czerez ŭsie wieki* [u:] *Od staraho dzieda: Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi*, [без м. і г., літаграфія]. Захоўваецца: LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 68–68v[1].
2. *Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki* [u:] *Pieśni nabożnyja*, [без м. і г., пазнака "цэнзуры": Warszawa dnia 17(29) Listopada 1861 r.]. Захоўваецца: НГАБ у Мінску, ф. 1430, воп. 1, спр. 31237, арк. 4–7v.[2].
3. *Boże, szto Polszy prez nieśmietny wieki*. Захоўваецца: Rps BJ 9288, k. 68–69.
4. *Боже, што Польщу праз нящотны веки*. Захоўваецца: ИРЛИ, ф. 265, оп. 10, д. 121, л. 1.
5. *Hymn: Boże szto Polszczy prez nieśmietny wieki* [u:] *Pieredśmiertnyj rozhowor Pustelnika Pietra katoryj żyŭ u puszczy dziewiećdziesiat let, a pamior majuczy sto sorok let*, Peczatano w Kiewie [без даты]. Захоўваецца: LVIA, f. 494, a. 1, b. 19, l. 7–8.
6. *Boże szto Polszczu prez douhije wieki*. Захоўваецца: LVIA, f. 378, P. S. 1861, b. 73, l. 297–297v.

Параўноўваючы спісы песні-малітвы, мы палічылі патрэбным паказаць "залежнасць" паміж імі пры дапамозе наступнай схемы:




[Рукапіс A] – гэта невядомая сёння копія пратографа.

**A 1** – *Malitwa dzisiejszaja* (літаграфія).

**A 2** – *Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki* (зборнічак *Pieśni nabożnyja*).

**A 3** – *Boże, szto Polszy prez nieśmietny wieki* (рукапіс BJ).

**A 4** – *Боже, што Польщу праз нящотны веки* (рукапіс ИРЛИ).

**B** – *Hymn: Boże szto Polszczy prez nieśmietny wieki* (зборнічак *Pieredśmiertnyj rozhowor…*).

**C** – *Boże szto Polszczu prez douhije wieki* (рукапіс LVIA).

---

[1] Маюцца таксама пазнейшыя копіі. Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў: Творы невядомых аўтараў*, том другі, Варшава 2016, с. 217–235.

[2] Захаваліся таксама іншыя асобнікі выдання. Гл., напрыклад: LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 237в–247вv.

Найбольш блізкія між сабою – **А 1**, **А 2** і **А 3**. Рэдактары-выдаўцы (**А 1** і **А 3**) мінімальна “дастасавалі” тэкст (у навуковай літаратуры гэта варыянт называўся “віцебскім”, а аўтарам – Арцём Вярыга-Дарэўскі) да сваіх вымаганняў. Перапісвальнік (**А 3**) невядома з якое прычыны (не захаваў болей у памяці?) занатаваў толькі першыя шэсць (з васьмі) строф.

Аўтар-перапісвальнік **А 4**, пераказаўшы больш-менш першыя тры і пятую строфы, далей проста складаў на тэму не зусім удалыя строфы пра “уніяцкія справы” ў Марцюхове, Жыровічах і Барунах ды згадаў пра Язафата Кунцэвіча (што назіраем і ў іншых варыянтах гэтае групы), а таксама дадаў (магчыма ад сябе) пра злачынствы маскалёў супраць уніятаў у Казіміраве ды папрасіў заступніцтва ў Пачаеўскае Маці Божае[1].

Рэдактар-выдавец варыянту **B** (у навуковай літаратуры гэта варыянт называўся “палескім) толькі ў першых трох строфах захоўвае лад пратографа (праўда, замяняючы *Atczyznu* на *Baćkouszczyznu*), а ў наступных трох замяняе віцебскія і гродзенскія рэаліі на палескія.

Перапісвальнік варыянту **C**, мінімальна адрэдагаваўшы першыя чатыры (другая прапушчаная) строфы, перайначыў пятую: замест Бялыніцкае ў яго “з’явілася” Астрабрамская Божая Маці, якая да таго ж “Korolewa” не “Litwy i Rusi”, а “Litwy i Polszczy”. І дапісаў яшчэ тры, у якіх згадаў і шэсцьдзесят гадоў цярпення, і цяперашнія “u Warszawie muki i hołady”, і, урэшце, у духу “белае” прапаганды, “kab my chryscijanie // Szlachta z mużykami żyli w jadnosci”. Трэба заўважыць, што ва ўсіх беларускіх варыянтах толькі ў першых трох-чатырох строфах выкарыстаны матывы з польскага гімну. І, вядома, рэфрэн. Усё іншае – арыгінальнае.

Беларускі варыянт польскага гімна з-за свае антырасійскае скіраванасці, а таксама з-за апалогіі ўніяцтва ніколі не друкаваўся ў Савецкай Беларусі. Гісторыка-літаратурны аналіз твора з’явіўся ў навуковых працах адно ў апошні час[2]. З шасці варыянтаў у хрэстаматыях і зборах твораў цалкам друкаваўся толькі адзін[3] – паводле рукапісу Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва[4].

---

[1] Бясспрэчна тое, што ў аснове аўтарскае ідэі перакладу-перапрацоўкі польскага гімна не толькі выяўленне жадання “вярнуць” страчаную Айчыну, але і аднавіць уніяцтва. Апошні матыў дамінуе ў другой, арыгінальнай, а не перакладной частцы твора.

[2] Гл.: Г. Кісялёў, *Агітацыйная публіцыстыка 1860-х гадоў* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 300–302.

[3] У нашым артыкуле (гл.: М. Хаўстовіч, *Польскі гімн па-беларуску*, “Acta Albaruthenica” 2008, nr 8, s. 299–307), фрагменты якога тут выкарыстоўваюцца, друкаваліся два варыянты твора: паводле рукапісу Ягелонскае бібліятэкі і паводле публікацыі Ю. Штакельберга ў артыкуле: *Русские переводы польских повстанческих песен* [в:] *История и культура славянских народов: Польское освободительное движение XIX–XX вв. и проблемы истории культуры*, Москва 1966, с. 87–88.

[4] Гл.: В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*, Мінск 2008, с. 542–544; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 572–573, 839.

# *Божа, Ты Польшчы праз доўгія векі…*

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: LVIA, f. 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], ap. 2 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], b. 1497 [*Дѣло временнаго полеваго аудиторіата виленскаго военнаго округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*], l. 237в–247вv.

## |5| PIEŚNI NABOŻNYJA

<…>

II

Boże, Ty Polszczy praz douhija wieki
Dawau' cześć, chwału, ściaroh ad niawoli,
Nie paskupiu Ty ajcouskaj apiéki,
Suliu' paciéchu w nieszczaśliwoj doli.
Piered Autary madlitwu prynosim:
Wolność, Ajczyznu waraci nam prosim!

|6| Ty pażaleuszy jaje u złoj pryhodzie
Nieraz pabici wraha dawau siłu,
Sierod nieszczaścia u prawiunom rodzie
Dadau bolsz chwały, choć paszła u mahiłu.
Piered Autary…&.

Boże, siłu carou rozhuzdanych
Rouno bylinku złomisz w swajom sudzie
Satry|ż u porach tyranou pahanych
Daj nam paciechu szto Polszcza żyć budzie.
Piered Autary…&.

Wiarni jej świetność jak dauniej była,
Daj urażaj na rodnieńkoj mieży
Kab u pakoi szczaśliwa zażyła
Błahasławi ty w dziele maładzieży.
Piered Autary… &.

|7| Ty Białynicka Najczystsza Dziewa,
Świataja Maci sirockaho rodu,
Litwy i Rusi można Karalewa,
Uprasi Syna, kab dau nam Swabodu.
Piered Autary…&.

U Żurawicach, Barunach Maskali
Ciabie z nami u kazionszczynu skuli;
Sprau kab od syzmy ty i my adstali,
Zrabi kab z Polszczaj Uniiu wiarnuli!
Piered Autary…&.

U Marcinchowie my papou użo bili,
Ciabie ad syzmy chacieli adniaci,
Da usio niczoho, sztob my ni rabili,
Kali nie staniesz ty nam pamahaci.
Piered Autary…&.

|8| Twaich słuh wiernych: Antonja światoho
I Jozafata paszli da narodu:
Kab Jany' prahnali Syzmu lichoho,
Wyhnali Maskwu, nam dali Swabodu!!
Piered autary madlitwu prynosim:
Wolność, Ajczyznu waraci nam prosim!

Amen.

Dozwala się drukować.
Warszawa dnia 17(29) Listopada 1861 r.
Starszy Cenzor A. FUNKENSTEIN.

# *Божа, што Польшчы праз нясметныя векі…*

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: Rps BJ 9288[IV]: *Wiersze różne przesłane Józefowi Bohdanowi Zaleskiemu*, k. 68–69.

|68r| Boże szto Polszy prez nieśmietny wieki
Dau cześć i chwału, ściaroch ad niewoli,
A nie żaleuszy atcouskoj apieki
Suliu paciechaj u nieszczasnoj doli
Pered ałtary malitwu prynosim
Wolnu atczyznu waracici nam prosim.

Ty, pażaleuszy jaje u złoj pryhodzie,
Nia raz pabici uraha dau siłu,
Siarod niaszczaścia u prawiednom rodzie
Dabawiu chwały, choć paszła u mahiłu.

|68v| Boże, katory ułaść karanawanych –
Maulau bylinku, – słomisz u hnieunym sudzie,
Satry|ż u porach tyranau pahanych,
Daj nam nadzieju szto Polsza żyć budzie.

Wiarnij jej swietność staruju – jak była,
Daj uradżaj na radnieńkoj mieży,
Sztob u pakoi szczaśliwa zażyła,
Pabłahasławi u dziele maładzieży.

Ty Białynicka prenajświętsza Dziewa
Jadyna maci prapaszczaho rodu,
Litwy i Rusi można Karalewa
Uprasi Syna, sztob dau nam swobodu!

|69r| U Żurawicach, Barunach, – Maskali
Ciabie, nas – siłoj u kazionszczynu skuli;
Sprau, sztob at szyzmy Ty i my atstali,
Sprau, kali|b z Polszej Unju wiarnuli!
Pered ałtary malitwu prynosim,
Wolnu atczyznu waraci nam prosim!

# *Божа, што Польшчу праз няшчотныя векі…*

Друкуецца паводле артыкула: Ю. Штакельберг, *Русские переводы польских повстанческих песен* [в:] *История и культура славянских народов: Польское освободительное движение XIX–XX вв. и проблемы истории культуры*, Москва 1966, с. 87–88.

Юры Штакельберг карыстаўся рукапісам (ИРЛИ, ф. 265, оп. 10, д. 121, л. 1), які, магчыма, з’яўляецца транслітарацыяй з лацінкі.

Боже, што Польщу праз нящотны веки,
Дав чесць и славу сцярог ат няволи,
А ни жалевши айцовской апеки,
Сутой пацехи у нищастной доли.
Пирид алтари малитву заносим
Польщу и вольносць вараци нам, просим.

Ти пажалевши яе у пригодзи
Ни раз пабици маскаля дав силу
Сярод нищасця у правиднам родзи
Послав јой хвалу, гатовив магилу.
Пирид алтари…

Ти крепкій божа и каранауаных
Мов як былинку стрешь у гневным судзя
Сатриж у порах тыранав паганых
Дай нам надзею што Польща жиць будзя.
Пирид алтари…

Бялыницкая пресвятая дзева
Ядына маци прапащаго роду
Литвы и Руси можна каралева
Упраси сына каб дав нам слабоду.
Пирид алтари…

У Мрацюхови так як и усюду
Яны глумились як звери лютые
Ни прапускали нищаснаго люду
Цярпели ат них и храмы святые.
Пирид алтари…

О Изахваце! Громка твоя слава
У целам свеци и прамежду нами
Штобы твая мука горка и кравава
Узнов нас злучила, кались с поляками!
    Пирид алтари…

Почаивская пресвятая маци
Глянь на нас бедных з высокага неба
Цярпець нам цяжка и трудна чикаци
Тваіой помачи и ласки нам треба.
    Пирид алтари…

У Журавичах, у Барунах слава
Мацири божой на весь свет гримела
Пакуль масковских хитрых папов справа
Усих у сызму уцягнуць успела.
    Пирид алтари…

И Казимиров помниц як маскали
У сваю веру принукай нас скули
Справ штоб ат сызмы уси мы атстали
Справ штобы з Польщай унію вярнули.
    Пирид алтари малитвы заносим
    Польщу и унію вараци нам, просим.

# *Божа, што Польшчу праз доўгія векі…*

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: LVIA, f. 378 [*Канцелярия Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора. 1768–1915. Политический отдел. 1861*], b. 73, l. 297–297v.

|**297r**| Boże szto Polszczu prez douhije wieki
Dawau czesć, sławu, scieroh od niewoli
I nieżalewszy Oycowskaj Opieki
Dawau pociechu u nieszcasnaj doli
Piered ołtary molitwu prynosim
Oyczyznu, wolność, woroci nam prosim.

Boże kotoryj własć koronowanych
Jak by pylinku łomisz u swoim sudzie
Satry uporoch tyranow pohanych
Krapi nadziejaj szto Polszcza żyć budzie.

Wiarnj jej sławu takuju jak była
I daj urażyj na radnienkaj mieży
Sztob upokoju szczasliwie zacwiła
I błahosławi naszaj maładzieży.

Ty preswiataja Ostrobramskaja Dziewa
Jadyna Maci cierpiącaho rodu
Litwy i Polszczy nasza Korolewa
Uprosi syna sztob dau nam swobodu.

|**297v**| Lat bolsz 60 jak Polszcza u zaboru
Hlumiać nas kryudziać usich u hetu poru
Adwodziać od wiery, boroniać nauki
Pożalej nas Boże uznosim ktobie ruki.

I ciapier u Warszawie muki i hołady
Hubiać naszych braci szto choczuć swabody
Dziakujem Tobie Boże szto choć daw nadzieju
Szto wolność budzie da i Polszcza xxxxxx[1]

[1] Слова напісана невыразна: ***żitieju*** (?) ці ***żiwoju*** (?).

Daj jeszcze Chrystu kab my chryscijanie
Szlachta z mużykami żyli w jadnosci
Daj usim rounasć jadno nazwanie
Dzietki Oyczyzny u Bożej miłości
    Piered ołtary molitwu prynosim
    Oyczyznu wolność waraci nam prosi[m].

Koniec

Верно. За правителя Канцелярии [*подпіс*:] Минкош.

# Захавалася ў адным рукапісе…

З амаль трох дзясяткаў беларускіх тэкстаў Паўстання 1863 года паэма *Płynuć wiatry…*[1], выяўленая Г. Кісялёвым, відаць, у 1950–1970-я гг., была надрукаваная апошняй, – толькі ў 1990-я гг.[2]. Твор колькі разоў перадрукоўваўся ў анталогіях і хрэстаматыях[3], але літаратуразнаўцы і мовазнаўцы пакуль не звярнулі на яго належную ўвагу[4].

Вядома, пасля грунтоўнага артыкула Г. Кісялёва цяжка дадаць нешта новае і да ідэйна-мастацкае характарыстыкі паэмы, і, не маючы новых матэрыялаў, да праблемы ейнае атрыбуцыі. Зрэшты, у справе атрыбуцыі вядомы беларускі даследнік паставіў нібыта “кропку”: “Упэўнены, што пра новы твор Дуніна-Марцінкевіча скажуць сваё слова даследчыкі многіх гуманітарных спецыяльнасцей”[5]. Ягоныя сумненні адносна атрыбуцыі, выяўленыя, прынамсі, у тытуле публікацыі, аказаліся не вельмі сур’ёзнымі: аніякіх аргументаў на карысць таго, што паэму напісаў У. Сыракомля, Г. Кісялёў не падае[6]. Аднак сумненні ў іншых літаратуразнаўцаў засталіся: Я. Янушкевіч, адзін з найлепшых на сённяшні дзень знаўцаў жыцця і творчасці Беларускага Дудара, “знайшоў” для паэмы *Плынуць вятры…* месца толькі ў раздзеле *Dubia* двухтомнага выдання твораў класіка XIX стагоддзя. Гэта

---

[1] Аўтарская назва твора не захавалася. Г. Кісялёў прапанаваў называць яго паводле пачатковых слоў першага радка.

[2] Г. Кісялёў, *Сыракомля ці Дунін-Марцінкевіч? Невядомая беларуская паэма пра варшаўскія падзеі 1861 г.*, “ЛіМ” 1996, № 31–32 (2 і 9 жніўня). Друкавалася таксама ў кн.: Г. Кісялёў, *Смак беларушчыны*, Мінск 2013, с. 309–327.

[3] Гл. напрыкл.: *Беларуская літаратура XVIII–XIX стагоддзяў: Зборнік тэкстаў*, Мінск 2000, с. 203–207; *Беларуская літаратура: Хрэстаматыя,* частка другая: *Другая палова XIX ст., Дапаможнік для польскіх студэнтаў па спецыяльнасці “Беларуская філалогія”*, Мінск 2006, с. 107–111; В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*, Мінск 2008, с. 489–500; *Літаратура Беларусі XVIII–XIX стст.: Хрэстаматыя*, Варшава 2012, с. 344–348; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 548–553.

[4] У навуковай літаратуры сустракаюцца адно толькі нешматлікія згадкі пра гэты твор. Гл.: Я. Янушкевіч, *Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 226; А. Каўка, *Уладзіслаў Сыракомля: на сумежжы ліцінства-беларускасці*, “Дзеяслоў” 2012, № 2(57), с. 297.

[5] Г. Кісялёў, *Смак беларушчыны*, Мінск 2013, с. 322.

[6] Той факт, што ў красавіку 1861 г. В. Дунін-Марцінкевіч ездзіў у Варшаву разам з У. Сыракомлем, не стаў, урэшце, для даследніка істотным. Ён адно толькі дапускаў, што твор “задумваўся <…> сумесна з Сыракомлем, магчыма, апошнім падказаны лірычны запеў”. Гл.: Г. Кісялёў, *Смак беларушчыны*, Мінск 2013, с. 320.

сведчыць пра тое, што аргументы Г. Кісялёва – стылістыка паэмы, выяўленчыя сродкі, мова твора – не былі пераканаўчымі. Сапраўды, беларускія гісторыкі літаратуры ніколі не прымянялі пашыраныя сёння ў свеце метады атрыбуцыі літаратурнага тэксту, напрыклад: лінгва-матэматычныя, іерархічнага кластарнага аналізу, тэорыі распазнавання вобразаў і іншыя. Уся надзея толькі на выяўленне пэўных архіўных матэрыялаў, якія пацвердзяць альбо адкінуць вылучаную Г. Кісялёвым гіпотэзу. Можна спадзявацца, што такія матэрыялы некалі знойдуцца, хоць, трэба прызнаць, час, калі была напісаная і пашыралася паэма, быў надзвычай неспрыяльны: аўтар і ягоныя сябры, у рукі якіх трапляў такі антыцарскі тэкст, выдатна разумелі, што чакае іх у выпадку, калі паэму прыператрусе знойдуць жандары.

Ці мог В. Дунін-Марцінкевіч, напрыклад, захоўваць твор у сваім славутым "паўнюсенькім велізарным куфры"[1]? Відаць, – не. Жыццёвы вопыт Беларускага Дудара абавязваў быць больш асцярожным. Нават пазней, у 1868 г., дасылаючы ліст Яну Карловічу, ён, як дасведчаны канспіратар, напіша: "Właśnie jedzie jeden poczciwy szlachcic z naszych stron, który doręczy Panu *Dudara* i *Lucynkę*, a do Wiszniewskiego wiezie dla przeczytania *Pinskaja Szlachta*[2] i *Szkice prowincyonalne*; poznajom się Pan z zacnym Wiszniewskim i, póki szlachcic wyjedzie z Wilna, zbierzcie się w Kółko domowe, przeczytajcie tę bazgraninę razem, dajcie o niej swój sąd razem z odesłaniem tych pism"[3]. І гэта пра творы, у пераважнай большасці дазволеныя цэнзураю, творы, у якіх крытычная складковая адносна ўлады альбо адсутнічала, альбо была мінімальнаю ці зашыфраванаю.

Захавалася паэма *Плынуць вятры…* дзякуючы неасцярожнасці нявопытнага маладога чалавека, студэнта Пецярбургскае будаўнічае вучэльні Леапольда Кульчыцкага, які пакінуў свае паперы "у солдатской дочери Тимофѣевой" (ці то суседкі, ці то кватэрнай гаспадыні), з'язджаючы з Пецярбурга, каб далучыцца да Паўстання. Відаць, каб не выклікаць падазрэння студэнты гэтае вучэльні пакідалі паўночную сталіцу невялікімі групамі. Таццяна Снытка, згадваючы на падставе матэрыялаў III аддзялення[4] пра далучэнне студэнтаў да паўстанцаў, піша: "В марте из Петербургского строительного училища ушли к повстанцам Эдуард Лансберг, Леопольд Кульчицкий, Антон Гродзкий, Густав Шпилевский, Сигизмунд Озембловский, Игнатий Вильчевский, Виктор Розенберг"[5]. Аднак даследніца не зусім дак-

---

[1] Ядвігін Ш., *Лісты з дарогі. XIII. Люцынка. – Пяршаі*, "Наша Ніва" 1910, № 37 (9 верасня).

[2] Асобныя сённяшнія аматары-даследнікі працягваюць не заўважаць, што В. Дунін-Марцінкевіч піша ў гэтым лісце толькі пра свае ўласныя творы. Гл.: А. Ільін, *"Хрэн табе ў вочы!": Дык хто ж напісаў Пінскую шляхту*? "Наша гісторыя" 2019, № 1, с. 41–45.

[3] Гл.: Я. Янушкевіч, *Беларускі дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча*, Мінск 1991, с. 123.

[4] Яна спасылаецца на наступны архіўны адрас: ГАРФ, ф. 109, оп. 38, 1 экспед. 1863, д. 23, ч. 111 [*О беспорядках в Царстве Польском и в западных губерниях: о воспитанниках Ляндсберге, Кульчицком и других*], лл. 1–44).

[5] Т. Снытко, *Студенческое движение в русских университетах в начале 60-х годов и восстание 1863 г.* [в:] *Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов:*

ладная: А. Гродскі 29 сакавіка 1863 г. быў арыштаваны ў кватэры, якую здымаў разам з Л. Кульчыцкім і З. Азямблёўскім, напярэдадні ўласна выезду ў Вільню. А вось яго сябрам удалося і выехаць (у сярэдзіне сакавіка?), і паўдзельнічаць у барацьбе. Праўда, нядоўга. Да мая (ці на пачатку мая) 1863 г. ён быў захоплены ў палон, а ў ліпені даваў паказанні ў "Высочайше утвержденной въ Динабургѣ Слѣдственной Коммисіи по политическимъ дѣламъ", хоць за асноўнае ягонае злачынства – "участіе въ шайкѣ мятежниковъ" – дапытвалі і судзілі яго ў Віленскай следчай камісіі.

Аднак паперы Л. Кульчыцкага, канфіскаваныя ў Пецярбурзе, былі далучаны да справы, якая называецца *Дѣло временнаго полеваго аудиторіата Виленскаго военнаго округа О воспитанникахъ С. Петербургскаго Строительнаго училища дворянахъ Антонѣ Гродскомъ и Константинѣ Немысскомъ. Начато 16 августа 1863 года. Кончено 30 августа 1882 года*[1]. Праўда, судова-следчая справа, якая называецца *Дѣло произведенное въ Высочайше утвержденной въ Динабургѣ Слѣдственной Коммисіи по политическимъ дѣламъ о бывшихъ воспитанникахъ Строительнаго училища Антонѣ Гродскомъ, Константинѣ Немысскомъ, Леопольдѣ Кульчицкомъ и Колежскомъ Регистраторѣ Цезаріѣ Кульчицкомъ обвиняемыхъ въ преступныхъ дѣйствіяхъ противъ Правительства. Начато 11 Мая 1863 года. Кончено 28 іюля 1863 года* аказала ўключанай, як гэта практыкавалася ў часы Паўстання 1863 г., у справу Віленскага палявога аўдытарыята.

На нашую думку, паперы Л. Кульчыцкага захаваліся не цалкам. Тое, што мы маем – адно фрагменты дзённіка, а таксама разрозненыя аркушы, на якіх занатаваныя тэксты пераважна антыцарскага зместу. Пакідаючы Пецярбург, малады чалавек з невядомай прычыны не забраў з сабою ўласныя запісы, а таксама фотаздымкі: сябра і калегі Віктара Розэмберга[2] (на адным з якіх можна прачытаць "<*нечыт.*> z całym rodzeństwem może już na zawsze"[3]), а таксама, відаць, братоў Кульчыцкіх – Леапольда і Цэзарыя. Відаць, ён разлічваў, што іх прывязуць на Бацькаўшчыну сябры-студэнты Антон Гродскі і Канстанцін Нямыскі. Усё іншае (відавочна, найбольш каштоўнае) ён забраў з сабою ў Вільню. (Матэрыялы следства сведчаць, што з Пецярбурга Л. Кульчыцкі паехаў у Пскоў да брата, а пасля ўжо нібыта да маці ў Вільню).

На паперах Л. Кульчыцкага няма аніякіх пазнакаў, на падставе якіх можна было б дакладна вызначыць час, калі паэма *Плынуць вятры*… трапіла да пецярбургскага студэнта. Праўда, ускосна можна меркаваць[4], што

---

*Сборник статей и материалов*, Москва 1960, с. 310.

[1] LVIA, f. 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], ap. 1 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], b. 13 [*Дѣло о воспитанникахъ С. Петербургскаго Строительнаго училища дворянахъ Антонѣ Гродскомъ и Константинѣ Немысскомъ*], l. 1–326v.

[2] У дакументах "Розенберг", але на фотаздымку сам Віктар сваё прозвішча падаў у форме "Rozemberg".

[3] LVIA, f. 1248, ap. 1, b. 13, l. 206v.

[4] На аркушы, змешчаная непасрэдна перад паэмай *Плынуць вятры*… і пазначанай архіўнай

з напісанай у красавіку-маі 1861 г.[1] паэмай пецярбургскія студэнты маглі пазнаёміцца не раней сярэдзіны лістапада 1861 г. (Дапускаем, аднак, што Л. Кульчыцкі перапісаў твор падчас летніх вакацый). Якім чынам паэма *Плынуць вятры…* апынулася ў Л. Кульчыцкага? На гэтае пытанне Г. Кісялёў адказ даў наступным чынам: “Магчыма, праз яго прыяцеля і калегу Вішнеўскага, які паходзіў з Вільні (згадваецца ў дзённіку Кульчыцкага)”[2]. Бо яшчэ раней было вядома, што нехта Алексы Вішнеўскі не толькі падпісаўся ў 1859 г. на асобнік перакладу *Пана Тадэвуша*, але і падтрымліваў кантакты з В. Дуніным-Марцінкевічам і ў 1860-я гг. (яму ў 1868 г. Беларускі Дудар перадаваў дзеля прачытання *Пінскую шляхту*). Праўда, Алексы Вішнеўскі, думаецца, быў у перадпаўстанцкія гады чалавекам сталым, не падлеткам. Пэўныя сваяцкія дачыненні з прыяцелям Л. Кульчыцкага ён, вядома, мог мець, хоць наўрад ці быў ягоным бацькам, бо жылі яны ў розных месцах: Алексы Вішнеўскі “w domie biskupa Krasińskiego”[3], а студэнт Пецярбургскае будаўнічае вучэльні ў доме “naprzeciw kościoła Św. Katarzyny”[4].

На жаль, у сваім дзённіку Л. Кульчыцкі не называе прыяцеля па імені, заўсёды – толькі Вішнеўскі. А таму немагчыма сказаць, ці быў ім Юзаф (Осип) Вішнеўскі, які ў 1860 г. закончыў Віленскую гімназію[5]. Гэтаксама невядома, ці належаў прыяцель Л. Кульчыцкага да сям’і фактычнага адзінага Вішнеўскага, які служыў у якасці “секретаря дварянства” ў Віленскай губернскай шляхецкай зборні калежскага асэсара Адама Вішнеўскага з 1859 г. цягам наступных ці не дваццаці гадоў[6].

Немагчыма таксама сёння адказаць на пытанне, чаму тэкст паэмы абрываецца на паўслове – аповедзе пра тое, як на Парыжскім кангрэсе “prancuz” стаў дакараць “maskalika” за несправядлівае стаўленне ўлады (“czynoŭnaje znaci”) да народа. Чаму, занатаваўшы дванаццаць радкоў на старонцы

---

нумарацыяй як 214–214v, занатаваны верш-малітва *Boże! coś Rossyę…*, перапісаны Л. Кульчыцкім з газеты “Demokrata Polski”, што выйшла з друку 2 лістапада 1861 г.

[1] Праз тыдзень (15 красавіка) пасля варшаўскае масакры В. Дунін-Марцінкевіч, маючы “замежны” пашпарт, выехаў з Вільні. У дарозе ён спаткаўся (па пярэдняй дамоўленасці) з У. Сыракомлем і ў хуткім часе яны былі ў Варшаве.

[2] Г. Кісялёў, *Смак беларушчыны*, Мінск 2013, с. 321.

[3] Гл.: Я. Янушкевіч, *Беларускі дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча*, Мінск 1991, с. 123. “Dom biskupa Krasińskiego” знаходзіўся на рагу вуліц Замкавай (сёння: Pilies g.) і Бернардынскай. Самога біскупа Адама Станіслава Красінскага ў Вільні ў 1868 г. ужо не было: яшчэ ў 1863 г. М. Мураўёў выслаў яго ў Вятку. Але вядома, што ў Вільні на пачатку 1860-х гг. жыла маці біскупа. Яна, дарэчы, была з роду Вішнеўскіх. Гл.: *Wspomnienia biskupa Adama Stanisława Krasińskiego*, Krarów 1901, s. 3, 114. Цікава, што ў гэтым жа доме жыў Антон Эдвард Адынец; месцілася тут і адна з двух віленскіх кнігарняў Адама Завадскага. Гл.: П. Кукольник, *Путешествие по Замковой улице* [online] http://www.rkc. lt/paveldas/kukolnik/kukolworks.html [доступ: 1.02.2020].

[4] LVIA, f. 1248, ap. 1, b. 13, l. 243v.

[5] *Выпускники Виленской 1-й гимназии за 1837–1903 гг.* [online] http://kdkv.narod.ru/Vilna/Vil na-full.htm [доступ: 1.02.2020].

[6] *Памятная книжка Виленской губерніи на 1863 год*, Вильна 1863, с. 32. Дарэчы, быў ён таксама сябрам другога аддзялення “Человѣколюбиваго общества” (як і тытулярны саветнік Антон Эдвард Адынец).

(218 v), перапісвальнік пакідае дзве траціны старонкі чыстымі? Усё ж паперу ён ашчаджаў, выкарыстоўваў усю "плошчу" старонкі, не пакідаючы нават палёў ні з бакоў, ні ўгары. Хіба, толькі аднойчы, завяршыўшы перапісваць пэўны тэкст (відаць, з эміграцыйнага выдання)[1], ён дазволіў сабе нешта падобнае: значная частка старонкі засталася чыстаю (напрыканцы таго тэксту маецца красамоўная пазнака: "Koniec").

Пад беларускамоўнаю паэмаю падобнае пазнакі няма, дык застаецца адно меркаваць: ці то аўтар не завяршыў твор, ці то Л. Кульчыцкі, не маючы наступных старонак паэмы (альбо з нейкае прычыны, напрыклад, мусіў аддаць пазычаны твор уладальніку), не здолеў перапісаць тэкст цалкам. Хутчэй, на нашую думку, апошняе. Бо цяжка паверыць, што аўтар, паабяцаўшы "Rozkazać papytaju wam taku pryhodu", раптоўна перапыніў сваю працу, напісаўшы нейкіх сорак радкоў і не паспеўшы, уласна, нават акрэсліць, што гэта за "pryhoda" здарылася "Nazad tamu dziesiać let".

Аўтара не магло спыніць нават тое, што ён толькі цяпер, напрыклад, пазнаёміўся з *Гутаркай старога Дзеда*. (Маўляў, палічыў непатрэбным паўтараць тое, пра што ўжо было напісанае і нават надрукаванае). Бо ж стылістыка нарацыі ў ягоным творы адрозная ад стылістыкі *Гутаркі*… Да таго ж ягонае "гістарычнае адступленне" ("pryhoda") датычыла, хіба, аднаго Парыжскага кангрэсу і не мела на ўвазе апавядаць пра падзеі апошніх шасцідзесяці гадоў. Дэталізацыя аўтарам масакры 8 красавіка 1861 г. паводле вестак і чутак, што пашыраліся сярод варшавянаў, дазваляе меркаваць, што і аповед пра пасяджэнні Кангрэса ён меў намер вытрымаць у падобнай манеры. Тым больш, што чуткі пра добрага "prancuza"-заступніка[2] пакрыўджанага люду былі вядомыя не толькі ў "забраным" краі, але і на тэрыторыі Расеі: "Среди крестьян шел слух, что Наполеон III при заключении мира после Севостопольской войны потребовал от Александра II дать волю. Я часто слышал это. Даже накануне освобождения крестьяне сомневались, чтобы волю дали без давления извне. «Если Гарибалка не придет, ничего не будет», – говорил как-то в Петербурге один крестьянин моему товарищу, который толковал ему, что скоро «дадут волю». И так думали многие"[3]. Гэтак пісаў расейскі рэвалюцыянер-анархіст Пётр Крапоткін (1842–1921) у першым выданні ўспамінаў *Записки революционера* (1902); пазней, у 1919 годзе ён дадаў: "Оказывается теперь, что этот слух о давлении Франции, как это ни странно, имел некоторое основание. Мой друг бельгийский

---

[1] Паводле агульнае нумарацыі, гэта старонкі 219–235. Аднак, відавочна, пачатак тэксту адсутнічае. Гаворка ў ім ідзе пра часы каранацыі Мікалая І.

[2] Што не адпавядае сапраўднасці, бо не французы (міністр замежных спраў Аляксандар Валеўскі), а брытанцы і аўстрыйцы выяўлялі бескампрамісную пазіцыю ў дачыненні да Расеі.

[3] П. Кропоткин, *Записки революционера*, Москва 1988, с. 153. Упершыню на кнігу П. Крапоткіна ў сувязі з агітацыйнаю літаратураю рэвалюцыянераў пачатку 1860-х гг. звярнуў увагу Г. Кісялёў.

профессор Нис (Nys)[1] заметил мне по поводу этих строк, что по заключении Парижского мира в мае 1856 года Наполеон III предложил, чтобы в Париже происходили «разговоры» между представителями держав об общем положении дел в Европе. Докладчиком был известный в то время экономист министр Воловский (Volowsky), и он, несомненно, говорил о крепостном праве и о том, что Россия не будет считаться вполне европейской державой, пока крепостное право не будет уничтожено”[2].

Беларускамоўны твор узнік як непасрэдны водгук, з аднаго боку, на расстрэл войскам мірнае маніфестацыі ў Варшаве, а з другога – на абнародаванне царскага Маніфеста ад 19 лютага 1861 г. Звёўшы ў адно, здавалася б, зусім розныя падзеі, аўтар, на нашую думку, імкнуўся знівеляваць усё тое станоўчае, што несла скасаванне прыгоннае залежнасці. Для яго было істотным давесці селяніну, што вольнасць люду “maskal” даў пад націскам “prancuza”, што цар усё роўна ашукае, што “Maskali horszyje ad żydoŭ pahanie”. Менавіта таму на першым месцы ў паэме крывавая разня як царскі адказ “palaku”, што пачаў патрабаваць (а ён ведаў пра тое, што адбылося на сходзе “Sa ŭsich ziemiel pisar[oŭ]”), “Szto, bacz, para mużyczku z wolnasciu spaznacca”. У выніку кожны павінен быў зразумець: цар і ягоныя чыноўнікі часова саступілі “prancuzu” і “palaku”, дык неабходна патрабаваць, а яшчэ лепш – разам з “palakam” адстойваць сваю веру і волю, бо ад волі “maskala”, якая нібыта ўжо аб’яўленая, селянін не мае (у чым ён ужо мог пераканацца) і ніколі не будзе мець аніякае карысці. Гэтую “аўтарскую праўду” варта было, надрукаваўшы паэму, як можна хутчэй пашыраць сярод люду.

Выкажам меркаванне: паэма *Плынуць вятры…* апынулася ў сталіцы Расейскае імперыі ў студэнцкім асяроддзі з мэтаю выдання літаграфічным ці нейкім іншым спосабам. Магчыма, Л. Кульчыцкі быў адным з тых, хто перадаваў тэкст ад аўтара асобам, які непасрэдна адбівалі-друкавалі агітацыйную літаратуру. З невядомых прычынаў выдаць твор не атрымалася (як варыянт: не захавалася асобнікаў, бо аніводзін з іх не трапіў у рукі жандараў).

Пытанне аўтарства паэмы (хоць, праўда, і застаюцца пэўныя сумненні) ледзь неадназначна вырашыў калісь Г. Кісялёў. За чвэрць стагоддзя, якія прайшлі пасля яе публікацыі, аніякія іншыя гіпотэзы так і не з’явілася.

Г. Кісялёў адзначыў самыя істотныя аргументы на карысць аўтарства В. Дуніна-Марцінкевіча. Па-першае, эпічнасць таленту паэта, што выразна выяўляецца ў паэме *Плынуць вятры…* у бытавой і канкрэтнай лексіцы; спецыфічнае, марцінкевічаўскае ўжыванне ўказальнае часціцы *вось* і часціцы *маўляў* у значэнні часціцаў ці злучнікаў *нібы* альбо *як*; ужыванне часціцы *бач*, дзеясловаў *палядзь* і *глядзь*, што таксама сустракаецца ў іншых творах Беларускага Дудара і ці не выключна ў яго. Па-другое, пра вобразнавыяўленчыя сродкі таксама можна казаць як пра марцінкевічаўскія.

[1] Гаворка пра Эрнэста Ніса (1851–1920), бельгійскага юрыста і прафесара міжнароднага публічнага права ў Брусельскім універсітэце.
[2] П. Кропоткин, *Записки революционера*, Москва 1988, с. 153.

Да гэтага можна яшчэ дадаць падабенства метрыка-рытмічных, страфічных і рыфмічных асаблівасцяў паэмы *Плынуць вятры*… да адпаведных версіфікатарскіх адметнасцяў твораў В. Дуніна-Марцінкевіча. Так, уступ паэмы напісаны сілабічным васьміскладовікам з парнымі жаночымі рыфмамі (як і асобныя вершы, фрагменты *Ідыліі* і інш.). Частка першая – сілабічным трынаццаціскладовікам з парнымі жаночымі рыфмамі (як пераклад *Пана Тадэвуша*, *Lucynka, czyli Szwedzi na Litwie*, фрагменты вершаванага апавядання *Kłopoty literackie* і інш.). А другая частка – сілабічным сяміскладовікам з мужчынскімі рыфмамі, а вершарады арганізаваныя ў шасцірадкоўі з рыфмоўкаю *aabccb* (як асобныя строфы вершаванага апавядання *Гапон*, *Вечарніцаў*, *Купалы*, *Шчароўскіх дажынак*, *Травіцы братсястрыцы*, першая песня *Халімона на каранацыі* і інш.).

Мусім таксама адзначыць, што твор знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад *Гутаркі старога Дзеда*, у пэўнай ступені наследуе ягоную ідэю ды асобныя моўна-стылістычныя і версіфікацыйныя сродкі, аднак мае сваю адметнасць і самастойнасць. Апавядаючы пра аб’яўленую волю праз прызму крывавых варшаўскіх падзеяў, аўтар адначасна і пацвярджае, і развівае думку, выказаную ўжо ў першых беларускамоўных паэтычных агітацыйна-публіцыстычных творах, і якую пазней надзвычай лаканічна сфармулюе К. Каліноўскі ў апошнім “пісьме з-пад шубеніцы”: “тагды (Народзе. – *М. Х.*) толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе”[1].

[1] К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 46.

# [*Плынуць вятры…*]

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу: LVIA, f. 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], ap. 1 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], b. 13 [*Дѣло о воспитанникахъ С. Петербургскаго Строительнаго училища дворянахъ Антонѣ Гродскомъ и Константинѣ Немысскомъ*], l. 216–218v.

|216r|

## Cząść 1szaja

Płynuć wiatry at paŭnoczy
Zasypajuć snieham woczy;
Honiać tuczy aławiany,
Nanosiać aznob pahany.
Toż nia wiatry burawyje,
Toż nia tuczy sniehawyje –
Maskoŭśka to siła walić[1],
Marozom woś pryckom[2] smalić!
Czaho|ż jana zakipieła?
– U Arszawu polecieła,
S harmatami, so strelbami,
Czy wajować s Palakami? –

I

Arszawa! maci nasza! ty polskaja sonca!
Łuczy twai, pałacy i sielski akonca
Woś matczyna hrudź dzietak roŭno usich hrejuć,
Karonie, Litwie, Rusi, swietłość roŭnu siejuć.
Jak zoroczka jaśnieńka, woś kraska pryhoża!
Szto s taboju zrabili? na szto ty pachoża?
Hdzie twoj homan wiasioły? hdzie hałas[3] piawuczy?
Nad taboju staŭpiliś hramawyje tuczy!..

---

[1] Польскія гісторыкі сцвярджаюць, што на пачатку 1860-х гг. колькасць расейскіх войскаў у Каралеўстве складала не менш за 250 тысяч жаўнераў.

[2] Трэба, відаць: *pryskom*. Можна меркаваць, што літара ***c*** замест ***s*** з’явілася пад уплывам грамадзянскага пісьма перапісвальніка ці як неразуменне ім значэння слова.

[3] Напісанне літараў ***a*** і ***o*** не заўсёды адназначная. Але ў дадзеным выпадку выразна расчытваецца *hałas*.

Hlaniesz ciapier na ciabie – woś u piekle czorna[1],
Ciomna ŭ duszy – na siercu każnamu nia zdorna[2],
Maŭlaŭ sażaj pakryta biedna twaja niwa
Czaho|ż ty dażyłasia, maci niaszczasliwa!

II

Na Krakoŭskam predmiescі lik bożyja maci[3]
U kraski, ahni strojny – woś obraz u chaci;
Cudoŭnaja to pani, każuć dobry ludzie,
Chto jaje szczyra prosiŭ, toj łaski dabudzie.
Pad chwihuru staŭpiacca, maŭlaŭ kuraniata,
Pad krylla czytkaj[4] matki: żydy i paniata,
|216v| Mużyczki, dzieci, starcy, panny i kabiety,
Ŭsi smieszaliś i czyniać swiatyje abiety:
Każysia, sabralisia dzietki u[5] hramadce
Pamalicca i dabranoc rodnieńkoj dać[6] matce. –

III

Czy rasparoliś tuczy i hrazu krawawu
Chłynuli s piarunami na biednu Arszawu
Czy małanka hramadzie woczy wypiekaje
Nie... to Maskal po swojemu u miesci hulaje[7]. –
Bywała u starynu: (dziady tak kazali:)
Kali niechrysty ziamlu naszu wajawali,
Ŭsiak bywała, – s dobytkam, chłapcoŭ i dziaŭczaty
Pałonili, sztob wykup brać za nich bohaty,
Da ludziej pry malitwie strelboj nie hłumili,
Wobrazy szanowali, kryżoŭ nie rubili,

---

[1] Маецца на ўвазе, відаць, той факт, што пасля ўжо першай "расстралянай" маніфестацыі 27 лютага 1861 г. (пяцёра забітых) пачаў пашырацца сярод кабет звычай апранаць жалобныя строі. Адразу пасля пахавання ахвяраў з'явіліся ўлёткі, аўтарства якіх прыпісвалася тагачаснаму арцыбіскупу варшаўскаму Антоні Фіялкоўскаму (1778–1861), з заклікам усім палякам апрануць жалобу. Пасля масакры 8 красавіка 1861 г. каталіцкі касцёл аб'явіў нацыянальную жалобу.

[2] Магчыма, ад *задорно* (расейск.) – весела, радасна.

[3] 8 красавіка 1861 г. у Варшаве пачаліся пратэсты супраць закрыцця Агранамічнага таварыства (Towarzystwo Rolnicze) і Гарадское дэлегацыі (Delegacja Miejska), незалежных ад расейскае ўлады арганізацый, што карысталіся вялікім аўтарытэтам сярод палякаў. Непасрэдна перад маніфестацыяй (уночы з 7 на 8 красавіка) царскі намеснік Міхаіл Гарчакоў падпісаў г. зв. "палажэнне пра зборышчы" ("ustawa o zbiegowiskach"), якое дазваляла ўжываць войску зброю супраць дэманстрантаў.

[4] Трэба: *czutkaj*. Можна меркаваць, што літара ***y*** замест ***u*** з'явілася пад уплывам грамадзянскага пісьма.

[5] Тут перапісвальнік (відавочна, следам за аўтарам) ужывае літару ***u***, а не ***ŭ***, каб захаваць трынаццаціскладовік.

[6] У слове *dać* літара ***ć*** напісаная наверх літары ***j***.

[7] Па падліках польскіх гісторыкаў у стлумленні маніфестацыі 8 красавіка 1861 г. бралі ўдзел пяць рот пяхоты і два казацкія эскадроны (блізу 1300 жаўнераў).

Hladź że Moskal szto robić!.. a jon chryścijanin
Horsz zdziekujecca u[1] Polszczy, jak lichi pohanin

IV

Paladź, czaladka boża, stoja na kalenach
Biez różnicy ŭ atłasach, czy ŭ lichich pialenach,
Żydy, pany, muzyczki – ŭsi smiaszaliś razam,
U adzin hołos pred Matki haspodniej obrazem,
Spiewajuć „Swiaty Boże! Swiaty niasmiartelny!” –
Na pieradzie Dabrodziej[2] dzierżyć kryż kascielny –
Ni kamieńczyka ŭ rukach nikto nie trymąje –
A Maskal woś z za|wuhła da uraha[3], strelaje[4],
Rubić, kole hramadku – kroŭ rakoju ljecca,
Tam kazak na kaniu s petleju niesietcca,
Hdzie upadnie czaławiek, jak sabaku troczyć[5],
Żyŭ, czy miortwy, biednaho na zamok[6] wałoczyć,
Hołowa po kamieniach hudzie woś u rohu,
Mazhi bryzżuć na pałacy, kroŭ znaczyć dorohu.

V

Tam idzie baćka s doczkaj – to kraska pryhoża!
Ledź paczała razcwietać – woś u puczku róża –
Kula jaje trapiła ŭ ruku – biedna mleje
|217r| Baćka z żałości, doczki padniać nie paspieje,
Aż czatyrech kazakoŭ strałoj pryskakali,
Biednieńkuju dziciatku na petlu uziali.
~~Baćka z żałosci, doczki padniać nia paspieje,~~
~~Aż czatyroch kazakoŭ strałoj pryckakali~~
Baćka do noh pohańcam – kryj Boh jak hołosić!
Kinuŭ miaszok s hroszyma, dyj – „niaruszcie” – prosić!
Hdzie tam! miaszok padniali a baćku zabili,
Paśla aboich razem ŭ zamak potaszczyli –
Tut dzietaczak maleńkich koluć, tam stralajuć
Kabiet, tutka adzieżku czomuju zdzirajuć,
Dalej czysciać kiaszeni – miaszoczki, zaharki
Woś swai, na harełku hrabiać dla szynkarki. –

---

[1] Памылка перапісвальніка. Трэба: ***ŭ***.
[2] Ад даўняга *dobrodziej* (польск.) – ксёндз.
[3] Памылка перапісвальніка. Трэба: *ŭraha*.
[4] Паводле афіцыйных царскіх дадзеных расейскае войска выкарыстала 484 набоі. Апрача таго, намеснік М. Гарчакоў інфармаваў, што 8 красавіка расейскае войска арыштавала 70 маніфестантаў, 108 параніла і 10 забіла. Цікава, што за пахаванне (закапалі ў рове ля цытадэлі) нібыта дзесяці забітых гораду заплацілі 1500 рублёў. Гэтае дало падставы гісторыкам казаць пра некалькі сотняў ахвяраў масакры.
[5] Ад *troczyć* (польск.) – звязваць, прывязваць да чаго-небудзь.
[6] Гаворка пра каралеўскі замак у Варшаве, што ў 1836 г. стаў сядзібай царскіх намеснікаў.

VI

Na pieradzie hramadki, szto maliłaś Bohu,
Ŭ sieredzinie xiądz s kryżam zahaczyŭ darohu, –
Niaczurajecca smierci – k niebu padniaŭ zrenki,
Slozy barazdziać szczoki, a hołos stareńki
Zwonku wiadzie malitwu, jak abyczaj każe,
Nia zważaja na strelby i piki ŭraże. –
Tolku jak ŭ susedztwie chto ŭpadzie z hramady,
Laŭszoj kryż mocno imie[1], prawaj daje rady,
Sztob na toj swiet dorohu upratać[2] szczaśliwu
Na razhreszenia ruku ŭżymie litaściwu.

VII

Nia marskaja to woŭna[3] ziamlu naciskaje,
Nia sarancza dar boży na poli zmiataje,
Heta moskoŭski zastup na kaniach haraczych
Ŭse u sinich mundzirach u szapkach bliściaczych[4],
S wierchu szapki chwost koński wieciar razwiewaječ –
Każon straszennu szablu ŭ ruce trymajeć –
Reżeć, kaho papała, nanosić trawohu
Meż ludziej, szto pakojna molucca tam Bohu. –
Kaho nia swalić szabla, taho topczuć koni.
|217v| Najpiersz xiandza srubili, szto kryż u dłoni[5]
Trymau silnoj rukoju – ŭwieś kroŭju abliŭsia,
Jak srublena topola, k ziamli pochiliŭsia,
I kryż s nim pachinuŭsia. Tut padskoczyŭ smieły
Nawakoŭski[6], chwaciŭ kryż – hladź! – ŭ rubcach cełу,
Hreszny ruki pasmieli na Boha padniacca:
I toj Chrystom nia paspeŭ doŭho lubowacca,
Jaho na ziem swalili – paladź!.. cud hatowy
U abaronie kryża staŭ czaławiek nowy,
Żydok – czuli|ż wy heta dobry chryscijanie?
Toż Maskali horszyje ad żydoŭ pahanie?

[1] Ад расейск. *имать* – браць, хапаць.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 493: “ПРАТАЦЬ, сов. <…> 2) Убирать. *Наши сѣно на лугу пратаюць*”.

[3] Ад расейск. *волна* – хваля.

[4] Гаворка пра конных жандараў.

[5] Памылка перапісвальніка. Трэба: *dałoni*

[6] Гаворка пра Караля Навакоўскага (1833–1867), выпускніка варшаўскае Школы прыгожых мастацтваў, актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйных падзей 1860-х гг. 8 красавіка 1861 г. ён быў паранены, калі з крыжам у руках ішоў на чале дэманстрантаў, а пасля арыштаваны. Асуджаны на высылку, ён, аднак, апынуўся ў палтаўскай турме, адкуль у маі 1863 г. уцёк, каб узяць удзел у паўстанні. У адным з баёў захоплены ў палон; высланы ў Сібір, дзе памёр у турме.

Lande[1] jamu prozwiszcza – u straszennu poru
Chwaciŭ kryż ŭ obie ruki, padniaŭ jaho ŭ horu,
Kali|b dobryje ludzie baczyli[2] to dziwa,
Bohu chyba pryci mohła mysl[3] taka szczasliwa;
Widać chacieŭ sztob cełу siat[4] podziwowaŭsia,
Szto Maskal at niechrysta horszym pakazaŭsia.
Zastrelili i jaho – upaŭ – da lik boży
Nakryŭ saboj – pa śmierci sztob być na staroży. –

VIII

Tak Maskali hulali pa biednaj Arszawie
Za szto|ż jany rezali ludziej – ŭ jakaj sprawie
Narod im prawiniŭsia? za szto chryscijanski
Car wialeŭ zdziekawacca, woś turak pahański?
Palak to pierszy silna paczaŭ naklikacca
Szto, bacz, para mużyczku z wolnasciu spaznacca,
I jak Haspodź za ludziej na kryż atdaŭ ruki,
Palak za nas achwotno pryniaŭ straszny muki
Za nas cierpić kryż pański – za wieru, swabodu
Rozkazać papytaju wam taku pryhodu. –

———— · ————

## |218r| Cząść 2[ja]

Jak pasłaŭsia
Tak praspaŭsia!
– Kruci nia wiarci,
A treba ŭmiarci! –

Nazad tamu dziesiać let,
Zahniewaŭsia cełу swiet
Na Maskoŭskaho Cara[5],
Szto jon wielmi pyszny staŭ
Ŭsim padnos panam kiwaŭ,
Tož uniać jaho para!

[1] Гаворка пра Міхала Ландэ (Michał Landy, 1844–1861), вучня варшаўскае рэальнае школы, які 8 красавіка 1861 г. быў цяжка паранены, калі нёс крыж. Памёр наступнага дня.
[2] У слове *baczyli* літара *c* напісаная наверх літары *d*.
[3] У слове *mysl* літара *l* папраўленая замест літары *ł*.
[4] Памылка перапісвальніка. Трэба: *swiat* ці *świat*.
[5] Маецца на ўвазе Мікалай I (1796–1855), расейскі імператар (1825–1855).

Prancuzoŭ Car Napalon[1]
Kryknuŭ na swaich „halon”![2]
Maszyr[3] Turku[4] pamahać! –
S nim|że zamarski pany,
Szto ich, kliczuć brytany –
Paszli Maskwu wojuwać. –

Car Maskoŭski aż pacieŭ,
Swaho wojska nia żaleŭ[5]
Hdzie|ż durnomu wiasci boj?
Idzi lepsz łapci płaci,
Za dur życiom zapłaci,
Potrasi brat miaszok swoj!

Po nim syn hołowarez[6]
Na tron maskoŭski uzlez,
Staŭ kłaniacca prancuzu. –
„Mój lebiedźka darahi!
„Prabacz baćkowy hrechi
„Szto choczesz, usio zroblu!”

I sabralisia stary
Sa ŭsich ziemiel pisary,
Paszli miru wiaści ład[7];
Nuż Maskalu dapiakać,
Nuż palcami[8] pad nos kiwać.
Oj nie wielmi byŭ jon rad!

|218v| Najpiersz stau[9] kazać prancuz,
Naduŭszysia jak harbuz –
Rukoj hrozić, kułakom,
Aż zatrossia Maskalok,

---

[1] Маецца на ўвазе Шарль Луі Напалеон Банапарт (Луі Напалеон Банапарт, а пазней Напалеон III; 1808–1873) – першы прэзідэнт Французскай рэспублікі (1848–1852), імператар Другое Імперыі (1852–1870).

[2] Сапсаванае ад французскага *allons*! – ідзём!

[3] Сапсаванае ад французскага *marcher* – ісці, маршыраваць.

[4] У ліпені 1853 г. расейскае войска перайшло мяжу Асманскае імперыі і ў хуткім часе захапіла г. зв. прыдунайскія княствы. У адказ на ўльтыматум імператара Францыі вывезці войскі з тэрыторыі Турцыі, Расея 21 лютага 1854 г. аб’явіла вайну Англіі і Францыі. 27 сакавіка 1854 г. Англія і Францыя аб’явілі вайну Расеі.

[5] Страты Расеі ў Крымскай вайне па ацэнках незалежных гісторыкаў склалі блізу 250 тысяч чалавек.

[6] Маецца на ўвазе Аляксандар II (1818–1881), які заняў расейскі трон у сакавіку 1855 г.

[7] Гаворка пра Парыжскі кангрэс, які пачаўся 25 лютага 1856 г. Мірная дамова была падпісаная 30 сакавіка 1856 г.

[8] Відаць, памылка перапісвальніка. Трэба: *palcam* (парушана колькасць складоў у сямiскладовіку).

[9] Памылка перапісвальніка. Трэба: *staŭ*.

Woś asinowy listok,
Wałasy aż stali dybom. –

„Ŭsia wasza czynoŭna znać,
„Zwykła naród obdzirać,
„Jaki wasz zakon, da sud?
„Chto maje hroszy toj praŭ,
„Choć abdziraŭ, chacia kraŭ,
„Cześć wasza – to hnoj, to brud

# Са справы часовага палявога аўдытарыяту

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу: LVIA, f. 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], ap. 1 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], b. 13 [*Дѣло о воспитанникахъ С. Петербургскаго Строительнаго училища дворянахъ Антонѣ Гродскомъ и Константинѣ Немысскомъ*], l. 44–46, 2–8v, 214–214v, 215–215v, 261v.

### № 1. Допыт Леапольда Кульчыцкага

|**44r**| 1863 года Іюля 8 дня въ Высочайше утвержденной въ Динабургѣ Слѣдственной Коммисіи, бывшій воспитанникъ Строительнаго училища Леопольдъ Кульчицкій на допросѣ показалъ:

1. <…>[1] Зовутъ меня Леопольдомъ Осиповичемъ Кульчицкимъ; лѣтъ отъ роду двадцать один, дворянинъ, католикъ. Какъ истинный христіанинъ я акуратно два раза въ годъ исповѣдывался и пречищался. Отецъ мой давно померъ, а мать живетъ въ Вильнѣ; сестра замужемъ за Шкультецкимъ – чиновникомъ Виленской Казенной Палаты[2], тоже живетъ въ Вильнѣ. Братъ живетъ въ Псковѣ – столоначальникъ Псковской Казенной Палаты. Родственниковъ, хотя я и имѣю очень много, но почти никого не знаю. Недвижимаго имущества рѣшительно нетъ. – Первоначально я воспитывался въ Виленской гимназіи[3] откуда, кажется, въ 1857 году я поступилъ въ Строительное Училище[4]. Въ концѣ Февраля нынешяго года я принужден былъ выступить изъ Училища. Говорю, принужденъ, потому что жизнь въ немъ сдѣлалась нестерпимою отъ преследованія товарищей – не Поляковъ. Съ начала возстанія въ Польше у насъ въ Училищѣ началось истинное гоненіе всѣхъ, кто только говорилъ по польски. Брань, колкія насмешки, самыя жестокія униженія градомъ сыпались |**44v**| на наши головы. Нерѣдко даже

[1] Допыт занатаваны ў выглядзе табліцы: злева – пытанні камісіі, справа – адказы Л. Кульчыцкага. Асобныя пытанні камісіі ў нашай публікацыі апушчаны.

[2] У 1850–1860 гг. калежскі, а пасля стацкі саветнік Рамуальд Шкультэцкі займаў пасаду “совѣтника питейнаго отдѣленія” Казённай палаты, дзе служыў з сярэдзіны 1830-х гг. У 1862 г. пасаду “совѣтника ревизскаго отдѣленія” Казённай палаты займаў Адам Кіркор.

[3] У даступных спісах выпускнікоў Віленскае гімназіі Л. Кульчыцкага няма. Гл.: *Окончившие курс Виленской 1-й гимназии 1837–1903* [online] http://www.petergen.com/history/wil1gim.shtml [доступ: 26.01.2020].

[4] Маецца на ўвазе Строительное училище Главного управления путей сообщения и публичных зданий (да 1842 г. – Училище гражданских инженеров) – вышэйшая тэхнічная навучальная ўстанова Расеі. Да 1857 г. у вучэльню прымалі дваранскіх дзяцей 13–16 гадоў. Пазней – толькі тых, хто меў шаснаццаць гадоў і поўную гімназічную адукацыю.

поступали съ нами и болѣе энергически. Конечно, при такихъ обстоятельствахъ я не могъ оставаться въ Училищѣ. Особѣнно же когда газеты обвѣстили поступокъ Кульчицкаго – начальника станціи железной дороги въ Гроднѣ[1] – мнѣ жизни не было, какъ однофамильцу. Въ Училищѣ же я воспитывался на счетъ суммъ виленскихъ земскихъ сборовъ; кромѣ того я занимался частными работами, относящимися къ моей спеціальности; на скопленныя такимъ образомъ деньги я жилъ и послѣ выхода изъ Училища. Подъ судомъ никакимъ никогда не былъ. –

2. <…>[2] Въ Петербургѣ: Теглевы, Гусевичъ, Коронскіе, Закржевскіе и Наталія, кажется, Тимофеева, съ которой я жилъ по сосѣдству у одной хозяйки. – Въ Псковѣ – никого, кромѣ брата. Въ Вильнѣ – семейныхъ домовъ я почти не имѣлъ знакомыхъ, кромѣ Валосевичевъ, Мочульской, Заборовскихъ. А изъ холостыхъ Шлянскіе, Досель, Шимановскій, Немировичъ, Пежановскій и др. Отношенія же <*нечыт.*> къ этимъ лицамъ были обыкновенныхъ знакомыхъ. –

|**45r**| 3. Не знакомы ли вы съ Марховскимъ, кто онъ, чѣмъ занимается и гдѣ въ настоящее время проживаетъ?

Даже не слышалъ подобной фамиліи.

4. Объясните подробно содержаніе писемъ Вашихъ къ брату Цезарію Кульчицкому отъ $23^{\text{го}}$ марта 1861 г. и 9 Августа 1862 г. И для чего ему был нуженъ свинецъ и олово въ такомъ значительномъ количествѣ, выслали ли вы оное, когда и сколько имѣнно?

Братъ мой, человѣкъ весьма не богатый, послѣ оканчанія службы у купца Гладина, остался жить въ Псковѣ, гдѣ, конечно, имѣлъ много знакомыхъ купцовъ. Не имѣя <*нечыт.*> службы онъ пожелалъ занятся торговлей, имѣнно: поставлять сургучь на всѣ присутственныя мѣста въ Псковѣ; поэтому-то завязалась между нами кореспонденція на счетъ сургуча. Такъ какъ сургучь въ Пскове дорожѣ чѣмъ въ Вильнѣ, то онъ и хотѣлъ устраивать транспортъ изъ Вильна въ Псковъ. Но это не состоялось. – На счетъ свинца и олова могу сказать только то, что я сказалъ о сургучѣ, прибавляя однако, что и этотъ транспортъ не состоялся, не знаю почему. –

5. <…> По выходѣ изъ Училища я съ недѣлю жилъ въ Петербургѣ въ квартирѣ, которую я нанималъ помѣсячно; послѣ поѣхалъ въ Псковъ, гдѣ былъ 12 часовъ; оттуда <*нечыт.*> вмѣстѣ съ матерью поехалъ въ Вильню. Въ Вильнѣ я жилъ съ матерью. Положительныхъ занятій я не имѣлъ, а иногда помагалъ шурину въ счетныхъ его занятияхъ. –

---

[1] Відаць, гаворка пра Кульчыцкага (ці Кальчыцкага), паручніка расейскіх войск у адстаўцы, пасля чыноўніка чыгункі ў Гародні, які далучыўся да паўстанцаў, ваяваў у аддзеле Аляксандра Андрушкевіча. У бітве пад Сапежышкамі 9 красавіка 1863 г. паранены і захоплены ў палон. Памёр у Коўне. Гл.: *Katalog Powstańców Styczniowych* [online] https://genealogia.okiem.pl/powstanies/index.php?inne_pole=kulczycki [доступ 26.01.2020].

[2] Пытанне датычыла знаёмых у Пецярбурзе, Пскове і Вільні.

|45v| 6. Коммисія предъявляя вамъ дневникъ написанный вами, требуетъ подробнаго и чистосердечнаго объясненія: вслѣдствіе какихъ имѣнно побужденій вы позволили себѣ преступные намѣренія противъ Высочайшей Особы Государя Императора и Правительства[1], кто такой Вишневскій[2] и какъ онъ такъ и другіе лица означенные въ дневникѣ принимали участіе въ вашихъ преступныхъ замыслахъ?

Всякій человѣкъ имѣетъ любовь къ тому народу, чьимъ считается онъ сыномъ. Любовь эту онъ вбираетъ въ себя съ молокомъ матери. Съ дѣтства уже поляки слышатъ національные пѣсни, разсказы старшихъ о минувшихъ временахъ, не рѣдко видятъ слезы на глазахъ ~~раз~~ матерей при возпоминаніяхъ о арестованныхъ, поэтому не удивительно, что впечатлительная душа ребенка съ дѣтства пропитывается, такъ сказать, чувством – вредить каждому, кто приноситъ огорченія близкимъ его сердцу людямъ. Детское воображеніе подаетъ всѣвозможные способы, а разыгранная фантазія строитъ несбыточные планы. Какъ видно изъ числа писаннаго дневника т. е. 59 года еще, мне было тогда только 16 лѣтъ. Человѣкъ въ шестнадцать лѣтъ – еще ребенокъ, – ребенокъ требующій непремѣнно мечтать и фантазировать. Я, окруженъ русскими, нелюбимъ ими, <*нечыт.*> естественно искалъ причины своихъ несчастій не въ самомъ себѣ, а въ окружавшихъ меня и, какъ обыкновенно, началъ разбирать: оказалось что виновникомъ моихъ несчастій Правительство, которое заставило меня ѣхать въ Петербургъ. Не удивительно поэтому что въ видѣ мщенія этотъ несбыточный замыслъ могъ явится въ головѣ ребенка. Ребенка, говорю, потому что по|мѣрѣ моего умственнаго развитія мысль эта изчезала, а въ послѣднихъ страницахъ дневника ея совершенно нѣту.

|46r| Вотъ прямое и чистосердечное объясненіе этого плана. Какое же Вишневскій и Розенбергъ[3] въ немъ участіе принимали? Никакаго, кромѣ того, что разговаривали съ мною объ этомъ такъ, какъ бы говорили о театрѣ, концертѣ и проч. Оба они были моими товарищами.

Училища дворянинъ Леопольдъ Осиповичъ Кульчицкій руку приложилъ.

---

[1] Відавочна, меўся на ўвазе наступны запіс у дзённіку, які Г. Кісялёў пераказвае наступным чынам: “Але неўзабаве ў нашых хлопцаў ужо новая фантазія (запіс ад 11 лютага 1859 года): яны замышляюць не больш не менш як зрабіць падкоп у Пецярбургу і ў пэўны момант «высадзіць у паветра», узарваць царскі палац з усёй імператарскай фаміліяй. Зноў робяцца падлікі-калькуляцыі – колькі на гэта патрэбна грошай. Аказваецца, на неабцяжараны жыццёвым досведам хлапечы розум усё вельмі проста – наняць дом на Мільённай паблізу палаца, купіць 500 пудоў пораху і г. д.”. Гл.: Г. Кісялёў, *Сыракомля ці Дунін-Марцінкевіч? Беларуская паэма пра варшаўскія падзеі 1861 года* [у:] Г. Кісялёў, *Смак беларушчыны*, Мінск 2013, с. 310.

[2] Магчыма, гаворка пра Восіпа Вішнеўскага, які закончыў Віленскую гімназію ў 1860 г. Гл.: *Выпускники Виленской 1-й гимназии за 1837–1903 гг.* [online] http://kdkv.narod.ru/Vilna/Vilna-full.htm [доступ: 26.01.2020].

[3] У справе захаваўся фотаздымак Віктара Розэнберга з дарчым надпісам Л. Кульчыцкаму.

## № 2. Меркаванне Аляксандра Кавалеўскага[1]

|2r| Мнѣніе

Военнаго Начальника уѣздовъ, Инфландскихъ Витебской, Ново-Александравскаго Ковенской и Дисненскаго Виленской губерній.

Разсмотрѣвъ военно-судное дѣло произведенное при Динабургскомъ Ордонансъ-гаузѣ, о сужденныхъ полевымъ судомъ, бывшихъ воспитанникахъ С. Петергскаго Строительнаго училища дворянахъ Антонѣ Гродскомъ и Константинѣ Немыскомъ, я нахожу слѣдующее:

Гродскій, воспитывавшійся въ означенномъ училищѣ и находясь уже въ послѣднемъ классѣ, вышелъ изъ онаго въ половинѣ Марта сего года, какъ показываетъ, чтобы быть полезнымъ своей матери и сестрѣ оставшимся послѣ смерти его отца безъ всякихъ средствъ.

С. Петербургская полиція, получивъ свѣ|2v|дѣніе, что у Гродскаго находится оружіе, которое 29^го^ Марта сего года, онъ намѣренъ былъ вывезти по Петербургско-варшавской железной дорогѣ, сдѣлала обыскъ, какъ у него, такъ и у солдатской дочери Тимофѣевой, у которой онъ проживалъ на квартирѣ. При обыскѣ у Гродскаго найдены два тюка, въ которыхъ оказались восемь разобранныхъ ружей съ принадлежностями, семь штыковъ, довольно значительное количество пистоновъ, одинадцать Англійскихъ пилочекъ и два билета на проѣздъ по желѣзной дорогѣ до Вильно; а у Тимофѣевой двѣ фехтовальныя сабли и запечатанный пакетъ съ бумагами, между которыми оказались дневники бывшаго воспитанника того же училища Леопольда Кульчицкаго веденный имъ съ 1859 по 1861 годъ. Въ дневникѣ этомъ Кульчицкій высказываетъ свой преступный образъ мыслей противъ Правительства.

|3r| Леопольдъ Кульчицкій и упоминаемый въ этомъ же дѣлѣ Озембловскій, съ которыми Гродскій жилъ на одной квартирѣ, были также воспитанниками Строительнаго училища, оставили оное будто|бы по домашнимъ обстоятельствамъ и были впослѣдствіи взяты въ шайках мятежниковъ, за что и суждены полевымъ военнымъ судомъ[2].

Во время обыска, пришелъ къ Гродскому Немысскій, который также оставилъ училище и по осмотрѣ въ находившемся у него развязанномъ узелкѣ были найдены пистоны и разныя ружейныя принадлежности.

При допросахъ сначала въ полиціи, потомъ въ Слѣдственныхъ Коммисіяхъ Петербургской и Динабургской, Гродскій, скрывая первоначально

---

[1] Генерал-маёр Аляксандар Кавалеўскі (1807–1877) узначальваў у той час першы аддзел часовага вайсковага кіравання Віцебскай губерні.

[2] Судова-следчую справу Л. Кульчыцкага выявіць не ўдалося. Аднак у справе А. Гродскага і К. Нямыскага маецца даведка вайсковага губернатара Віцебскае губерні і старшыні Галоўнага вайсковага суда генерал-лейтэнанта Эраста Длатоўскага (1807–1887): “Къ сему присовокупляю, что прикосненный къ сему дѣлу Леопольдъ Кульчицкій был сужденъ уже полевымъ военнымъ судомъ за участіе въ шайкѣ мятежниковъ и по утвержденному приговору военнаго суда лишенъ всѣхъ правъ состоянія и сосланъ въ каторжную работу на заводахъ на шесть лѣтъ”.

нѣкоторыя обстоятельства сего дѣла, показалъ, что по выходѣ изъ училища въ половинѣ Марта |3v| онъ узналъ, что около Бѣлостока проживаетъ его дядя и надѣясь на его помощь, поѣхалъ къ нему. Во время дороги, около г. Пскова, онъ встрѣтилъ своего товарища по гимназіи дворянина Марховскаго, который узналъ о бѣдности Гродскаго, предложилъ ему отправится въ Динабургъ къ неизвѣстному лицу и принять порученіе, которое заключалось въ доставленіи въ Псковъ оружія. На предложеніе это Гродскій не согласился и отправился въ Бѣлостокъ, гдѣ не найдя своего родственника, возвращался обратно въ Петербургъ, но въ Динабургскомъ вакзалѣ былъ встрѣченъ темъ же Марховскимъ и нуждаясь въ деньгахъ, принялъ сдѣланное ему во второй разъ Марховскимъ предложеніе.

Послѣ сего, Гродскій съ Марховскимъ отправились къ проживавшему въ Динагургѣ какому то неизвѣстному лицу, которое поручило ему, по сказаннымъ |4r| примѣтамъ отыскать въ Петербургѣ въ пассажѣ другое неизвѣстное и принять отъ него посылку съ дорогими вещами, которую Гродскій долженъ былъ доставить въ г. Псковъ Офицеру по имени Карлу Орестовичу, какъ должно полагать по формѣ, служащему въ Корпусѣ Путей сообщенія. За доставленіе этого, онъ долженъ былъ получить 50 рублей серебромъ.

Въ Динабургѣ, Гродскій пробылъ два дня, но у кого и гдѣ находился тотъ домъ, гдѣ это лицо проживало Гродскій не указалъ, отвѣчая, что онъ не знаетъ, а равно и Марховскаго по розыску въ Динабургѣ не оказалось. По прибытіи Гродскаго въ Петербургъ, онъ отыскалъ въ Пассажѣ неизвѣстное лицо и условившись съ нимъ въ два раза, на улицѣ, получилъ отъ него два тюка, которые первоначально отвезъ на квартиру Немысскаго, а потомъ перевезъ къ себѣ и за нѣсколько часовъ предъ |4v| отправленіемъ былъ задержанъ полиціею. Гродскій объясняя все вышеизложенное свидѣтельство, что кромѣ его никто въ этомъ преступленіи не участвовалъ а также не зналъ ничего и Немысскій, который показалъ, что хотя онъ и спрашивалъ Гродскаго о привезенныхъ имъ къ нему тюкахъ, но Гродскій обѣщалъ ему разсказать объ этомъ во время дороги, что находилось въ узелкѣ Немысскій не зналъ потому, что хотя узелъ этотъ и былъ развязанъ, но находившіяся въ немъ вещи были завернуты въ холстъ, и завязаны снуркомъ. Относительно же выхода изъ училища Немысскій отозвался, что онъ оставилъ оное вслѣдствіе болѣзни своего отца и желанія, будто бы, заниматься хозяйствомъ, чтобы поддерживать своихъ родителей. Билеты, найденные у Гродскаго были взяты имъ до Вильно и Немысскій хотѣлъ сначала заѣхать въ этотъ го|5r|родъ къ одному изъ своихъ родственниковъ, а потомъ отправиться къ родителямъ въ Гродненскую губернію.

По поводу найденнаго при обыскѣ дневника бывшаго воспитанника Кульчицкаго, котораго во время обнаруженія преступленія Гродскаго не|было въ Петербургѣ и который розыскивался, былъ сдѣланъ обыскъ у брата его, служившаго въ Псковской Казенной Палатѣ Коллежскаго Регистратора Цезарія Кульчицкаго.

Въ найденныхъ у него бумагахъ оказалось два письма воспитанника Кульчицкаго, которыя обратили на себя вниманіе тѣмъ, что въ одномъ изъ нихъ, писанномъ въ 1861 году, онъ увѣдомлялъ своего брата о цѣнахъ на олово и свинецъ, а въ другомъ отъ 9 Августа 1862 года писалъ о сургучѣ, какъ о матеріалѣ чрезвычайно дорогомъ. На вопросъ объ этомъ оба Кульчицкіе показали, что собраніе |5v| свѣденій о сургучѣ, оловѣ и свинцѣ относилось до намѣренія Коллежскаго Регистратора Кульчицкаго занятся торговлей, который объяснилъ, что цѣны олову и свинцу узнавали для мѣщанки Банщиковой, торгующей въ Псковѣ посудой и по невыгодности цѣнъ означенные матеръялы не|были выписываемы. Это показаніе подтвердила и Банщикова, при чемъ указала на двухъ мѣщанъ занимающихся приготовленіемъ глиняной посуды, по согласію съ которыми, намѣрена была промѣнивать олово и свинецъ на посуду; но при спросѣ мѣщанъ они ссылки Банщиковой не подтвердили, а напротивъ удостовѣряли, что хотя и имѣютъ съ нею торговыя дѣла, но о свинцѣ и оловѣ никогда разговора не|было.

Относительно же преступныхъ намѣреній противъ Особы Государя Императора и Правительства |6r| воспитанникъ Кульчицкій отозвался, что мысли эти имъ были выражены въ то время когда ему было еще 16[ть] лѣтъ, и высказаны подъ вліяніемъ любви къ родинѣ нерасположенія оказываемаго въ Училище къ нему какъ поляку его товарищами русскаго происхожденія и отъ сознанія, что виновникомъ его несчастій было Правительство, которое заставило его учиться въ Петербургѣ.

Полевой Военный Судъ признавая виновными: Гродскаго, въ принятіи на себя обязанности перевезти оружіе въ Западныя губерніи, непредоставленіи онаго Начальству, въ намѣреніи лично участвовать въ мятежѣ, для чего и оставилъ заведеніе, въ утайкѣ отъ Правительства подозрительныхъ лицъ и не донесеніи о нихъ, неотклоненіи Кульчицкаго отъ его злонамѣренныхъ цѣлей и допущеніи въ случаѣ ихъ исполненія |6v| разсчитывать на его содѣйствіе, а Немысскаго, въ сочувствіи къ возстанію и обоихъ въ ложныхъ, разнорѣчивыхъ и упорныхъ показаніяхъ съ намѣреніемъ скрыть истину, приговорилъ, по лишенію ихъ всѣхъ правъ состоянія, сослать въ каторжную работу въ крѣпостяхъ, Гродскаго на десять[1], а Немысскаго на восемь лѣтъ. Коллежскаго Регистратора Кульчицкаго подозрѣваемаго въ неблагонамѣренной выпискѣ олова и свинца подвергнуть административному взысканію по усмотрѣнію Главнаго Военнаго Начальника.

Находя приговоръ Полеваго Военнаго Суда правильнымъ и постановленнымъ по закону, я въ отношеніи мѣры наказанѣя опредѣленной Гродскому и Коллежскому Регистратору Кульчицкому согласенъ. Что же ка-

---

[1] Толькі ў лютым 1882 г. А. Гродскаму дазволілі пакінуць Сібір (?): "Государь Императоръ по всеподданному Г. Министра Внутреннихъ Дѣлъ докладу, въ 30 день Января текущего года Всемилаcтивейше соизволилъ на освобожденіе дворянина Антона Гродскаго отъ надзора полиціи, съ воспрещеніемъ ему въѣзда въ столичные, Черниговскую, Полтавскую и Западнаго края, и съ предоставленіемъ ему права поступать на государственную службу во всѣхъ мѣстностяхъ Имперіи, за исключеніемъ вышепоименованныхъ".

сается до Немысскаго, то хотя онъ выходомъ своимъ изъ училища въ то время когда нѣкоторые |7r| изъ его товарищей польскаго происхожденія подобно ему оставившихъ заведеніе, оказались въ шайкахъ мятежниковъ, а также и предположенною поѣздкою съ Гродскимъ и другими обнаруженными по сему дѣлу обстоятельствами навлекаетъ сильное подозреніе въ знаніи о преступныхъ его намѣреніяхъ и что цѣлью поѣздки ихъ было желаніе поступить въ шайку, но принимая въ соображеніе, $1^{е}$, молодые лѣта Немысскаго которыхъ ему $17^{ть}$, $2^{е}$, личное мое мнѣніе, составленное въ слѣдствіе разговора съ нимъ, что если онъ и намѣренъ былъ поступить въ шайку, то причинаю этому были его товарищи поляки, которыми онъ, какъ не совсемъ еще развитый, былъ увлеченъ; $3^{е}$, что намѣреніе совершить преступленіе, было предупреждено, хотя и по независѣвшемъ отъ Немысскаго обстоятельствамъ; $4^{е}$, слабый надзоръ и быть можетъ непра|7v|вильное воспитаніе учениковъ строительнаго училища, изъ котораго оказалось теперь такъ много погибшихъ молодыхъ людей, въ чемъ особенно и непростительно виновато начальство училища и $5^{е}$, содержаніе его подъ арестомъ съ $29^{го}$ Марта сего года, убѣждают меня, что если Немысскій и долженъ быть наказанъ, но сравнительно въ меншей степени съ Гродскимъ. По сему согласно Высочайшаго повелѣнія объявленнаго въ циркулярѣ по войскамъ Виленскаго Военнаго Округа и въ Витебской и Могилевской губерніяхъ расположеннымъ отъ $29^{го}$ Іюня сего $1863^{го}$ года № 301, я полагаю: Немысскаго не лишая дворянскаго достоинства опредѣлить на службу рядовымъ въ войска отдѣльнаго Оренбургскаго или Сибирскаго Корпусовъ впредь до отличной выслуги[1].

Обращаясь за симъ къ обвиненію Коллежскаго Регистратора Кульчицкаго |8r| то хотя и нѣтъ юридическихъ доказательствъ къ обвиненію его, что собираемые имъ свѣденія о цѣнахъ олова и свинца заключали въ себѣ какую либо преступную цѣль, но имѣя въ виду разнорѣчіе въ показаніяхъ его съ братомъ о времени сколько послѣдній пробылъ у него въ Псковѣ (въ дѣлѣ стр. 35 и 38), что братъ его Леопольдъ изобличенъ въ преступныхъ дѣйствіяхъ противъ Правительства, не подтвержденное мѣщанами Жарковымъ и Рябовымъ показаніе Банщиковой о томъ, что она намѣрена была мѣнять ихъ издѣлія на олово и свинецъ, приводятъ къ заключенію, что Коллежскій Регистраторъ Кульчицкій, какъ полякъ, не|могъ не|сочувствовать настоящимъ событіямъ въ Литвѣ и польшѣ и не|знать о преступныхъ дѣйствіяхъ своего брата. На основаніи этихъ данныхъ находя Кульчицкаго неблагонадежнымъ въ политическомъ отношеніи, |8v| я полагаю выслать его на жи-

---

[1] К. Нямыскі, аднак, быў сасланы ў Сібір. Праўда, у 1870-я гг. ён атрымаў дазвол выехаць у Варшаву. І толькі 20 жніўня 1880 г. яму дазволілі вярнуцца ў бацькоўскі маёнтак Бяроза Кобрынскага павета: "Государь Императоръ по всеподданному Г. Министра Внутреннихъ Дѣлъ докладу о находящемся во временномъ отпуску въ Гродненской губерніи дворянинѣ, изъ бывшихъ политическихъ ссыльныхъ, Константинѣ Немысскомъ, въ день 15 августа Всемилостивейше соизволилъ на дозволеніе Немысскому остаться на постоянное жительство на родинѣ" (арк. 354).

тельство въ Пермскую губернію, подъ строгій полицейскій надзоръ, съ предоставленіемъ ему однако|же права поступить тамъ на службу.

Что же касается до показанія Гродскаго и Немысскаго, что они не имѣютъ въ настоящее время ни какого имущества, то для удостовѣренія въ этомъ и наложенія секвестра на имущество, которое имъ въ послѣдствіи можетъ достаться, мною сдѣлано распоряженіе.

Впочемъ мнѣніе мое и участь подсудимыхъ имѣю честь представить на благоусмотреніе Командующаго войсками Виленскаго Военнаго Округа.

Кр. Динабургъ. Августа 15 дня 1863 года.
Генералъ Маіоръ [*подпіс*:] Ковалевскій.

### № 3. Верш з газеты "Demokrata Polski"

**|214r|** „Demokrata Polski"[1]

1861 r. 2 Nowembra Londyn

Jakiś wolnomyślny Rossyanin[2] naśladował z zastosowaniem do położenia swej ojczyzny pieśń: *Boże, coś Polskę*. Przekład tego utworu umieścił świeżo *Dziennik Literacki* lwowski[3]. –

Boże! coś Rossyę[4] przez tak liczne wieki,
Trzymał w ciemnościach na hańbę ludzkości,
Coś jej odmawiał dotąd swej opieki,
Robiąc narzędziem tyraństwa i złości.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Lud nasz nieszczęsny racz oświecić Panie!

Ty! coś niedawno tknięty jej spodleniem,
Zesłał nam mężów, co światła promienie
Rzucili na kraj, i wolności tchnieniem

---

[1] Газета "Demokrata Polski" (як напачатку і "Колоколъ" А. Герцана) з 1857 г. выходзіла ў былой друкарні Аляксандра Рыпінскага ў Лондане (беларускі літаратар прадаў яе сябру Польскага дэмакратычнага таварыства Зянону Свентахоўскаму). Верш *Boże! coś Rossyę* надрукаваны ў 12 аркушы выдання за 2 лістапада 1861 г.

[2] На асобніку газеты з Ягелонскае бібліятэкі (кнігазбор Яна Непамуцэна Яноўскага) алоўкам пададзена, магчыма, імя аўтаркі: *Henryka Pustowojtów*. Маецца на ўвазе Генрыета (Ганна) Пуставойтава (1843–1881), дачка расейскага генерала і польскае шляхцянкі. У 1861 г. удзельнічала ў патрыятычных маніфестацыях у Любліне (дзе жыла ў бабулі), за што ў жніўні 1861 г. выслана пад нагляд паліцыі ў Жытомір, пасля – у адзін з маскоўскіх манастыроў, адкуль уцякла ў паўстанцкі аддзел Мар'яна Лангевіча. У "Колоколѣ" А. Герцэн змясціў пра яе нататку *Русская женщина у Лангевича* (1863, листѣ 159, 15 марта, с. 1317).

[3] Верш *Boże, coś Rosję* з падтытулам *Przekład z rosyjskiego* ўпершыню быў надрукаваны ў львоўскай газеце „Dziennik Literacki" (1861, nr 78, 1 października, s. 624).

[4] Л. Кульчыцкі даволі дакладна перадае асаблівасці пісьма верша ў газеце "Demokrata Polski". Праўда, ён не выкарыстоўвае літару ***é***, у слове *Rosya* піша два ***ss*** і не заўсёды захоўвае пунктуацыю лонданскага выдання.

Przygotowali z kajdan uwolnienie. –
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Pestlów, Hercenów daj nam więcej Panie!

Daj naszej Rossyi poczucie wolności,
Niech w niej wytępią katowskie jaskinie,
Daj jej poznanie o ludów godności,
Niech z barbarzyństwem despotyzm zaginie.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Ojczyznie naszej racz dać wolność Panie!

Boże! którego ramię sprawiedliwe
Żelazne berła[1] władców kruszy,
Zniszcz raz tyranów zamiary szkodliwe
Obudź nadzieję w naszej biednej duszy.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Z tyrańskiej władzy racz wybawić Panie!

Znów naród Polski ze łzami boleści,
Krwią męczenników kreśli dziejów kartę,
Co ludom, Rosyi tyraństwa obwieści,
I rzuci piętno hańby niezatarte.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Od nowej hańby zbaw nasz naród Panie!

Gdy cała Polska żałobą pokryta
Modlitwą, łzami o swą wolność prosi,
Sołdat krzyż łamie, morduje i chwyta,
Lud śpiewający, do fortec unosi.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Tak strasznej zbrodni rycz odpuścić Panie!

|214v| O! Polsko! Polsko! za twoje cierpienia,
Któremi dręczy rząd dzikiej srogości,
Lud Rossyi błaga Twego przebaczenia,
Boś ty jest dźwignią i jego wolności.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Z podłych służalców oczyść Rossyję Panie!

Nie walczyć z Polską, ale iść jej śladem,
Uczyć się od niej godności i zgody,
Nie grzeszyć dzikim zbójeckim napadem,
Na ziemię polską i na jej swobody.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie
Takiem uczniem racz nas natchnąć Panie!

---

[1] Перапісвальнік прапусціў слова *świata*.

I myśmy ofiar ponieśli już krocie,
Podobnej Polsce ulegamy doli,
A żyjąc ciągle w hańbie i sromocie,
Dźwigamy jarzmo ohydnej niewoli.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Zbudź synów Rossyi miłosierny Panie!

Boże wszechmocny! niech ta krew przelana
Co ją broń nasza z Polski wytoczyła,
Nie na nas spadnie, ale na tyrana,
Którego ręce krew ta pobroczyła.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Krwawe morderstwa Rossyi przebacz Panie!

Lud nasz nie pragnie dla zdobyczy boju,
Nie chce już cudzej własności posiadać,
Pragnie swobody używać w spokoju,
Nie chce swych więzów innym ludom wkładać.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Z kajdan niewoli racz nas rozkuć Panie!

Lud Rossyi przeklnie wyrodnego syna,
Co krwią Polaków splami swoje dłonie,
Matki i żony odepchną Kaina,
Który zeszpeci zbrodnią swoje dłonie.
Przed Twe ołtarze zanosim błaganie:
Wyrodnych synów nie daj więcej Panie![1]

## № 4. Песня з часоў паўстання 1830–1831 гг.

Тэкст, занатаваны Л. Кульчыцкім, як удалося высветліць, напісаны быў каля 1830 г. у Варшаве. Знаны гісторык літаратуры Здзіслаў Скварчынскі (1914–1987) выявіў яго ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы і апублікаваў у часопісе “Prace Polonistyczne = Studies in Polish Literature” (1978, t. 34, s. 223–226). У кароткай прадмове паведамлялася, што твор, “oddający już nastroje zdecydowane terrorystyczne”, паходзіць з рукапіснага збору (сігнатура: rkps 127, t. III, f. 15, s. 73: *Wiersze różne z powstania listopadowego*) і пачынаецца нататкаю: “Z «Tygodnika». У ням[ецкіх] газетах было пра мардаванне маскалёў у Варшаве; наступная песенька, разасланая памагатым царск[ага] Намесніка, была прычынаю гэтага; зрабіла яна на іх страшэннае ўражанне, шукаюць яе аўтара”[2].

[1] Рукапіс гэтага верша захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны. Гл.: *Вірш невідомого автора* Молитва росіян, *1861 р., травня 31*, ф. 474, оп. 1, спр. 116, арк. 283–283v. Гл.: [online] https://cdiak.archives.gov.ua/v_do_150_pochatku_Polskogo_povstannya_1863-1864.php [доступ: 18.03.2020].

[2] Z. Skwarczyński, *Z pieśni przedpowstaniowych*, “Prace Polonistyczne = Studies in Polish Literature” 1978, t. 34, s. 225.

У бібліятэку, трэба думаць, “песенька” трапіла ад аднаго з непасрэдных удзельнікаў паўстання (пазней – палітычнага эмігранта) і пэўна ім жа занатаваны наступны тытул: *RUCHAWKA* (na nutę *Pije Kuba do Jakuba*).

Невядома, якім чынам твор трапіў да Л. Кульчыцкага, але, відаць, узнаўляўся ён па памяці; гэта можна заўважыць, супастаўляючы яго з тэкстам, апублікаваным З. Скварчынскім[1].

|**215r**| Hej Polacy, hej rodacy,
Pókiż tego będzie,
My junacy, a rusacy
Batożą nas wszędzie.
Kto źle z nami żyje
Sprzątnąć co do duchu
Knyp pod żebro, stryk na szyję,
Lub kosą po uchu.

Bydło rodzi, ziemia płodzi,
Moskal wszystko zjada,
Co popadnie, wszystko ujada
Oj biada nam, biada!
Kto krwią naszą żyje
Sprzątnąć co do duchu
Knyp pod żebro, stryk na szyję,
Lub kosą po uchu.

---

[1] *RUCHAWKA* (na nutę *Pije Kuba do Jakuba*)

Hej rodacy, hej Polacy,
Pókiż to tak będzie?
My junacy, a kozacy
Batożą nas wszędzie!
Kto źle z nami żyje,
Sprzątnąć go co duchu!
Nóż pod żebra, stryk na szyję
Lub pałką po uchu.
Ziemia rodzi, bydło płodzi,
Moskal wszystko zjada,
Co dopadnie, to ukradnie.
Oj! biada nam, biada!
Kto krwią naszą żyje,
Sprzątnąć go co duchu!
Nóż pod żebra, stryk na szyję
Lub pałką po uchu.
Ksiądz w kościele gada wiele,
Zabijać zabrania,
Moskal siecze, aż krew ciecze,
Aż się kość odsłania.
Kto nas dręczy, bije,
Sprzątnąć go co duchu etc.
Dzisiaj Icki trzęsą mycki,
Bo im teraz gwoli.
Dziś Żyd wszędzie na arendzie
I strzyże, i goli.
Kto z oszustwa żyje,
Sprzątnąć go co duchu etc.
Chłop w rekruty w dyby kuty,
Jak bydlę go gnają,
A panowie, hrabiątkowie
Z Moskwą w karty grają.
Kto z wrogami żyje,
Sprzątnąć go co duchu etc.
Gubernator to orator:
Cara równa z Bogiem,
A kto mruknie, wnet go huknie
Po nosie batogiem.
Oj, to podłe żmije!
Sprzątnąć je co duchu etc.
Ognia krzeszcie, wiatrem nieście,
Nie ma co żałować,
Lepiej spalić, dom rozwalić,
Niż w nim zbójców chować.
Polska niech nam żyje!
A kto nie w tym duchu,
Nóż pod żebra, stryk na szyję
Lub pałką po uchu.

Gubernator to orator
Cara równa z Bogiem
A kto mruknie tego huknie
Po grzbiecie batogiem
Oj te podłe zmije
Sprzątnąć co do duchu
Knyp pod żebro, stryk na szyję,
Lub kosą po uchu.

Teraz Icki trzęsą mycki
Ufają swej woli
Moskal wszędzie na urzędzie
Strzyże, nawet goli. –
Kto z oszustwa żyje
Sprzątnąć co do duchu
Knyp pod żebro, stryk na szyję,
Lub kosą po uchu.

Chłop w rekruty, gdyby kuty
Jak bydle go gnoją;
A pankowie, Hrabiankowie
Z Moskwą w karty grają
|215v| Kto z wrogami żyje
Sprzątnąć co do duchu
Knyp pod żebro, stryk na szyję,
Lub kosą po uchu.

Ognia krzeście, z wiatrem nieście,
Niema co żałować,
Lepiej spalić, dom rozwalić,
Niż wroga w nim chować.
Polska niech nam żyje,
A kto nie w tym duchu
Knyp pod żebro, stryk na szyję,
Lub kosą po uchu.

## № 5. Невядомы расейскамоўны верш

8 лістапада 1860 года Л. Кульчыцкі занатаваў у сваім дзённіку два расейскамоўныя тэксты антыцарскага зместу. Высветліць аўтарства змешчанага на аркушы злева – не ўдалося.

|261v| 8 Nowembra 1860 roku, środa.

Для роднаго края
Царя Николая
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.

За его заслуги
Жизнь его супруги
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.

Даромъ чудодѣйство
Царское семейство
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.
Всѣ чины и власти
Отъ лихой напасти
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.
Къ счастію народа
Главныхъ лицъ Синода
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.
А отъ просвѣщенія
Всѣхъ безъ исключенья
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.
Для смотра народнаго
Воинство громадное
Господи помилуй
Во вѣки вѣковъ.

### № 6. Верш Кандрата Рылеева

А вось тэкст, змешчаны справа (у другой калонцы), – гэта песня *Царь нашъ – нѣмецъ русскій…* Кандрата Рылеева (1795–1826) і Аляксандра Бястужава (1797–1837), напісаная ў 1823 г. Яна выконвалася на мелодыю папулярнага камічнага дуэта *Як приїхав жолнір*... з оперы-вадэвіля Пятра Сямёнава (лібрэта) і І. Ленгарда (музыка) *Удача отъ неудачи, или Приключеніе въ жидовской корчмѣ* (1817). Фрагмент верша (пад тытулам *Пѣсня*: *Царь нашъ нѣмецъ прусскій*) ўпершыню апублікаваны ў альманаху "Полярная звѣзда на 1859 годъ" (кн. пятая, Лондон 1859, с. 12). У 1850-я гг. у грамадстве шырока распаўсюджваліся варыянты і наследаванні верша К. Рылеева і А. Бястужава.

У дзённіку Л. Кульчыцкі не пазначае, якім чынам траплялі да яго падобныя тэксты.

Нашъ Царь Русскій
Носитъ мундиръ узкій.
Аай да Царь, ай да Царь
Православный Государь.
Царствуетъ а гдѣ же?
Цѣлый день въ манеже[1]
Аай да Царь, ай да Царь
Православный Государь.
Строитъ все казармы
Слуги все жандармы
Аай да Царь, ай да Царь
Православный Государь.
Онъ хорошенькихъ ѣб[…][2]
А мужьямъ кресты даетъ
Аай да Царь, ай да Царь
Православный Государь.
А за комплементы
Жалуетъ и ленты[3]
Аай да Царь, ай да Царь
Православный Государь.
А за правду матку
Ссылаетъ въ Камчатку
Аай да Царь, ай да Царь
Православный Государь.

[1] Маецца на ўвазе г. зв. Коннагвардзейскі манеж – будынак у стылю класіцызму, пабудаваны ў Пецярбурзе ў 1804–1807 гг. для зімовых і летніх выездаў лейб-гвардыі Коннага палка.

[2] У Л. Кульчыцкага слова пададзенае цалкам.

[3] У аўтарскім тэксе гаворка ішла пра блакітныя стужкі (голубые ленты). Вышэйшы ордэн Расейскае імперыі – Андрэя Першазваннага – насілі на блакітнай стужцы праз плячо.

# “Гутарка двух суседаў” як першае беларускамоўнае перыядычнае выданне

“Гутарка двух суседаў” была вядомая Яўхіму Карскаму. Перадусім, першы ненумараваны выпуск “газеты” ён коратка ахарактарызаваў: “Бесѣду ведутъ Józef и Mateusz. Бѣлорусская рѣчь ихъ пересыпана массой полонизмовъ. Основная мысль выражена въ заключительной рѣчи Józefa” і працытаваў апошнія радкі з яго:

O ciepier to wsięko znaju,
I szto BOGA prosić maju,
Prosić budu kab BÓG miły,
Prohnać moskalou dau siły;
Kab bolsz Kryżou nie łamali,
Nas w niewoli nie trymali,
Bo nigdy dobra nie budzie,
Póki moskal radzić[1] budzie[2].

Здаецца, ніхто з беларускіх даследнікаў цягам больш чым трыццаці гадоў пасля Я. Карскага не згадваў гэты беларускамоўны твор часоў паўстання 1863–1864 г.: радкі, пададзеныя Я. Карскім, не вызначаліся, скажам так, “патрэбным” рэвалюцыйным пафасам, а гэта не стымулявала пошукі, бо “газетка” “згубілася” ў архіўных следчых справах паўстанцаў.

Беларускі філосаф І. Лушчыцкі, выявіўшы ў 1950-я гг., хіба, усе нумары выдання ў фондах ІІІ аддзялення і “военного министра” Дзмітрыя Мілюціна, сцвердзіў, што “за нацыянальнай беларускай формай” тут хаваецца “польска-дваранская сутнасць”; што яна “фальсіфікуе сапраўднае становішча спраў у грамадстве і выкрывае эксплуататарскія тэндэнцыі яе аўтара і натхніцеляў – польскіх памешчыкаў. Іх каварная мэта відавочна: прымірыць селяніна з памешчыкам, схіліць сялян на свой бок і ўцягнуць іх на барацьбу за аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г.”[3]. Савецкі навуковец адназначна даводзіў, што “Гутарка двух суседаў”, як і шэраг іншых тэкстаў часоў паўстання, сеялі нацыянальную варожасць паміж рускім і беларускімі народамі, узбуджалі нянавісць да Расіі і рускага народа. І тым самым “выкрэсліваў” іх з корпусу тэкстаў беларускае пісьменнасці.

[1] Так у Я. Карскага. У арыгінале – *rądzić*.

[2] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 87.

[3] І. Лушчыцкі, *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку*, Мінск 1958, с. 168, 169.

Аднак, як і ў выпадку з *Гутаркай старога Дзеда*, вяртанню “Гутаркі двух суседаў” у кантэкст літаратуразнаўчых даследаванняў паспрыяла міждзяржаўная праграма па святкаванню сотае гадавіны Паўстання 1863–1864 гг. Па-першае, Стафан Кеневіч і Ілля Мілер, рэдактары-складальнікі зборніка *Prasa tajna z lat 1861–1864 / Подпольная пресса 1861–1864*, уключылі “Гутарку двух суседаў” у сваё выданне[1] як адзін з першых рэвалюцыйных перыёдыкаў, датуючы яго выхад у свет красавіком 1861 г.[2]. Па-другое, З. Тальвірская, расейская даследніца, аспрэчыла вульгарна-сацыялагічны погляд беларускае савецкае навукі на беларускамоўныя тэксты часоў Паўстання: “нельзя принять <…> оценку, данную И.Н. Лущицким всем *Гуторкам* вместе. Значение *Гуторок* для истории общественного движения в Белоруссии этого времени, несомненно, велико. *Гуторка старого деда* была главным идейным материалом, с которым шли к крестьянам сторонники активного движения в 1861 г. Отрицательные черты ее программы были характерны для всего движения, еще во многом незрелого политически. “Гуторка двух соседей” отразила в себе дальнейшую эволюцию взглядов партии «красных» к программе ЦНК[3], но уже не являлась ни единственным, ни даже наиболее полным выражением этих взглядов”[4].

Спасылаючыся на З. Тальвірскую, *Гутарку старога Дзеда* і “Гутарку двух суседаў” асцярожна характарызаваў як станоўчую з’яву ў тагачасным грамадска-палітычным жыцці Адам Мальдзіс[5], супрацьпастаўляючы, аднак, ім наступныя “шляхецка-нацыяналістычныя” публікацыі: *Перадсмяротны разгавор пустэльніка Пятра…*, *Песні набожныя*, *Крыўда і праўда*, *Ці знаеце вы дзеці…* і нават *Лемантар для добрых дзетак католікаў*. Істотна таксама тое, што “Гутарка двух суседаў” упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве названая “першай беларускай газетай”[6].

---

[1] Гл.: “*Hutorka dwóch susiedou*” [w:] *Powstanie Styczniowe: Materiały i dokumenty* / *Восстание 1863 года: Материалы и документы*, t. II*: Prasa tajna z lat 1861–1864*, cz. 1 / *Подпольная пресса 1861–1864 гг.*, ч. 1, Wrocław–Warszawa–Kraków 1966, s. 156–166. Другі нумар “Гутаркі…”, выяўлены пазней, надрукаваны ў трэцяй частцы (томе) выдання: Гл.: “*Hutorka dwóch susiedou”. Nr 2* [w:] *Powstanie Styczniowe: Materiały i dokumenty* / *Восстание 1863 года: Материалы и документы*, t. II*: Prasa tajna z lat 1861–1864*, cz. 3 / *Подпольная пресса 1861–1864 гг.*, ч. 3, Wrocław–Warszawa–Kraków 1970, s. 301–303.

[2] Праўда, на першым месцы ў томе апынулася ўсё ж “Strażnica”, якая пачала выдавацца 1 ліпеня 1861 г. Красавік 1861 г. як выхад у свет першага нумару беларускамоўнае газеты выводзіўся даследнікамі ўскосным чынам. Відавочна, таму, што дакладных звестак гісторыкі не мелі, дата падавалася з пытальнікам: [1861 (?)] ці [Kwiecień 1861?].

[3] Цэнтральны нацыянальны камітэт (Komitet Centralny Narodowy) – кіроўны орган “чырвоных”, заснаваны ў чэрвені 1862 г. замест Гарадскога Камітэту (Komitetu Miejskiego).

[4] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 63.

[5] А. Мальдзіс, *Літаратура XIX ст.* [у:] *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, т. 2: *Літаратура XIX – пачатку XX ст.*, Мінск 1969, с. 51–53.

[6] Газетай называў выдаваныя ім тэксты Браніслаў Шварцэ. Праўда, тытул гэтае газеты ён падае як “Hutorkę staraho dzieda”. Гл.: *Wspomnienia z czasów młodości* [w:] *Wydawnictwo materiałów do historii powstania 1863–1864*, t. IV, Lwów 1894, s. 178. І, вядома, як газета друкавалася “Гутарка двух суседаў” у зборніку *Prasa tajna z lat 1861–1864*.

Тое ж самае паўтарыў у сваім даследаванні праблемаў развіцця беларускае літаратуры і друку Сцяпан Александровіч: “У *Гутарках* было здаровае рацыянальнае зерне – крытыка царызму і парэформенных парадкаў у краіне, што імпанавала настрою беларускага сялянства”[1]. Апрача таго, навуковец звярнуў увагу, што “няроўныя, а часам і слабыя ў мастацкіх адносінах агітацыйныя творы[2] пераканаўча сцвярджалі магчымасць стварэння літаратуры на пагарджанай і забароненай беларускай мове, рыхтавалі глебу для сапраўды народнай публіцыстыкі, прасякнутай палымянай нянавісцю да прыгонніцтва і прыгнёту царызму, – публіцыстыкі Кастуся Каліноўскага”[3].

Упершыню ў хрэстаматыю па беларускай літаратуры “Гутарка двух суседаў” была ўключаная ў 1988 г.: 190 радкоў з першага, трэцяга і чацвёртага нумароў выдання, што складала амаль 65% іх аб’ёму. Нягледзячы на гэта, аднак, у падручніку для студэнтаў філалагічных факультэтаў Алега Лойкі твор (як, дарэчы, і ўсе іншыя тэксты[4] агітацыйнай паўстанцкай літаратуры) не згадваецца.

У беларускія энцыклапедычныя выданні звесткі пра твор падаў Г. Кісялёў[5], а выдадзены ў 1986 г. зводны каталог друкаваных выданняў Беларусі (1517–1917) фіксуе “Гутарку двух суседаў” у раздзеле “Перыёдыка”. Тут дакладна акрэслена месца захаванне другога нумара газеткі; пра іншыя ж гаворыцца, што першы і чацвёрты маюцца ў ЦДАКР у Маскве ў зборах III-га аддзялення, а трэці – у ЦДГА ЛітССР у Вільні ў зборах канцылярыі тайнага аддзялення віленскага генерал-губернатара[6]. Без спасылкі на крыніцу (як і ў энцыклапедычным артыкуле Г. Кісялёва) тут таксама паведамляецца: “Ёсць меркаванні, што аўтарамі яго былі У. Сыракомля і В. Каратынскі”[7].

У 1999 г. Г. Кісялёў апублікаваў усе нумары *Гутаркі двух суседаў* у кнізе серыі *Гісторыка-літаратурныя помнікі* “Беларускага кнігазбору” паводле польска-расейскага выдання *Prasa tajna z lat 1861–1864*, робячы “асобныя праўкі-кан’ектуры <…> па архіўных тэкстах або <…> сэнсу”[8]. Навуковец грунтоўна пракаментаваў сваю публікацыю. У 2007 г. “Гутарка

---

[1] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 24.

[2] Праўда, не зусім зразумела: даследнік мае на ўвазе толькі станоўча – у цэлым – ацэненыя З. Тальвірскаю, А.Мальдзісам і ім самім *Гутаркі* ці ўсю антыцарскую агітацыйную літаратуру?

[3] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 24.

[4] Як выключэнне – верш-песня *Божы час, божы час…* Гл. А. Лойка, *Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд, у 2 частках*, ч. 1: *Падруч. для філал. фак. ВНУ*, 2-е выд., дапрац. і дап., Мінск 1989, с. 103.

[5] Г. Кісялёў, “*Гутарка двух суседаў*” [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 тамах*, т. 2, Мінск 1985, с. 242. Гл. таксама: *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 тамах*, т. 3, Мінск 1996, с. 182.

[6] *Кніга Беларусі (1517–1917): Зводны каталог*, Мінск 1986, с. 266.

[7] *Ibidem*.

[8] К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 225–239, 384–387.

двух суседаў" дачакалася літаратуразнаўчага аналізу ў акадэмічнай *Гісторыі беларускае літаратуры*[1].

У XXI стагоддзі поўны тэкст "Гутаркі двух суседаў" яшчэ двойчы ўзнаўляўся: у 2008 г. Язэп Янушкевіч уключыў яго (лацінкаю і грамадзянскім пісьмом) у раздзел *Dubia* збору твораў В. Дуніна-Марцінкевіча ў двух тамах (хоць Беларускаму Дудару, здаецца, ніхто з даследнікаў дадзены тэкст беларускае літаратуры XIX ст. не прыпісваў), а Ніна Сянкевіч апублікавала ў *Канкардансе беларускай мовы XIX стагоддзя*[2], тым самым стымулюючы далейшае даследаванне помніка.

Перш-наперш варта колькі слоў сказаць пра тыя арыгінальныя асобнікі выдання, што захаваліся да нашага часу. Прынамсі, адзін камплект (няхай сабе і ў двух розных архівах) выдання мы можам ахарактарызаваць дакладна (першыя пазіцыі ў спісах). Менавіта паводле іх і публікуецца твор у нашым томе. Звесткі пра іншыя асобнікі падаюцца паводле згадак (неверыфікаваных, а таму не заўсёды пэўных) у навуковай літаратуры.

Першы нумар "Гутаркі двух суседаў" захоўваецца:

- НГА РБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 419–420v[3].
- ГАРФ, ф. 109, оп. 36 [*1 экспед. 1861 г.*], д. 531 [*О представленных из Белостока "Разговоре /гуторка/ двух соседей", аллегорических изображениях и польско-патриотических гимнов* (sic!), 8 декабря 1861, 34 л.][4].
- РГИА, ф. 1282, оп. 1, д. 28 [*Переписка с генерал-губернатором, военными и гражданскими губернаторами Западных губерний о принятии мер к прекращению <…> антиправительственных выступлений и пропоганды в этих губерниях*], лл. 65–67[5].

Другі нумар "Гутаркі двух суседаў" захоўваецца:

- НГА РБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 421–422v[6].

---

[1] Г. Кісялёў, *Агітацыйная публіцыстыка 1860-х гадоў* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 296–299.

[2] Гл.: *Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя* [online] http://iml.basnet.by/be/ naviny/19-01-2016-kankardans-bielaruskaj-movy-chich-stahoddzia (доступ: 12.03.2018).

[3] У гэтай жа архіўнай справе маецца яшчэ адзін асобнік першага нумару (арк. 434–435v), таксама рукапісная копія (арк. 438–439v) з пазнакамі, што яна знойдзеная 9 мая 1862 г. і што арыгінал пададзены губернатару 20 снежня 1861 г. (sic!) Тут жа знаходзяцца фрагменты рукапіснае копіі з празаічным перакладам на расейскую мову (арк. 444–444v).

[4] Вельмі верагодна, што паводле гэтае архіўнае справы першы нумар апублікаваны ў зборніку *Prasa tajna z lat 1861–1864*. Але ў такім выпадку незразумела, чаму выдаўцы гэтага зборніка не заўважылі ў справе другі нумар газеты. З. Тальвірская няраз спасылаецца на гэтую справу, калі згадвае першы нумар выдання. На жаль, старонкі яна падае недакладна.

[5] Інфармацыя З. Тальвірскае, хоць і не зусім зразумела: даследніца спасылаецца на асобнік выдання ці на пэўныя дакументы, у якіх ідзе гаворка пра першы яго нумар.

[6] У гэтай жа архіўнай справе маецца рукапісная копія другога нумару (арк. 436–437v) з пазнакаю, што яна знойдзеная 9 мая 1862 г.

- ГАРФ, ф. 109, оп. 36 [*1 экспед. 1861 г.*], д. 531, лл. 28–29[1].

Трэці нумар *Гутаркі двух суседаў* захоўваецца:

- LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1519 [*Uczestnicy założenia biblioteki p. n. „Biblioteka Oszmiańskiej Młodzieży"*], l. 44–75v[2].
- LVIA, f. 378, PO, 1863, b. 1027, l. 3–5[3].

Чацвёрты нумар Гутаркі двух суседаў захоўваецца:

- LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1519, l. 76–85v[4].
- ГАРФ, ф. 109, оп. 36 [*1 экспед. 1861 г.*], д. 531[5].

Істотнай праблемай з'яўляецца і датаванне нумароў "Гутаркі двух суседаў". Выдаўцы зборніка *Prasa tajna z lat 1861–1864* сцвердзілі, што першы нумар убачыў свет у красавіку 1861 г. („po wydarzeniach warszawskich z lutego–kwietnia, a aresztowaniem Hryniewieckiego (sic!) 8 V 1861 r."[6]). Пазнейшыя даследнікі наўпрост не аспрэчвалі гэтую дату[7], хоць З. Тальвірская і даводзіла, што ў друкарні Б. Шварцэ першаю з'явілася *Гутарка старога Дзеда* (прычым, не раней кастрычніка 1861 г.), а пасля ўжо і "Гутарка двух суседаў". Аднак расейскі навуковец, відаць, памылялася, калі лічыла, што Б. Шварцэ надрукаваў у 1861 г. "пазнанскае" выданне *Гутаркі…* Усё ж, як мы бачылі раней, гэтае выданне не магло выйсці ў Беластоку, дзе была адно ручная друкарня. Можна меркаваць, што Б. Шварцэ па даручэнню Гарадскога камітэта Апалона Кажанёўскага і прывезенымі шрыфтамі Б. Дэнеля ў кастрычніку–лістападзе 1861 г. надрукаваў ненумараваны (бо, магчыма, яшчэ не планавалася выдаваць працяг) нумар "Гутаркі двух суседаў". Гэта была кніжачка (складзены папалам аркуш паперы 16,5x20,0 см) фармату А5[8]. Тэкст жа твора сапраўды мог быць напісаны вясною 1861 г., пасля аб'яўлення "волі" і "масакры" ў Варшаве 8 красавіка 1861 г., ды знаходзіўся ў пэўнай "тэкставай" залежнасці ад *Гутаркі старога Дзеда.*

---

[1] Інфармацыя І. Лушчыцкага. Тое самае ў Г. Кісялёва (*Каментар* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 385). Са спасылак З. Тальвірскае вынікае, што другі нумар выдання ў гэтай справе мае іншую нумарацыю – *лл. 33–34*.

[2] У справе захоўваецца 16 асобнікаў трэцяга нумару.

[3] Выдаўцы зборніка *Prasa tajna z lat 1861–1864* спасылаюцца на крыніцу так: "w Centralnym Państwowym Archiwum Historycznym Lit. SRR w Wilnie (w zespole Kancelarii generał-gubernatora wileńskiego, wydział tajny). Абодва месцазахаванні трэцяга нумару падае ў сваёй працы З. Тальвірская.

[4] У справе захоўваецца 5 асобнікаў чацвёртага нумару.

[5] Выдаўцы зборніка *Prasa tajna z lat 1861–1864* спасылаюцца на крыніцу так: "w Centralnym Państwowym Archiwum Rewolucji Październikowej w Moskwie (w zespole Wydziału III)".

[6] *"Hutorka dwóch susiedou"* [w:] *Powstanie Styczniowe: Materiały i dokumenty* / *Восстание 1863 года: Материалы и документы*, t. II*: Prasa tajna z lat 1861–1864*, cz. 1 / *Подпольная пресса 1861–1864 гг*., ч. 1, Wrocław–Warszawa–Kraków 1966, s. 158.

[7] На думку Рыгора Максімовіча (псеўданім Вітаўта Тумаша), "Гутарка двух суседаў" выйшла ў свет вясною 1861 г., а *Гутарка старога Дзеда* – увосень таго ж года. Гл.: Р. Максімовіч, *Дзьве папярэдніцы „Мужыцкае Праўды"*, "Запісы БІНйМ" 1977, № 15, с. 69–70.

[8] *Bibliografia Polska* Караля Эстрайхера фармат выдання падае як "w 8ce". Інакш – in folio: складзены папалам аркуш паперы, які ўтварае чатыры старонкі. Дзеля выдання *Гутаркі старога Дзеда* падобны аркуш паперы (15,0x19,0) складваўся два разы (in quarto), каб атрымалася восем старонак.

Што датычыць Грынявіцкага[1] як аднаго з выдаўцоў і памочнікаў Б. Шварцэ, дык быў ім хутчэй за ўсё не Адольф (удзельнік маніфістацыі 8 мая 1861 г. у віленскім кафедральным касцёле, за што быў арыштаваны і праз тры месяцы высланы ў Пермскую губерню)[2], а нехта іншы. З. Тальвірская, якая адмыслова вывучала гэтае пытанне, піша, што з Гродзенскае губерні за ўдзел у паўстанні былі высланы дзевяць Грынявіцкіх і праз прызму следчых спраў прасачыла лёс сямі Грынявіцкіх, у тым ліку і Яахіма Грынявіцкага, бацькі нарадавольца Ігната[3]. А быў ім – хутчэй за ўсё – Ян, сын Фларыяна Грынявіцкі, 44 гадоў, здаецца, уладальнік маёнтка Gliniszcze Małe і пазнейшы паўстанцкі начальнік Сакольскага павету[4] ці дваццацідвухгадовы калежскі рэгістратар з Беластоку Мечыслаў Грынявіцкі, які паходзіў таксама Сакольскага павету.

Вельмі істотным у справе датавання першага выпуску "Гутаркі двух суседаў" з'яўляецца і тое, што ўпершыню ўлады даведаліся пра існаванне "возмутительнаго листка" з рапарту штаб-афіцэра корпусу жандараў у Беластоку маёра Штэйна ад 30 лістапада 1861 г. З гэтага часу вайскоўцы, паліцыя і жандары цягам 1862 – першае паловы 1863 г. часта выяўлялі ў розных мясцінах Гарадзеншчыны і Віленшчыны нумары беларускае газеткі[5].

---

[1] Пра Грынявіцкага згадаў Б. Шварцэ ў сваіх заўвагах на ўспаміны аднаго з удзельнікаў паўстання, змешчаныя ў зборніку *Wydawnictwo materyałów do historyi powstania 1863–1864*, Lwów 1894, t. 4, z. 1, s. 178–189: „Nie skompromitowałem się swoją «lekkomyślną» działalnością w Warszawie, z tej prostej przyczyny, że od maja 1862 r. byłem «nielegalnym», uciekłszy z Białegostoku, gdzie zaprowadziłem bojową organizację już w 1861 r., i drukowałem, razem z Białokozem i Hryniewieckim, pierwsze białoruskie pisemko, *Hutorka staroho dzieda*. Więc szukano mię wszędzie…". Варта заўважыць у гэтым месцы, што Б. Шварцэ, відаць, лічыў значным сваім дасягненнем выданне беларускамоўных тэкстаў Паўстання і яшчэ двойчы ўспамінаў пра гэта. Па-першае, мы памятае пра шмат разоў цытаваны даследнікамі фрагмент, а па-другое, былі яшчэ словы, чамусьці прапушчаныя навукоўцамі: "Spadłem im jak z nieba dla dopełnienia, po długich sporach, nowego składu Komitetu z siędmiu członków. Dla prawicy (Giller) byłem serdecznym przyjacielem i współwyznawcą Bolesława Denela, przeciwnika terroryzmu, dla Dąbrowskiego kolegą Kieniewicza i znajomym jego petersburskich sztabowców (Heidenreicha, Zwierzdowskiego i innych), którzy często u mnie w Białymstoku przejazdem nocowali, nareszcie wydawcą *Hutorki*; dla Koskowskiego i innych czerwieńszych szwagrem Władysława Jeski, dobrym znajomym Frankowskich; dla wszystkich osobistością obeznaną z ruchem litewskim, naczelnikiem organizacyi przy kolei Petersburskiej…". Гл.: B. Szwarce, *I. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862* [w:] *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*, Lwów 1903, s. 447.

[2] Гл.: *1861 г. июня 2. – Отношение В.И. Назимова В.А. Долгорукову о манифистации 8 мая в Вильне* [в:] *Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Материалы и документы*, Москва 1964, с. 253–260.

[3] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 41–43.

[4] Гл.: *Katalog miejsc pamięci powstania styczniowego w województwie podlaskim*, Białystok 2013, s. 16; J. Danieluk, *Instrukcja z 23 lipca 1865 roku oraz jej zastosowanie na terenie byłego obwodu białostockiego w latach 1867−1878*, „Czasopismo prawno-historyczne" 2019, t. LXXI, z. 1, s. 142.

[5] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 44–47.

Другі нумар “Гутаркі…” мог быць напісаны не раней, чым ў кастрычніку-лістападзе 1861 г., а выдадзены не пазней, чым у сакавіку 1862 г.: у тэксце твора ідзе гаворка пра красавіцкую масакру ў Казанскай і Пензенскай губернях, а таксама пра кастрычніцкае закрыццё ўсіх варшаўскіх касцёлаў і капліцаў. У прыпісе да тэксту (зробленаму, мажліва, рэдактарамі-выдаўцамі) пра генерала Аляксандра Дранякіна (1812–1894), які быў вайсковым губернатарам Гродна і гарадзенскім цывільным губернатарам з 1 кастрычніка 1861 г. да 18 сакавіка 1862 г., паведамляецца як пра яшчэ дзейнага губернатара.

У рукі жандараў другі нумар газеты трапіў 26 красавіка 1862 г. Якраз у гэты час улады актыўна шукалі Б. Шварцэ, які, відавочна, ужо не працаваў на чыгунцы, а быў, як сам пісаў, “нелегалам”. Ужо 6 сакавіка (старога стылю) у канцылярыі гродненскага губернатара было заведзена *Дело о розыске и высылке за границу французского подданого Шварца Бронислава за участие в антиправительственных манифестациях. 6 марта – 26 июня 1862 г.*[1]. Звернем увагу: кіраўніка беластоцкае арганізацыі шукаюць адно за ўдзел у палітычных акцыях, але жандары анічога не ведаюць пра ягоную выдавецкую дзейнасць. Як, дарэчы, і пра падобную дзейнасць супольніка Б. Шварцэ – Адольфа Белакоза (каля 1826 – 1895 ці 1865)[2].

Трэці нумар “Гутаркі…” ўпершыню быў выяўлены 28 кастрычніка (ст. ст.) 1862 г., а чацвёрты – 10 студзеня 1863 г. Ці сведчыць гэта, што і рыхтаваліся яны да друку ў другой палове 1862 года? Магчыма. Бо ў тэксце твора знаходзім пэўныя падказкі: “rekruta wziaci majuć” (трэці нумар)[3], а таксама змешчанае напрыканцы чацвёртага нумару *Objawlenie* пра тое, што новая ўлада аддасць ва ўласнасць сялянам зямлю, а ў войска будзе браць “z mużykou i ze szlachty po odnomu z tysiąca i służby budzie tolko sześć let”. Даследнікі звязваюць гэтае *Objawlenie* з Адозваю варшаўскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ад 12 жніўня 1862 г., дзе сапраўды ішла гаворка, што “do wojska iść się będzie z losowania i tylko na 6 lat”, хоць пра колькасць рэкрутаў з тысячы і не згадвалася.

Цікава тое, што нават пасля таго, як Б. Шварцэ пакінуў Беласток, “Гутарка…” працягвала выдавацца, застаючыся ў полі ўплыву варшаўскага

---

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, фонд 1 [*Канцелярия Гродненского губернатора*], вопіс 34 [*1842–1868*], справа 38, 12 арк.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, фонд 1 [*Канцелярия Гродненского губернатора*], вопіс 34 [*1842–1868*], справа 46 [*Дело р высылке из города Белостока учителя музыки Белокоса* (sic!) *и чиновника Савицкого, подозреваемых в политической неблагонадежности и установлении за ними полицейского надзора. 30 апреля 1862 г. – 11 апреля 1863 г.*], 13 арк.

[3] Вядома, што якраз у кастрычніку 1862 г. (апублікавана 6.10.1862 г. ва ўрадавай газеце „Dziennik Powszechny”) Аляксандар Веляпольскі (1803–1877), кіраўнік цывільнага ўраду Польскага Каралеўства, паведаміў пра набор у расейскае войска паводле імянных спісаў (а не лёсавання, як было раней), каб не дапусціць выбуху паўстання. Уражвае аператыўнасць: інфармацыя пра новы рэкруцкі набор паспела трапіць да аўтара, тэкст – на друкарскі станок, газета – да чытача і жандараў. І гэта ўсё ў кастрычніку – пачатку лістапада.

ЦНК. Варта, аднак, колькі слоў сказаць пра тое, што Б. Шварцэ імкнуўся надаваць рэвалюцыйнаму руху на пераважна беларускамоўнай Беласточчыне прапольскі характар, хоць і “stawiał w Białymstoku drukareńkę białoruską, stąd wychodziły proklamacje do ludu”[1]. Больш за тое, ягоная “drukareńka” павінна была пашыраць сваю прадукцыю на іншыя землі былога Вялікага Княства Літоўскага. Тлумачылася гэта ідэяй салідарызацыі ў барацьбе з агульным ворагам, а на справе азначала поўнае падпарадкаванне варшаўскаму ЦНК. Але ўжо летам 1862 г. выявіліся выразныя сепаратысцкія памкненні ліцвінаў[2], якія Аскар Авейдэ называе спрэчкамі, “которые перешли в открытую вражду. <…> Будучы не в состоянии ни убедить, ни обуздать Дюлёрана и других, виленский комитет постановил решительными мерами восстановить разрушавшийся порядок и потому удалил из среды своей Дюлёрана, запретил членам организации под страхом наказания слушаться в чем-нибудь кого-либо из варшавских агентов и приказал убить Шварца при первом появлении его в пределах Литвы”[3].

Пасля ад’езду Б. Шварцэ ў Варшаву, віленская арганізацыя пераймае ягоную друкарню і ў ліпені 1862 г. публікуе, відаць, у ёй першы нумар газеты “Mużyckaja prauda”. Прычым, выдае газету штомесячна (прынамсі, першыя шэсць нумароў)[4] і вялікімі накладамі.

Мы далёкія ад думкі, што паміж выданнямі Б. Шварцэ і К. Каліноўскага існуюць прынцыповыя адрозненні. Невыпадкова шмат якія сучаснікі, а таксама пазнейшыя даследнікі не маглі выразна акрэсліць тое ці іншае выданне, прыпісваючы, напрыклад, *Гутарку старога Дзеда* (А. Авейдэ[5]) і “Гутарку двух суседаў” (В. Рагойша[6]) рэдактарска-выдавецкай працы К. Каліноўскага.

У справе атрыбуцыі беларускамоўных тэкстаў Паўстання 1863 года істотна высветліць, што выдала “drukareńka białoruska” Б. Шварцэ. Мы памятаем, што сам кіраўнік рэвалюцыйнае арганізацыі Беласточчыны назваў толькі *Гутарку старога Дзеда*. Праўда, даўшы ёй дастаткова неадназнач-

---

[1] J. Grabiec, *Rok 1863*, Poznań 1913, s. 123.

[2] Сам Б. Шварцэ пра гэта пісаў так: “Co do mnie, musiałem walczyć zawzięcie z Wileńczykami, którzy chcieli koniecznie utworzone przez nas kadry wcielić do swojej organizacyi, przeciwnej natychmiastowemu powstaniu. Nawet Walery Wróblewski, któregom był zaprzysiągł w Sokółce, a raczej w szkole leśniczej pod Sokółką, dał się odciągnąć przez grodnieńskiego Jundziłła i przestał słuchać Warszawy, zupełnie jak za czasów Jana Chryzostoma Paska. <…> A oponowanie kolei Petersburskiej i Brzeskiego województwa było rzeczą najwyższej wagi dla powstania; dla tego później chciałem je przyłączyć do Korony, z wielką zgrozą Litewskiej autonomji”. B. Szwarce, *I. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862* [w:] *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*, Lwów 1903, s. 446–447.

[3] А. Авейдэ, *Ліцвіны ставяць умовы Варшаве* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 175–176.

[4] Гл.: Г. Кісялёў, *Каментар* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 296.

[5] Гл.: А. Авейдэ, *Ліцвіны ставяць умовы Варшаве* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 177.

[6] Гл.: *Каментарыі* [у:] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 465–466.

ную для разумення “жанравую” характарыстыку: “pierwsze białoruskie pisemko”[1]. Які сэнс укладваў Б. Шварцэ ў слова “pisemko”? Той, які падаюць сучасныя тлумачальныя слоўнікі польскае мовы: “utwory literackie, publicystyczne, dzieła naukowe itp.” ці “czasopismo, np. gazeta codzienna, tygodnik, miesięcznik itp.”? Але ж у часы Паўстання слова “pismo” азначала яшчэ і ўсё напісанае з мэтаю агітацыі – “пасланне, адозву, зварот”[2]. Пісьмамі называў нумары “Mużyckaje praudy” К. Каліноўскі: “і многа паноў будуць перапыняць *пісьмо* наша да вас” (№ 1), “Каб расталкаваць людзям, у чом праўда, я пішу *пісьмо*”, “Так з гэтага *пісьма* і відна” (№ 2), “уздумаў напісаць *пісьмо*” (№ 3), “а *пісьмо* аддрукуйце”, “няхай той судзіць, хто *пісьмо* маё чытаці будзе” (*Pismo z pod szybienicy*). Г. Кісялёў лічыў, што склалася “традыцыя называць пісьмамі беларускія рэвалюцыйныя адозвы да народа”[3].

Аднак пытанне застаецца: “pisemko” Б. Шварцэ – гэта толькі *Гутарка старога Дзеда* ці цыкл адозваў, тым ліку, *Pieśni nabożnyja* і чатыры нумары “Гутаркі двух суседаў”? Бо яшчэ Фелікс Ражанскі, беларускі паэт і супольнік К. Каліноўскага ў справе выдання “Mużyckaje praudy” пісаў: “a parę piosnek i «hutorek» w tymże języku wydał Bronisław Szwarce w Białymstoku”[4]. Успаміны ўдзельніка рэвалюцыйных падзей на Гарадзеншчыне адназначна сведчаць: з друкарні Б. Шварцэ выйшла ў свет некалькі кніжачак. Сам жа ён назваў адну – самую значную і аб’ёмную. Зрэшты, ці не лічыў ён “Гутарку двух суседаў” таксама “гутаркаю старога дзеда”? Прынамсі, З. Тальвірская адназначна сцвярджала, што гісторык паўстання пачатку ХХ стагоддзя Станіслаў Зялінскі (1880–1936) у складзенай ім табліцы паўстанцкіх перыядычных выданняў беларускамоўным газеткам дае “общее заглавие *Гуторка двух соседей*”[5]. Сапраўды, знаёмячыся з рукапіснаю працаю С. Зялінскага *Materiały do historii powstania 1863–1864 r.*, звяртаем увагу на запіс: “*Hutorka dwóch susiedou*; [numerów] 6; po białorusku; pod kilku tytułami”[6]. Аднак у друкаваным артыкуле С. Зялінскі “расшыфроўвае”, што ён меў на ўвазе: “«Hutorka dwóch susiedou» jest jak przypuszczam numerem trzecim broszurek, które ukazywały się pod różnymi tytułami, jak «Mużyckaja prauda», *Hutorka staroho dieda* a drukowane były czcionkami łacińskimi w gwarze białoruskiej. Wprawdzie «Głos Wolny» w numerze piątym donosi, że «wyszedł numer 6-ty

[1] *Wydawnictwo materyałów do historyi powstania 1863–1864*, Lwów 1894, t. 4, z. 1, s. 178..

[2] *Слоўнік паланізмаў і дыялектызмаў, адметных слоў і словаўжыванняў у беларускіх тэкстах* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 397.

[3] Г. Кісялёў, *Кастусь Каліноўскі: Яго час і спадчына* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 276.

[4] F. Rożański, *Z województwa Grodzieńskiego* [w:] *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*, Lwów 1903, s. 396.

[5] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 44.

[6] S. Zieliński, *Materiały do historii powstania 1863–1864 r.* [w:] BN, rkps IV. 6553, k. 50. Складальнікі зборніка *Prasa tajna z lat 1861–1864* памылкова пазначаюць, што інфармацыя С. Зялінскага знаходзіцца на аркушы 49, а З. Тальвірская таксама памылкова падае аркуш 57.

pisemka „Mużyckaja Prauda", który się zaczyna od słów „Dziaciuki"» – atoli świstek ów, który znam, nie jest numerowany, tak samo jak nie ma numeru inny druczek, podpadający pod kategoryę owych hutorek, mianowicie «Pyśmo ad Jaśka Haspadara». «Wileńskij Wiestnik» w Nr. 35 z 1863 r., pisząc o skazaniu dwóch obywateli na 6 lat ciężkich robót za rozpowszechnienie nielegalnej literatury, nazywa «Muż. praudę» broszurą, a nie pisemkiem. Ścisłych wiadomości o broszurkach tych, nad któremi pracowali między innymi Konstanty Kalinowski i Bronisław Szwarce[1], nie znalazłem, Giller tylko w tomie I, s. 176 pisze o owych hutorkach, lecz nie jasno; za Gillerem powtarzają inni, jak wydawnictwo *Materyałów do historii powstania*, t. IV, s. 178, *W czterdziestą rocznicę*, s. 396, Berg, Przyborowski itd."[2].

Крыху ніжэй С. Зялінскі паведамляе, што з усяе беларускамоўнае агітацыйнае літаратуры ён ведае толькі трэці нумар "Гутаркі двух суседаў" ("*Hutorka dwóch susiedou.* [Białystok? 1863?] Nr 1 i 2 [nie znam]. Nr 3 bez daty"). Такім чынам, гіпотэза З. Тальвірскае не можа быць пацверджаная працамі С. Зялінскага. Але гэта зусім не азначае, што "drukareńka białoruska" выдала толькі *Гутарку старога Дзеда*.

Мы прапануем наступны парадак выхаду ў свет беларускамоўных агітацыйных тэкстаў з беластоцкай друкарні:

1. *Pieśni nabożnyja*. 8 s.

На апошняй старонцы пазнака: "Dozwala się drukować. Warszawa, dnia 17 (29) Listopada 1861 r. Starszy Cenzor: A. Funkenstein". На нашую думку, першым выданнем падпольнае беластоцкае друкарні маглі быць тэксты, дасланыя А. Вярыгам-Дарэўскім у кастрычніку 1861 г. А. Кажанёўскаму. Пра гэта сведчыць "усходнебеларускі" вольны пераклад папулярнага польскага гімна *Boże, coś Polskę*. Таксама істотна тое, што выдаўцы датуюць публікацыю лістападам 1861 г. Вядома, варшаўскі цэнзар Антон Функенштэйн[3] не даваў дазволу на друк гэтае кніжачкі, але дата, пададзеная ў ёй, вартая ўвагі.

2. *Hutorka dwóch susiedou*. 4 s.

Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Аднак 30 лістапада 1861 г. жандары ўжо мелі асобнік кніжачкі ў сваіх руках. Заўважым, што ў афіцыйных расейскіх

---

[1] У іншым месцы С. Зялінскі піша: "W Białymstoku i Mińsku, Kalinowski i Szwarce, zajmowali się wydawaniem «Mużyckiej Prawdy» i «Hutorki dwóch susiedów" w języku białoruskim, drukowanych czcionkami łacińskimi. Pierwsza z nich nie była właściwym pismem, lecz artykulikami, przeznaczonemi dla ludu, ukazującemi się nieregularnie. «Hutorki dwóch susiedow» znam tylko numer 3-ci. Jest to dyalog Mateusza z Józefem. Mateusz – chłop oczytany, tłumaczy Józefowi, który sposobi się, aby pohulać i uderzyć na dwór, że źle czyni, i ostatecznie przekonawszy go, skierowuje zapędy Józefa w inną stronę". Гл.: S. Zieliński, *Prasa tajna*, "Świat: Przed 50ciu laty: Rok 1862" 1912, nr 48 (numer specjalny, 30 listop.), s. 22.

[2] S. Zieliński, *Próba bibliografii prasy tajnej 1861–1864*. Адбітка з невядомага польскага эміграцыйнага выдання (1914, № 4 i 5, s. 288–289), якая захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (BN, II. 95.422).

[3] Працаваў у варшаўскім камітэце цэнзуры 28 гадоў (1858–1886). Гл.: J. Kostecki, *Cenzorzy w Warszawie w latach 1870–1905*, "Bibliotheca Nostra. Śląski Kwartalnik Naukowy" 2013, nr 2, s. 13, 16.

паперах выкарыстоўваўся стары стыль, дык няма нічога дзіўнага, што выдаўшы ў апошнія дні лістапада *Pieśni nabożnyja* Б. Шварцэ паспеў да 12 снежня надрукаваць і чарговае “pisemko”.

3. *Hutarka staroho dzieda. Dobryja wieści*. 24 s.
На апошняй старонцы пазнака: “Paryż 1862 r., Lutego 27 (15) dnia”. Тэкст твора мог быць дасланы А. Вярыгам-Дарэўскім (ці нейкім іншым) яшчэ ў другой палове кастрычніка – лістападзе 1861 г. у Варшаву (гл. раней), але з-за значнага аб’ёму выдаўцы толькі ў лютым 1862 г. надрукавалі яго, папярэдне ўнёсшы пэўныя змены.

4. *Hutorka dwóch susiedou*. N 2. 4 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Мяркуем, што тэкст друкаваўся вясною 1862 г. і, магчыма, без удзелу Б. Шварцэ, якога шукала паліцыя і жандары. Друкарню – хутчэй за ўсё – ужо перанялі “віленчукі”.

5. “Mużyckaja prauda”. N 1. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар пачаткам ліпеня 1862 г. Пра месца друку звесткі супярэчлівыя. Удзельнікі паўстання і сучаснікі падзеяў звычайна называлі беластоцкую друкарню Б. Шварцэ[1]. Г. Кісялёў сцвярджаў, што “паколькі паміж Шварцэ і Каліноўскім былі сур’ёзныя разыходжанні, можна меркаваць, што выданні Каліноўскага, яго “Мужыцкая праўда”, друкаваліся ў іншай друкарні”[2]. Аднак славуты беларускі гісторык і літаратуразнаўца, здаецца, не ўлічыў той факт, што “сур’ёзныя разыходжанні” пачалі пасля таго, як Б. Шварцэ пераехаў у маі 1862 г. у Варшаву ды, незадаволены тым, што створаная ім арганізацыя апынулася ў руках віленчукоў, спрабаваў як сябра ЦНК кіраваць дзейнасцю Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Цікава і тое, што Б. Шварцэ з крыўдаю пісаў пазней пра Валеры Урублеўскага, які “перастаў падпарадкоўвацца Варшаве”. Таго самага В. Урублеўскага, сябра беластоцкай арганізацыі Б. Шварцэ, які ўдзельнічаў у выданні “Mużyckaje praudy”.

6. “Mużyckaja prauda”. N 2. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар канцом жніўня 1862 г.

---

[1] Напрыклад, A. Giller, *Historia powstania narodu polskiego w 18613–1864 r.*, t. I, drugie wydanie, Paryż 1867, s. 176: “Powstanie więc na Litwie było przygotowanem w nielicznych punktach pomiędzy którymi Białystok zajmował pierwszorzędne miejsce. Urządzono tu *drukarnię tajemną białoruską*, w której drukowano pisemka dla ludu, jak *Opowiadanie Janka gospodarza z pod Wilna* po białorusku, *Hutorka* (rozmowa) i wiele odezw białoruskich, które młodzież roznosiła po prowincji, czytywała po chatach i karczmach. Duch wolności rósł w chłopach białoruskich i potrzeba tylko było czasu, ażeby urósł do gotowości samodzielnego wystąpienia. Drukarnia ta tajemna była pierwszą drukarnią białoruską, a tajemne pisma, *pierwszemi periodycznymi pismami białoruskiej literatury* – myśl polska ją zrodziła. Redaktorem tych pism był Konstanty Kalinowski jeden z najszlachetniejszych mężów Litwy, człowiek pełen poświęcenia, zacności, rozumu i energii”. Беларускі пераклад у кн.: К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 210.

[2] Г. Кісялёў, *Каментар* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 377.

7. “Mużyckaja prauda”. N 3. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар вераснем 1862 г.

8. *Hutorka dwóch susiedou*. N 3. 4 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Але той факт, што нумар упершыню быў выяўлены ў кастрычніку 1862 г., дазваляе датаваць яго гэтым месяцам.

9. “Mużyckaja prauda”. N 4. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар кастрычнікам 1862 г.

10. “Mużyckaja prauda”. N 5. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар лістападам 1862 г.

11. “Mużyckaja prauda”. N 6. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар снежнем 1862 г.[1]

12. *Hutorka dwóch susiedou*. N 4. 4 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Але той факт, што нумар упершыню быў выяўлены ў студзені 1863 г., дазваляе датаваць яго гэтым месяцам.

13. *Pieśń na Bożyj czas*. 2 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Магчыма, твор быў апублікаваны на пачатку 1863 г. (да красавіка) у якасці баявое песні паўстанцаў.

14. “Mużyckaja prauda”. N 7. 1 s.
Выходныя дадзеныя адсутнічаюць. Даследнікі датуюць нумар першаю паловаю чэрвеня 1863 г.

Пра аўтарства “Гутаркі двух суседаў” верагодных матэрыялаў мы не маем. З. Тальвірская, спасылаючыся на працу Давіда Файнгаўза[2], цытуе ўспаміны Бруна Каратынскага[3], у якіх паведамляецца, што Вінцэнт Кара-

[1] У 1989 г. у Вільні ў касцёле св. Францыска Асізскага быў выяўлены рукапіс шостага нумару “Mużyckaj praudy” з датаю 12 кастрычніка 1862 г. У сувязі з гэтым А. Смалянчук прапанаваў перагледзець агульнапрынятае датаванне 4–6 нумароў газеткі. (Гл.: А. Смалянчук, *“Мужыцкая праўда”. № 6 (1862). Рукапіс неапублікаванай газеты*, “Homo historiicus: Гадавік антрапалагічнай гісторыі” 2019, с. 126–133). Аднак, улічваючы тое, што выяўлены рукапіс так і не быў апублікаваны, а пытанне гэтае ўсё яшчэ застаецца маладаследаваным, дык асаблівых падставаў дзеля перагляду, на нашую думку, няма: нумары выдання маглі рыхтавацца не пасля выхаду ў свет папярэдняга, а некалькі адначасна. Звяртаем увагу на прыпіс, пацверджаны пячаткаю: “Prowincyonalny Litewski Komitet pozwala drukować z warunkiem niezmiany i zwrotu oryginału”. Справа ў тым, што старшынёй Літоўскага правінцыйнага камітэта да 22 красавіка 1862 г. быў Людвік Звяждоўскі, а г. зн., што менавіта ён даваў дазвол на друкаванне. Характар пісьма рукапісу нагадвае почырк К. Каліноўскага. Аднак патрэбна графалагічная экспертыза.

[2] D. Fajnhauz, *Prasa konspiracyjna powstania styczniowego na Litwie i Białorusi (1861–1864)*, “Rocznik białostocki” 1963, t. 4, s. 57.

[3] Мацей Канапацкі піша пра гэта так: “Бруна Каратынскі звяртае асаблівую ўвагу на цыкл беларускіх вершаў бацькі пад агульным загалоўкам *Гутарка старога дзеда на Беларусі*,

тынскі, “в начале 60-х годов написал несколько сочинений для народа с революционным направлением под общим заглавием *Гуторки старого деда*”[1]. Палічыўшы, што “Гутарку двух суседаў” можна далучыць да цыкла гутарак старога дзеда, а г. зн. гіпотэза Бруна Каратынскага дастаткова перспектыўная дзеля распрацавання, даследніца падмацоўвае яе пэўным “документальным свидетельством” – перахопленым жандарскім агентам Балашэвічам-Патоцкім лістом ад 12(24) жніўня 1862 г. невядомага сябра віленскага рэвалюцыйнага камітэта (падпісаўся псеўданімам (?) Swiejkas[2]) у Парыж, у якім паведамляецца: “Сыракомля болен, и на время его болезни занимается Коротынский, славный и преданный человек”[3]. На думку З. Тальвірскае, гэта можа азначаць толькі адно: “Именно Сырокомля был наиболее тесно связан с организацией и выполнял по ее поручению задания. Замена его другим белорусским поэтом – В. Коротынским указывает и на характер задания: это должны были быть стихотворные произведения на белорусском языке. В таком случае напрашивается еще одна гипотеза о авторах *Гуторок*: *Гуторка старого деда* написана В. Сырокомлей еще до поездки в Варшаву в апреле 1861 г. Эта гипотеза делает и более понятным публикацию во втором издании *Гуторки* второго стихотворения Сырокомли *Добрые вести*. По возвращении из Варшавы В. Сырокомля был арестован, но затем из-за болезни освобожден из-под ареста и выслан в арендуемое им именьице Борисовщзину (sic!). Здоровье его становилось все хуже, и, наконец, в начале февраля 1862 г. он получил разрешение жить в Вильно. Видимо, и в Борисовщизне и в Вильно он поддерживал отношения с организацией. Он мог бы быть также автором первых номеров «Гуторок двух соседей», вышедших зимой 1861 г. и весной 1862 г., а в дальнейшем его работу мог продолжить В. Коротынский”[4].

Гіпотэзу З. Тальвірскае ў шэрагу сваіх публікацый падтрымаў Г. Кісялёў. Па-першае, ён звярнуў увагу, што радок з другога нумару *Гутаркі старога Дзеда* “Zabirać ostatki z chatki” пераклікаецца з сыракомлеўскім “Z chatki astatki brać na pabor”[5]. Аднак, думаецца, тут мы назіраем хутчэй

---

напісаных у час студзеньскага паўстання і накіраваных супроць царскага самадзяржаўя. Гэтыя творы былі выдадзеныя ў Кракаве ананімна і распаўсюджваліся сярод беларускага сялянства”. Гл.: М. Канапацкі, *Над мемуарамі Бруна Каратынскага*, “Ніва” 1961, № 41 (8 кастр.).

[1] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 59.

[2] Ад літ. *sveikas* – прывітанне.

[3] Цыт. па: З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 59.

[4] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*, Москва 1967, с. 59.

[5] Г. Кісялёў, *Каментар* [у:] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 386.

наследаванне вядомаму паэту (лепей: апублікаванаму вершу). Як пацвярджэнне пададзім яшчэ адно тэксталагічнае супадзенне: радкі з гэтага ж нумара "Гутаркі…" "Hodzi tobie, car preklęty, // Hubić naród polski święty" і радкі з таго ж самага верша У. Сыракомлі "Hodzie|ż wam, hodzie Carykipahańcy // Taptać z bałotom Chryszczony narod!". Па-другое, Г. Кісялёў заўважыў у "Гутарцы двух суседзяў" чатырохрадкоўе, рытмічны малюнак якога нібы запазычаны з верша В. Каратынскага, прысвечага Уладзіславу Міцкевічу[1]. Прычым, дадзенае чатырохрадкоўе выразна вылучаецца з рытмічнае структуры твора: усе іншыя радкі напісаны васьміскладовікам з парнай жаночай рыфмоўкай:

| **"Гутарка двух суседаў"** | ***Panu Władysławowi Mickiewiczowi na pamiątkę jego pobytu w Wilnie w kwietniu 1861 r.*** |
|---|---|
| Zrobim dziaćku, jak skazali,<br>A u nas budzie raj:<br>Pojduć prócz od nas Moskali,<br>Szto nam Bоże daj. | Niechaj po nich nic nie plami<br>Poraniony kraj;<br>Odrodzenie będzie z nami,<br>Jak zielony maj. |

Тут сапраўды ёсць падставы меркаваць, што В. Каратынскі ці то пісаў, ці то папраўляў-рэдагаваў твор. Аднак няварта забываць, што верш В. Каратынскага, напісаны 4 красавіка 1861 г., быў шырокавядомы ў тагачасным грамадстве[2]. У. Міцкевіч піша нават, што паэт яго "ogłosił <…> w dziele, poświęconem memu ojcu"[3]. Праўда, у даступных нам асобніках працы беларуска-польскага паэта *Kilka szczegółów o rodzinie, miejscu urodzenia i młodości Adama Mickiewicza* (Wilno 1861, 14 s.) верша няма.

На нашую думку, асноўны недахоп гіпотэзы З. Тальвірскае – гэта ігнараванне моўных асаблівасцяў "Гутаркі двух суседаў". А менавіта тое, што

[1] *Ibidem*.

[2] У сувязі з тым, што гэты верш В. Каратынскага адсутнічае ў беларускіх зборніках ягоных твораў, змяшчаем яго тут:

| | |
|---|---|
| Żywo w sercu twem noszony<br>Od chłopięcych lat<br>Zwiedzasz, bracie, świat rodzony,<br>Szary, chłodny świat. | Adamowe lube ptaszę,<br>Naszych celu chlub,<br>Skargi nasze, modły nasze<br>Weź na jego grób. |
| Chłodno, szaro, bo przedwiośnie,<br>Wiosna ledwie w snach;<br>Trawka biedna tu nie rośnie,<br>Ptaki milczą w krzach. | Rozhukane nawalności,<br>Co nad nami tuż,<br>Niech zażegna z wysokości<br>Uwielbiony już. |
| Ale każdy tu zakątek<br>Cześcią tobie brzmi;<br>Ziemia tęsknic i pamiątek<br>Dusznie rada ci. | Niechaj po nich nic nie plami<br>Poraniony kraj;<br>Odrodzenie będzie z nami,<br>Jak zielony maj. |
| Bo przed tobą idzie w posły<br>Wielkich uczuć wiew:<br>Nie widomy, lecz wyniosły<br>Ojca twego siew. | Niebo przezeń przemawiało, –<br>Toć należny dług,<br>Wielkie jego myśli w ciało<br>By przyoblekł Bóg! |

[3] W. Mickiewicz, *Pamiętniki*, t. II: *1862–1883*, Warszawa 1927, s. 70.

яна не ўлічыла выразнае выяўленне ў творы адметнасцяў паўднёва-заходняга дыялекту беларускае мовы. У беларускамоўных творах ні У. Сыракомлі, ні В. Каратынскага гэтыя асаблівасці не сустракаюцца, ды і сваім паходжаннем гэтыя літаратары не былі звязаныя з паўднёва-заходнім рэгіёнам. А маем мы на ўвазе сталае ўжыванне аўтарам (аўтарамі) дзеясловаў з інфінітыўным суфіксам ***-ці***. Такіх дзеясловаў у *Гутарцы двух суседаў* – 66!

| № 1 | № 2 | № 3 | № 4 |
|---|---|---|---|
| 12 | 9 | 23 | 22 |

Дык, мажліва, варта прыслухацца да сцвярджэння В. Рагойшы, які, звярнуўшы ўвагу на іншыя асаблівасці "Гутаркі двух суседаў", пісаў: "Аднак, магчыма, што "Гутарка…" належыць пяру К. Каліноўскага: не толькі зместам і ідэйнай накіраванасцю, але і сваім стылем яна вельмі блізкая да "Мужыцкай праўды" і *Пісьма з-пад шыбеніцы*"[1]. Істотна таксама тое, што Г. Кісялёў заклікаў да больш глыбокага вывучэння праблемы атрыбуцыі твора ды спасылаўся на Адама Станкевіча[2] і Генрыка Масціцкага[3], якія яшчэ ў 1930-я гг. прыпісвалі "Гутарку двух суседаў" К. Каліноўскаму.

Зрэшты, А. Станкевіч свае асцярожныя высновы[4] рабіў адно на падставе публікацый С. Зялінскага[5], А. Гілера[6] і Леона Васілеўскага[7].

А вось Г. Масціцкі, не называючы крыніцаў, сапраўды сцвярджаў, што менавіта К. Каліноўскаму належыць шэраг беларускамоўных твораў часоў Паўстання 1863–1864 гг.: "Niezwłocznie po ukończeniu studiów przyjechał do Grodna i rozpoczął działalność konspiracyjną. Na podstawie osobistych znajomości i stosunków utworzył organizację, do której weszli: Erazm Zabłocki, sek-

[1] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 466.

[2] Гл.: A. Stankiewič, *Kastuś Kalinoúski, "Mužyckaj Prauda" i ideja Niezaležnašci Biełarusi*, Wilna 1933, s. 35.

[3] H. Mościcki, *Konstanty Kalinowski – dyktator Litwy w r. 1863*, „Polska zbrojna" 1937, nr 22 (22 stycz.).

[4] Гл.: А. Станкевіч, *Кастусь Каліноўскі, "Мужыцкая праўда" і ідэя Незалежнасьці Беларусі: Рэфэрат, прачытаны на ўрачыстай акадэміі 25 сакавіка 1933 г., з прычыны 15-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і 70-ых угодкаў беларускай прэсы* [online] http://kalinouski.arkushy.by/library/stankewicz.htm [доступ: 29.12.2019 г.]: "Але апрача «Мужыцкай праўды», прынамсі, як цьвердзяць некаторыя аўтары, выдаваў Каліноўскі такжа іншую беларускую газэтку: «Гутарку двух суседаў», аб якой ведама сяньня між іншым тое, што вышла яе тры нумары. Учаснік паўстаньня, кіраўнік спраў друкарскіх Гілер цьвердзіць, што Каліноўскі быў тварцом беларускай пэрыядычнай літаратуры. Быць можа, што «Мужыцкая праўда» ці «Гутарка» выходзілі ў роўных адступах часу і сапраўды былі першымі беларускімі пэрыёдыкамі. Устанавіць, аднак, мне гэтага не ўдалося".

[5] Гл.: S. Zieliński, *Prasa tajna*, "Świat: Przed 50ciu laty: Rok 1862" 1912, nr 48 (numer specjalny, 30 listop.), s. 21–22.

[6] Гл.: A. Giller, *Historia powstania narodu polskiego w 18613–1864 r.*, t. I, drugie wydanie, Paryż 1867, s. 176.

[7] Гл.: L. Wasilewski, *Litwa i Białoruś. Przeszłość – teraźniejszość i tendencje rozwojowe*, Kraków 1912, s. 274.

retarz gubernialny, dr Józefa (sic!) Zabłocki, Walery Wróblewski, oficer i inspektor szkoły leśnej, Jan Wańkowicz, oficer, Feliks Rożański i Ildefons Milewicz, geometrzy, oraz księża Gintowt, Jan Zarzycki i Ignacy Kozłowski. Kalinowski nie wierzył w powstanie rozpoczęte i kierowane przez szlachtę, twierdził, że tylko «plecy chłopskie» mogą dźwignąć Polskę i Litwę, i dlatego nie chciał należeć do organizacji prowadzonej przez czynniki szlacheckie; przy pomocy paru członków utworzonego przez siebie koła grodzieńskiego, przede wszystkim Feliksa Rożańskiego, rozpoczął agitację na własną rękę, odbywając piesze wędrówki po kraju; nocował i przebywał po chałupach chłopskich, siał tam ziarna rewolucji, podobno przyjął nawet posadę pisarza gminnego, ale, jak się zdaje, przekonał się wkrótce, że co innego teorie, zrodzone w dyskusjach spiskowych, a co innego surowa prawda życia. Pochodząc ze sfery niezamożnej, bliskiej ludu, znał dobrze jego opłakane warunki i z całej duszy pragnął ulżyć surowej doli chłopów białoruskich; przemawiał do nich ich językiem i w sposób prosty, przekonywujący, trafił do serc i umysłów. Z tego czasu pochodzi popularny jego utwór wierszowany: *Hutorka dwóch susiedou*, w którym dosadnie maluje ucisk włościan przez rząd rosyjski i nawołuje do walki pod hasłem: «Niechaj Polska budzie snowa».

Razem z Feliksem Rożańskim i Bronisławem Szwarcem w Białymstoku redagował i odbijał w tajnej drukarni pisemka dla ludu w języku białoruskim p. t. *Pismo ad Jaska, haspadara z pad Wilni da mużyków ziemli polskoj*, oraz «Mużyckaja prauda» (wyszło siedm numerów). Kalinowskiemu przypisywane są również powstańcze odezwy białoruskie *Pismo z pod szubienicy*, zawierające ostatnie jego wezwanie do ludu białoruskiego oraz ciekawy luźny przekład pieśni *Jeszcze Polska nie zginęła* («Jeszcze Polszcza nie propada, // Kali my żywiom, // Bo szto nam pohań zabrała, // Nazad odbierom. // Mierosławski w marszy, // Mużyki z panami, // Nie hladzi chto starszy, // Wyprom pohań sami» itd.”[1].

Дасведчаны гісторык мог мець дакладную інфармацыю, каб дастаткова адназначна сцвердзіць, што К. Каліноўскі быў аўтарам “Гутаркі двух суседаў”[2]. Праўда, ніхто з беларускіх даследнікаў не надаў належнае ўвагі паведамленню Г. Масціцкага. Ніхто таксама, наколькі нам вядома, не аналізаваў мову твора[3], не было спробаў адказаць на пытанне: хто з удзельнікаў гара-

[1] H. Mościcki, *Konstanty Kalinowski – dyktator Litwy w r. 1863*, „Polska zbrojna” 1937, nr 22 (22 stycz.). Вольны пераклад гімну *Jeszcze Polska nie zginęła*, мажліва, быў выкананы К. Каліноўскім на раннім этапе ягонае рэвалюцыйнае дзейнасці, калі асоба і дзейнасць Л. Мераслаўскага карысталася вялікаю папулярнасцю сярод студэнцкае моладзі Пецярбурга, Масквы і Кіева. Адначасна гэты факт можа быць сведчаннем таго, што кіраўнік Паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі меў і выяўляў свае паэтычныя здольнасці, стасуючы іх дзеля патрэбаў нацыянальна-вызваленчае барацьбы.

[2] Ускосна гэта пацвярджаецца словамі Вячаслава Шалькевіча, які працаваў з архівам Г. Масціцкага. Гл.: *Знойдзены невядомы верш Кастуся Каліноўскага. Першая публікацыя на Свабодзе* [online] https://www.svaboda.org/a/30295471.html [доступ: 29.12.2019 г.] і *Дасьледчык Вячаслаў Шалькевіч: “Лістоў з-пад шыбеніцы” было значна больш, чым тры вядомыя сёньня* [online] https://www.svaboda.org/a/30297525.html [доступ: 29.12.2019 г.].

[3] Ніна Баршчэўская, аналізуючы дыялектныя асаблівасці мовы “Mużyckaje praudy”, прыйшла да высновы, што сёмы нумар выдання напісаў не К. Каліноўскі, а нехта іншы. Гл.:

дзенскае арганізацыі К. Каліноўскага паходзіў з “ягонага” рэгіёну[1], хто з іх валодаў паўднёва-заходнім дыялектам беларускае мовы?

Прапаноўваючы К. Каліноўскага на ролю найбольш верагоднага прэтэндэнта на аўтарства “Гутаркі двух суседаў”, мы ўлічваем і той факт, што ён не мог быць адно рэдактарам гэтага твора: усё ж, на нашую думку, гэткая вялікая колькасць рыфмаваных пар з інфінітыўным суфіксм ***-ci*** паходзіць ад аўтара, а не ад таго, хто яго папраўляў.

Першы і другі нумары *Гутаркі двух суседаў* друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першавыдання паводле: НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 419–422v, а трэці і чацвёрты – LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1519, l. 44–85v.

---

N. Barszczewska, *Wersje językowe gazety “Mużycka Prauda*”, “Studia z filologii rosyjskiej i słowiańskiej” 1989, t. 15, s. 101–109.

[1] Валеры Урублеўскі (1836–1908) з Жалудка і Фелікс Ражанскі (1838 – пасля 1903) з Бераставіцы, нягледзячы адносную блізкасць іх гаворак беларускае мовы да дыялекту падляскіх Мастаўлянаў, усё ж паходзілі з тых мясцовасцяў, дзе характэрная асаблівасць (інфінітыўны суфікс ***-ci***) “Mużyckaje praudy” і “Гутаркі двух суседаў” амаль не сустракаецца.

# HUTORKA

## DWÓCH SUSIEDOU

[1]

Józef: Niechaj będzie pochwalony
Jezus Chrystus! Jak się macie,
Czy zdorowy wsięki w chacie,
I szto czuwać z waszej strony?
Mateusz: Oj, zdorowy, wsięki żywy,
Da spytajcie, czy szczastliwy...[1]
Józef: Ej wy, dziaćku, nie tużycie,
Lepiej Boga poprosicie[2];
Bo howorać mieżda nami,
Szto car zrobić nas Panami.
Wieleu, kab ziemlu kupili[3],
Jemu hroszy zapłacili,
To mużyk jak szlachcic budzie,
Wsieje biedeńki zabudzie.
Mateusz: A ja ot jak czuu nieboże,
Szto car nic zrobić nie|może;
Tylko chocze oszukaci,
Wsięki hroszy od nas wziaci;
Kab było czem podkupici,
Dej z Francuzom w zhodzi życi.
Bo jak Francuzy uznali,
Szto Moskale wyczouplali,
Jak narod wieś pohłumili,
Wsięki dwory spustoszyli,
I lud polski – katolicki
Prewiernuli w syzmatycki[4],

[1] У “Mużyckaj praudzie” няраз будзе весціся гаворка пра “вашае шчасце”.
[2] Тэкстуальнае супадзенне з *Гутаркаю старога Дзеда*.
[3] Гаворка пра выкуп зямлі сялянамі ў памешчыкаў і дзяржавы згодна з устаўнымі граматамі.
[4] Аўтар, відавочна, лічыць грэка-каталікаў, гвалтам пераведзеных у 1839 г. у праваслаўе, католікамі. Палякамі, альбо польскім людам, у агітацыйнай літаратуры таго часу звычайна называлася насельніцтва беларускіх, украінскіх і літоўскі зямель у адрозненне ад расейскае прапаганды, якая імкнулася давесці, што ў краі “преобладающимъ элементомъ было исконно-русское населеніе”.

To Francuz za heto wziausie:
Zaraz pred Bogiem zaklausie
Moskala niedarowaci,
I z ziemli naszej prohnaci.
Tak ot Moskal uchitryusie,
Dej na krucielstwo puściusie:
Chocze ziemlu wsiu prodaci,
Kab nie żal było kidaci.
Otóż posłuchaj susiedzie:
Jak rąd Polski daść Bóg budzie,
To tohdy wsiemu narodu
Daść Bóg ziemlu i swobodu.
Józef: Czy|ż Polaki z Francuzami
Moskala zwojujuć sami?
Mateusz: I Francuzou nam nie treba,
Bo nam Bóg najwyższy z nieba
Dopomoże wojowaci
I Moskalou procz prohnaci.
Bo uże wielmi nahreszyli,
Mnoho ludziej nahłumili,
A w Warszawie Boskoj Matki
Obraz podrali na szmatki
Kryż z Chrystusom porubali
A szto ludu nastrelali[1],
Jak szatani, odpuść winy,
A wsio bez żadnej pryczyny:
Za to, szto lud chryscijański
Szanuje światy kryż Pański.
To nam Pan Bóg dopomoże
Prohnać Moskalou nieboże.
Józef: Ach daj, Boże, ach daj, Boże!
Ale jak Polak nieboże
Nie daść mużyku opieki,
To my zhiniem na wiek wieki!
Mateusz: Oj, nie tak, moj ty susiedzie,
Siemdziesiat let tomu budzie,
Jak Polak wsiemu narodu
Chocieu było dać swobodu[2].
A Moskal jak to doczuusie,

[1] Гаворка пра расстрэл маніфестацыі на Замкавым пляцы ў Варшаве 8 красавіка 1861 г., калі было забіта 100 (па іншых звестках 300) чалавек. Пасечаны шаблямі быў таксама крыж, з якім ішлі дэманстранты.
[2] Маецца на ўвазе Паўстанне 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і праклามаванае ў Паланецкім універсале ад 7 мая 1794 г. скасаванне паншчыны.

Zaraz z Niemcom zhoworyusie,
Dej na Polaka napali[1],
I wsiu ziemlu odebrali,
Kab ludziej nie nauczyli,
I wolnymi nie|zrobili.
Bo nie było|b z koho draci,
I w rekruty koho braci.
A ciepier[2], jak biedu czuje,
To i wolność dekleruje.
Józef: O ciepier to wsięko znaju,
I szto BOGA prosić maju,
Prosić budu kab BÓG miły,
Prohnać moskalou dau siły;
Kab bolsz Kryżou nie łamali,
Nas w niewoli nie trymali,
Bo nigdy dobra nie budzie,
Póki moskal rądzić budzie.

[1] Тэкстуальнае супадзенне з *Гутаркаю старога Дзеда*.
[2] Магчыма, дадзеныя словы сведчаць, што твор быў напісаны неўзабаве пасля аб'яўлення царскага Маніфеста 19 лютага (3 сакавіка) 1861 г.

# Гутарка “кіеўскага” Пустэльніка Пятра

З усяе агітацыйнае паўстанцкае літаратуры ў кніжачцы *Перадсмертны разгавор Пустэльніка Пятра*, хіба, найбольш выразна выяўляецца г. зв. прапольская ідэалогія аўтара. Праўда, сялян-мужыкоў ён усё ж не называе палякамі (як аўтар *Пісьма ад Яські-гаспадара да мужыкоў зямлі польскай*), адно заклікае іх ісці дапамагаць палякам, але ажно дзесяць разоў настойліва паўтарае: вы людзі “Polskoj ziemli”. Апрача таго, ён яшчэ двойчы згадвае даўнюю “Polszczu” ды тройчы – польскае войска, польскіх жаўнераў і польскага караля. Адначасна – але не ў апазіцыі да “Polskoj ziemli” – аўтар чатырнаццаць разоў выкарыстоўвае слова “ziemla” з эпітэтамі “swoja”, “nasza”, “sobstwennaja” і “wolnaja”, тым самым ствараючы ідэалагему “зямля”, якая супрацьпастаўленая варожым “Maskalam” і ўсяму “maskouskamu”, у першую чаргу “caru” (дваццаць пяць словаўжыванняў).

Так, менавіта “ziemla” – і ў вузкім значэнні (як тыя колькі дзесяцін, якіх прагнуў мужык), і ў шырокім (як дзяржава, як Польшча-Рэч Паспалітая) сталася адмысловым эпіцэнтарам твора, бо аўтар выдатна разумеў, што гэта можа выклікаць прыхільныя пачуцці сялян да ідэі ягонага твора.

Ці, можа, аўтар павінен быў клікаць на барацьбу за незалежную Беларусь? Але ж нават такі знаны сепаратыст як К. Каліноўскі не адважваўся адкрыта прапагандаваць падобнае. Бо ў тагачаснай грамадскай думцы Беларусі незалежніцкія настроі яшчэ не сфармаваліся: шляхта і інтэлігенцыя з малаком маці гадавалася пераважна ў даўніх рэчыпаспалітаўскіх традыцыях, а мужыкі яшчэ не ўзняліся па-над сваёй “тутэйшасцю”. Сялянскую “tabula rasa”, “тутэйшасць” разлічваў, відавочна, выкарыстаць К. Каліноўскі, хоць і вымушаны быў супрацоўнічаць з шляхецкімі рэвалюцыянерамі, пераважна палітычнымі палякамі, бо аднадумцаў меў няшмат.

З гэтай прычыны амаль уся беларускамоўная паўстанцкая літаратура не магла быць уласна нацыянальна-беларускаю паводле зместу. Пішучы па-беларуску, аўтар мусіў агітаваць за Рэч Паспалітую (звычайна, за Польшчу). Дык з часоў Аляксандра Пыпіна гэтая літаратура ўспрымалася расейскімі, беларускімі савецкімі і сённяшнімі прарасейскімі гісторыкамі ды публіцыстамі як “польская пропагандистская” ці “польская интрига”[1]. Я. Карскі адмаўляў гэтым тэкстам у “литературномъ значеніи”; ён пісаў пра “полное извращеніе исторической истины” ў іх, бо “въ мрачныхъ краскахъ изображается возсоединеніе уніатовъ, будто бы насильное прикрѣпленіе къ землѣ,

[1] А.Н. Пыпинъ, *Исторія русской этнографіи*, т. 4: *Бѣлоруссія и Сибирь*, С.-Петербургъ 1892, с. 85–94.

обложеніе податями и т. п."[1]. Я. Карскі, хіба, лічыў, што ў мастацкім тэксце нават дзеля пэўнае ідэі аўтар не павінны выкарыстоўваць мастацкія тропы: "французы подъ Севастополемъ будто бы заступились за поляковъ и принудили русскихъ объявить угнетеннымъ всякія вольности. Но русскіе не исполнили своихъ обещаній"[2].

Для беларускага савецкага літаратуразнаўства беларускае паўстанцкае літаратуры (апрача "Мужыцкае праўды" К. Каліноўскага) проста не існавала. Бо гэта – "гутаркі панска-шляхецкага напрамку". У творах бачылі, што "злачынствы царызма ў дачыненні да польскага народа[3] аўтар спрабуе перакласці на вялікі рускі народ і тым самым выклікаць да яго варожасць з боку сваіх чытачоў"[4].

А вось расейская даследніца З. Тальвірская бачыла ў *Перадсмяротным разгаворы*… амаль той самы змест, што і ў іншых паўстанцкіх тэкстах, хоць і звяртала ўвагу, што "идейные позиции авторов несколько отличны. <…> Позиции автора этого произведения, безусловно, более правые, более отвечающие интересам помещичьего лагеря, чем позиция авторов *Гуторок*, но он также относится к кругам, признающим неизбежность восстания. Видимо, его нужно отнести к крайне правому крылу «красных» и, несмотря на белорусский язык, к представителям польской[5], а не белорусской интеллигенции"[6].

Да нядаўняга часу *Перадсмяротны разгавор*… не передрукоўваўся[7]. Грунтоўная *Кніга Беларусі*, пазітыўна ацаніўшы твор[8] ("Ідэйны кірунак гэтай нелегальнай агітацыйнай «размовы» вельмі яскравы, аўтар яе заклікае сялян падтрымаць паўстанне 1863 года. Аўтар яе не хаваецца за «набожныя» псалмы, а адкрыта гаворыць: «Вы, дзеці мої мужыкі! Ідзіце за шляхтаю і памагайце палякам, бо чрэз іх толькі достанеце землю і вольнасць во

---

[1] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 88–89.

[2] *Ibidem*.

[3] Хіба, толькі ў *Пісьме ад Яські-гаспадара да мужыкоў зямлі польскай* беларускае сялянства наўпрост называлася польскім.

[4] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с.

[5] Мы лічым, што ў сярэдзіне XIX с. аўтараў, якія пісалі па-беларуску, можна залічаць да беларускай інтэлігенцыі, а іхныя тэксты да беларускай літаратуры.

[6] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.). Сборник статей*, Москва 1967, с. 65.

[7] Я. Янушкевіч апублікаваў твор у раздзеле *Dubia* ў кнізе: В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 т.*, т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*, Мінск 2008, с. 545–552. Адкуль ён быў перадрукаваны ў анталогіі: *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 569–572, 839.

[8] Схаваная цытата з кн.: С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 19.

векі векоў"[1]), не падавала ягонага месцазнаходжання. Зрабіць гэта, аднак, у той час было магчыма: З. Тальвірская ў сваім артыкуле назвала тры "архивохранилища СССР", дзе мелася гутарка: "ЦГИА ЛитССР, ф. 439, оп. 18, д. 19, лл. 1–7; ГБЛ, ф. 324, к. 6, д. 23 и др.; ЦГАОР СССР, ф. 190-й, 1 эксп., 1863 г., д. 97, ч. 25, лл. 2–9"[2].

Нам удалося пазнаёміцца толькі з асобнікам, які захоўваецца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве. Архіўны адрас, праўда, змяніўся, але параўнанне старых і новых каталогаў дазволіла "выявіць" кніжачку яшчэ раз. Судова-следчая справа (гл. ніжэй), у якой яна захоўвалася, дазваляе меркаваць пра час і тэрыторыю пашырэння беларускамоўнае гутаркі.

Што датычыць асобніка ў фондах III аддзялення, дык невядома, якія матэрыялы, апроч самога твора, маюцца ў справе *О возмутительных воззваниях: о воззвании под заглавием предсмертный разговор Пустынника Петра*. Тут усяго дзевяць аркушаў, а сама кніжачка складаецца з васьмі[3]. Цікава даведацца, ці ёсць у справе інфармацыя, адкуль паходзіць выданне?

Дзякуючы электронным вопісам аддзела рукапісаў Расейскай дзяржаўнай бібліятэкі (раней – Государственная библиотека СССР им. В.И. Ленина), удалося высветліць, што паказаны З. Тальвірскаю архіўны адрас не зусім дакладны. Сёння *Перадсмяротны разгавор*… захоўваецца ў фондзе 324 [*Архив Ивана Владимировича Цветаева*], к. III [*Коллекция документов, относящихся к истории Польши*], № 9 [*Печатные материалы, относящихся к истории Польши*]. Сама справа апісаная наступным чынам: "Ф. 324–11–6: "*Priedsmiertnyj rozhowor Pustelnika Pietra, katoryj zyu и pusaczy*…" (*Предсмертная беседа пустынника Петра*…) – проповедь. [1860-е]. Киев. 2 экз. 16 л. + I–IV. Печ. В западнорусск. транскрипции лат. шрифтом. Пост. 1909"[4]. Атрымліваецца, што ў справе захоўваюцца два асобнікі выдання, кожны з якіх мае адмысловую вокладку. Мову кніжачкі І. Цвятаеў[5] (1847–1913), філолаг і прафесар Маскоўскага ўніверсітэта, пазначае даволі дзіўна: нібыта як польскую "в западнорусск[ой] транскрипции лат[инским] шрифтом". Якім чынам[6] і калі *Перадсмяротны разгавор*… трапіў да І. Цвятаева, – невядома, але цікава тое, што амаль усе ягоныя "печатные материалы, относящихся к истории Польши" датычаць варшаўскае паўстанцкае арганізацыі. Асобныя з іх атрыманы[7] ад малодшага брата

---

[1] *Кніга Беларусі (1517–1917): Зводны каталог*, Мінск 1986, с. 248.

[2] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.). Сборник статей*, Москва 1967, с. 64.

[3] Праўда, часам у падобных справах друкаванае выданне лічыцца як адзін аркуш.

[4] *Указатель электронных фондов отдела рукописей (ОР)* [online] https://dlib.rsl.ru/viewer/01004745338#?page=189 [доступ: 23.02.2020].

[5] Бацька вядомай паэткі Марыны Цвятаевай (1892–1941).

[6] У 1872–1873 гг. І. Цвятаеў быў дацэнтам Варшаўскага ўніверсітэта.

[7] Напрыклад, улётка *Золотая Грамота до сельского народа – Złota Hramota do wiejskiego ludu* (1863 марта 31, Варшава) мае надпіс: "В Московский Румянцевский музей, дар профессора Дмитрия Владимировича Цветаева". І. Цвятаеў з 1881 г. працаваў у Румянцаўскім музеі, а з 1901 г. быў ягоным дырэктарам.

Дзмітрыя Цвятаева (1852–1920), гісторыка, вучня Міхала Каяловіча, прафесара Варшаўскага ўніверсітэта (1887–1897).

Вядома, што асобнік кніжачкі *Перадсмяротны разгавор…* захоўваўся ў бібліятэчцы Браніслава Эпімаха-Шыпілы[1], а таксама ў Бібліятэцы Асалінскіх у Львове (Zakład Narodowy imienia Ossolińskich)[2].

Калі і дзе была выдадзеная беларускамоўная гутарка? Здаецца, не ў 1863 г., як сцвярджаецца ў зводным каталозе *Кніга Беларусі*[3], а крыху раней. З судова-следчай справы Казіміра Маліноўскага вынікае, што ў студзені – пачатку лютага 1863 г. *Перадсмяротны разгавор…* ведалі ў Бабруйскім павеце.

Гэтак жа няпроста адказаць на пытанне і пра месца выдання. З. Тальвірская сцвярджала, што гутарка магла быць надрукаваная ў Кіеве. І ў якасці аргументаў прыводзіла тое, што ў Кіева-Пячорскай лаўры існавала падпольная тыпаграфія, заснаваная адным з кіраўнікоў Паўстання 1863 г. Стафанам Баброўскім (1840–1863), які паходзіў з Жытоміршчыны, а таксама пашырэнне "подобной же брошюры на украинском языке"[4].

Аднак друкарню Кіева-Пячорскай лаўры, якая выдала ў 1861 г. некалькі ўлётак (у тым ліку тры нумары "Великорусса"), паліцыя на пачатку 1862 г. выкрыла і зачыніла. І – самае галоўнае – у Кіеве, мы ведаем, дзейнічала пераносная друкарня, якая не магла даць тую якасць друку, якой вызначаецца *Перадсмяротны разгавор…* Мяркуем, "Peczatano w Kiewie" на тытульнай старонцы з'явілася толькі таму, што Пётр "быў" пустэльнікам. Пра кіеўскіх святых добра ведалі вернікі на Беларусі, а таму выдаўцы вырашылі гэта выкарыстаць. Невыпадкова арыштаваны К. Маліноўскі спрабаваў абараняцца, спасылаючыся на тое, што ў Кіеве не магла быць выдадзеная кніжачка "возмутительнаго содержанія".

Відаць, гутарку выдалі ў адной ў друкарняў Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Варшаве. Гэтую гіпотэзу пацвярджае наяўнасць у зборах І. Цвятаева двух асобнікаў кніжачкі (прычым з вокладкамі), якія яўна паходзяць з пасляпаўстанцкае Варшавы.

Пра аўтара (аўтараў) можна сказаць толькі тое, што ён належаў да лагеру чырвоных, якія падпарадкоўваючыся закліку Л. Мераслаўскага, пла-

---

[1] Гл.: *Старонка вопісу бібліятэкі Б. Эпімах-Шыпілы* [у:] БДАМЛМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1429, арк. 1v [online] http://archives.gov.by/index.php?id=964432 [доступ: 24.02.2020].

[2] Пра гэта маецца інфармацыя ў выданні *Biblioteka Ossolińskich: Pismo historyi, literaturze, umiejętnościom i rzeczom narodowym poświęcone: Poczet nowy*, Lwów 1868, t. XI, s. 374). Уладзіслаў Вісloцкі (1841–1900), пазнейшы, з 1869 г., кусташ Бібліятэкі Асалінскіх, а ў той час выпускнік Львоўскага ўніверсітэта, перадаў у Бібліятэку дзесяць выданняў, сярод якіх быў і *Rozhowor priedśmiertnyj pustelnika Pietra. Kiew.*

[3] *Выданні на беларускай мове: XIX – пачатак XX стагоддзя: Каталог* [online] https://ru.calameo.com/read/0035396894f83335fa906 [доступ: 24.02.2020].

[4] З. Тальвирская, *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература* [w:] *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.). Сборник статей*, Москва 1967, с. 64. Аўтарка спасылалася на кн.: *Общественно-политическое движение на Украине в 1856–1862 гг.*, Киев 1963, с. 181.

навалі весці прапагандысцкую працу сярод сялян. Мог вучыцца ў Кіеўскім універсітэце і паходзіць з паўднёвай Беларусі, пра што сведчыць далучаны да гутаркі "палескі" варыянт гімну *Божа, што Польшчы*… Зрэшты, больш праўдападобна, што да выдання кніжачкі спрычынілася група людзей: аўтарам гутаркі *Перадсмяротны разгавор*… быў адзін чалавек, гімн перапрацоўваў – другі, а выдаў нехта трэці.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: *Pieredśmiertnyj Rozhowor Pustelnika Pietra katoryj żyŭ u puszczy dziewiećdziesiat let, a pamior majuczy sto sorok let*, Peczatano w Kiewie [у:] LVIA 494 [*Штаб войск Виленского военного округа 1863–1901*], ap. 1, b. 19 [*Дѣло о дворянинѣ Казимірѣ Малиновскомъ*], l. 7 (1–8).

|1| # *PIEREDŚMIERTNYJ ROZHOWOR*

***Pustelnika Pietra***
***katoryj żyŭ́[1] u puszczy***
***dziewiećdziesiat let, a pamior majuczy sto***
***sorok let.***

Peczatano w Kiewie.

|3| Wo Imia Otca ✠ i Syna i Swiatoho Ducha. Amen.

Leta mojei starości zawuć mienie k mohile, smiérć moja zawie mienie pred strasznyj sud Bożyj, hdzie my za usio otwieczać budziem.

Piered smierciju chaczu pohoworyć z wami, na szto ja czerez sto sorok, let hiadzieu[2], i piereskazać usio – szto Milosiernyj Boh dla Polskoj ziemli pryhatowiu.

Wiecznaja cześć i chwała Bohu Atcou naszych, a synam całoj ziemli Polskoj wiecznaj swaboda!

|4| Miłyje Dzietki!

Byu czas kali usi ludzi na Polskoj ziemli byli rounyje, i pod opiekoju Boha zyli[3] zhodno i szczaśliwo, jak dzieci odnoho Otca Niebiesnoho. Tahdy nie było – ni szlachty ni panou, ni mużykou, bo usi byli braty, a braty zausiohdy sobie rounyje.

Ale złyje susiedzi pozawidowali nam hetaho szczaścia, stali napadać predkou naszych sztoby zabrać ich u niewolu. Tahdy pradziedy naszy stali raić, stali prydumywać sposoby – jak od złych susiedou boronić sie, i postawili takij zakon: sztob kożnyj mołodyj czaławiek służyu u zaunierach i wojowau prociu niepryjaciela.

Usich ludziej wojennych nazwali szlachciczami, bo jany po szlachach ciekli jak wada i odhaniali niepryjaciela. A hospodarou żonatych nazwali mużami – pośla mużykami. |5| Dobryje i czesnyje syny mużykou z achwotoju szli u żauniery, bo wiedali szto służać całomu narodu, szto boroniać swoich Atcou, swoich matok, i wiéru swoich predkou.

Za takuju zasłuhu całyj narod daryu żaunieram ziemlu, katoraja pie-

[1] Літары ***й*** друкарня, пэўна, не мела, але той факт, што дзеля загалоўку выдавец “знайшоў” літару ***й́***, можа сведчыць пра наяўнасць у рукапісе, з якога рабіўся набор, названае літары.
[2] Памылка друку. Трэба: *hladzieu*.
[3] Памылка друку Трэба: *żyli*. Магчыма, друкарня не мела дастатковай колькасці літары ***ż***, дык ужывалася літара **ż̓** (*z* з апострафам).

rechodziła na ich patomstwo, i uwolniali ich od usiakich powinnościej.

Haspadary – mużyki, katoryje nie służyli zaunierami, płacili na cełyj hód podatku – złotyj z komina, a nie z duszy, bo dusza sobstwenność Boża, i za jeje podatkou nikto brać nie smiéje.

Naszy pradziedy wojowali wielmi czasto; bo na bohatuju ziemlu Polskuju napadali: niewiérnyje Turki, hałodnyje Niemcy i Maskali.

Ale Boh błahosłowiu predkam naszym, bo jany bajali sie Boha, lubili Jaho, u złoj niedoli druhim pomahali, czużoho nie żadali, a tolki swoju ziemlu, i wolność bronili.

|6| Nakoniec – pahanyje susiedzi: Austryjak, Prusak i Maskal zhawarylisie, razom u troch napali pradziedou naszych, zwijawali[1] ich, a cełu ziemlu Polskuju pomiż siebie rozdzielili. Dzwie czaści zabrali hałodnyje Niemcy, a treciu Maskal.

Siwaja haława moja, i waszyje dziedy pamietajuć od czaho naczałasie nasza niewola. Napiérsz stali kasować naszy unijackije cerkwy; pataptali Ałtary Boży wiery predkou naszych, u cerkwach Bożych pastroili carskije worota, i prestoły; siłoju hnali narod i ksiendzou za processijeju prociu sonca, gwałtom powiernuli narod w kazionnuju wieru, katoru nazwali prawosłaunoju, i prykazali molićsie caru maskouskomu, a nie Bohu. Niepazwolili narodu uczyćsie, prykazali służyć panszczynu popam, i pazwolili im razom i dziakami[2] obdzirać naród nieszczasnyj. Ale hetoho mało.

|7| Z wieku ludziej wolnych zapisali u skazki i nie|pazwolili pierechodzić z odnoho miesca na druhoje. Zasłużanym zaunieram odobrali ziemlu, popisali ich u Odnodworcy, na cełyj narod – pa maskouski nałożyli ciażkije podatki z duszy, stali brać u rekruty i hnali ich za kraj świeta; prykazali robić panszczynu po inwentaru, jakoho nikto nie znau na ziemli Polskoj. Zasłużonych zaunierou starszych, katoryje stajali za narod, i mnoho mużykou, szto stojali za swoju wolność i ziemlu, zahnali u Sibir i stali hłumiście nad narodem.

I nastała dzietki ciażkaja niewola, jakoi od sotworenija świeta na Polskoj ziemli nie bywało! Bo i żydou nieszczasnych, katorych predki naszy jak hościej pryniali na swoju ziemlu, stali brać u rekruty, stali odziewać po maskouski, i gwałtom naworoczać na kazionnuju wieru.

|8| Tahdy cełyj narod zapłakau! Reki niewinnoi krawi pociekli na mohiły predkou naszych, slozy wdow i sirot poworoszyli ich kości, usia ziemla zastohnała i wyzwała malitwu k Bohu – sztob Jon pierestau karać hresznych.

Miłosiernyj Boh wysłuchau modlitwu naszu; slozy sirot pryniau za pokutu, i posłau wielikoho Prancuza sztoby naszu ziemlu uwolniu. Prancuz, pobiuszy Maskala pod Sewastopolem a Niemca koło Rzymu, podpisau dla cełoj ziemli Polskoj i narodu wólność, i prykazau Maskalu: brać podatki nie z duszy – a z chaty po złotomu, jak było za Polszczy; prykazau pozwolić pierechodzić narodu z odnoho miesca na druhoje, stroić unijackije cerkwy, i molićsie u nich nie caru maskouskomu, a tolki Jedynomu Bohu.

Niepazwoliu wybirać narod u rekruty i hnać za kraj świeta, a tolki pasyłać

[1] Трэба: *zwajawali*.
[2] Трэба: *z dziakami*.

maładych lu|**9**|dziej u Polskije żauniery, na czatyre hody – i u swajom Powiécie.

Wielikij Prancuz prykazau: kupić dla mużykou od Panou ziemlu; zaunieram, i tym szto u maskalach, dawać na zimu każuchi, douhije boty, funty dwa biéłoho chleba, poutora funta miasa i pietnanceć hroszy u dzień na cicion[1].

Objawiuszy heto starym sałdatam, Prancuz prykazau odpuścić ich do domu, sztob jany usio rozkazali narodu. Ale car maskouskij rozdumausie – szto maje sobstwennyje majontki z poddanymi, katoryje płaciać jamu cynsz i podatki z duszy. Rozhledzieusie szto z takoju woleju, – jakaja była za Pólszczy, kazna jaho zapustuje.

Nuż czerez popou i sudomych duryć i tumanić naród, – woleju, a Prancuzu pisać: szto dla mużykou kupiu uże ziemlu, szto odnodworcy i mużyki nie płaciać podatkou, szto |**10**| ich popy i sudowyje nie obdzirajuć, szto maskali po wioskach nie objedajuć, i szto narod żywie sausiem szczaśliwyj. I poradowausie Prancuz, szto pamoh naszomu narodu, a car maskouskij tamu – szto obmaunu[2] myżukou i Prancuza.

Ale obmanom świet pierejdziesz a nazad nie wierniesz. Narod stau żalićsie, i stau narekać szto nie maje polohki, a Prancuz, ahledzieuszejsie szto jaho abmunuli, naczau sabirać wojsko sztoby cełyj narod uwolnić.

Uznauszy ob hetom car pierepałochausie; nasłau k nam maskalou, sztoby niepozwolili narodu spiéwać u kościołach i płakać ob swajom hory, a sam po niemnohu stau ustupać: wartu, starożu, i panszczynu, katorych za Polszczy naszy predki nie znali, i spodziejestsie szto narod scichnie. Ale wy miłyje dzietki pryzawićcie Boha na pomoszcz i cierpiećcie. Nie wierćcie popam i sudowym kali wam ha|**11**|waryć stanuć, szto car maskouskij podarujeć dla was ziemlu. Popytajcie takich ludziej – czamu car niepodarowau kazionnym mużykam ziemli? Nie wiércie tamu, kali was k lichomu podmaulać stanuć, i nie wiércie tamu szto car ob was dumaje, bo jon dumaje tolki ob podatkach i hetych wam nie|podaruje.

Niepryjaciel wiery naszych predkou nie może dobra zyczyć narodu.

Miłosiernyj Boh prywiedzie k wam korola Polskoho z wojskom Polskim i Prancuza, a wy idzicie pomahać im prohnać maskala iz ziemli waszych predkou'![3] Tahdy usiakomu żaunieru daduć ziemlu, jak heto było za waszych predkou.

Statkujcie[4] i słuchajcie ludziej rozumnych, katory wam dobra zyczać, curajciesie ludziej pahanych i żyu'icie[5] zhodno so usiemi susiedami waszymi. Nie nazywajcie nikoho – ni panom[6], ni żydom, ni Tataram; bo usie wy |**12**| braty, bo

---

[1] Трэба: *ciciun* (?). Гл.: I. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 689: "ЦИЦЮ́НЪ, у, с. м. Листовой, курительный табакъ. *Куривъ бы пипку, да цицюну немáшъ*".

[2] Трэба: *obmanu*.

[3] Літара **u'** (*у* з апострафам) з'явілася, відаць, дзеля абазначэння гуку [ў].

[4] Гл.: I. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 614: "СТАТКОВА́ЦЬ, -кую, гл. ср. Степенничать, вести себя прилично. *Не женатый гулявъ, а, якъ оженився, статковаць ставъ*".

[5] Трэба: *żywicie*. Але, магчыма, у рукапісе было *żyйicie*.

[6] Словы, якія сведчаць, што аўтар не быў прыхільнікам "помещичьего лагеря" (сцвярджэнне З. Тальвірскае).

usie wy dzieci odnoho Boha i odnoi ziemli Polskoj.

Wy braty szlachta! pokażycie całomu świetu szto wy syny daunich żaunierou, katoryje stajali za wolność narodu i ziemli Polskoj.

Wy dzieci moi mużyki! idzicie za szlachtoju i pomahajcie Polakam, bo czerez ich tolko dostaniecie ziemlu i wolność wo wieki wiekou.

Ale usiakoje dzieło, jak i waszy predki, naczynajcie z Bohom. Podajcie sabie ruki, jak braty, i idzicie razom, a Niémcy i Moskali buduć uciekać pred wami.

A kali prydzie pora, Atcy i matki błahosławicie synou waszych i posyłajcie ich na pomoszcz korolu Polskomu, a Boh pobłahosławić wam, i wy kości swoi położycie na sobstwennoj i wolnoj ziemli! Tahdy Boh predkou waszych poradujetsie waszemu szczaśćju, a wy pred Jaho Ałtarami zaspiewajecie ma|13|litwu radości, szto Boh was uwolnić wo wieki wiekou, Amen.

### *HYMN.*

Bożе szto Polszczy prez nieśmietny wieki
Dau cześć i chwału, scieroch od niewoli,
A nie|żaleuszy atcouskoj opieki
Suliu paciechu u nieszczasnoj doli.
Piered ałtary molitwu zanosim,
Baćkouszczynu wolnu waraci nam prosim.

Ty pożaleuszy jeje u złoj pryhodzie
Nieraz pobici Maskala dau siłu,
Sierod nieszczaścia, u praużednom rodzie
Dabawiu chwały choć paszła u mahiłu.
Piered ałtary molitwu zanosim,
Baćkouszczynu wolnu woraci nam prosim.

|14| O Ty katoryj ułaść koronowanych
Maulau bylinku złomisz u huiennom[1] sudzie,
Satry|ż u poroch Maskalou pohanych,
Daj nam nadzieju szto Polszcza żyć budzie.
Piered ałtary molitwu i t. d.

Ty Turewicka Preświataja Dziewa,
Jedyna maci propaszczoho rodu,
Litwy i Polszczy można Korolewa,
Uprosi Syna kab dau nam swabodu.
Piered ałtary molitwu i t. d.

Daj|że nam prosim baćkouszynu wolnou
Rodnieńkoj niwie urożaj daj wiernyj,
Zhodu i szczaście, radość nieprakwolnu,

[1] Трэба: *hnieunom*.

Hodzi karaci Boże miłosiernyj.
Piered altary molitwu i t. d.

|15| U Pietrykowie, Turowie, Maskali
Ciabie, nas, siłoj u Syzmu nawiernuli,
Sprau sztob od syzmy Ty i my odstali,
Sztob razom z Polszczoj kajdany rozkuli.
Piered ałtary molitwu zanosim,
Baćkouszczynu wolnu waraci nam prosim.
Amen.

# Са справы Штаба войскаў Віленскае вайсковае акругі

Судова-следчая справа Казіміра Маліноўскага, у якой захаваўся асобнік гутаркі *Перадсмяротны разгавор…*, цікавая тым, што шляхціца абвінавачваюць у чытанні сялянам беларускамоўнага тэксту “возмутительнаго содержанія”. Гэта ці не адзіная справа часоў Паўстання 1863 г., у якой і следства, і суд канцэнтраваліся вакол гэтага “злачынства” К. Маліноўскага. З матэрыялаў следства захавалася толькі два дакументы – допыт (дакладней: г. зв. “вопросные пункты”) К. Маліноўскага жандарскім палкоўнікам Б. Рэйхартам і допыт павятовым спраўнікам дванаццаці сялян Пархімкаўскае воласці Бабруйскага павета. Арыштаваны[1] 14 лютага (ст. ст.) 1863 г., К. Маліноўскі быў прывезены ў губернскі Мінск і 16 лютага адказаў на пісьмовыя пытанні следчае камісіі. Хоць адказы і запісаныя ўласнаручна К. Маліноўскім, але даць ім веры мы не можам. “Палітычны злачынец”, відавочна, імкнецца схаваць праўду. Бо ведаў, якая чакае яго небяспека. Дык невыпадкова прымаў пэўныя меры засцярогі: разам з крамольнаю гутаркаю меў у сябе і афіцыёзную *Бясѣду старага вольника зъ новыми, пра ихнае дзѣло*. Аднак выкарыстаць гэта не здолеў: замяніць адну кніжачку на другую яму падчас арышту не дазволіў асэсар (заседацель) бабруйскага суда.

Больш незразумелаю ўяўляецца справа з допытамі сялян, якія не мелі анічога супраць К. Маліноўскага і чытанае ім кніжачкі падчас арышту, але праз месяц асобныя з іх зусім інакш апавядаюць пра тлумачэнне ім прачытанага валасным пісарам. Іхныя прызнанні, можа, і не разыходзіліся з праўдаю, але якім коштам павятовому спраўніку ўдалося атрымаць іх? Відаць, дазволеную працэдуру ён парушыў, што, дарэчы, выкарыстаў адвакат К. Маліноўскага і дамогся адмены абвінавачвання, што падсудны “подстрѣкалъ ихъ (сялян. – М. Х.) противъ Правительства”.

Увогуле, трэба сказаць, што следства, як спраўнікам, так і камісіяю, вялося паспешна і некваліфікавана. Паліцыю і жандараў мала цікавіла само “злачынства” і хто стаіць за “злачынцам”. Хіба, спяшаліся асудзіць “віноўнага” на восем гадоў катаржных работ, каб іншыя баяліся.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле рукапісу: LVIA 494 [*Штаб войск Виленского военного округа 1863–1901*], ap. 1, b. 19 [*Дѣло о дворянинѣ Казимірѣ Малиновскомъ*], l. 2r–3v, 6r–6v, 9r–9v, 10r–13v, 14r–31v, 33r–38v, 42r).

---

[1] У рапарце мінскага цывільнага губернатара генерал-губернатару У. Назімаву гаворыцца, што К. Маліноўскі быў арыштаваны на падставе “полученныхъ <…> свѣденій”. Відавочна, маецца на ўвазе данос нейкага з мясцовых “інтэлігентаў” – папа ці ваколічных шляхціцаў.

## 1. Андрэй Кажэўнікаў[1] да Уладзіміра Назімава

|2r| Министерство Внутреннихъ Дѣлъ. Минскаго гражданскаго губернатора. По канцеляріи. Марта 25 дня 1863 года. № 719. Г. Минскъ. По особому Отделенію.

Господину Виленскому Военному Губернатору и Генералъ Губернатору Гродненскому Ковенскому и Минскому.

Волостной писарь Пархимковской[2] волости Бобруйскаго уѣзда дворянинъ Казиміръ Малиновскій, при собраніи временнообязанныхъ крестьянъ читалъ брошюру возмутительнаго содержанія. Въ слѣдствіе полученныхъ объ этомъ свѣденій произведенъ былъ у Малиновскаго обыскъ, и хотя при обыскѣ Малиновскій сдѣлалъ запирательство въ удержаніи у себя означенной брошюры а равно и чтеніи, но потомъ оказалась у|него эта брошюра подъ заглавіемъ *Pieredsmiertnyi rozhowor Pustelnika Pietra* и бывшие въ то время лица подтвердили, что дѣйствительно та самая, которая была имъ читана.

|2v| По достовленіи дворянина Малиновскаго въ г. Минскъ, онъ подвергнутъ былъ допросамъ въ Высочайше учрежденной по политическимъ дѣламъ Коммисіи и показалъ, что дѣйствительно читалъ крестьянамъ эту брошюру, пріобретенную имъ будто у разнощика. Изъ произведеннаго на мѣстѣ дополнительнаго разслѣдованія оказалось: спрошенные, въ числѣ двенадцати человѣкъ, крестьяне показали, что волостной Писарь Малиновскій дѣйствительно читалъ имъ брошюру *предсмертный разговоръ Петра пустынника*; что разсказывалъ имъ, – будто поляки бунтуются и на весну хотятъ занять границу по старый дубъ; что склонялъ ихъ запасаться оружіемъ, косами и топорами утвѣрждая, что при управленіи Польскаго Правительства будетъ имъ лучше, не будетъ платежа податей, а только будутъ брать съ дома по 15 коп. и что при|томъ наговаривалъ ихъ отправиться вместе съ нимъ и отбить провозимый въ Бобруйскую крепость порохъ.

|3r| Усматривая затѣмъ, что дворянинъ Малиновскій состоя въ должности волостнаго писаря, въ цѣли возбужденія крестьянъ къ возстанію противу Правительства читалъ имъ возмутительную брошюру, и это тѣмъ явственнѣе, что онъ Малиновскій подъущалъ крестьянъ запастись оружіемъ и|старался склонить ихъ противу правительства разными убѣжденіями; а затѣмъ признавая его виновнымъ въ злонамѣренныхъ поступкахъ, я полагалъ бы вреднымъ оставлять его на прежнемъ меѣтѣ жительства въ Бобруйскомъ уѣздѣ.

[1] Сапраўдны стацкі саветнік Андрэй Кажэўнікаў (1802–1867) з чэрвеня 1862 г. па красавік 1864 г. займаў пасаду мінскага цывільнага губернатара.

[2] У сярэдзіне 1880-х гг. Аляксандар Ельскі пісаў: “ПАРХІМАВІЧЫ (sic!), дзве размешчаныя побач вёскі ля рэчкі Добасня, Бабруйскі пав[ет], ля самай мяжы Рагачоўскага пав[ета], у 1 паліц[эйскім] стане, вол[асць] Бортнікі. П. Вялікія маюць 22 двары. П. Малыя, альбо Пархімаўская Слабада, – 18 двароў. Глеба пясчаная, шмат лугоў, мясцовасць дастаткова лясістая”. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. VII, Warszawa 1886, s. 861. Сёння – вёска ў Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці. Уваходзіць у склад Добасненскага сельсавета.

О чемъ представляя на Начальническое благоусмотрѣніе Вашего Высокопревосходительства и представляя самое дѣло, имѣю честь доложить, что Малиновскій содержиться нынѣ на гаубтвахтѣ въ г. Минскѣ и что въ послѣдствіе сдѣланнаго мною распоряженія, должность волостнаго писаря Парахимковскаго общества замещена уже дру|3v|гимъ лицемъ избраннымъ самимъ обществомъ.

Гражданскій Губернаторъ [*подпіс*:] Кажевниковъ.

*Арыгінал.*

## № 2. Допыт Казіміра Маліноўскага палкоўнікам Барысам Рэйхартам

Дакументы № 2 і № 3 далучаны да справы: *Военно-судное Дѣло Произведенно Полевымъ военнымъ судомъ, при штабе 3й Пѣхотной Дивизіи учрежденнымъ надъ волостнымъ писаремъ изъ дворянъ Казимиромъ Малиновскимъ, сужденнымъ за имѣніе у себя книжки возмутительнаго содержанія и читаніе оной крестьянамъ. Начато 17го кончено 21го Маія 1863 года. На 35ти листахъ*.

|6r| 1863 года 16го Февраля Слѣдственная Коммисія по политическимъ дѣламъ въ г. Минскѣ.

| Вопросы: | Отвѣты: |
|---|---|
| 1. Какъ Ваше Имя, Отчество и Фамилія; сколько Вамъ отъ роду лѣтъ; какого Вы званія, гдѣ имѣете постоянное жительство; какой Вы вѣры, бываете ли на исповѣди и гдѣ именно? чѣмъ занимаетесь; не\|были ли подъ судомъ и слѣдствіемъ? [*Подпісы:*] Полковникъ Рейхартъ, Надворный Совѣтникъ Фонь Брикъ[1]. | Казиміръ Сильвестровъ Малиновскій 22 года изъ Дворянъ постоянное место жительства въ городѣ Бобруйскѣ вѣроисповеданія римско католическаго въ исповѣди бываю при приходскомъ Костелѣ Бобруйскомъ занимаюсь при должности Волостного Писаря Пархимковской Волости 17го Мироваго Участка подъ судомъ и слѣдствіемъ не\|былъ. – [*Подпіс:*] Малиновскій. |
| \|6v\| 2. При собраніи крестьянъ читали Вы книжку подъ заглавиемъ *Предсмертный Раговоръ Пустельника Петра*; отъ куда Вы пріобрели эту книжку? [*Подпісы:*] Полковникъ Рейхартъ, Надворный Совѣтникъ Фонь Брикъ. | *Предсмертный разговоръ Пустельника Петра* читалъ при собраніи Крестьянъ которую купилъ у коробочника. [*Подпіс:*] Малиновскій. |

[1] Прозвішча прачытанае, магчыма, недакладна.

| | |
|---|---|
| 3.<br>Какъ книга эта возмутительнаго содержанія, то почему Вы, во первыхъ не задержали каробочника продавшаго таковую, – и во вторыхъ, дерзнули познакомить съ нею крестьянъ?<br>[*Подпісы:*] Полковникъ Рейхартъ, Надворный Совѣтникъ Фонь Брикъ. | По недальнѣвидному своему образованію [*нечыт.*] я содержаніе сей книги [*нечыт.*]; коробочникъ который продавалъ продавъ скоро скрылся и видя что вольная продажа я не стесняясь прочелъ.<br>[*Подпіс:*] Малиновскій. |
| 4<br>Почему Вы, когда Засѣдатель Бобруйскаго Зем\|9r\|скаго суда[1] спрашивалъ у Васъ эту книгу, вы запинаясь въ отвѣтахъ, стали искать и подали другую книгу подъ заглавіемъ *бѣсѣда*, а эту т: е: *Dziadek*[2] спрятали въ боковой карманъ, которую повынулъ изъ кармана Вашего Засѣдатель; это доказываетъ что вы хорошо поняли не благонамѣренное ея содержаніе; а потому объясните, съ какою цѣлію Вы читали крестьянамъ это преступное сочиненіе?<br>[*Подпісы:*] Полковникъ Рейхартъ, Надворный Совѣтникъ Фонь Брикъ. | Когда Старшій Засѣдатель приехавъ ко мнѣ на\|квартиру и начиная дѣлать обыскъ дѣйствительно, что я на заглавіе *Dziadek* я въ понятіи своемъ вообразилъ *бѣсѣду* и подьнесъ ему и не\|зная старшего Засѣдателя который при первыхъ порахъ поступилъ строго, [*нечыт.*] и въ карманѣ отъ испугу я даже и забылъ и ранее цѣли не\|было никакой, но такъ какъ крестьяне выслушавъ одну они просили прочитать и другую, я смотря по первой и не подозревая прочиталъ имъ.<br>[*Подпіс:*] Малиновскій. |
| 5.<br>Въ 4мъ пунктѣ Вашихъ отвѣтовъ Вы показали, что забыли о томъ что книга находилась у васъ въ \|9v\|\| карманѣ, тогда какъ люди участвовавшіе при обыскѣ видели какъ вы эту книгу спратали въ боковой карманъ. Что служитъ доказательствомъ несправедливости Вашихъ показаний.<br>[*Подпісы*:] Полковникъ Рейхартъ, Надворный Совѣтникъ Фонь Брикъ. | Книга о которой вспоимнаеться въ 4 пунктѣ я не\|пряталъ ея сей минуты но действительно была уже въ кармане отъ того что я хотелъ ѣхать въ городъ и что сіе показаніе сихъ людей есть ложное.<br>[*Подпіс:*] Малиновскій. |

*Арыгінал.*

[1] Старшым асэсарам (засядацелем) Бабруйскага земскага суда быў у 1863 г. Хаецкі.
[2] Незразумела, чаму *Перадсмяротны разгавор*… тут называецца *Dziadek*.

## № 3. Допыт сялян спраўнікам Палікарпам Цытовічам

|**10r**| 1863 года Марта 5 дня Бобруйскій Земскій Исправникъ въ Исполненіе Предписанія Гна Начальника Губерніи отъ 22 февраля за № 362 прибывъ въ Пархимковское Волостное Правленіе допрашивалъ ниже поимянованныхъ Крестьянъ.

1. Евменъ Федоровъ Голубъ Старшина Пархимковской Волости Временно обязанныхъ Крестьянъ имѣетъ лѣтъ 38 вѣроисповѣдания Православнаго у Исповѣди и Св: причастій ежегодно бываетъ подъ Судомъ не|былъ, женатъ дѣтей имѣетъ неграмотенъ ПОКАЗАЛЪ Что бывшій волостной Писарь Казимиръ Малиновскій некоторымъ Крестьянамъ сей же Волости примѣрно полагая человѣкамъ 5 читалъ по одиночкѣ какую то книжку Петра Алексѣева Пустельника, но не|всѣ слышевшіе Крестьянѣ хорошо поняли, Малиновскій говорилъ что Поляки бунтуются и|что за|польщею будѣтъ лутше, Паны дадутъ даромъ землю и|податей не|будетъ, а только платить будутъ съ хаты подымнаго одинъ злотъ (15 коп:) въ|годъ, и|что поляки на|весну хотятъ занять границу по старый дубъ[1], Поляки крѣпко взялись они начали преждѣ съ ножёвъ, |**10v**| на|это Старшина Ему возразилъ, почему же теперь сосѣдственный Польскій Панъ Монкѣвичъ не|дарить даромъ земли? на это Малиновскій отвѣтилъ что Царь не|дозволяетъ, Старшина спросилъ Кто будѣтъ командовать? Малиновскій отвѣтилъ тотъ что знаетъ лутше, Малиновскій говорилъ что будутъ вѣсти порохъ, отбѣремъ для насъ достаточно будѣтъ, болѣе Малиновскій къ Ему Старшинѣ в|ничемъ не|отзывался и вскорости былъ взятъ Начальствомъ съ Пархимковичъ, Малиновскій былъ волостнымъ Писаремъ годъ и пять мѣсяцевъ обучалъ крестьянскихъ дѣтей по собственному желанію самихъ Крестьянъ хозяевъ, грамотѣ русской и почасти Польской азбукѣ чрезъ одинъ годъ и пять мѣсяцевъ преждѣ въ|ничемъ предосудительнымъ не|былъ замѣченъ, вёлъ себя трезво и чесно, а въ|послѣднее времѣ мало занимался своею должностью больше всё разъѣжалъ къ шляхтамъ Могилевской Губерніи но для чего не|знаетъ, Прочитанной Малиновскимъ Книжечкѣ и Его разказалъ Крестьянѣ не|поверили щитали за глупость |**11r**| и|возражали Ему Что у нашего Государя много есть войска. – Что пояснивъ поистинѣ в|томъ по неграмотству печать приложилъ добавляя Что школка уже совершенно закрыта. –

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ[2].

2й Семенъ Нестеровъ Кушнеровъ Лѣтъ 35 Староста Пархимковскаго общества Крестьянъ вышедшихъ съ Крепостной зависимости, вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастій ежегодно бываетъ, неграмотенъ женатъ подъ Судомъ не|былъ ПОКАЗАЛЪ во всѣмъ сходно съ

---

[1] Гаворка пра горад Старадуб Чарнігаўскае губерні (сёння: Бранская вобласць Расеі).

[2] Надворны саветнік Палікарп Цытовіч да восені 1863 г. займаў пасаду спраўніка Бабруйскага земскага суда. Ужо ў 1861 г. меў "знакъ отличія безпорочной службы за XX лѣтъ". Пазней быў суддзёю павятовага суда.

1[мъ] Старшиною Евменомъ Голубомъ в|томъ по|неграмотству упросилъ за|себя росписатся. [*Подпіс:*] За Семена Нестерова Кушнерова. –

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

3[й] Кирьянъ Осиповъ Грищенокъ Лѣтъ 37 Староста деревни Пустошки волости Пархимковской, вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастія ежегодно бываетъ, подъ Судомъ не|былъ, женатъ ПОКАЗАЛЪ во всѣмъ согласно |**11v**| съ 1[мъ] Старшиною Евменомъ Голубомъ в|томъ по незнанію Грамоты упросилъ за|себя росписатся. – [*Подпіс:*] Кирьяна Осипова Гришченка.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

4[й] Сымонъ Гришковъ Шалуга Лѣтъ 65 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастія ежегодно бываетъ подъ Судомъ не|былъ неграмотенъ женатъ дѣтей имѣетъ ПОКАЗАЛЪ Что бывшій волостной Писарь Малиновскій читалъ Ему какую то Книжку и говорилъ что за|польскими Панамъ лутше будѣтъ а|такъ|же что нужно дабы были косы и|топоры. Читанного Малиновскимъ нехорошо понялъ по глухотѣ [*нечыт.*] по истинѣ в|томъ по неграмотству упросилъ за себя расписатся. – [*Подпіс:*] Сымона Грышкова Шалуги.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

5[й] Леонъ Пилиповъ Лѣтъ 50 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: Причастія ежегодно бываетъ, неграмотенъ, подъ Судомъ не|былъ, женатъ дѣтей имѣетъ Крестьянинъ временнообязанный селенія Пархимковичъ ПОКАЗАЛЪ Что бывшій Писарь Малиновскій ничего Ему не|читалъ и не|говорилъ, но 2[го] Февраля сынъ показателя Матвѣй возилъ Малиновскаго по найму въ Костелъ въ Антушина[1] ѣдучи тотъ Малиновскій говорилъ сыну когда у Васъ есть ружья а|такъ|же Косы и|топоры прятайтѣ на|весну дастъ Богъ нужно будетъ. – В|томъ по неграмотству упросилъ за себя росписатся. – [*Подпіс:*] Леона Пилипова по ихъ личной просьбѣ росписался дворянинъ Викентій Огрызко.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

|**12r**| 6. Матвей Леоновъ Лѣтъ 22 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастій ежегодно бываетъ подъ Судомъ не|былъ, женатъ ПОКАЗАЛЪ Что предъ|бывшею Свадьбою[2] въ Жиличахъ[3] именно 2 фев-

---

[1] *Słownik geograficzny…* падае, што ў Рагачоўскім павеце была вёска Антушаў (Antuszów) (t. I, s. 45) і ваколіца Антушы (t. XV, cz. 1, s. 44). У абодвух мясцовасцях былі касцёлы. Тут ідзе гаворка пра ваколіцу Антушы ля мястэчка Пабалава. Цікава, што да прымусовага продажу ў 1865 г. маёнтак Пабалава належаў Маліноўскім, магчыма, сваякам Казіміра. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. VII, Warszawa 1887, s. 344.

[2] Магчыма, маецца на ўвазе вяселле Юзафа Булгака з Антанінаю Маліноўскаю, сын якіх Эмануэль (1865–1943) быў апошнім уладальнікам Жылічаў.

[3] А. Ельскі так апісваў гэтую мясцовасць: “Добасна, інакш Жылічы (DOBOŚNIA, inaczej ŻYLICZE), маёнтак у Бабруйскім пав[еце] (і Рагачоўскім), непадалёку ад мяжы

раля показатель возилъ Волостного Писара по найму въ околицу Антуши въ Костелъ на|обѣдню, туда ѣдучи Малиновскій говорилъ Ему Чтобы пратали у|кого есть ружья, а|такъ|же Косы и Топоры на|весну нужно будѣтъ всѣ пойдемъ за Польщу, у Его есть Книжечка за|которую если|бъ знало Правительство то Его бы взяли, за|польщею будетъ всѣмъ лутше и Крестьянѣ предъ никемъ фурашки не|будутъ снимать какъ|теперь, болѣе ничего Малиновскій не|говорилъ и по|обѣдни сей часъ уѣхали, на|всё выше изложенное показатель Малиновскому ничего не|отвечалъ что пояснилъ по самой Истине в|томъ по|неграмотству упросилъ за|себя росписатся. – [*Подпіс:*] Матвѣй Леоновъ а за его яко неграмотного по личной его прозьбѣ росписался Парфимковский Волостной Писаръ Аполлинарій Карловъ Чурко. –

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

|12v| 7[й] Игнатъ Миновъ Лѣтъ 75 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастія ежегодно бываетъ, подъ Судомъ не|былъ, неграмотенъ, женатъ, Крестьянинъ Пархимковскаго Волостнаго Правленія, ПОКАЗАЛЪ Что бывшій Писарь Малиновский ни чего Ему не|читалъ и|не|говорилъ и|онъ объ|ничемъ несведущъ В|томъ по неграмотности упросилъ за|себя росписаться. – [*Подпіс:*] за Игната Минова.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

8. Микита Миновъ Лѣтъ 66 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастія ежегодно бываетъ подъ Судомъ не|былъ тоже Крестьянинъ Пархимковской Волости ПОКАЗАЛЪ согласно съ 7[мъ] Игнатомъ Миномъ в|томъ по незнанію Грамоты упросилъ за|себя росписатся. – [*Подпіс:*] Микиту Минова.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

9 Василь Карнѣевъ Сотскій селенія Пархимковичъ Лѣтъ 28 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: причастія ежегодно бываетъ

---

Магілёўскае губ[ерні], 36 вёрст ад Рагачова, даўняя ўласнасць роду Булгакаў г[ербу] Сыракомля. На пачатку б[ягучага] ст[агоддзя] адзін з уладальнікаў, маючы манію будавання, паставіў тут з небывалай пышнасцю палац на сто пакояў, утрымліваў вялікую капэлу і збіраў творы мастацтва. Да сённяшняга дня гэты помнік стаіць і ўтрымліваецца ў цэласці нашчадкамі. Гадоў 30 таму існавала тут першая і адзіная па значнасці цукроўня, а цукар Булгака быў знаны паўсюль. Цяпер маёнтак мае блізу 1000 морг[аў] абшару, не абуджае нічым важным увагі, адно палацам, які варта пабачыць, бо ў ім знаходзяцца розныя зборы, архіў і старыя кнігі. Н. Орда змясціў Д. у сваім *Альбоме*. Была ў Д. катал[іцкая] кап[ліцца] Бабруйск[ае] парафіі. Тут ёсць управа воласці, якая налічвае 1154 душы". *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. II, Warszawa 1881, s. 65.

Іншы аўтар *Геаграфічнага слоўніка* называў маёнтак Добасна Замкам (так пазначана і на расейскіх картах другое паловы XIX ст.) і паведамляў, апрача таго, што ў Жылічах быў "аграмадны сад, які мае больш за 5000 дрэў. Маёнтак мае 618 дзес[яцінаў]. Колісь тут была цукроўня. Пра Ж. існуе велікодная песня, у якой гаворыцца пра тое «Вялікае Сяло», жыхары якога шыкоўна апраналіся «ў лісіныя і сабаліныя світы і ў шапкі бабровыя». У мясцовасці шмат лугоў, лясоў, глеба пясчаная, ілістая". Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIV, Warszawa 1895, s. 891.

неграмотенъ подъ Судомъ не|былъ ПОКАЗАЛЪ согласно съ 7[мъ] Игнатомъ Мининымъ въ|томъ по|незнанію Грамоты упросилъ за|себя росписатся. [*Подпіс:*] Василія Карнѣева

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

|13r| 10[й] Карпъ Васильевъ дѣсятскій деревни Пустошки[1] Лѣтъ 45 вѣроисповѣданія Православнаго у исповѣди и Св: причастія ежегодно бываетъ, подъ Судомъ не|былъ, женатъ, неграмотенъ ПОКАЗАЛЪ во|всѣмъ сходно съ 7[мъ] Игнатомъ Мининомъ, в|томъ по неграмотству упросилъ за себя росписатся. – [*Подпіс:*] Карпа Васильева.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

11[й] Доменикъ Денисовъ Лѣтъ 40 вѣроисповѣданія Православнаго у исповѣди и Св: Причастія ежегодно бываетъ, подъ Судомъ не|былъ, неграмотенъ, женатъ ПОКАЗАЛЪ во всѣмъ сходно съ 7[мъ] Игнатомъ Мининымъ в|томъ по неграмотству упросилъ за|себя росписатся. – [*Подпіс:*] Доменика Денисова по личной и|рукоданной просьбѣ росписался дворянинъ Викентій Михайловъ Огрызко.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

и 12[й] Павелъ Степановъ Гласка Лѣтъ до 35 вѣроисповѣданія Православнаго у Исповѣди и Св: Причастія ежегодно бываетъ, подъ Судомъ не|былъ, неграмотенъ женатъ, дѣтей имеѣтъ Крестьянинъ Пархимковскаго воластнаго Правленія ПОКАЗАЛЪ что не|можетъ знать котораго именно Числа но за|дней 5 или 7 предъ взятіемъ Малиновскаго, зашедши къ Ему на квартиру гдѣ была и канцелярія |13v| волостнаго Правленія засталъ тамъ сѣдящихъ Старшину Евмена Голуба и старосту Пархимковскаго Сымона коимъ Писарь Малиновскій Читалъ и разъяснялъ какую-то Книжку, показатель остановился и слышалъ какъ Малиновскій говорилъ Что за Польщею лутше, не будетъ податей а только платить будутъ съ хаты по злотому (15 коп:) такъ какъ|было и|преждѣ за Польщи, Что теперь по церквямъ Бога не|хвалятъ а|только Молются за Царя, за Польщею же по Костеламъ Молятся Богу за народъ, потомъ говорилъ что то про немцевъ и Россію но хорошо не понялъ а|далѣе показатель не имѣя времени [болѣе] слушать ушелъ домой болѣе же никогда Малиновскій о ничемъ не говорилъ. – Что пояснилъ сущую правду в|томъ по неграмотности упросилъ за|себя росписатся. – [*Подпіс:*] за Павла Степанова Гласку яко|неграмотнаго по личной просьбѣ росписался Дворянинъ Огрызко.

[*Подпіс:*] Допрашивалъ Земскій Исправ[никъ] Цытовичъ.

*Арыгінал.*

---

[1] Вёска знаходзілася побач з Пархімкаўскаю Сладабою. У ёй напрыканцы XIX ст. былі 23 двары.

## № 4. Уладзімір Назімаў да Аляксандра Гольтгоера[1]

|**14r**| Штабъ Войскъ Виленскаго Военнаго Округа. По дежурству. Отделеніе. № 529. 2 Маія 1863 года. Въ Вильне.

Начальнику 3 Пѣхотной Дивизіи

Препроваждая при семъ къ Вашему Превосходительству слѣдственное дѣло о дворянинѣ Малиновскомъ, обвиняемомъ въ подстрекательствѣ крестьянъ къ бунту, предписываю предать его полевому военному суду при Штабѣ ввѣренной Вамъ Дивизіи, сдѣлать по сему предмету надлежащее распоряженіе и дѣло, по окончаніи, представить на мою конфирмацію.

Командующій войсками и Генералъ-Губернаторъ
Генералъ-Адъютантъ [*подпіс:*] В. Назимовъ.

*Арыгінал.*

## № 5. Аляксандар Гольтгоер да Аляксандра Воранава[2]

|**15r**| Штабъ 3$^{й}$ Пѣхотной Дивизіи. Отделеніе III. 13 мая 1863 г. № 2104. Дивизіонная квартира г. Минскъ.

Командиру Новоингерманландскаго пѣхотнаго полка, Полковнику Воронову.

По предписанію командующего войсками Виленскаго Военнаго Округа, отъ 2 сего мая за № 529$^{м}$, дворянинъ Казиміръ Малиновскій, обвиняемый въ подстрекательствѣ крестьянъ къ бунту, – предается при Штабѣ ввѣренной мнѣ дивизіи Полевому военному суду.

Въ составъ Коммисіи полеваго военнаго суда назначаю: Васъ предсѣдателемъ, ассесорами: ввѣреннаго Вамъ полка Поручиковъ: Степанова, Шупта, Лещинскаго; Великалуцкаго пѣхотнаго полка: Штабсъ Капитана Яблоновскаго, поручиковъ Тавинскаго и Ломакина; дѣлопроизводетелемъ аудитора |**15v**| ввеѣеннаго Вамъ полка Титулярнаго Совѣтника Иванова, и на основаніи приказа Военнаго Министра, отъ 3$^{го}$ Сентября 1862$^{го}$ года за № 243, назначается также особый прокуроръ, – оберъ-аудиторъ Штаба ввѣренной мнѣ дивизіи, Коллежскій Ассесоръ Григорьевъ, которому вмѣсте съ симъ передано означенное предписаніе Генералъ-Адъютанта Назимова за № 529$^{м}$, и присланное при немъ дѣло о дворянинѣ Малиновскомъ, для составленія обвинительнаго акта, и доставленія потомъ всѣхъ этихъ бумагъ въ учреждаемый подъ предсѣдательствомъ Вашимъ полевой военный судъ.

---

[1] Генерал-лейтэнант Аляксандар Гольтгоер з 1860 г да жніўня 1863 г. займаў пасаду начальніка 3-е пяхотнае дывізіі.

[2] Палкоўнік Аляксандар Воранаў з сакавіка 1863 г. да красавіка 1870 г. быў камандзірам Новаінгерманландскага палка, які ўваходзіў у склад 3-е пяхотнае дывізіі. Гл.: А.И. Пирожников, *Исторія 10-го пѣхотнаго Новоингерманландскаго полка*, Тула 1913, с. 286–287.

По окончанiи производствомъ дѣло представить на|конфирмацiю Командующаму войсками Виленскаго Военнаго Округа, и когда таковое будетъ представлено мнѣ донести.

Начальникъ дивизии, Генералъ-Лейтенантъ [*подпіс:*] Гольтгоеръ.
Начальникъ Штаба, Полковникъ [*подпіс нечыт.*].

*Арыгінал.*

### № 6. Аляксандар Гольтгоер да Аляксандра Воранава

|16r| Штабъ 3$^{й}$ Пѣхотной Дивизiи. Отделенiе III. 16 мая 1863 г. № 2196. Дивизiонная Квартира. Г. Минскъ.

Командиру Новаингерманландскаго пѣхотнаго полка.

По случаю командировки Поручика ввѣреннаго Вамъ полка Степанова, назначеннаго ассесоромъ въ коммисiю полеваго военнаго суда, учрежденную подъ предсѣдательствомъ Вашимъ надъ канцеляристомъ Михаловскiмъ[1] и дво짜яниномъ Малиновскiмъ, назначаю вмѣсто его Штабсъ Капитана ввѣренаго же Вамъ полка Макаревича.

Начальникъ дивизии, Генералъ-Лейтенантъ [*подпіс:*] Гольтгоеръ.

*Арыгінал.*

### № 7. Абвінаваўчы акт

|17r| Обвинительный актъ

Составленный изъ слѣдственнаго дѣла о дворянинѣ Казимiрѣ Малиновскомъ, преданномъ полевому военному суду, по обвиненiю въ подстрѣкательствѣ крестьянъ къ бунту.

По предписанiю Командовавшаго войсками Виленскаго Военнаго Округа, Генералъ-адъютанта Назимова, отъ 2 мая 1863 года за № 529$^{м}$, дворянинъ Малиновскiй обвиняемый въ подстрекательствѣ крестьянъ къ бунту, преданъ полевому военному суду при Штабѣ 3$^{й}$ пѣхотной дивизiи.

По делу значится:

Спрошенные при слѣдствiи: Старшина Пархимковской волости Бобруйскаго уѣзда временно-обязанныхъ крестьянъ Евменъ Голубъ, Староста Пархимковскаго общества крестьянинъ вышедшихъ съ |17v| крепостной зависимости Семенъ Кушнеровъ и Старшина деревни Пустошки той же волости Кирьянъ Грищенокъ показали, что дворянинъ Малиновскiй, будучи волостнымъ писаремъ, читалъ крестьянамъ по одиночкѣ челѣвѣкамъ пяти какую-то книжку *Петра Пустельника*. – Но слушавшiе крестьяне не всѣ

[1] Відаць, гаворка пра Мікалая Міхайлоўскага, які служыў у Мінскай палаце цывільнага суда (жыў у Бабруйску). Гл.: *Списокъ политическимъ преступникамъ, лишеннымъ по суду правъ состоянiя, имущества коихъ подлежатъ конфискацiи въ казну* [online] http://kdkv.narod.ru/1864/Spis-Xron.htm [доступ: 28.02.2020].

Wajnoj narobić sirot,
Iznoŭ nahacić bałot,
Naszym bratam i dziaćmi,
Pirałom ich pałami!

O! lepsza matka swaja,
Polszcza matka rodnaja,
Jaje słuchać, jej służyć,
I nawiek u szczaści być!
Heta pawinnaść dziaciej,
Tak Boh wialeŭ. Maskal zmiej.
A sa zmiajom nam nia żyć,
Bo zmiej możyć ukusić.

Jon biazwierny syzmatyk,
I uwieś świet padniaŭ kryk,
Tukaja jak na waŭka,
Szto jon kryŭdzić Palaka;
Zdziekawaćca|ż nad nami
Nia|budzić bolsz, my sami
Skinim jaho z naszych plecz,
I kasami stanim siecz.
Nia budzić bolsz panawać
Jak adżyła Polszcza mać.
|12| I nam usim wialeła,
Nia-mieć z Maskalom dzieła,
Bo moc swaju uziła
I paradki zawiła.

Niet użo maskoŭskich praŭ,
Ahłasiła swoj ustaŭ.
Niet użo ciapier panoŭ,
Nietu szlachty, mużykoŭ,
Usie roŭny jak adzin;
Bo z nas każny polski syn.
I usim ziamlu daduć,
I na sejmy pawiaduć,
I u wieru wiernuć nas;
Daj Boh skarej hetat czas;
I daj-ża za Polszczu mać,
Tabie cześć, chwału pijać.
Aman.

# Архіўныя дакументы

Выяўленая ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродна справа *О розыске дворянина Виленской губернии Пчицкого Франца, подозреваемого в сношениях с участниками восстания 1863 г.* (31 мая 1863 г. – 2 мая 1864 г. 27л.) не толькі пацвярджае рэальнасць асобы Франца Пчыцкага, але і дазваляе меркаваць пра ягоны ўдзел у Паўстанні, пра выкарыстанне ім у агітацыйных мэтах уласнае *Hutarki Biłaruskaje*. На жаль, пецярбургскі паліцмайстар не паведамляе ні пра крыніцы ягонае інфармацыі, ні пра тое, ці Ф. Пчыцкага шукала паліцыя, ці ён арыштаваны, ці знаходзіцца пад следствам[1]. Магчыма, пра дзейнасць Ф. Пчыцкага на Гродзеншчыне паліцыя ведала з даносаў сваіх агентаў. З гэтай прычыны яна настойліва патрабуе пацвярджэння звестак (гл. чатыры афіцыйныя лісты генерал-лейтэнанта Івана Аненкава). Гродзенскім губернскім уладам спатрэбілася амаль дзесяць месяцаў, каб атрымаць рапарты ад вайсковых начальнікаў і паліцмайстараў дзевяці паветаў. Прычына гэтай "павятовай маруднасці" невядомая. Урэшце, да 26 сакавіка 1864 г. звесткі ад падуладных былі губернатарам сабраныя. Павятовыя вайсковыя начальнікі і паліцмайстары адназначна паведамлялі, што звестак "не отыскано", "не оказалось", "ничего не|открыто", "не проезжалъ", "никто не виделъ", "не|было", "не появлялся и малейшихъ следовъ по этому предмету не оказалось", "не проживалъ" і інш. Можна думаць, што апрача агентурных даносаў пра агітацыю Ф. Пчыцкім сялян на Гродзеншчыне пецярбургскія ўлады не мелі іншае інфармацыі пра ягоную антыўрадавую дзейнасць. Дык не атрымаўшы ад вайсковага начальніка Гродзенскае губерні пацвярджэння агентурных звестак, Ф. Пчыцкі быў, відаць, ці то вызвалены з пад арышту, ці з яго былі знятыя падазрэнні. Пэўна, справу Ф. Пчыцкага можна выявіць у фондзе пецярбургскага генерал-губернатара ці пецярбургскага обер-паліцмайстара.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: НГАБ у Гродне, ф. 1 [*Канцелярия гродненского губернатора*], воп. 34 [*за 1842–1868 гг.*], спр. 349 [*О розыске дворянина Виленской губернии Пчицкого Франца, подозреваемого в сношениях с участниками восстания 1863 г.* (31 мая 1863 г. – 2 мая 1864 г. 27л.], арк. 1–2v, 7, 11, 23–24.

[1] Відаць, варта звярнуць увагу на словы обер-паліцмайстара І. Аненкава, што Ф. Пчыцкій адно "проживающій въ С. Петербургѣ", г. зн. яго толькі падазраюць у "неблагонадёжности" і ён не быў арыштаваны. Усё ж пецярбургскім генерал-губернатарам быў у той час А. Сувораў, а ягоныя метады кіравання шмат у чым адрозніваліся ад метадаў віленскага генарал-губернатара М. Мураўёва.

## 1. Іван Аненкаў[1] да Уладзіміра Бобрынскага[2]

|1r| С. Петербургскаго Оберъ-полиціймейстера. Канцелярія. Столъ 1. 31 Мая 1863 года. № 1419.

Начальнику Гродненской Губерніи

Проживающій въ С. Петербургѣ Виленскій дворянинъ Францъ Антоновъ Пчицкій действіями своими навлекаетъ на себя подозрѣніе въ политическомъ отношеніи.

Изъ дошедшихъ до меня свѣдѣній видно, что Пчицкій ѣздилъ въ Гродненскую губернію и назвавъ себя Янки, говорилъ крестьянамъ возмутительные рѣчи, въ слѣдствіе сего, его тамъ разыскивали[3], но онъ успѣлъ скрыться.

Признавая необходимымъ удостовѣриться въ справедливости изложенныхъ свѣдѣній, я имѣю честь |1v| покорнейше просить Ваше Превосходительство увѣдомить меня, дѣйствительно ли дворянинъ Пчицкій пріѣзжалъ въ ввѣренную Вамъ губернію подъ именемъ Янки и въ какой степени заслуживаютъ вѣроятія изложенныя о|нимъ свѣдѣнія.

Генералъ-Лейтенантъ [*подпіс нечыт*].
Правитель Канцеляріи [*подпіс нечыт*].

*Арыгінал.*

## 2. Уладзімір Бобрынскі да вайсковых павятовых начальнікаў

|2r| М. В. Д. Военнаго Губернатора города Гродно и Гродненскаго Гражданскаго Губернатора. По канцеляріи. Столъ секретный. Іюня 13 дня 1863 года. № 1347. Г. Гродно. Циркулярно.

Г. г. Военнымъ Уезднымъ Начальникомъ и Полиціймейстеромъ

С. Петербургскій Оберъ Полиціймейстеръ отъ 31$^{го}$ Мая за № 1449$^{мъ}$ уведомилъ меня, что проживающій въ С. Петербургѣ Виленскій дворянинъ Францъ Антоновъ Пчицкій действіями своими навлекаетъ на себя подозрѣніе въ политическомъ отношеніи.

Изъ дошедшихъ же до него Генералъ Лейтенанта Аненкова свѣдѣній видно, что Пчицкій ѣздилъ въ Гродненскую |2v| губернію и назвавъ себя Янки, говорилъ крестьянамъ возмутительные рѣчи, въ слѣдствіе сего, его тамъ разыскивали, но онъ успѣлъ скрыться.

---

[1] Іван Аненкаў (1814–1887), малодшы брат вядомага літаратурнага крытыка і пушкініста Паўла Аненкава (1812–1887), з сакавіка 1862 г. займаў пасаду пецярбургскага паліцмайстара.

[2] Генерал-маёр Уладзімір Бобрынскі (1824–1898) з красавіка па жнівень 1863 г. выконваў абавязкі вайсковага губернатара горада Гродна і гродзенскага цывільнага губернатара.

[3] Агітатара "Янки" павінны былі расшукваць гродзенскія жандары ці паліцыя. Відавочна, пецярбургскі обер-паліцмайстар карыстаецца адно чуткамі, якія былі пададзеныя яму агентам.

Въ следствіе сего, предлагаю Вашему Высокоблагородію удостовѣриться въ справедливости изложенныхъ свѣдѣній и увѣдомить меня не былъ ли дворянинъ Пчицкій въ Гродненскомъ уѣздѣ[1] подъ именемъ Янки и если былъ, то въ какой степени заслуживаютъ вѣроятія изложенныя о|нимъ свѣдѣнія.

Свиты Его Величества
Генералъ Маіоръ [*подпіс*:] Бобринской.

*Арыгінал.*

### 3. Іван Аненкаў да Івана Скварцова[2]

|**7r**| С. Петербургскаго Оберъ-полиціймейстера Канцелярія. Столъ 1. 31 Декабря 1863 года. № 6289.

Начальнику Гродненской Губерніи.

Имѣю честь покорнѣйше просить Ваше Превосходительство увѣдомить меня на отношеніе мое, отъ 31[го] Мая сего года за № 1419, по предмету доставленія свѣдѣнія о дворянинѣ Францѣ Пчицкомъ пріѣзжавшемъ въ Гродненскую губернію подъ именемъ Янки и говорившемъ крестьянамъ возмутительныя рѣчи.

Генералъ-Лейтенантъ [*подпіс нечыт.*].
Правитель Канцеляріи [*подпіс нечыт.*].

*Арыгінал.*

### 4. Іван Аненкаў да Івана Скварцова

|**11r**| С. Петербургскаго Оберъ-полиціймейстера Канцелярія. Столъ 1. 16 Января 1864 года. № 203.

Начальнику Гродненской Губерніи.

Вслѣдствіе настояній С. Петербургскаго Военнаго Генералъ Губернатора[3], имѣю честь вновь покорнѣйше просить Ваше Превосходительство ускорить доставленіемъ мнѣ отзыва на отношенія мои отъ 31 Мая и 31 Декабря прошлаго года, за №№ 1419 и 6289, по дѣлу о дворянинѣ Францѣ Пчицкомъ.

Генералъ-Лейтенантъ [*подпіс нечыт.*].
Правитель Канцеляріи [*подпіс нечыт.*].

*Арыгінал.*

---

[1] На падставе дадзенага дакумента, скіраванага да вайсковага начальніка і паліцмайстара Гродзенскага павета, напісаныя загады да начальнікаў васьмі іншых паветаў губерні.

[2] Генерал-маёр Іван Скварцоў (1817–1882) з жніўня 1863 г. па студзень 1868 г. займаў пасаду вайсковага губернатара горада Гродна і гродзенскага цывільнага губернатара.

[3] Гаворка пра генерала ад інфантэрыі Аляксандра Суворава (1804–1882), які з кастрычніка 1861 г. займаў пасаду пецярбургскага генерал-губернатара.

### 5. Іван Аненкаў да Івана Скварцова

|23r| С. Петербургскаго Оберъ-полиціймейстера Канцелярія. Столъ 1. 6 Апреля 1864 года. № 2260.

Начальнику Гродненской Губерніи

Въ послѣдствіе отзыва Вашего Превосходительства отъ 22 прошлаго Января за № 619, долгомъ считаю покорнѣйше просить ускорить доставленіемъ мнѣ свѣдѣній, по отношенію моему отъ 31 Мая № 1419, о дворянинѣ Францѣ Пчицкомъ, пріѣзжавшемъ въ Гродненскую губернию подъ именемъ Янки.

Генералъ-Лейтенантъ [*подпіс нечыт.*].
Правитель Канцеляріи [*подпіс нечыт.*].

*Арыгінал.*

### 6. Іван Скварцоў да Івана Аненкава

|24r| № 143. Апрель 1864.

Господину Стъ Петербургскому Оберъ-Полиціймейстеру

Имѣю честь увѣдомить Ваше Превосходительство, на отношеніе отъ 31 Мая № 1419, что по собраннымъ мною свѣдѣніямъ не обнаружено чтобы проживающій въ Стъ Петербургѣ Виленскій дворянинъ Францъ Пчицкій имѣлъ пребываніе во ввѣренной мнѣ губерніи, подъ именемъ Янки. –

*Чарнавік.*

# Ці быў Фелікс Ражанскі аўтарам песень?

Маніфест Часовага нацыянальнага ўрада, выдадзены ў Варшаве 22 студзеня 1863 г., заклікаў народы былое Рэчы Паспалітае (палякаў, ліцвінаў, русінаў і жыдоў) да Паўстання. А гэта карэнным чынам змяніла скіраванасць агітацыйнае літаратуры: цяпер актуальнымі сталі пераважна кароткія і канкрэтныя загады-распараджэнні паўстанцкіх уладаў, а таксама вершы-песні, якія б падымалі баявы дух інсургенцкіх аддзелаў. На тэрыторыі Беларусі, як і ў перадпаўстанцкі час, пашыраліся ў асноўным польскамоўныя творы, але былі і беларускамоўныя. Мы ведаем чатыры з іх.

З'явіліся яны адразу з выбухам Паўстання. Прынамсі, адна з гэтых песняў – *Песня на божы час* – вясною 1863 г. ужо была надрукаваная. Дзве наступныя, як сведчыць Ігнацы Арамовіч, у чэрвені 1863 г. спявалі паўстанцы ваўкавыскага аддзелу. Гэтыя песні, дарэчы, ужо ў 1865 г. былі апублікаваныя ва ўспамінах таго ж самага І. Арамовіча, дзякуючы чаму захаваліся і самі, і, відаць, прозвішча іх аўтара. Чацвёртую песню, праўда, запісалі, відаць, ў XX ст., дык аўтэнтычнасць яе не такая пэўная.

Усе гэтыя тэксты дастаткова даўно вядомыя, хоць у беларускім друку ў поўным аб'ёме апублікаваныя ўжо ў паслясавецкі час[1]. *Песня на божы*

---

[1] *Песня на божы час* публікавалася: у артыкуле Г. Кісялёва *Стары сшытак*, “ЛіМ” [1963, № 18, (1 сакавіка)] і ягонай кнізе *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 141 (фрагменты); хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 31 (фрагменты); кнізе К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 239–240 (цалкам); анталогіі *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 532–533 (цалкам; як верш Ф. Ражанскага); *Я адзавуся: Кніга пра Каліноўскага і Касінераў Свабоды*, Мінск 2014.

*Гэй-га разам, хлопцы…* публікавалася: у *Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, т. 2: *Літаратура XIX – пачатку XX ст.*, Мінск 1969, с. 63 (адна страфа); анталогіі *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя*, Мінск 2013, с. 692 (фрагмент); анталогіі *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 531 (цалкам; як верш Ф. Ражанскага).

*Ах ты, мая чарнабрыва…* публікавалася: у анталогіі *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 530 (цалкам; як верш Ф. Ражанскага).

*Гэй жа, хлопцы, досі спаць…* публікавалася: у артыкуле Я. Янушкевіча *Невядомая песня*, “ЛіМ” 1977, 29 ліп.; хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 31; зборніку *Занядад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, Мінск 2001, с. 320; анталогіі *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 1, Мінск 2013, с. 530.

*час* і *Гэй жа, хлопцы, досі спаць* прысутнічаюць толькі ў беларускім літаратуразнаўчым дыскурсе (гл. ніжэй), а вось што датычыць песень, аўтарам якіх звычайна называецца Ф. Ражанскі, дык іх часта згадвалі ў сваіх даследаваннях польскія гісторыкі і публіцысты.

Перш за ўсё трэба назваць працу (*Pamiętnik skreślony przez Współczesnego*) Мар’яна Дубецкага (1838–1926) пра Рамуальда Траўгута: спачатку яна з’явілася без подпісу ў зборы матэрыялаў пра Паўстанне 1863 г.[1], а пасля, ужо ў XX ст., колькі разоў передрукоўвалася як, уласна, успаміны гісторыка[2]. Апавядаючы пра дзеі партыі Р. Траўгута на Беларусі, М. Дубецкі цытуе малавядомыя ў той час успаміны І. Арамовіча. Дакладней, дапускаючы, што песні, якія спявалі ў аддзеле Ануфры Духінскага і Валеры Урублеўскага, маглі спяваць і ў партыі Р. Траўгута, ён падае невялікія фрагменты двух вершаваных тэкстаў – “pieśń litewskich powstańców” (*Młodzież nasza zawsze dzielna*), а таксама *Hej-ha razom chłopci…*: “А ў іншым канцы лагера гучала сярод касінераў іншая песня, беларуская, гукі якое дзіўна палучаліся з пачуццём літоўскага селяніна; ён спяваў яе з усім запалам, бо ейныя гукі – гэта голас ягонае роднае мовы”[3].

Дзякуючы працы М. Дубецкага, успамінамі І. Арамовіча зацікавіліся не толькі гісторыкі Паўстання, але і звыклыя чытачы. Нехта Ян Мазур, супрацоўнік львоўскага часопіса “Skaut”, коратка пераказваючы ў 1912 г. успаміны М. Дубецкага пра Р. Траўгута, падаў і фрагменты абедзвюх песень паўстанцаў, падзяліўшы іх на радкі і страфы[4].

Пазней, заняўшыся тэмаю спеваў Паўстання, прыдатнаю, на яго думку, дзеля сучаснага патрыятычнага выхавання моладзі, ён адшукаў кнігу І. Арамовіча, а таксама былога паўстанца з партыі А. Духінскага і В. Урублеўскага:

“У «Skaucie» (nr 7, s. 7), у артыкуле пра Траўгута, пададзены фрагменты з паўстанцкіх песень, аднае польскае, а другое беларускае. З тае прычыны, што ў гэтых фрагментах маюцца дробныя недакладнасці, я перапісаў з аднае крыніцы, пра якую ніжэй, абедзве песні цалкам, а яшчэ і трэцюю, беларускую, якую таксама ахвотна і часта спявалі як палякі, так і беларусы. Гэта пацвярджае жывы ўдзельнік паўстання, у той час 25-гадовы малады чалавек, які асабліва тую трэцюю песню і ейную мелодыю (каламыйкі[5]) добра памятае. А перш-наперш варта згадаць пра крыніцу, адкуль гэтыя песні паходзяць.

У Гродзенскім ваяводстве на Літве, як кажа той ветэран, найлепшымі і, увогуле, сапраўднымі партызанамі былі Урублеўскі, Крысінскі, Юндзіл, Кабылінскі.

Урублеўскі Валерыян бясспрэчна быў самы здольным з гродзенскіх партызанаў і самым смелым, часта з якімі дзясяткамі двума таварышаў кідаўся на аддзелы ў 3 і 4 разы большыя; у Кангрэсоўцы аднойчы з 40 кавалерыстамі напаў на 3 эскадроны маскалёў і трымаўся добра і доўга. У яго аддзеле знаходзіўся Арамовіч Ігнацы, прафесар з Беластоку

[1] *Wydawnictwo materiałów do historii powstania 1863–1864*, t. IV, z. II: *Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania styczniowego (1863–1864)*, Lwów 1894.

[2] M. Dubiecki, *Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania styczniowego (1863–1864)*, wyd. drugie powiększone, Kraków 1907.

[3] *Ibidem*, s. 63.

[4] *Romuald Traugutt*, “Skaut: Pismo młodzieży polskiej” 1912, nr 7 (21 stycznia).

[5] Маюцца на ўвазе ўкраінскія народныя песні, пераважна кароткія прыпеўкі лірычнага ці жартоўнага характару (ад назвы горада і рэчкі Каламыі на захадзе Украіны).

(выкладаў, здаецца, матэматыку ў тамтэйшай гімназіі); у часы паўстання яму было блізу 35–40 гадоў. Маючы палымяную любоў да Айчыны, ён, нягледзячы на слабае і кепскае здароўе, пайшоў у шэрагі паўстанцаў, быў ад’ютантам спачатку Духінскага, а пазней (з ліпеня ці жніўня) Урублеўскага. Займаўся ён канцылярыяй аддзелу, пільнаваў у часе бітваў лагер і прыпасы; ад передавое звычайна знаходзіўся далёка. Праўдападобна ўжо ў лагеры ён занатоўваў дзеі аддзелу Урублеўскага, што сам бачыў ці чуў, што іншыя партыі з Гродзенскага ваяводства рабілі. Вынікам таго натавання сталася 84-старонкавая кніжка, сёння рэдкая, а напісаная – як кажа той ветэран – адразу пасля паўстання пад тытулам *Мары: Успаміны пра партызанскі рух у гродзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 г.*, напісаў Ігнацы Арамовіч, Бэндлікон, у друкарні Ojczyzny 1865. (Шыфр Бібл[іятэкі] нац[ыянальнай] імя Ас[алінскіх] – 56755). Гэта, можа, першыя надрукаваныя ўспаміны пра 1863 г., мала ўвогуле вядомыя, выкарыстаныя адно ў праца Ліманоўскага і іншых. Чытаем у ім на с. 21: У лагеры партыі Урублеўскага спявалі часта і ахвотна; асабліва добраахвотнікі з Ваўкавыскага павету. Кіраўніком хору быў Ражанскі.

Згаданы вышэй удзельнік паўстання – гэта Ян Геніюш, прозвішча якога шматразова сустракаецца ў гэтай кніжцы, прыяцель Арамовіча, і якога вельмі цаніў Урублеўскі, вучнем якога быў у школе ляснічых, а пазней – падначалены па службе. Я прачытаў з ім успаміны Арамовіча падчас вакацый гэтага года, дабываючы з ягонае памяці шматлікія дэталі пра асобаў і падзеі, апісаныя ва ўспамінах. Памятае ён тыя спевы, у якіх таксама браў удзел, падае нават мелодыю трэцяе песенькі (каламыйка) і асабліва добра памятае са спевакоў Яна Радавіцкага, капітана, якога хваліць, як вельмі шляхетнага і добрага, тады значна старэйшага за сябе таварыша. Той спяваў найахвотней і найчасцей. (Было тры браты Радавіцкіх у паўстанні).

Пэўнага дня пад вечар Радавіцкі быў вельмі сумны і задуманы. Прысеў ля яго Геніюш і кажа: «Чаго пан сумны сёння?» Бо не быў такі звычайна Радавіцкі. «Апошні раз вам сёння заспяваю, – адказвае, – заўтра будзе бітва, а мне канец». Так і сталася, спявак адчуваў смерць. Геніюш шчыра яго шкадаваў. Было гэта яшчэ ў Гродзенскім ваяводстве, больш-менш у сярэдзіне 1863 г.

Урублеўскі, пасля таго як разбілі ягоны аддзел (блізу 200 пяхоты спачатку), перайшоў з рэшткамі, блізу 40 таварышамі, за Буг, да Кангрэсоўкі, дзе конна змагаліся разам да 19 студзеня 1864, а Геніюш яшчэ да 8 лютага. У Кангрэсоўцы спевакамі кіраваў ротмістар Квапішэўскі. Геніюш памятае ягоную каманду: «Па конях, спевакі – наперад!» Спявалі ідучы лесам, спявалі ў лагеры, спявалі ўдзень, часцей вечарам і ўночы. Арамовіч згадвае, як можна здагадацца са слоў на с. 83, што і песню *Znikły dla nas nadzieje* пад канец спявалі.

Песня дазваляла хоць на хвіліну забыць пра цяжкае гора і пра паўстанцкае туляцтва. <…>

Што да далучаных песень, дык варта звярнуць увагу, што кожная мае па 5 строфаў і падобны змест, можа быць, што адзін чалавек быў іх аўтарам; мог быць ім Арамовіч. Піша ён на с. 23, што «шмат іншых песень цудоўна спявалі», не падае, аднак, аніводнае іншае. Ён праўдападобна таксама напісаў і тэксты адозваў, ці маніфестаў (пісаных у лагеры, с. 24 і наступныя), тры з якіх далучае. <…>

Польскую песеньку можна спяваць на мелодыю *Król Stefan Batory wielki*, дзеля паходу (паланез) вельмі добрая. Прапанаваць яе можна нашым харцэрам… <…> Мелодыя першае беларускае – невядомая. Другую беларускую (*Ах ты мая*) спявалі паўстанцы на мелодыю каламыйкі. <…> Нашым маладым харцэрам у часы касцюшкаўскіх святкаванняў я перадрукоўваю гэтыя песні і адозвы, успаміны ж як гэтыя, так і іншыя горача рэкамендую”[1].

У малавядомай моладзевай газеце пачатку XX ст. падаецца цікавая інфармацыя пра беларускамоўныя песні Паўстання 1863 г. Найважнейшае тое, што і Я. Мазур не “прачытаў” ва ўспамінах І. Арамовіча пра Ф. Ражанскага як аўтара названых тэкстаў, і ягоны суразмоўца, Ян Геніюш, не ведаў,

[1] J. Mazur, *Śpiewy obozowe z r. 1863*, “Skaut: Pismo młodzieży polskiej” 1912, nr 29 (15 grudnia).

хто напісаў песні, якія ён спяваў у гродзенскіх лясах. У памяці 75-гадовага паўстанца Ф. Ражанскі застаўся адно як кіраўнік хору. Магчыма, Ф. Ражанскі не быў зацікаўлены ў афішаванні сябе як аўтара. У сённяшнім прачытанні ўспамінаў І. Арамовіча (“Las miejscowy napełnił się śpiewami; najwięcej niemi ożwili obóz ochotnicy wołkowyscy a z nich najmilszym ztąd dla wszystkich stał się Rożański”) менавіта Ф. Ражанскі ўспрымаецца як аўтар. Асабліва, калі прыгадаць словы з успамінаў самога Ф. Ражанскага (“Dr. Zabłocki pisał patriotyczne poezye polskie, a Rożański piosenki takież, w białoruskim narzeczu”). Магчыма, ні супрацоўнік часопіса “Skaut”, і яго суразмоўца не былі знаёмы з публікацыяй Ф. Ражанскага ў зборніку *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903* (Lwów 1903). Інакш не сталі б яны прыпісваць партызанскія песні І. Арамовічу.

Зрэшты, успаміны Ф. Ражанскага дазваляюць думаць, што патрыятычныя песні ён пісаў у дапаўстанцкі перыяд, нават яшчэ да даго, як пачаў разам з К. Каліноўскім выдаваць “Мужыцкую праўду”. Хоць магчыма і так разумець ягоныя словы (як зразумеў гэта краязнаўца Сяргей Лушчык[1]): усе беларускамоўныя гутаркі напісанні ім.

Пра апошнія гады жыцця Ф. Ражанскага меў звесткі Юзаф Бялыня-Халадэцкі. У 1913 г. у раздзеле *Nieco szczegółów biograficznych, dotyczących uczestników organizacji i partyzantki roku 1863/1864* кнігі *Pamiętnik Powstania Styczniowego* ён піша: “Ражанскі Парай Фелікс, нар[адзіўся] ў 1838 г. у Бераставіцы, каморнік, служыў у якасці афіцэра Ваўкавыскага аддз[ела], пасля – Бельскага. Удзельнічаў у 11-ці сутычках: пад Міхалінам, Боркамі, Малавідамі (sic!), Жаркаўшчызнаю, у пушчы Белавежскай, Свіслацкай, Сакольскай, Бельскай і Ружанскай. Пасля паўстання – арандатар маёнткаў у Галіцыі”[2]. Магчыма, гэтыя звесткі атрыманыя ад самога Ф. Ражанскага. Праўда, пэўныя сумненні выклікае подпіс пад успамінамі, змешчанымі ў зборніку *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego*…: “Kormancin w styczniu 1903 г.”. Што гэта за Карманцін? Форт на Залатым беразе ў Гвінеі ці нейкі невялічкі фальварак у Галіцыі?

Ю. Бялыня-Халадэцкі, складаючы яшчэ адну кнігу пра былых паўстанцаў 1863 г., пазначыў месца вечнага спачыну Ф. Ражанскага: “Żółtańce. Rożański Poraj Feliks, P[owstaniec] S[tyczniowy]”[3]. Жултанцы пад Хэлмам да 1915 г. належалі Расейскай імперыі, дык малаверагодна, што Ф. Ражанскі арандаваў маёнткі ў гэтых ваколіцах. Хутчэй за ўсё ў Жултанцы ён пераехаў ужо пасля таго, як яны аказаліся пад уладаю Аўстра-Венгрыі, а г. зн., што памёр ён пасля пачатку Першае сусветнае вайны.

---

[1] *Кастусь Каліноўскі не пісаў “Мужыцкую праўду”?* [online] https://www.racyja.com/hramadstva/kastus-kalinouski-ne-pisau-muzhytsku/ [доступ: 1.03.2020].

[2] J. Białynia Chołodecki, *Pamiętnik Powstania Styczniowego: W pięćdziesiątą rocznicę wypadków: Wznowienie Księgi Pamiątkowej tegoż samego autora, wydanej staraniem Komitetu obywatelskiego we Lwowie r. 1904*, Lwów 1913, s. 246.

[3] J. Białynia Chołodecki, *Cmentarzyska i groby naszych bohaterów z lat 1794–1864 na terenie Wschodniej Małopolski*, Lwów 1928, s. 47.

# Песня на божы час

На пачатку 1960-х гг. Г. Кісялёў выявіў у архіве канцылярыі Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатара следчую справу *Аб чалядніку пераплётнага майстра Яхімовіча Пятру Міцкевічу*[1]*, што абвінавачваецца ў захоўванні рэвалюцыйных папер*[2], у якой знаходзіўся самаробны сшытак з тэкстамі на польскай і расейскай мовах. А сярод іх і беларускамоўная *Песня на божы час*.

"На пачатку 1864 года («перад Святой нядзеляй») Пётр Мацкевіч вярнуўся з Мінска[3] ў Вільню і пасяліўся ў пераплётнага майстра Яхімовіча каля Каралеўскага млына. У неспакойны час паўстання работы пераплётчыкам не было. Даведзены да адчаю Яхімовіч і выдаў Мацкевіча, але ён і сам, мажліва, не прадбачыў вынікаў свайго вельмі своеасаблівага ўчынку. Вось што пісаў губернатар Панюцін у рапарце ад 22 мая 1864 года: «Пераплётных спраў майстар Фердынанд Яхімовіч, што пражывае ў Вільні, з'явіўшыся да памочніка прыстава 2-й часці Вішнеўскага, прасіў арыштаваць яго і зрабіць у яго вобыск. Пасля дакладу пра гэта віленскаму паліцмайстру загадана было прыставу 3-й часці зрабіць у Яхімовіча вобыск, па якому ў яго нічога падазронага не аказалася, але ў чаляднікa яго віленскага грамадзяніна Пятра Міцкевіча [Мацкевіча], што жыве ў той жа кватэры, пад сеннікам на ложку знойдзена звязка папер на рускай і польскай мове рэвалюцыйнага зместу. Спачатку Яхімовіч аб'явіў, што паперы гэтыя належаць яму, але пасля таго, як яго пераканалі сказаць праўду, прызнаўся, што сказаў гэта няправільна, бо жадаў выць высланым ва ўнутраныя губерні, таму што ён не можа знайсці сабе работы нават на кавалак хлеба, і што паперы гэтыя належаць яго чаляднікy Пятру Міцкевічу, якім прывезены з Мінска"[4].

Г. Кісялёў высока ацаніў ідэйна-мастацкія вартасці твора: "Змест гэтай песні зусім зямны. «Божы час» для яе аўтара – гэта народнае паўстанне супраць царызму і памешчыкаў. Песня напісана пад несумненным уплывам ідэй Каліноўскага. Яна адлюстроўвае пункт гледжання тых беларускіх сялян і рамеснікаў, якія са зброяй у руках разам з польскімі і рускімі братамі баранілі ў 1863 годзе сваю зямлю, сваю волю, сваё «чалавечае права»"[5]. Пазней сярод канфіс-

---

[1] Насамрэч, – Мацкевічу.
[2] Гл.: LVIA, f. 378, PS 1864 m., b. 803, l. 19–90.
[3] У 1862–1863 гг. П. Мацкевіч працаваў у Мінску ў майстра Качана.
[4] Г. Кісялёў, *Стары сшытак* [у:] ён жа, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 141. Упершыню гэты артыкул быў надрукаваны ў газеце "ЛіМ" [1963, № 18, (1 сакавіка)].
[5] *Ibidem*, s. 140.

каваных царскімі жандарамі папераў А. Віткоўскага была выяўленая і друкаваная ўлётка з *Песняю на божы час*[1]. У выніку стала магчымым датаваць твор лютым–сакавіком 1863 г.: раней пачатку Паўстання ён наўрад ці быў напісаны, але не пазней сакавіка, боператрус у маёнтку Збарэвічы Віткоўскіх адбыўся ў красавіку.

У следчых справах мы не знойдзем дакладнага адказу нават на пытанне: якім чынам апынуліся ў вязняў-падсудных тыя ці іншыя беларускамоўныя тэксты, не кажучы ўжо пра адказы на пытанне пра аўтарства гэтых тэкстаў. Аднак гісторыкі літаратуры, маючы пэўныя аргументы, выказваюць цалкам верагодныя гіпотэзы: "Магчыма, твор напісаны паплечнікам Каліноўскага Ф. Ражанскім, аўтарам некаторых іншых беларускіх паўстанцкіх песень гэтага часу; не выключана і аўтарства самога Каліноўскага"[2]. Але крыху ніжэй той самы Г. Кісялёў усё ж больш праўдападобнаю "робіць" атрыбуцыю на карысць Ф. Ражанскага: "Цікава, што выраз «час Божый» у такім жа значэнні ёсць і ў *Пісьме Яська-гаспадара да мужыкоў зямлі польскай*"[3], бо ў іншым месцы, не пагаджаючыся з прыпісваннем *Пісьма Яська-гаспадара да мужыкоў зямлі польскай* К. Каліноўскаму, даводзіць, што ўлётку хутчэй за ўсё напісаў Ф. Ражанскі: "Каліноўскі пакінуў Гродзеншчыну, Ражанскі з ваўкавыскімі паўстанцамі далучыўся да галоўнага атрада Гродзенскага ваяводства на чале з А. Духінскім і В. Урублеўскім. Далейшыя сляды яго губляюцца. Вядома толькі, што пасля ён туляўся на эміграцыі[4] (быў жывы яшчэ ў 1903 годзе, напісаў успаміны, на жаль, кароткія). А ў цэлым Гродзеншчына, як мы бачылі, усё больш падпадала пад прамую залежнасць ад Варшавы і ў нейкі момант Ражанскі мог трапіць у поле прыцягнення Пшыбыльскага[5], нават апынуцца недзе побач з ім у той жа Варшаве..."[6].

На нашую думку, *Песня на божы час* выйшла ў свет з друкарні, заснаванай у 1861 г. Б. Шварцэ. Мяркуем на падставе падабенства як шрыфту, так і друку – радкі кепска выраўненыя, літары адбітыя няроўна.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: *Pieśń na bożyj czas* [друкаваная ўлётка, б. м. і г. 2 с.] [у:] LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 248r–248 v.

---

[1] Гл. раздзел *Літаграфія* ў нашым выданні.

[2] К. Каліноўскі, *З нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 387.

[3] *Ibidem*, s. 387–388.

[4] Фелікс Ражанскі (1838, м. Бераставіца – пасля 1903), перад Паўстаннем быў каморнікам; у 1861 г. стаў паплечнікам К. Каліноўскага. Пасля таго, як гродзенскія аддзелы разагнала царскае войска, ён мог апынуцца ў Варшаве, затым у Кракаве. Гл.: J. Białynia Chołodecki, *Cmentarzyska i groby naszych bohaterów z lat 1794–1864 na terenie Wschodniej Małopolski*, Lwów 1928, s. 47.

[5] Гаворка пра Вацлава Пшыбыльскага (1828–1872), прыродазнаўцу і літаратара, супрацоўніка віленскіх часопісаў "Pamiętnik Naukowo-Literacki" Рамуальда Падбярэскага і "Kurier wileński" Адама Кіркора. У 1863 г. быў дэлегатам Літоўскага правінцыйнага камітэта на перамовах з Нацыянальным урадам у Варшаве. Пазней – дырэктар аддзелу друку Нацыянальнага ўраду, кіраўнік варшаўскіх таемных друкарняў.

[6] Г. Кісялёў, *Здарэнне з Яськам-гаспадаром*, "Полымя" 1994, № 6, с. 154–155.

|1|

# PIEŚŃ NA BOŻYJ CZAS

nutoju[1]: *I szumić i hudzie*[2].

Bożyj czas, bożyj czas,
Zawiernuusia dla nas;
Mużyk wolno stau spiewaci,
Hodzi, hodzi prapadaci.

Hdzie nie hlań, hdzie nie stań,
Wałaczyćsia pahań.
Wyhanić nam jeju treba
Kab za toje dastać nieba.

Ej Maskal uchadzi!
Albo tut prapadzi!
Użе nam tut nie wyminiesz,
Jak sabaka marnie zhiniesz!

I chto pan won ad nas![3]
U Bożyj czas, u bożyj czas!
Bo my rounyje z panami,
Bo za wolność usie z kasami!

|2| Czuwać kryk u adzin ton:
Maskalou ad nas won!
Bo jak brytwy kosy majem,
Pahulajem, pahulajem!

Hurra ha! hurra ha!
Hdzie nie hlań naszych ćma;
Huli chłopcy, huli, huli
Kab my wolność prywiernuli.
Kaniec

---

[1] На мелодыю. Ад польск. *nuta* – нота; мелодыя.

[2] Маецца на ўвазе прыпеўкі, якія пачынаюцца так: “І шуміць, і гудзе, // Дробны дожджык ідзе. // А хто ж мяне маладую // Ды дадому давядзе!”. Асабліва былі пашыраныя на беларуска-ўкраінскім памежжы. Гл.: *Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia*, t. III: *Twórczość ludowa*, Warszawa 2014, s. 54, 195, 207, 209.

[3] Варта звярнуць увагу: няшмат у той час на беларускіх землях было паўстанцаў, якія б маглі заявіць так катэгарычна. І гэта пры тым, што ў паўстанцкіх аддзелах былі пераважна шляхціцы. У асобных беларускіх перадруках верша замест слова “нас” памылкова з’явілася “вас”.

# Песні ваўкавыскіх паўстанцаў

У 1865 г. у швейцарскім Бендліконе (ля Цюрыха, на беразе Цюрыхскага возера) у друкарні “polityczno-literacko-naukowego dziennika” “Ojczyzna” Агатона Гілера і Юзафа Ігнацы Крашэўскага[1] выйшлі ўспаміны Ігнацы Арамовіча (? – 1875), настаўніка гімназіі ў Беластоку, удзельніка Паўстання 1863 г., ад'ютанта і скарбніка ў аддзеле Ануфры Духінскага і Валеры Урублеўскага[2]. У іх знайшлося месца на некалькі песень, тэксты якіх, відавочна, захаваліся ў архіве былога інсургента.

Пасля бітвы пад Мілавідамі інсургенцкі аддзел накіраваўся на Пружаншчыну: “Z Repiszcza ruszyliśmy mimo Szczytna, przez straż Holską rzeczkę Sciercież do Perejezdzika nad Temrą[3]. Las miejscowy napełnił się śpiewami; najwięcej niemi ożywili obóz ochotnicy wołkowyscy a z nich najmilszym ztąd dla wszystkich stał się Rożański. Niech więc żyją w pamieci (sic!) piosenki ówczesne!”[4].

Трэба думаць, што пададзеныя далей без падзелу на радкі ў строфах[5] усе вершы, належаць пяру Ф. Ражанскага, у тым ліку вядомая з іншых крыніц *Pieśń powstańców litewskich* (*Młodzież nasza zawsze dzielna*). Праўда, сам паэт прызнаваўся толькі да напісання беларускіх песень: “Доктар Заблоцкі пісаў польскую патрыятычную паэзію, а Ражанскі такія ж песні па-беларуску, і гэты апошні супольна з Канстанцінам Каліноўскім друкаваў пісьмо для люду (pismo ludowe) пад тытулам «Mużyckaja prauda» з подпісам «Jaśko hospodar z pod Wilna», а пару песень і «hutorek» на гэтай жа мове выдаў Браніслаў Шварцэ ў Беластоку”[6].

Гродзенскі краязнаўца С. Лушчык выказаў меркаванне, што Ф. Ражанскі быў аўтарам не толькі паўстанцкіх песень, але і іншых беларускамоўных твораў пачатку 1860-х гг.: “*Гутарка двух суседаў* і *Гутарка старога дзеда* – беларускія вершаваныя агітацыйныя творы, папярэднікі «Мужыцкай праўды», накіраваныя супраць Маскоўскага панавання ў краі, друкаваліся цягам 1861–62 гг.

[1] J. Trynkowski, *Obowiązek pracowania dla ojczyzny nigdy nie ustaje: Agaton Giller (1831–1887)* [online] http://wspolnotapolska.home.pl/portal_historyczny/upload/podroznicy/11/51276cc31ebbf_giller.pdf [доступ: 1.03.2020].

[2] М. Быхаўцаў, *Паўстанне 1863 года і Ваўкавышчына*, Гародня 2014, с. 95. І. Арамовіч эміграваў у Швейцарыю, але ў 1872 г. вярнуўся на Бацькаўшчыну, дзе быў арыштаваны і высланы ў Казань.

[3] Гаворка пра рэчку Цемра, левы прыток Ясельды.

[4] I. Aramowicz, *Marzenia: pamiętnik o ruchu partyzanckim w województwie grodzieńskiem, w 1863 i 1864 r.*, Bendlikon 1865, s. 21.

[5] У нашым выданні строфы ў творах падзеленыя на радкі.

[6] F. Rożański, *Z województwa Grodzieńskiego* [w:] *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*, Lwów 1903, s. 396.

у падпольнай друкарні Баніслава Шварцэ ў Беластоку. Аўтарам некалькіх «гутарак», паводле вышэйзгаданых успамінаў, быў Фелікс Ражанскі, які ўжо да гэтага складаў песні і вершы па-беларуску, а выдаваў гэтыя творы Кастусь Каліноўскі, які быў з друкаром Шварцэ ў цесным кантакце". І далей: "У самым тэксце выдання ўжываецца шмат простых побытавых сялянскіх словаў і выразаў, часта гучаць такія тэрміны, як «зямля», «сяляне», «прыгнёт». Складваецца ўражанне, што яго аўтар сам паходзіць з сялянскага асяроддзя. Не змяншаючы вялізных заслугаў Кастуся Каліноўскага ў падрыхтоўцы паўстання і выхадзе канспірацыйнай перыёдыкі, можна дапусціць, што тэксты 1–6 нумароў «Мужыцкай праўды» склаў усё той жа каморнік з Вялікай Бераставіцы – Фелікс Ражанскі, які да гэтага пісаў «Гутаркі» і песні на чыстай беларускай мове, у той час як Каліноўскі з Ўрублеўскім выступалі пераважна рэдактарамі газеты, толькі пры неабходнасці ўносілі туды свае карэктывы і арганізоўвалі яе выданне. У адрозненне ад Кастуся Каліноўскага, які перад паўстаннем амаль шэсць гадоў правёў у Маскве і Пецярбурзе, Ражанскі стала пражываў ў Вялікай Бераставіцы, дзе на пасадзе мясцовага каморніка выконваў замеры зямлі, складаў планы грунтаў, размяжоўваў спрэчныя надзелы, у тым ліку сялянскія, не па чутках быў знаёмы з рэальным жыццём паспалітага люду і добра ведаў яго надзённыя патрэбы. Як збіральнік мясцовага фальклору, бераставіцкі землямер дасканала валодаў той мовай, на якой размаўлялі простыя жыхары гэтага рэгіёну, а менавіта сяляне Гарадзенскага, Ваўкавыскага і Сакольскага паветаў"[1].

З успамінаў Ф. Ражанскага не вынікае, аднак, што ён быў аўтарам "hutorek". Якраз наадварот: пісаў толькі песні, а ўсё іншае адно выдаваў разам з К. Каліноўскім. Не можам пагадзіцца і аргументам С. Лушчыка пра веданне беларускае мовы толькі Ф. Ражанскім: хто ж тады за К. Каліноўскага пісаў у Вільні ягоныя *Прыказы*…? Каморнікам у Вялікабераставіцкім маёнтку графа Станіслава Шчэнснага Касакоўскага Ф. Ражанскі мог працаваць нават не маючы адукацыі, а вось дзеля напісання і "hutorek", і "Мужыцкай праўды" патрэбна было добрае знаёмства і з гісторыяй краю, і нават веданне ўсяго таго, чаму навучаўся ў Пецярбурзе К. Каліноўскі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: *Młodzież nasza zawsze dzielna…*; *Hej-ha razem chłopcy…*; *Ach ty moja czarnobriwa!* [w:] I. Aramowicz, *Marzenia: pamiętnik o ruchu partyzanckim w województwie grodzieńskiem, w 1863 i 1864 r.*, Bendlikon 1865, s. 21–23.

[1] *Кастусь Каліноўскі не пісаў "Мужыцкую праўду"?* [online] https://www.racyja.com/hramadstva/kastus-kalinouski-ne-pisau-muzhytsku/ [доступ: 1.03.2020].

## *Młodzież nasza zawsze dzielna…*

Młodzież nasza zawsze dzielna:
na moskali iść gotowa;
za to pamięć nieśmiertelna
w pokoleniach się przechowa.
Dalej bracia, dalej żwawo,
i z nad Wisły i z nad Niemna!
Już na świecie nie tak łzawo:
nasza przyszłość nie tak ciemna.

Świetne boje nas czekają!
Przyszłość świetna błyszczy w dali!
Pieśń na naszą nutę grają!
A więc hura na moskali!
Dalej bracia, dalej żwawo,
i z nad Wisły... i t. d.

Toż ucieszą się ojcowie,
co w Sybirze mrą w tęsknocie
gdy hukniemy na bezgłowie
i niedoli i despocie.
Dalej bracia, dalej żwawo... i t. d.

Tylko dzielnie, tylko chwacko
wrogom naszym stawmy czoło:
jak bywało gracko, lacko,
i radośnie i wesoło.
Dalej bracia, dalej żwawo i t. d.

Nie styramy wieku marnie,
na pieszczoty, na zaloty,
powrócimy kiedyś gwarnie:
błogosławić wiek nasz złoty.
Dalej bracia, dalej żwawo,
i z nad Wisły i z nad Niemna!
Już na świecie nie tak łzawo:
nasza przyszłość nie tak ciemna.

## *Hej-ha razem chłopcy…*

Hej-ha razem chłopcy:
hu-ha my mołodcy!
Hej-ha z Polakami:
hu-ha a Boh z nami!
I na Bożu zdajma wolu:
naszy śliozy i niewolu.

Hej-ha my poczuli:
hu-ha szto nas skuli!
Hej-ha ciepier znajem:
hu-ha wyklikajem:
z ziemli naszej won warohi!
Moskalou złub[1] won do nohi!

Hej-ha mai ludzie:
hu-ha dobre budzie!
Hej-ha oj radnyje,
hu-ha milenkije:
budzie wolność prawdziwaja;
daść nam jeje Polszcz świataja.

Hej-ha budzie dzieło[2]:
hu-ha tolko śmieło!
Hej-ha jeszcze bolsze:
hu-ha wierniem Polszcze.
Niechaj cely świet paznaje:
jakie dzietki Polszcza maje!

Hej-ha kto z kosoju,
hu-ha kto z strelboju,
hej-ha biery mieczy:
hu-ha i da reczy![3]
Hura bratcy na waroha!
Hura razom w imię Boha!

---

[1] Ян Мазур у часопісе “Skaut” (1912, nr 29) пераклаў гэтае слова на польскую мову як *złość*. Але тут, відаць, *złub* ад *лупіць*. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 272: “ЛУПИ́ТЬ, -плю́, -пишь, гл. д. 1. (Бить до содранія кожи). Пороть. *Войтъ, отъ заду ходзючи, лупиць бизуномъ пригонниковъ*. 2. однокр. Лупну́ць. Бить, колотить. *Такъ и лупиць по головѣ. Лупи его хорошенько, нехай не дремлець*”.

[2] *Dziełam* звычайна называлі баі і сутычкі з царскім войскам.

[3] Да справы.

## *Ach ty moja czarnobriwa!*

Ach ty moja czarnobriwa!
Budź zdarowa i szczaśliwa.
Lubłu ciebie, lubić budu,
i nikoli nie zabudu!

Oj u chacie nie|astatsia,
koli treba iści dratsia:
za radnuju, nieszczasnuju,
Polszczu naszu mać światuju!

Oj swaboda załataja!
Polszczą nasza, ty świataja!
Na waroha kosy majem!
Zahułajem, kaj[1] zdużajem!

Maskali usio nam zabrali,
U niewoli nas trymali;
krou nam naszu z żył spuścili:
krou i śliozy naszy pili!

Tajet sierce, dusza rwietsia,
za swabodu bić choczetsia:
ech ty maja czarnobriwa
budź zdarowa i szczaśliwa!

[1] Відаць, памылка друку. Трэба: *jak*.

# Запісаная шчучынскім семінарыстам

Ксёндз-пробашч касцёла св. Тэрэзы і прэфект настаўніцкае семінарыі Рамуальд Свіркоўскі (1886–1942)[1] за час свайго побыту ў Шчучыне (1912–1927) назбіраў шмат матэрыялаў, якія датычылі мясцовай гісторыі. Атрымаўшы прызначэнне ў Мёры, ён, відаць, пакінуў іх у семінарскай бібліятэцы пад апекаю настаўніцы гісторыі Янкоўскае. У друку першым іх выкарыстаў навучэнец III курса (у 1927 г.) семінарыі А. Берансевіч (A. Beręsiewicz)[2], публікуючы ў краязнаўчым часопісе “Orli lot”[3] артыкул *Historja Szczuczyna: Na podstawie materjałów ks. Romualda Świrkowskiego*. Апавядаючы пра падзеі 1863 г., дзейнасць партыі Людвіка Нарбута, бой пад Дубічамі, малады аўтар падкрэслівае, што мясцовы люд спрыяў паўстанцам: “Акалічныя сяляне бралі часам чынны ўдзел у паўстанні, праўда, не масавы, але цікавы тым, што змагаліся яны за каталіцкую веру, а не за нацыю. У ваколіцах Новага Двара спяваюць па вёсках і сёння песеньку, якая пацвярджае нам гэта”[4]. І падае беларускамоўную песню *Гэй жа, хлопцы, досі спаць*.

У наступным годзе доктар Генрык Бальцэвіч[5] гэтыя самыя матэрыялы ксяндза Р. Свіркоўскага паклаў у аснову свайго артыкула *Miasteczko Szczuczyn: Z Kresów Wschodnich* у газеце “Tygodnik Illustrowany”. Публікацыі навучэнцаў ён не называе, адно згадвае “opracowanie pani Jankowskiej, nauczycielki historji w Seminarjum Nauczycielskim w Szczuczynie”. Аповед пра падзеі 1863 г. у яго атрымаўся карацейшы і крыху іншы: “Вясковы люд, у тутэйшай ваколіцы – беларускі, не браў удзелу ў паўстанні, але ставіўся да яго пераважна прыхільна. Да сённяшняга дня тутэйшыя беларусы спяваюць песеньку, запісаную вучнем шчучынскае семінарыі[6] („spisaną przez ucznia seminarium szczuszyńskiego”). Харак-

[1] Гл.: *„BIAŁA KSIĘGA”: Martyrologium duchowieństwa – Polska XX w. (lata 1914–1989)* [online] http://www.swzygmunt.knc.pl/MARTYROLOGIUM/POLISHRELIGIOUS/vPOLISH/HTMs/POLISHRELIGIOUSmartyr2778.htm [доступ: 2.03.2020].

[2] У змесце прозвішча пададзенае як *A. Berezewicz*.

[3] У часопісе змешчаны артыкул і матэрыялы (у тым ліку беларускамоўнае паданне *Czy wasz pop z rahami?*) пра Шчучын і ваколіцы адзінаццаці навучэнцаў Шчучынскае настаўніцкае семінарыі. Асобныя з іх напісаны паводле матэрыялаў кс. Р. Свіркоўскага.

[4] A. Beręsiewicz, *Historja Szczuczyna: Na podstawie materjałów ks. Romualda Świrkowskiego*, “Orli lot: Miesięcznik krajoznawczy: Organ kół krajoznawczych młodzieży Polskiego towarzystwa krajoznawczego” 1929, nr 8 i 9 (październik–listopad).

[5] Магчыма, маецца на ўвазе ксёндз і публіцыст Генрык Бальцэвіч (Henryk Bolcewicz, 1866–1941). Гл.: *Słownik pseudonimów pisarzy polskich: XV w. – 1970 r.*, t. IV: *A–Ż (Nazwiska)*, Wrocław 1996, s. 57.

[6] Шчучынская настаўніцкая семінарыя пачала працу 1 верасня 1922 г.

тэрна тое, што ў ёй выяўляецца свядомасць рэлігійная, а не патрыятычная. Далучаю колькі строфаў”[1].

Нягледзячы на тое, што абодва публікатары карысталіся адною крыніцаю, беларускамоўны тэкст падаваўся імі адрозна, хоць, магчыма, гэта “віна” рэдакцый выданняў. Публікацыю доктара Г. Бальцэвіча выявіў і апублікаваў песню ў 1977 г. Я. Янушкевіч[2], а навучэнца семінарыі А. Берансевіча – Інтэрнэт-старонка горада Ліды і Лідскага павета “Pawiet” у 2014 г.[3]

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле: *Hejże chłopcy dosi spać…* [w:] A. Beręsiewicz, *Historja Szczuczyna: Na podstawie materjałów ks. Romualda Świrkowskiego*, “Orli lot: Miesięcznik krajoznawczy: Organ kół krajoznawczych młodzieży Polskiego towarzystwa krajoznawczego” 1929, nr 8 i 9 (październik–listopad), s. 173.

## *Hejże chłopcy dosi spać…*

Hejże chłopcy dosi spać,
Para kosy[4] prybirać,
Kosy, kosy i siakiery,
Baranici swajej wiery.
Para!

Herod naszy dzietki bje,
A krou naszu jak wuż pje,
Lepiej byci menczanikam[5],
Niż cesarskim niewalnikam[6].
Para!

Wy za pieczkaju na połu
A my u lesie ziemlu[7] hołu,
Prytulili|b jak piarynku
Choć[8] zasnuci, choć hadzinku.
Para!

[1] H. Bolcewicz, *Miasteczko Szczuczyn: Z Kresów Wschodnich*, “Tygodnik Illustrowany” 1930, nr 1 (4 stycznia).

[2] Я. Янушкевіч, *Невядомая песня*, “ЛіМ” 1977, 29 ліп.

[3] *Historja Szczuczyna* [online] http://pawet.net/library/history/city_district/towns/scucun/02/HistorjaSzczuczyna.html [доступ: 2.03.2020].

[4] Тут і ніжэй у “Tygodniku Illustrowanym” – *Kasy*.

[5] У “Tygodniku Illustrowanym” – *menczennikam*.

[6] У “Tygodniku Illustrowanym” – *Jak <…> niewolnikam*.

[7] У “Tygodniku Illustrowanym” – *My <…> ziamlu*.

[8] У “Tygodniku Illustrowanym” – *By*.

*У* ***Supplementum*** *дадзенага тома* ***Даследаванняў і матэрыялаў*** *змяшчаем толькі тэкст, напісаны рукою Паўлюка Багрыма. Іншыя матэрыялы і дакументы, прысвечаныя “крашынскай гісторыі”, публікаваліся ў чацвёртым і пятым тамах нашага выдання.*

# Рукапіс Паўлюка Багрыма

У навуковы ўжытак верш Яна Баршчэўскага *Rozmowa Chłopow* паводле рукапісу са следчае справы *Аб непадпарадкаванні сялян мястэчка Крошын сваййму пamешчыку Юрагу* (*О неповиновении крестьян местечка Крошин своему помещику Юраге*)[1] увёў Ісідар Бас: спачатку ён згадаў пра верш у артыкуле *Каму належаць вершы*?[2], а пасля двойчы апублікаваў яго ў 1969 г.[3]. Але, як вядома, гісторык літаратуры выявіў адно копію верша.

Лёс і "шляхі" арыгіналу ("списокъ стиховъ съ рускимъ на скоро переводомъ, рассказываемыхъ однимъ ученикомъ означенной школки сыномъ тамошняго слѣсаря мальчикомъ 15и лѣтъ и его рукою писанныхъ") аказаліся даволі заблытанымі. Праўда, удавалася прасачыць значную частку шляху рукапісу П. Багрыма: 1. Гродзенскі цывільны губернатар Міхайла Бабяцінскі далучыў яго да свайго рапарту пра наведванне ім Крашына і "увѣщеванія" сялян[4] і выслаў 3 чэрвеня (ст. ст.) 1828 г. у Варшаву цесарэвічу Канстанціну. 2. Цэсарэвіч Канстанцін 10 чэрвеня загадаў апекуну Віленскае навучальнае акругі Мікалаю Навасільцаву правесці следства адносна Крашынскае школкі і пераслаў яму рапарт М. Бацяцінскага "с двумя приложениями" (трэба думаць: рукапісам П. Багрыма і перакладам верша на расейскую мову). 3. М. Навасільцаў 16 чэрвеня прапанаваў рэктару Віленскага ўніверсітэта Вацлаву Пелікану "при возвращении сих бумаг сообщить мне по содержанию оных свое заключение". 4. В. Пелікан 22 чэрвеня "предписал" дырэктару вучылішчаў Гродзенскае губерні Ігнацы Брадоўскаму "тотчас с получением сего отправится в местечко Крошин и самоточнейшим образом войти в обстоятельство сего дела и последующем донести мне по эстафете с вашим мнением при возвращении и означенных бумаг". 5. І. Брадоўскі, "произведя следствие относительно учреждения в местечке Крошине парафиальной школы и преподаваемого в оной детям учения", выслаў 17 ліпеня В. Пелікану "оное <...> со всеми приложениями". 6. В. Пелікан 19 ліпеня пераслаў атрыманае ад І. Брадоўскага ра-

---

[1] Копія рукапісу П. Багрыма, а таксама чарнавік перакладу на расейскую мову захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна (НГАБ у г. Гродна, ф. 1 [*Канцелярия Гродненского губернатора*], воп. 2, адз. зах. 1334 [*Дело о неповиновении крестьян м. Крашина своему помещику Юраге*], а. 42–43; 40–41).

[2] І. Бас, *Каму належаць вершы?*, "Беларусь" 1963, № 11.

[3] Гл.: І. Бас, *Невядомы варыянт верша Яна Баршчэўскага* [у:] *Дзень паэзіі*, Мінск 1969, с. 134–136; І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 135–137.

[4] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі канца XVIII–XX стагоддзя*, том чацвёрты, Warszawa 2018, с. 57–61, а таксама: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, том пяты, Warszawa 2019, с. 37–41.

зам са сваімі высновамі М. Навасільцаву ў Варшаву[1]. І след рукапісу П. Багрыма на гэтым губляўся, але можна было меркаваць, што М. Навасільцаў ужо ў ліпені 1828 г. даслаў усе матэрыялы справы цэсарэвічу Канстанціну.

Наколькі мы ведаем, гісторыкі літаратуры спрабавалі адшукаць архіў канцылярыі цэсарэвіча Канстанціна ў розных інстытуцыях СССР і Польшчы. Можа, нават спадзяючыся выявіць не толькі верш *Rozmowa Chłopow*, пра які ішла гаворка ў следчай справе, але і іншыя творы П. Багрыма, бо памяталі пра сшытак (“sekstern”[2]), адабраны, як пісаў Ігнацы Яцкоўскі, у Пётрака.

Страчанае (зрэшты, а чаму страчанае?) ляжала побач. Мы чамусьці не звярталі ўвагу на паперы Гродзенскае канцылярыі цывільных спраў цэсарэвіча, якія захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Гродна. Адна з гэтых спраў цалкам прысвечаная “крашынскай”: *Справа па скарзе сялян мяст. Крашын Наваградскага пав. пра жорсткае абыходжанне з імі, абцяжаранне іх павіннасцямі памешчыкам гэтага ж павета Юрагаю Станіславам*. Яна доўжылася з 31 жніўня 1826 г. да 5 чэрвеня 1829 г. Яе аб’ём – 448 аркушаў – большы за аб’ёмы ўсіх іншых “крашынскіх” спраў разам узятых. Тут знаходзяцца пераважна арыгіналы дакументаў, вядомых паводле копій з іншых архіваў, але сустракаюцца і цалкам нязнаныя. Напрыклад, *Копія съ Привилегіи Королемъ Зигисмундомъ 1ᴹ въ 1539 году жителямъ мѣстечка Крошина установляющей платежъ чиншовъ отъ Мѣщанъ и разные для нихъ вольности*. Тут і рукапіс П. Багрыма[3]: складзены папалам аркуш паперы даў чатыры старонкі, запісаныя акуратным і каліграфічным вучнёўскім почыркам. Хлапчук у асобных месцах памыляўся, дык старанна папраўляў літары. Перапісвальнік гродзенскае губернскае канцылярыі быў, у асноўным, дакладны, хоць і дазваляў сабе ўносіць праўкі: ставіў знакі прыпынку (20 выпадкаў), папраўляў злітнае і асобнае напісанне (9), правільна ўжываў вялікую літару (3), але часам няўдала расчытваў напісанае П. Багрымам: замест літары ***u*** пісаў ***w*** (5); няўважлівы быў да дыякрытычных знакаў: замест ***ż*** – ***z*** (4); памыляўся: замест ***maie*** – ***moie***, ***razapnieć*** – ***razaprieć***, ***prystupiśsie*** – ***prystupissie***, ***razumu|ż*** – ***rozumu|ż***.

Цяпер можна сказаць, што мы маем са спадчыны П. Багрыма не толькі жырандолю, але і перапісаную рукою славутага крашынца *Rozmowu Chłopow* Я. Баршчэўскага. Фотакопіі друкуюцца ў раздзеле *Ілюстрацыі*.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: НГА РБ у Гродна, ф. 6 [*Гродненская канцелярия гражданских дел цесаревича, главнокомандующего Литовским отдельным корпусом*], в. 1 [*За 1822–1830*], ад. з. 199 [*Дело по жалобе крестьян мест. Крошин Новогрудского у. о жестоком обращении с ними, обременении их повинностями помещиком того же уезда Юрагой Станиславом*], арк. 298 – 299 v.

---

[1] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, 2-е выд., Мінск 2003, с.191, 192, 205, 209.

[2] Польскае слова *sekstern* сапраўды мае значэнне “сшытак”. Але адначасна гэта і “чарнавік”, і “сшытая кніжачка”, а часцей за ўсё – “аркуш паперы, складзены ў шэсць столак”.

[3] А таксама і белавы варыянт перакладу гутаркі на расейскую мову.

|298r| ***Rozmowa Chłopow.***

Ot|to maie wy bratuchny,
Choć nie adnaie matuchny;
Skażu ia wam adnu recz,
A chto nie uwieryć paszou precz:
Kali szto prancuzkaia siła
Z za|niomna nastupiła:
Stało i nas karcić
Jak|by to polszczu zwracić;
A my siedzieli cicho
Pakul pryniesło licho.
Ony u nasz dwor,
Nutka i my dzielić zdor:
A tak miasa nawaryli
Sztob my ich uhawaryli,
Swierny u dwaroch parazbiwać
Panou u les parazhaniać
Pierszy cham sieu za|stoł
Hledzić u kut iak sakoł
A iak nohi razapnieć,
|298v| To choć szaścierycaiu iedz;
A iak zaczau hadać
I recz razpaztraniać,
Ony rate parazzieulali
I uszy panastautali[1];
Dzieciukie![2] chudo nam żyć
Pakińmo pryhon służyć,
Zrabiem wolność i urecz,
Nas uradnik nie budzie siecz;
Czy my ludzi nie takiie
Szto nam hroźby usiakiie
I dziesz u dwor i baissie
Pakul k Panu prystupiśsie
Da ieszcze na tom nie|kaniec
Pałaży na stoł dziesieć iaiec,
I tak ieszcze strach biereć

[1] Трэба *panastaulali*.
[2] Клічнік пастаўлены пазней і іншым атрамантам.

